1/2005




# ПОЛЫМЯ

Міхаіл Мяснікович
ДАЛЯГЛЯДЫ
БЕЛАРУСКАЙ НАВУКІ

Уладзімір Гніламёдаў
УСХОД
Раман

Мікола Мятліцкі
Вершы

Таіса Бондар
ШЭСЦЬДЗЕСЯТ МІНУС
ДВАЦЦАЦЬ ДВА
З «Дзённікаў»

ЯНКА КУПАЛА

## БЕЛАРУСКІМ ПАРТЫЗАНАМ

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

На руінах, папялішчах,
На крывавых іх слядах
Хай груган іх косці ліча,
На бяседу соваў кліча
Баль спраўляць на іх касцях.

Няхай Гітлеру-вампіру
Клююць сэрца, смокчуць кроў;
Сыты быў людскім ён жырам,
П'яны быў крывавым вірам, –
Хай жа гіне звер звяроў!

Выразаў ён старцам вочы,
Рэзаў матак і дзяцей,
Дзікай зданню, патарочай
Засланяў дні чорнай ночай, –
Хай жа гіне ліхадзей!

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

Клічу вас я на пабеду,
Хай вам шчасцем свецяць дні,
Выразайце людаедаў,
Каб не стала іх і следу
На святой нашай зямлі.

Цень забітых матак, дзетак,
Дзедаў вашых і бацькоў,
Акрываўлены палетак
Клічуць мсціць крывава гэтак,
Як не мсцілі ад вякоў.

Не давайце гадам сілы
Над сабою распасцерць,
Рыйце загадзя магілы,
Вырывайце з жывых жылы,
Кроў за кроў, а смерць за смерць!

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

Няхай ваша перамога
Не кідае вас нідзе,
Не пужае хай трывога, –
Ваша чыстая дарога
Да свабоды давядзе...

Так ад нечысцяў ачысцім
Нашы нівы і лясы,
Фашыстоўскіх псоў панішчым,
І схінуцца, як калісьці,
Для нас нашы каласы.

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.



60-годдзе
**ПЕРАМОГІ**

# ПОЛЫМЯ

**1**

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС**

**(903)**

**ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА**

**2005**
**студзень**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА**
**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2005**

ЗМЕСТ



**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

*ПАЭЗІЯ*



## Мікола МЯТЛІЦКІ

* * *

Не выстыла памяць. Трапёткая, гойна жывая,
Жыцця галасамі за крокамі ўслед усплывае.
На вуліцы роднай, дзе выстылі хаты пустыя,
Я чую суседзяў у клопатах звычных, бы тыя
Жывуць тут па сёння турботным жыццём чалавечым,
Што выдумка тое: яны — у выгнальнай далечы.
Спраўляюць радзіны і горка праводзяць мярліны,
Іх дужыя рукі спачынку не маюць хвіліны.
Іх дзеці, што тут нарадзіліся, ходзяць у школу,
Збіраюцца ў маі ісці ў Варацец на Міколу.
У гародчыку позна, капаючы цёплыя грады,
Бязмежнаму шчэбету ўспуджаных ластавак рады.
Над гэтай стыхіяй жыццёвай, акропленай потам,
З угрэтых палёў патыхае салетрай, азотам.
Ды вечарам познім пратупае вулкаю статак,
Ды смех сакавіты на лавачцы шустрых дзяўчатак,
Ды неба бяздоннага, шытага ў зоркі, сінеча,
Агуслая ціша і вечнасці зорнае веча.
Я ўсё ўспамінаю — да самай малое драбніцы:
Як косы шаргочуць, як звоняць у лозах крыніцы,
Як мкнуцца ў нябёсы з зялёнага жыта падлёткі,

---

***Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч*** *нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002 годзе прызначаны галоўным рэдактарам часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце», «Мой дзень зямны», «Ружа вятроў», «Шлях чалавечы», «Палескі смутак», «Бабчын», «Жыцця глыбінныя віры» і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы.*

Як дым на світанні снуецца над хатай салодкі,
Хрыпата скрыпіць журавель па-над студняй дзюбаты,
Як пахкага сена воз сунецца шляхам бухматы,
Як дзень, ад угрэву высокага сонца спякотны,
Халодзіць вятрыскам залётным твар горача потны,
Як вечар спадае смуглява туманнаю дымкай,
І вяз на памежку, умлелы ад росных абдымкаў.
І коціцца сонца за сценку-шчарбаціну бору,
І вольна пад небам, суладна птушынаму хору,
І голасна кліча свайго падшыванца матуля,
І вуліца вёскі, нібы патрывожаны вулей,
Зноў поўніць паднеб'е няўтрымліва пружыстым гудам.
І гэта — ЖЫЦЦЁ!
Мне павернута памяці цудам.

* * *

І гэты дзень, нічым не значны,
Як сотня іншых, прамільгне.
Ды свет без слёз, яму удзячны,
Услед з палёгкай пазірне.

У гэты дзень, такі звычайны,
Што кінуў водсвет на расе,
Гнеў не ўскіпаў нідзе адчайны,
Маўчалі ўсцяж гарматы ўсе.

## СТАРЫ АКОП

Парос высока смерці чарнатроп.
Ссівелыя хаваюць палыны
Ацёклы жвірам франтавы акоп —
Запалы след апошняе вайны.

Прыкметны ён — на строме баравой
Уціснуты глыбока ў жаўтапёс.
Сягаю ўглыб травы. Над галавой,
Як кулі, зумка свішча плойма вос.

І белы дзень, здаецца, схаладзеў.
Забыты бой малюе ўяўна зрок.
На бераг супрацьлеглы хтось глядзеў
З-пад шатаў гэтых, сціснуўшы курок.

Салдат вайны, яе бязвусы бог,
Хто нёс Еўропе пераможны мір,
Магчыма, куляй ссечаны, тут злёг
І акрапіў крывёй сырэчы жвір.

І ты ляжыш, прыпаўшы да зямлі,
Як ён ляжаў, не стрэчаны табой.
Услед вайне пытаешся: калі
Закончыцца яе астатні бой?

## КУТОК МАЛЕНСТВА

Куток маленства... Каранеўка...
Балотны хмыз... Чародка хат...
Красуе сонца, быццам дзеўка,
Якой пацешкі сыпле сват.

І ён, расхрыстаны і босы,
Ляскоча пужкаю — дзіця!
Людзей закручаныя лёсы
Вакол у хроніку жыцця.

І неба сіняга акрайчык
Над прэллю ліпеньскіх балот.
Варушыць сена ўпраўны Зайчык,
Васіль трывуча выцер пот.

Прыкута, душна, саламяна
Жыве сяльцо між лет і зім.
Нясе ваду са студні Ганна,
Чуб прыхарошвае Яўхім.

Мінецца час — і ён, падпасак,
Скарыўшы спелым словам свет,
З палескіх вобразаў, бы з красак,
Збярэ жыцця жывы букет.

* * *

Аер прарэжацца з вады —
Зялёна пружыстыя пікі,
І на балоце шчасця ўсклікі,
Задор жаночы малады.

І мы, слухмяная дзятва,
Зайздросна сочым, як матулі
Вышэй спадніцы падагнулі,
Паркаль уздзёрлі рукава.

Па прахалодлівай вадзе
Яны сцярожка дружным цугам
Балотам рушаць. Стаўшы кругам,
Шчыкаюць сцёблы.
Аж гудзе

Ваколле пругка галасамі,
Нібыта дзеці тыя, самі:
— Анюта — вох!
— Алена — гэй!
Пацешна-ўморысты занятак
Мадонн палескіх, нашых матак,
Адна з будзённасці падзей.

Мы, дзеці, ўсцешаныя імі,
Таго не зналі, што малымі
У галадушна скрутны год
Яны аер шчыкалі гэтак,
Што гоман сённяшніх суседак
Як голас шчасця між нягод.

## ГАНАДУ ЧАРКАЗЯНУ

Калі Радзіма журыцца ў смузе —
Адчай душу нясходліва грызе,
Глядзіцца смутак мокрымі вачыма.
Стаіш, нібы астатнік, у чарзе
Па дым гаючай памяці, Радзіма.

Мне смутак твой, мой дружа, зразумець,
Бо выпала на веях часу мець
Маленства кут за палыновым дротам.
Яму заўсёдна ў памяці шчымець,
Калоць душу дзядоўнікам, асотам.

Табе — пад вышай недасяжных зор
Баляць хрыбціны-пікі снежных гор,
Душа сурова болем здратавана.
Зірнеш — і ў сэрцы сцюжыцца зіма.
Смыліць яно, не верыць, што няма
Дасюль на карце свету Курдыстана.

Ўзыходзіць край прасцягамі душы
І шэпча сыну ўсцешнае: — Пішы,
Надыдзе час — хадок упарта скоры, —
Ты будзеш гулкай славаю грымець
І будзеш на скрыжалях лёсу мець
Свае лясы, свае палі і горы.

* * *

Чаруе ноч у стэпах Украіны.
Грукоча ўзрушна коламі цягнік.
І месяцам працяты сон спачынны
Да шклін вагонных соладка прынік.

Імчу праз ноч — адсечаны мяжою
Радзімы край кіўне ляском здаля.
Няўжо няветлай стрэнеш і чужою,
Суседская славянская зямля?

Разбег жыцця! Скразнога руху траса.
Вязанкай меж услany густа свет.
Усцешным вокам вечнага Тараса
З-за вербаў гляне месячык услед.

І Ён, нябёс тутэйшых Усявышні,
Таемна сочыць з бездані начы,
Як млеюць цветам каля хатаў вішні
І кружацца над вішнямі хрушчы.

* * *

Ці так даўно? — пятнаццаць тысяч год
Мінулася з астуднае пары,
Калі паўсюд ляжаў таўшчэзны лёд,
Віхурныя змяіліся вятры.

Ды ў прыхапках дужэючых цяпла
Падталы ледавік, як васьміног,
Пасунуўся — ільдзістая скала,
На дно салёнай Балтыкі залёг.

І напамінам пра былыя дні,
Пра свой суровы панцыр ледзяны,
Пакінуў толькі знакі-камяні —
Бязмоўныя, глухія валуны.

Збурэў у часе громкі той зыход,
Магільна спіць пад прахам стратных лет.
Ці так даўно? — пятнаццаць тысяч год
З пары тае, як тут тварыўся свет!

* * *

Восень нудзіць дажджом. Супакой
Абрынаецца цішай гняткой.
У дрымотна-астудным бары,
Склаўшы крылы, паснулі вятры.
Скрозь такая глухотная ціш,
Бы на ўскраечку свету стаіш.

Ледзь праясніцца неба. І зноў
Абрынаецца цемрані схоў,
Ні бліскоціны рдзістае зор,
Толькі мокры ўшарэлы прастор,
Толькі чорная скрозь хлюпата,
Дзе хаваецца свету вярста.

Так, напэўна, канчаецца свет,
І ні росчырку-бліку камет,
Плача цемрыва, правячы баль,
Прымярае прачорны свой шаль.
І маркота, што пала наўсцяж,
Люта шэпча жыццю: прахам ляж!

Ашарэлыя ночы і дні.
Ды раптоўна ў нямой вышыні
Між абрывін хмурынаў узнік,
Бліснуў сінькай маленькі каснік.
І, кранаючы вочы да слёз,
Над чарнечай зыбучай прарос.

І душа, што прыкутай была,
Задрыжэла на промнях святла,
Узмахнула парыўна крылом,
Узвілася пад дужым святлом,
Працінаючы небны прастор,
Закружыла ля вогнікаў зор.

* * *

Палазамі крута зрэзаны,
Снег марозліва зіхоціцца.
У прасцяг палёў аснежаны
Стогалоса рэха коціцца.

Дзень пад сонцавай каронаю
Віднатой бліскотна выліты,
З заінелай граюць кронаю
Прамянёў зіркатых вылеты.

Грай зімы, віхурна ўзнесены,
Сонца блікамі залоціцца.
Шчасця знанага ўваскрэсіны:
Вунь над лесам кола коціцца!

* * *

Ён ваўкавата сунуўся, як здань,
Ледзь не да плота ціснуўся ускрай.
І галасы дзятвы трубілі ў рань
Назойліва-прычэпна: — Па-лі-цай!

Малыя, на адлегласці, услед
Ажно да крамы назіркам брылі.
Схаваўшыся за шклінай, хмуры дзед
Буханкі браў і клаў свае рублі.

І прадаўшчыца моўчкі, як не раз,
Давала рэшту — россып медзякоў.

Калі знікаў за дзверы, — ў той жа час
Узрушліва гуло з усіх бакоў:

— І як зямля бо носіць!
— Да ужо ж!
І трасца ў той Сібіры не ўзяла!
— Вярнуўся от... пужае маладзёж!
— Шчэ й хлеба, Сохва, здрадніку дала!

— Як воўк, з падлоб'я кіне позірк злы!
— А як дзвярынай, чулі, люта сек!
— Яму не хлеба — чорнае смалы!
— Адно найменне толькі — чалавек!

І выціскалі слёзы боль і жаль.
І гучнасцю сярдзітай гаманы
Гушкалася прысудная мараль
Тае, ахвярна помнае, вайны.

## БЫЛІНА ПРА ЧАЛАВЕЧАЕ ПАЛЯВАННЕ

Сталася так у жыцці адвеку:
Чалавек палюе на чалавека.
У век каменны сядзеў ля пячоры,
Дрогка ў нябёсах міргалі зоры,
Мружыў здаволена вока сваё:
З крэменю-каменя высек кап'ё.
Ўслед першабытная скора навука
Крута сагнула пруціну лука,
І цеціва каля вуха запела —
Стрэлы ўпіліся ў варожае цела...
Радасць шалёная грудзі сцінала!
А чалавеку здалося: замала
Гэтай прыдумкі. Трос барадою,
Ды шчыраваў над жалезнай рудою,
Дэманстраваў небывалы спрыт —
Хвацка каваў сабе меч і шчыт.
Колькі рука ім увішна ссекла!
Колькі крыві ў жвір магільны сцекла!
Ды чалавеку стала нязвычна
Пружыцца ў сечах вякамі фізічна.
З грукатам кінуўшы меч пасля сечы,
Ўзяўся за свой інтэлект чалавечы.
І паціраў ён далоні ўжо:
Першае стрэліла ў неба ружжо!
У сыпчаку, у падзоле і глеі
Глыбака потым вырыў траншэі.
Спуджана нюхаў ягоны вораг
Шчыльна набіты ў рулю порах.
Шызы дымок узвіваўся над руляй,
Руля па ворагу біла куляй.

Быў неспатольным сверб чалавечы:
Хутка забухалі ўзрывы карцечы,
На пераломе стагоддзя квадры
Пушак загупалі чорныя ядры.
А чалавеку і гэтага мала!
Росшуку новага прага даймала.
Грэла душу адкрыццяў шчымота:
Сек па праціўніку ўжо з кулямёта!
І пазіраў спанадзейліва ў неба:
Стуль бы на ворага зрынуцца трэба!
І не багата часу прайшло —
Першую бомбу чапляў пад крыло.
Як бы душа яго ні лікавала,
Толькі і гэтага стала замала.
Безліч стагоддзяў слыўшы салдатам,
Зараз ён думаў сур'ёзна пра атам.
У патаемныя спраты схаваны,
Доследы ставіў над жменькай урану,
Ведаў, што гэтай драпежнаю жменяй
Хутка ён знішчыць паўсвету, не меней.
З новаю сілаю звышмагчымай
Бомба ляцела над Хірасімай.
Радасці хіжай скакалі чэрці,
Хоць напалохаўся й сам да паўсмерці,
Чуючы свету набліжаны скон.
Ўцешна падлікі вёў мегатон.
На змізарнелай кулі зямной
Стала жыццё — халоднай вайной.
Хвіляй любою былі гатовы
Ракеты пакінуць патайныя сховы,
Ўзяўшы зададзеную арбіту,
Зрынуць планету ў прорву нябыту,
Толькі пакінуць адзіна ў пустэчы
На скалах чорны цень чалавечы.
Ды ўпершыню за стагоддзі цвяроза
Голас падáў чалавечы розум.
І чалавек падумаў: замнога
Смерці у схованках шара зямнога!

Як жа пад сонцам быць чалавеку,
Хто ваяваў грозна адвеку?
Як адхіснуцца ад даўняй мроі —
Думку пакінуць аб новай зброі?
Сёння ў нязвыклай людской цяснечы
Утаймаваць свой гнеў чалавечы?

Веру: ён далі Сусвету адкрые,
Прагу — забіць! — у зямлю зарые,
Ўшыркі схадзіўшы космас сцюдзёны,
Смерці панішчыць усе мегатоны
І, пазабыўшы нарэшце пра зброю,
Мірнай эпохі стане героем.

* * *

Рачное стромы залаты пясок,
Успудзіць плёс хвастом пражэрны жэрах.
Крынічнае рачулкі галасок.
Старая ліпа, выйшаўшы на бераг,
Здзіўлёная, глядзіць ва ўсе бакі,
Нібы падслухаць, сцішаная, хоча,
Аб чым на гальцы вымытай булькоча
Напорыста-жывая плынь ракі.

Падданнік дня, дзе мудры супакой,
Абпоены лісця вільготным пахам,
Блукаю ўсцяж над плыткаю ракой
І лік гадам вяду з прыдыхам-страхам:
За мной юнацтва звонкае наўпрост
Ступае, захмялелае, па травах.
І там, у далі год, на пераправах,
Яно ладуе залачоны мост.

Сінечу коціш, Вілія мая.
Трапёткая, як Божае дыханне,
Журчыстая, лагодная бруя.
І раніцы заспанае зяханне
Ледзь чутна абзавецца вецярком,
І волкі дух травы напоіць вышу.
Займеўшы ў жорсткім свеце шчасця нішу,
Ступаю роснай раніцы слядком.







**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# УСХОД

***Раман***

## Частка чацвёртая

### I

Пачаўся новы, 1919 год. Зіма выдалася сцюдзёная. Па бяскрайніх прасторах былой Расійскай імперыі шугала-мяла завіруха. Вецер пастаянна мяняў напрамкі. Запалоннае, дзе знайшлі прыстанішча прускаўскія бежанцы, з усіх бакоў засыпала пушыстымі снежнымі гурбамі, што дасягалі вокнаў і нават дахаў. Жыццё, здавалася, аціхла, прыпынілася. Але не. Дзейнічала савецкая ўлада. Працаваў камбед. Зіма 1919 года прайшла для яго ў выключна бурнай і напорыстай дзейнасці, бясконцых пасяджэннях і абмеркаваннях самых розных пытанняў. Часам гаворка дасягала такой крыклівасці і напалу, што, здавалася, з вокан павылятаюць шыбы. Цяпер на парадку дня было пытанне аб усеагульным вайсковым абучэнні. Камбед пачынаў ужо чарговае пасяджэнне, калі, крыху спазніўшыся, з'явіўся больш, чым звычайна, кульгаючы, Міша Касякін — сакратар ячэйкі. Ён прыкметна хваляваўся. У руках трымаў свежую газету «Рэвалюцыйная армія».

— Паслухайце, што пішуць! Голад надзвігаецца!

— Здзівіў! — усміхнуўся Пяцельнікаў. — Гэта мы даўно ведаем!

— Галадаюць! — адгукнуўся Таццянка. — Што падзелаеш?

— У Петраградзе жахлівы голад, людзі падаюць прама на вуліцах! — Міша патрос газетаю ў паветры.

---

*Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч* нарадзіўся 26 снежня 1937 года ў вёсцы Кругель Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута. Служыў у арміі, настаўнічаў на Брэстчыне. Скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН БССР і быў залічаны супрацоўнікам гэтага ж інстытута.

*Працаваў у апараце ЦК КПБ. Зараз — дырэктар Інстытута літаратуры НА навук. Акадэмік НА навук.*

*У друку выступаў як крытык і літаратуразнаўца. Аўтар манаграфій «Традыцыі і наватарства», «Сучасная беларуская паэзія: творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс». Выдаў зборнікі літаратурна-крытычных артыкулаў «Упоравень з часам», «Як само жыццё», «Ля аднаго вогнішча» і інш.*

— Таварыш Касякін праў, — сказаў Пяцельнікаў. — Трэба і нам палічыць, колькі ў нас, у Запалонным, хлеба. Нада знаць...

— Абязацельна! — зноў падаў голас Таццянка, і на лбе ў яго запульсавала тоненькая жылка.

— А хлеб? Дзе хлеб? — падняўся Фролка. — У каго хлеб? У кулака! Ды яшчо ў серадняка нейкая частка. А бядняк што? Бядняк быў галодны і цяпер галодны...

— Галодны! — пацвердзіў Пробкін.

— І па ўсёй відзімасці, — працягваў сваю думку Пяцельнікаў, — прыдзёцца ўсё да ядзінага зярна ссыпаць у абчэсцвенны амбар!

— Правільна, правільна! — загаманілі камбедаўцы. — Вот гэта правільна!

— Па-другому няльзя! — згадзіўся Каросцін.

Зноў ажывіўся Міша, знайшоўшы нешта ў газеце:

— Паслухайце! Заметка цікавая — «Сельская камуна».

— Ну, ну...

— Дзевятага снежня, — Міша чытаў марудна, па складах, — сяляне сяла Малая Малышаўка Бузулукскага павета Самарскай губерні арганізавалі сельскую камуну з сямідзесяці чатырох сялянскіх сем'яў. На агульным валасным сходзе сяляне, па-крупнаму зараджаныя рэвалюцыйным энтузіязмам, вырашылі адвезці ўвесь хлеб на ссыпныя пункты ў Бузулук, а самім па першым закліку Саветаў адправіцца ўсім пагалоўна ад семнаццаці да шасцідзесяці на фронт на абарону Савецкай Расіі.

Камбедаўцы прымоўклі.

— Вот гэта да! — парушыў маўчанне Каросцін.

— Гэта нам, таварышы, прыклад сазнацельнасці.

— Да, да! —ківалі галовамі камбедаўцы.

— У нас пара камуну ўводзіць! — загаманіў Фролка. — Гаварыць — гаворым, а дзела не дзелаем.

Сапраўды, гаворка пра камуну вялася даўно, але пакуль што гэтым і абмяжоўваліся.

— Я ізучал гэты вапрос, — кашлянуў у кулак Каросцін. — Камуна, па сутнасці, калі паглядзець, та жа самая абшчына, толька справядлівая. Там не будзе ні багатых, ні бедных, усе будуць раўны!

— Бедната павінна трымацца друг за дружку, — не сцярпеў, каб не ўставіць сваё слова Таццянка.

Каросцін строга на яго паглядзеў:

— Чудайкін, я цябе не перабіваў! — і павярнуўся да астатніх: — Марудна мы! Як і даўней! Як заўсягды! Гэтага ад нас, як кажуць, не адымеш, але гэта, таварышы, пережытак мінулага, якое трэба ўсімі сіламі выкараняць! Рэвалюцыя не даруе нам прамядлення!..

Міша зашамацеў газетай — зноў на нешта натрапіў:

— Вот паслухай, што Зіноўеў гавора: «Вы, буржуазия, — гэта ён да буржуазных элементаў звяртаецца, — убиваете атдельных личностев, а мы убиваем цэлые классы». Панятна?

— Не личностев, а личностей! — паправіў яго Пяцельнікаў.

— Здорава! — здзівіўся Фільчыкаў.

Уражаныя камбедаўцы каменціравалі пачутае:

— Вот эта да! Ну і Зіноўеў!

— Крутой мужык! Нічаво не скажаш...

— Бальшавік! — падагуліў Пяцельнікаў.

Са студзеня 1919 года пашырылі харчнарыхтоўку. Не абмінула яна і Запалоннага, куды неўзабаве прыбыў прадатрад «Сусветная рэвалюцыя». На чале атрада — асобаўпаўнаважаны таварыш Рутман. Прадатраднікі, якіх называлі яшчэ і прадармейцамі, ішлі побач з абозам, каля вазоў і санак. Зморана махалі заінелымі галовамі коні. Людзі часта кашлялі. Па снезе паўзлі цені ад штыкоў і вастраверхіх шлемаў. З комінаў, запаўняючы двары і вуліцы, пёр густы кізячны дым, сівы і прагорклы. Начальнік атрада паварочваў шыю ўлева і ўправа, як бы прынюхваўся да гэтага дыму. Заўважыў, як махаў крыллямі вятрак на нікабалаўскім хутары.

— Хлебнае месца! — нарэшце вырашыў ён і агледзеў атрад.

Прадатраднікі трымаліся насцярожліва, мусіць, чулі небяспеку. Але паводзілі сябе самаўпэўнена і груба. Прадатрад дзейнічаў так, нібы ён знаходзіўся на варожай тэрыторыі, — меў права караць і мілаваць, забіраць і канфіскоўваць, арыштоўваць і расстрэльваць.

Паміж прадатраднікаў была маладая жанчына ў скураной куртцы і чырвонай хусцінцы, завязанай збоку тугім вузлом. Паверх хусцінкі, як і ва ўсіх, — шлем з шэрага сукна з чырвонай зоркай на лбе. Пры баку, на поясе, целяпаўся наган.

Атрад спыніўся ля будынка валаснога праўлення, дзе месціўся камбед. Камбед запрыкмецілі здалёк: на сцяне вісеў плакат: «Враг у ворот!!! Все на защиту Петрограда». Камбедаўцы так захапіліся чарговым пасяджэннем, што нават не звярнулі ўвагі, калі на парозе з'явіліся начальнік атрада Рутман і жанчына ў вастраверхім шлеме. Таварыш Рутман пільна паўзіраўся ў сагнутыя постаці камбедаўцаў і, не здымаючы з галавы шапкі, замест прывітання сказаў:

— Дрэнна ад вас зярно паступае.

Пяцельнікаў на пачатку як бы разгубіўся, але хутка апамятаўся:

— А што рабіць? Камбед працуе ў цяжкіх умовах! — апраўдваўся ён, падхапіўшыся з-за стала.

— Усе мельніцы стаяць, а ў вас работает! — з абурэннем загаварыла жанчына ў шлеме. — Мы самі бачылі!

— Зажырэлі, панімаеш, тут — на зямлі! Дзялы дзелаць трэба! — паказваў сваю незадаволенасць начальнік атрада. — Хлеб, сала — гэта ўсё нада ізымаць.

— Знаем, знаем! — спрабаваў супакоіць яго Пяцельнікаў, прыгладжваючы на галаве рыжыя валасы.

— Я думаю, значэнне прадразвёрсткі вы ведаеце, тлумачыць не нада.

— Ведаем, ведаем! — загаманілі камбедаўцы.

— У Петраградзе наогул голад! — насупілася прадармейка. — Піцерскіх пралетарыяў нада накарміць!

— К каму першаму? — глянуў на камбедаўцаў Пяцельнікаў і абедзвюма рукамі рашуча паправіў скураную фуражку на галаве.

— К Платонаву, — падаў голас Міша Касякін, — у яво зярно імеецца. — Гэтым Міша хацеў адвесці падазрэнне, што нібы ён «пакрывае» кулака Платонава як «сваяка». «Усё роўна не ўдасца абмінуць», — суцешыў ён сябе.

Прадатрадаўскі абоз пасунуўся праз вёску. Трымалі напрамак да сядзібы Платонава. На вазах і на санках разасланы брызент, у які ссыпалася зерне. Камбедаўцы ішлі разам з прадармейцамі. Насупраць двара Ільі Аляксандравіча спыніліся. Рутман, жанчына ў шлеме і камбедаўцы адчынілі вароты і прайшлі ў двор. Пяцельнікаў падышоў да акна і пастукаў:

— Хазяін!

На стук выйшаў Ілья Аляксандравіч, на хаду апранаючы кажух.

— Хто такія?

— Не відзіш, што лі? Прадатрад, — адразу ж напудзілася на яго жанчына ў шлеме.

— А можа, вы самазваныя якія?

— Вот! — таварыш Рутман дастаў з нагруднай кішэні невялічкую кніжачку. — Рэквізацыённая кніжка! Падпісана Ульянавым-Леніным!

За спінаю ў гаспадара войкала Афанасся.

Фролка з-пад ілба паглядзеў на Ілью Аляксандравіча:

— Дзе хлеб хаваеш?

Той пачаў апраўдвацца, размахваў рукамі, тлумачыў:

— Паглядзіце, колькі я здаў! Паглядзіце на квітанцыі, вось, за мінулы год...

— Паймі, старык, — улагоджваў Ілью Аляксандравіча Рутман, — рэвалюцыя патрабуе! Памрэ яна без хлеба!

— Дык вось жа, таварышы, квітанцыя!

— Пры чом здзесь квітанцыя? — злавалася жанчына ў шлеме.

Да яе далучыўся хтосьці з прадармейцаў:

— Хіба вы не бачыце, што хлеба не хапае? Вы што — Калчака чакаеце?

— Атварай анбар!

Гаспадар мусіў адчыніць гумно і паказаць гасцям засекі. Там тое-сёе яшчэ было.

— Падляжыць экспрапрыяцыі! — суха сказаў Рутман і кіўнуў прадармейцам: — Забірайце!

— Ты што, таварыш?! Гэта ж семянное! — узмаліўся Ілья Аляксандравіч.

— Колькі ў вас едакоў? — спытала жанчына ў шлеме. — З беднейшымі нада падзяліцца, яны ж галадаюць! — яна паказала рукой кудысьці ўдалечыню, дзе знаходзіліся тыя, хто галадаў.

Вакол прадатрадаўскага абозу збіраўся народ.

— А горад заўсёды з нас сокі піў! Дык цяпер дыктатуру над намі ўстанавіў — пралятарску! — абураўся хтосьці ў натоўпе.

Прадатраднікі цягалі мяхі да падводаў і ссыпалі зерне на брызент, вярталіся і напаўнялі зноў. Некаторыя, разагрэўшыся ад цягання, паздымалі шынялі.

З заможных не абмінулі нікога. Здалі па колькі мяхоў і серадністы. Некаторых, як таго ж Спірыдона Вярзіліна, давялося звязаць — іншага зладу з ім не знайшлі.

— Ды вы што? Сілай адняць зярно?! Нахрапам! — лямантаваў Спірыдон Вярзілін, калі яго вязалі.

Таварыш Рутман на ўсё знаходзіў адказ і тлумачэнне:

— Міравая рэвалюцыя, — ён узняў руку над галавой і з усёй сілы абрынуў яе ўніз, павысіўшы голас да крыку, — разгара-аецца! Гэта трэба знаць і панімаць, таварышы!

— Чуеце? Усё будуць паліць! — зашаптала, пырскаючы слінай, Афанасся.

Аднак начальнік атрада не звярнуў на яе ўвагі.

— Ныня фронт міравой рэвалюцыі — у Германіі! Ідзе дзевяты вал! З мінуты на мінуту ён накрые талстапузую буржуазію і сатрэць яе з твару планеты! Пачалася рэвалюцыя ў Венгрыі, у Турцыі!..

— А народу як? Галадаць? — не вытрымаў Ілья Аляксандравіч, які хадзіў разам з усімі.

— Пры чым тут народ?! Я пра міравую рэвалюцыю гавару! Вот-вот!..

— Застанецеся вы адны са сваёй рэвалюцыяй! — махнуў рукой Ілья Аляксандравіч.

Наперад рвануўся Фролка, сашчапіў кулакі:

— Хто супраць?! Каму мазгі на сценку?! Хто? — Фролка правёў сваімі жоўтымі вачыма па натоўпе. — Мы доўгіх разгаворчыкаў не любім.

Не абышла харчразвёрстка і камбедаўцаў, і яны таксама былі незадаволеныя, хоць і не хацелі гэтага паказаць. Атрымалася так, што аднаму Таццяну Чудайкіну не хапіла вытрымкі:

— Я камуніст, а камуністам паслабленне паложана! — пачаў даказваць ён, калі абоз прываліўся да яго двара. — К таму ж я, як вядома, пастрадаў за рэвалюцыю...

— Ты ж, Таццян, не член ячэйкі, — усміхнуўся Пяцельнікаў.

— Не член, але лічу сябе такавым! — не здаваўся, трос галавой Чудайкін.

Гэта раззлавала таварыша Рутмана. Стомлены і злы, ён накінуўся на запалонаўскага актывіста:

— Ты вось у Тургайскім стэпе не мёрз, калі мы на Арэнбург наступалі пешым строем! — Рутман павярнуўся да ўсіх прысутных камбедаўцаў. — Марозы даходзілі да трыццаці пяці, а мы па калені ў снягу рабілі па дваццаць вёрст у дзень, няспынна атакуючы праціўніка! І пабядзілі! Па калені ў снягу! Я думаў — загнуся!

Таццянка аціх і не рады быў, што падаў голас.

— Ногі, рукі, твары паабмарожвалі, не маючы па панятных прычынах патрэбнага абмундзіравання. А навокал за тысячу вёрст ніводнага населенага пункта! Ні дрэўца! Адзіны бяскрайні Тургайскі стэп! А які вецер! А вы ў цяпле сядзелі!

Скончыўшы сваю тыраду, Рутман змоўк, закашляўся. Таццянка сарамліва апусціў галаву, калупаючы наском лапця снег.

— Калі б было — я б і сам насыпаў! — сказаў ён.

— Ты — насыплеш... — азваўся Цюрын. — Ад цябе дачакаешся...

Жаласліва заплакала дзіця на руках нейкай жанчыны.

— Дзеці ж, дзеці застануцца галоднымі! — стагнаў і вохкаў хтосьці з серадзякоў. — Авохці мне!

Тых з заможных і серадзякоў, у каго зерня не знайшлі, але ведалі, што яно ў іх ёсць, арыштавалі і разам з абозам павялі ў Бузулук. Заадно забралі і святара Вісарыёна Зефірава.

Ілью Аляксандравіча арышт абмінуў — хлеб у яго забралі. Фролка, карцінна ўзяўшы рукі ў бокі, гаварыў:

— Ладна, цябе пажалею, прымаючы пад увагу тваю белую бараду, аднак глядзі ў мяня!

Ільля стаяў і пра нешта думаў, а потым моўчкі пасунуўся дадому. Ноччу доўга не мог заснуць, варочаўся з боку на бок.

— Спі! — казала Афанассся, жадаючы развеяць дрэнны мужаў настрой.

— Не спіцца мне, маць, бяссонніца мучыць.

Хто б думаў, што ўсё абернецца такім чынам?

Дзесьці праз завыванне ветру чуліся далёкія стрэлы.

— Чапанка, — ціха казаў Ілья Аляксандравіч, — сабіраюцца сілы.

Ілья Аляксандравіч ведаў: у суседніх Стаўрапольскім і Мялякескім паветах Самарскай губерні ўспыхнуў мяцеж супраць бальшавікоў. Паўстанцы, апранутыя ў чапаны (адзенне, якое ратавала чалавека ад непагоды і холаду), днём хаваліся ў зямлянках і па хутарах, ноччу заходзілі ў сёлы.

— Дык, можа, адалеюць супастата? — выказала надзею Афанасся.

— Хутка іх не будзе! — шумна ўздыхнуў Ілья Аляксандравіч, і яны заснулі.

...Частку адабранага ў сялян хлеба раздалі членам камітэта беднаты. Пра бежанцаў забылі. Праз колькі часу вярнуўся з Бузулука, з халоднай, святар Вісарыён Зефіраў...

## II

Яны ляжалі побач, паклаўшы рукі за галаву, і ціха гаварылі. Нядзельная раніца, нікуды, здаецца, спяшацца не трэба.

— Скажы, калі ты быў найбольш шчаслівы? — Фёкла падсунулася бліжэй. Яна моцна абняла яго, пацалавала і прыціснулася да грудзей.

— А я неяк пра гэта не думаў.

— А са мной ты шчаслівы?

— Шчаслівы, — ён паглядзеў на яе і пацалаваў. — Я ж кахаю цябе...

— А я цябе!..

Цяжка было кахаць, усведамляючы адначасова неўладкаванасць навакольнага жыцця. Пакутуюць людзі, і канца пакутам не відаць... За што пакутуюць? Бліжні знішчае бліжняга і робіць гэта вельмі спакойна.

З суседняга пакоя чутно было, як Марыля паліла ў печы і збірала на стол. Трэба было ўставаць, чымсьці займацца. Ён апрануўся, памыўся і, выціраючы рукі і твар, зірнуў на маці. Марыля выглядала ўжо зусім старой. У вачах сум. «Хутка старыць людзей бежанства, — падумаў Лявон, — дадому ёй трэба. І ўсім нам».

Вася гарнуўся да Варкі, якая найбольш ім апекавалася. Усе дружна паселі за стол. Марыля і Фядорка падавалі. Лявон тонкімі лустачкамі наразаў хлеб, раскладаў перад кожным.

— От раней было — на калядную куццю або на Вялікдзень... — успамінала Марыля. — Ніколі б не думала, што ў такой калатнечы апынемся. Ой, божа мой! — у матчыным голасе чуліся і скруха, і крыўда. — Чаму гэтак усё сталася?

Марыля памаўчала, а потым сказала:

— Гэта, дзеці, запомніце маё слова, — людзі тут недалюбленыя.

— Як — недалюбленыя? — не зразумеў сын. Усе таксама паднялі галовы і глядзелі на маці.

— Ну, як вам сказаць, не ўзычыў, недадаў адзін другому дабрыні, не паспрыяў...

Усе на нейкі час задумаліся над словамі маці. Не простыя яны, штосьці за імі тоіцца...

— А як там, цікава, дзядзька Хведар? — парушыў маўчанне Лявон, успомніўшы родзіча — матчынага брата.

Ад гэтага пытання Марыля быццам нават павесялела, прыгадаўшы брата:

— А што яму! Жыве, пэўна, на сваім хутары і гора не ведае. Не такі ён, каб у бежанства падацца. Перачакаў, мусіць, недзе ў лесе і вярнуўся. Хведар жывучы. — Маці падышла бліжэй да стала. — Але нічога, дзеткі, можа, яшчэ і мы паспрабуем грэцкіх аладак з маслам!

— Вы, мамо, кожнага разу так кажаце, — не выцерпела Фядорка, — калі ж тое будзе? — уздыхнула яна, нібы нешта ад маці залежала.

— Пачакай, доню!

— А я каштавала грэцкія аладкі! — пахвалілася Варка.

— Укусныя? — спытала Фёкла.

— О, яшчэ як! — у адзін голас загаманілі Кужалі, узбуджаныя ўспамінам.

Марыля разлівала чай, калі на дварэ, ля хлеўчыка, забрахаў Марсік і ў хату ўвайшлі землякі: Галёнка, Ламака, Тупчык, Гамон з Матронай. Запрасіла і іх. Чай, праўда, без цукру, але ўсё роўна ў добрай кампаніі і прыемна, і цікава.

З Бузулука прывезлі газету «Коммунальная жизнь», якая там выдавалася, і цяпер Аляксей Галёнка трымаў яе ў руках. Бежанцаў чакала неспадзяванка. У газеце быў змешчаны «Маніфест Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі аб утварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай рэспублікі». Яго і зачытаў Галёнка, спатыкаючыся на асобных словах. На тварах чытачоў праступала недаўменне, некаторыя пацiскалі плячыма.

— Мясцовая газета, а піша пра ўсё! — здзіўляліся бежанцы.

— «Межы Савецкай рэспублікі рассоўваюцца: Украіна і Беларусь адраджаюцца да новага жыцця! Чарга за Літвой і Польшчай!» — чытаў Галёнка на той жа старонцы знізу.

— Незалежнасць?

— Гэта ўжо як бы самастойнасць праўлення, ці што? — не зразумеў Пятро Ламака.

Астатнія таксама не ведалі, што думаць на гэты конт.

— Нешта будзе, — сказаў Міхаль Тупчык. — Скажуць!..

Вядома было, што немцы заставаліся на Беларусі да восені 1918 года, да таго часу, як выбухнула рэвалюцыя ў Германіі. Цяпер немцаў не было ўжо і на Брэстчыне. Пакінулі Беларусь, падаліся дадому, «nach haus». Выходзіла, што тэрыторыя як бы свабодная, гасцей няма.

— А тут такая дарагавізна! — Гамонава Матрона ажно здрыганулася. — Ой, людкове! Мусіць, не вытрымаем...

— Павінны вытрымаць! — падаў голас Пятро Ламака.

— Ох, чым гэта ўсё кончыцца?.. — стагналі жанчыны, сядаючы піць чай.

— Дзень прайшоў — і дзякуй Богу! — разважыла Марыля, несучы самавар. — Цяжка жыць на гэтым свеце, зла ў ім шмат...

Прускаўцы ўжо разлілі чай, калі прыйшоў Андрэй Каленік, які да гэтага часу працаваў тэлеграфістам у Непрыку.

— Есць саабшчэніе! — абвясціў ён з парога. — З Пленбежа!

— Што? Што такое? — усе павярнуліся да Андрэя.

— Есць указанне з цэнтру, каб бежанцаў з заходніх губерніяў не трымаць, хай вяртаюцца!

Прускаўцы доўга і з трывогай абмяркоўвалі навіну. Гэта не жарт — вяртацца назад, пускацца ў такую дарогу! Ого!

Разыходзіліся ад Кужалёў у прыўзнятым настроі, нават радасныя. Галёнка з Гамонам хацелі выпіць, але не было гарэлкі.

І сапраўды, праз колькі дзён Бузулукскі Пленбеж, які да гэтага як бы зусім пра бежанцаў забыў, выклікаў прускаўцаў, каб правесці апытванне: хочаш ці не хочаш ехаць, запісалі нацыянальнасць, род заняткаў. Гутарылі з кожным. Не кожны ведаў, што адказаць на пытанне пра нацыянальнасць. Большасць адказвала:

— З Беларусі мы... З-пад Берасця...

Бачачы такую недасведчанасць бежанцаў і іх сціпласць, работнікі Пленбежа смяяліся:

— Да рускія вы, хаця разгавор нямножка другой. Расія веліка, народнасцей многа!

Лявон, Аляксей Галёнка, некаторыя яшчэ — стаялі на сваім:

— Беларусы. З-пад Берасця.

Работнікі Пленбежа ў адказ пацiскалі плячмі і, як згаварыўшыся, моцна дымілі скручанымі з газет цыгаркамі.

— Ну, дык вы проста палешукі, — зрабіў вывад адзін з работнікаў Пленбежа, выдыхнуўшы з рота цэлую хмару дыму.

— Не, мы з Беларусі.

— Беларусія? Гэта выдумалі палякі...

— А маніфест хіба не чыталі?

— Гэта ўрэменна.

На выезд запісаліся ўсе, за выключэннем аднаго Андрэя Каленіка, якому падабалася яго праца тэлеграфіста і ён не мог яе кінуць. Патрэбна было здаць у валвыканком усе дакументы, якія даказвалі факт бежанства. Там меліся скласці спісы і накіраваць іх у Самару, у губэваком. Ад кожнай сям'і пісалася заява. Кужаль таксама напісаў:

«Начальніку Бузулукскага Пленбежа

Прашэнне

Прашу Вас выдаць мне і майму сямейству, якое складаецца з маці, жонкі, пасынка і двух сёстраў, дакументы на праезд у Гродзенскую губерню. Мы не можам заставацца тут у сувязі з дарагавізнай. Не можам зарабіць кавалак хлеба надзённага, каб забяс-

печыць сабе хоць якое існаванне. Хацелася б паспець на радзіму да сяўбы 1919 года. Калі нельга дадому, то просім адпусціць хаця б у Харкаў.

Лявон Кужаль.
8 лютага 1919г., нядзеля».

Праз пару тыдняў з Пленбежа ён атрымаў адказ: «Чакаць да асобага распараджэння, да атрымання нарадаў з цэнтра».

Гэта была завуаляваная адмова, хаця нейкая надзея яшчэ заставалася, але неўзабаве знікла і яна. З газет бежанцы даведаліся, што ў лютым 1919 года пачаўся шырокі наступ польскіх войскаў на тэрыторыю Беларусі. Не аб'явіўшы вайны, войскі Юзафа Пілсудскага ў лютым 1919 года занялі Брэст і Ковель, 9 лютага былі ўжо ў Пружанах і Кобрыне, у красавіку — у Кіеве. 2 сакавіка яны захапілі Слонім, 16 сакавіка — Баранавічы. Не зважаючы ні на што, яны, можна сказаць, перайшлі дзяржаўную мяжу толькі што ўтворанай БССР. Палякі лічылі Беларусь сваёй тэрыторыяй на падставе гістарычнага мінулага. Чычэрын у ноце ад 28 снежня 1918 года адзначыў, што Расія ніколі не прызнавала беларускія землі польскімі. Не зважаючы ні на што, Польшча аб'явіла аб адраджэнні колішняй Рэчы Паспалітай.

Праз колькі часу Лявон дачуўся, што бальшавікі вядуць перагаворы з Польшчаю. Як і раней, заставалася адно — чакаць.

На запалонаўскай вуліцы ўгледзеў Лявона Ілья Аляксандравіч. Павіталіся, паціснулі рукі. Сумны стаў Ілья Аляксандарвіч, панылы. Згорбіўся, пасівеў. Барада яшчэ больш пабялела і, здаецца, парадзела. І сам ён пахудзеў.

— Усё насмарку, — сказаў Ілья Аляксандравіч. — Адвярнуўся ад нас Бог, ох, адвярнуўся!

Лявон прамаўчаў.

— Шыбка безабразюць... — працягваў Ілья Аляксандравіч і, бліжэй падступіўшыся да Лявона і азірнуўшыся па баках, прасіпеў са злосцю: — Хай бы хоць японцы прыйшлі!

Адчувалася, што Ілья Аляксандравіч сочыць за падзеямі, хаця і стаіць як бы ў баку ад іх.

— Давялі Расею! — зноў загаварыў ён. — Голад будзе. Вот памянеш маё слова!

— Голад — гэта, мусіць, і ёсць прычына вайны, — азваўся прускавец.

— Дзе ж выхад? — сцепануў плячыма Ілья Аляксандравіч.

Кужаль змоўчаў, як бы і не пачуўшы яго пытання. Зрэшты, а што ён мог на яго адказаць? Гэтага не ведаў ніхто.

— Нічога! — ашчэрыў зубы Ілья Аляксандравіч, — Калчак сваё дакажа, у яго, нябось, расейскі залаты запас! Капітал сваё слова скажа...

У канцы студзеня 1919 года па Запалонным пранеслася нечаканая навіна: камбед распусцілі. Вечарам да Кужалёў зайшоў Міша Касякін. Сеў на лаўку, выцягнуў ногі і пакруціў галавой:

— Указанне зверху. Ашыбкі былі дапушчоныя. Людзей забіжаць сталі. Столькі дроў наламалі! Кіраўніцтва ўзяў на сябе валвыканком.

— І ты з імі! — упікнула брата Фёкла.
— Я з рэвалюцыяй.
Фёкла пакарміла яго рэшткамі вячэры.
— З людзьмі мягчэй трэба, па-людску! — сказала яна.
— Хавайце хлеб! — параіў Міша. Не то параіў, не то загадаў.
— Які хлеб? Дзе ён у нас?
— З хлебам дрэнна, — пацвердзіла Марыля, — няма хлеба.
— Хутчэй! Праціўнік наступае! Вы што — за Калчака?
— Ужо блізка? — здзівілася сястра.
— Наступае.
Хавацца трэба было і Мішу. Хата сустрэла яго холадам. Не распранаючыся, сеў за стол, запаліў газніцу, узяў дзённік. Пачаў перачытваць ранейшыя запісы.

*...2 студзеня 1919 года*
Сустрэлі Новы год. На пасяджэнне сабраліся ўсім складам камбеда. Таварыш Пяцельнікаў адзначыў, што, узяўшы ў канцы 1918 года Уфу і прасунуўшыся далей на усход, Чырвоная Армія вымушана была часова адступіць. Нада сабрацца з сіламі. Умовы для гэтага ёсць! К канцу 1918 года вёска асераднячылася і кулакі значна аслаблі. Факцічаскі, не сакрэт, мы іх прышчыблі. Зрабілі, як і паложана. Астаткі, аднак, есць. Пры кожнай няўдачы бальшавікоў яны радуюцца. Недавольных савецкай уладай, на жаль, многа.

*11 студзеня*
Пакуль што ў Запалонным ціха, але, здаецца, прасачыліся чуткі пра Калчака. Сказываюць, што ён адмірал, тагда пачаму ён ваюе посуху? Аб'явіў сябе дыктатарам Сібіры. Вот те раз! Па сёлах выступаюць калчакоўскія агітатары, якіх прысылае камандуючы першай арміяй дыктатара Сібіры генерал Ханжын.

*20 студзеня*
Мароз. Замёрзлі чарнілы.

*4 лютага*
Праязджая ў Бузулук, сам відзеў гнусны мамент. Гэта за сялом Благадаравам. Непадалёк ад дарогі ляжалі два чырвонаармейцы-прадатраднікі з голымі ўспоратымі жыватамі, у разрэзах відаць было зерне пшаніцы. Да зерня збегліся куры. Чаго толькі ні ўвідзіш! Кулакі, не сакрэт, ужываюць усе сродкі. Другому таварышу ў жывот напіхалі яшчэ і пер'я, і запіска тырчыць: «100 % продразверстка». Я саабшчыў тамашнім таварышам. Забітых чырвонаармейцаў-прадатраднікаў адвезлі ў Бузулук і пахавалі там.

*10 лютага*
Разразілася настаяшчая чапанка. Слова-та какое! Паясняю. Чапан — шырокая сялянская адзёжка, пашытая з армячыны, падобная на плашч і на халат адначасова. Мужыкі напяліваюць яе ў непагоду паверх адзення. Цяпер яе надзяваюць каторыя паўстанцы. Я відзеў аднаго такога. Нічога прадпрыняць не змог. З-пад крыса чапана ў яго

тырчэў вінтовачны абрэз. Паспрабуй вазьмі такога! Узброены вінтоўкамі, віламі, дубінамі.

*14 лютага*

Беспакоіць чапанка. Арудуе яна і ў ваколіцах Запалоннага. Свае дзялы дзелаюць ноччу. Даводзіцца несці начную варту. Нашы таварышы пад няўсыпным рукаводствам тав. Пяцельнікава дзяжураць у валвыканкоме.

*20 лютага*

Ад чапанкі аганяемся. А што будзе, калі завітае якая-небудзь крупная банда?

*25 лютага*

Банды праізводзяць налёты, забіваюць, грамяць валасныя камітэты і камбеды. Гражданская вайна! У Аляксееўцы ў мясцовым савеце разбілі шафы, паламалі мэблю. На чом будуць сядзець таварышы? Маёмасць партыйцаў бандыты разбіраюць, прадаюць задзёшава, мяняюць на гарэлку. Страшныя дзялы творацца.

*1 сакавіка*

Чапанка ўродзе бы аціхае. Вазможна патаму, што распусцілі камбеды? Не знаю, аднака страсці аціхлі. У мяне ўпечатленіе ўсяобшчай усталасці. Бунтаўшчыкі разбяжаліся па дамах. Даўно бы так!

*3 сакавіка*

У прошлым месяцы ў Растове-на-Дану пайшоў у адстаўку генерал Красноў. Туды яму і дарога. Вот бы так і Калчака.

*7 сакавіка*

Сітуацыя мяняецца на вачах. Апаснасць для нас, сазнацельных таварышаў, бальшая! З усходу набліжаецца Калчак, на поўдні канцэнтрырует сілы Дзянікін, з поўначы пагражае Мілер, Беларусь акупавалі легіёны Пілсудскага, у Прыбалтыцы стаяць немцы, Юдзеніч навальваецца на Петраград.

*9 сакавіка*

Прыбліжаецца Калчак. Нада вывазіць хлеб. Сёння вечарам слышал разгавор, аднака не знаю — хто. Патаму как была цямно.

« — Вось Калчак ужо на падыходзе! Мы з вамі расправімся! Ох, і сволачы бальшавікі!..»

## III

Нягледзячы на тое, што на пачатак лютага 1919 года войскі атамана Дутава былі выбіты з Арэнбурга і аціхла заволжская «чапанка», контррэвалюцыйныя сілы ў Самарскай губерні не здаваліся, бурлілі і віхурыліся па-ранейшаму. У дапамогу ім з усходу насоўвалася новая хмара — атрады Калчака, да якога прымыкалі рэшткі недабітых дутаўцаў. Чырвоныя, як ні храбрыліся (мы паб'ём любога!), пацярпелі некалькі адчувальных паражэнняў ад яго войск пад Уфой і адступілі.

У пачатку сакавіка, узяўшы Уфу, адмірал імкліва набліжаўся да Волгі, дасягнуў Сярэдняга Паволжа і захапіў Бугуруслан. З поўдня напіраў Дзянікін, ужо авалодаўшы ўсёй Данской вобласцю. Адчувалася, што праз Самару Калчак меркаваў злучыцца з Дзянікіным, каб разам ісці на Маскву.

І дзянікінцы, і калчакаўцы рашуча ўзяліся за аднаўленне старога землеўладання і парадкаў. Сялян, што захапілі чужую зямлю, жорстка каралі, пачаліся расстрэлы, поркі. Гэта выклікала нязгоду з боку правых эсэраў — членаў Камуча. Камуч знаходзіўся на той час ва Уфе і пачаў заклікаць да звяржэння ўлады Калчака і аднаўлення Устаноўчага сходу. Загадам Калчака ўсе члены Устаноўчага сходу падлягалі арышту і ваенна-палявому суду. Усім военачальнікам дыктатар прадпісваў спыняць дзейнасць учрадзілаўцаў, прымяняючы зброю.

У канцы красавіка белыя наступалі ўжо ад Бугуруслана на Бузулук. Да пачатку мая Уральскі фронт быў настолькі аслаблены, што казацкія аддзелы здолелі яго прарваць і заняць тэрыторыю Бузулукскага павета. Гэта здарылася ў канцы мая 1919 года.

Запалоннае жыло трывожнымі прадчуваннямі. Жыхароў выгналі за вёску капаць акопы для Чырвонай Арміі.

— Усеагульная працоўная павіннасць! — тлумачыў Міша. — Трэба, таварышы! Трэба! — ён бязладна мітусіўся, размахваючы крыссем даўгога шыняля і смешна накульгваючы на левую нагу.

Людзі працавалі неахвотна. Разам з запалонаўцамі акопы капалі і бежанцы.

— Даканае нас гэта вайна, — скардзіўся Аляксей Галёнка, які выкідаў зямлю побач з Лявонам.

— Дзіва што! — уздыхнуў Гамон. Ён непадалёк таксама спрабаваў уразацца лапатай у непадатлівы стэпавы грунт.

Пойма Самаркі, як тут казалі, урома, якая ў гэты час звычайна буйна зелянела і зацвітала, на гэты раз яшчэ нават і не абудзілася. Толькі там-сям праклюнулася з зямлі кволая травічка.

— Такі май, што каням сена дай, а сам на печ палязай, — сказаў Рэпін, пазіраючы на нехлямяжа апранутых бежанцаў.

— Хутка ў наш бок паедзем — зноў у бежанства, — пасміхнуўся Пятро Ламака. — Там немец ціснуў, тут — Калчак.

— Запалоннае — прыфрантавая паласа, — развёў рукамі Міхаль Тупчык, які пасля таго як пабываў у арміі, не прамінаў, каб ні паказаць, што ён сёе-тое кумекае ў вайсковай справе.

— Калчак — не немец, — азваўся Рэпін, — ён рускі, як і мы.

Назаўтра з раніцы чырвоных паблізу ўжо не было. Знік у адначассе Міша Касякін і астатнія валвыканкомаўцы. Куды яны дзеліся, ніхто не ведаў.

— Сёння-заўтра Калчак Бузулук возьме! — паведаміў мужыкам Сісяйкін, які акрыяў ізноў.

За вёскай, на даляглядзе, там, дзе неба краналася зямлі, пачалі маячыць фігуркі якіхсьці коннікаў. Пэўна, разведка. Потым нейкія людзі ездзілі на конях па дне Салдацкага яра.

Галоўныя падзеі пачаліся назаўтра.

— Лявонка, уставай! Страляюць! — забіла трывогу Марыля. Яна, як звычайна, перажывала больш за ўсіх.

Усе падхапіліся: і Лявон, і Фёкла, і Фядора з Варкай. Адзін толькі Вася соладка пасопваў, даглядваючы, відаць, ранішнія сны і не зважаючы на змены, што адбываліся ў навакольным свеце.

З боку Бузулука, на дарозе, паказаўся конны атрад. Ён кіраваў у Запалоннае, узнімаючы за сабой воблака пылу. Усе коннікі апранутыя ў чорныя фрэнчы і галіфэ, у кожнага — шабля і карабін.

— Ой, казакі! — занепакоілася Фёкла. — Я такіх у Бузулуку відала. Яны жартаваць не любяць!

Члены ячэйкі з сем'ямі сапраўды знаходзіліся ў гэты час у лесе. Фёкла падумала пра Мішу: «Хаця б ён не з'яўляўся ў Запалоннае...»

— Ой, што рабіць? — замітусілася Марыля.

Фядора з Варкай таксама ўглядаліся ў акно.

— Прыгажуны гэтыя казакі, — сказала Варка. — Едуць — люба паглядзець. Рад — у рад, не псуючы строю, як на карцінцы.

Коннікі сцішылі рух і заспявалі:

Марш вперед! Трубят в поход
Черные гуса-а-ры.
Звук лихой зовет нас в бой,
Налива-а-йте чары...

На плошчы сход — чалавек трыста сабралася, калі ні больш. Прыйшлі і Кужалі, і іншыя бежанцы. Купка запалонаўцаў — з ліку былых заможных, на чале з Сісяйкіным, — панеслі хлеб-соль.

— Ура-а! — загрымела навокал.

— Ну, як вы тут? — спытаў барадаты казачына, адламаўшы ражок пірага і сунуўшы яго за шчаку.

— Да вот бальшавікі ўсё муцюць... — паскардзіўся Сісяйкін.

— Дзе ж вашы бальшавікі? — спытаў барадаты, пракаўтнуўшы пірог.

— Пахаваліся! — сказаў хтосьці з натоўпу.

Калчакаўцы пыталіся:

— А дзе вашы, хто ў Саветах быў?

— Сышлі з краснымі.

— А дамы іх ёсць?

— Дамы? А як жа, дамы ёсць!

— Ну, нам недасуг гэтым займацца — у нас для гэтага спецыяльная служба есць. Вот ана і займёцца!

— За намі ўся калчакаўская Сібір, — з гонарам сказаў пажылы казак з шырокім, пакрэсленым маршчынамі лбом. — Мы адзінанедзялімцы. За адзіную і недзялімую! Абяцаем парадак!

Вечарам у царкве адслужылі малебен у гонар і за здравіе «павяліцеля Сібіры» і яго войск.

— Кажуць, што і хлеб не будуць забіраць! — радаваліся запалонаўцы.

— Паглядзім...

Карны атрад прымчаўся назаўтра, і адразу ж пачаліся вобыскі. Хадзілі па дамах былых камбедаўцаў. Арыштавалі Фролку з Цюрыным, якія вярнуліся з лесу за харчамі, астатніх не знайшлі.

Народ паваліў на плошчу. Прадчуваючы нядобрае, Марыля з Фёклай угаворвалі Лявона не ісці:

— Не ідзі! Каб забілі? Не ідзі! — Марыля нават утрымлівала сына за рукі. Але яму чамусьці надта карцела пайсці, паглядзець, і ён кінуўся за дзверы.

На плошчы, куды прыйшоў, ужо назбіралася шмат запалонаўцаў — мужчыны, жанчыны, людзі розных узростаў. Усе цікавіліся, што ж гэта будзе? Гурт расступіўся — прыбыў яшчэ адзін атрад калчакаўцаў з суседняй Аляксееўкі. Казакі, у гімнасцёрках і шырокіх шараварах з лампасамі, гналі перад сабой чалавек дзесяць. Паперадзе — трое: высокі чалавек у белым, без шапкі і босы (як потым Лявон даведаўся — старшыня Аляксееўскага камбеда Фёдараў), за ім двое казакоў з вінтоўкамі наперавес. Вінтоўкі — з плоскімі штыкамі. «Нямеччкія, ці што?» — мільганула ў Лявонавай галаве.

Гурт моўчкі назіраў.

Арыштаваныя актывісты ішлі, не гледзячы сабе пад ногі. Адзін спатыкнуўся, уступіўшы ў калдобіну, напоўненую вадой, і ўпаў.

У самага апошняга на шыі матляўся нацельны крыжык.

— Бальшавікоў вядуць! — зашумелі ў натоўпе.

— У кроў пахрасталі!

Арыштаваныя выглядалі моцна збітымі.

— Ты запытай, колькі яны крыві праваслаўнай пралілі? — гаварыў нейкі чалавек з Аляксееўкі.

Фролка з Ермалаем Старшых ужо стаялі на плошчы і чакалі, куды паверне лёс. Фролка страляў па натоўпе сваімі жоўтымі кацінымі вачамі, Ермалай Старшых быў змрочны і маўклівы, як заўсёды.

Натоўп усё павялічваўся. Бежанцы трымаліся асабняком, да іх далучыўся і Лявон. Падышоў Ілья Аляксандравіч разам з Афанассяй, сталі пабоч.

— У каравулку іх! — крыкнуў хтосьці з натоўпу.

— Няма ў мяне салдат, каб вартаваць іх! — адказаў афіцэр, апрануты ў новы суконны фрэнч зялёна-жоўтага колеру, у насунутай на лоб фуражцы. Яго пукатыя, як у барана, вочы абыякава глядзелі на людзей.

Суд адбыўся тут жа, на хаду. Камбедаўцаў прыгаварылі да расстрэлу. Не спыталі ні пра што — толькі прозвішчы ўдакладнілі. Афіцэр загадаў:

— Усіх на расстрэл! — і ляснуў плёткай па халяве.

Усе, каго меліся расстраляць, капалі сабе магілы, цвёрды дол не паддаваўся, праца ішла марудна. Нарэшце сяк-так скончылі. Кожнага з далакопаў пасадзілі на край выкапанай ім магілы. Жудасна было глядзець на ўсю гэтую хуткую расправу.

Аднекуль з'явіўся Спірыдон Вярзілін.

— У чым справа? — як звычайна, спытаў ён, але ўбачыўшы, што дзеецца на плошчы, прымоўк.

— Хай на калені стануць, Богу памоляцца! — не ўтрымаўся, закрычаў Ілья Аляксандравіч.

— Станавісь! — падаў каманду унтэр.

— Крычы «да свіданья»! — параіў нейкі казак, здымаючы з пляча вінтоўку. Лязгнуў затворам, загнаў патрон у патроннік.

Раптам пачуўся тонкі прарэзлівы галасок:

— Дзядзя, дай я!

— Нікак — Санька? — здрыганулася Афанасся.

— Дай я, дзядзя!

— Так і ёсць — унучок Іван Іваныча! — пацвердзіў Ілья Аляксандравіч.

Гэта быў унук нябожчыка Мілягіна — васьмігадовы Санька. Лявон адчуў, як па твары прабег вецярок страху. Санька стаяў ужо ля унтэра і тузаў яго за рукаў, прасіў вінтоўку.

Натоўп, адчувалася, быў згодны з намерам малога і нават ухваляў яго.

— Ён дзедку тваво ўбіў, — тоненькім галаском прапішчаў Сісяйкін.

Лявон і ўсе ўбачылі, як пабялеў Фролка і моцна сцяў зубы. Не чакаў, мусіць, такога. А унтэр ужо працягваў Саньку кароткі казацкі карабін.

— На! За кручок дзёрні — і ўсё!

Санька ўзяў карабін, злажыўся і стрэліў.

— Гатоў гусь! — сказаў нехта, калі ахвяра асунулася на зямлю.

— Пацэліў! — здзівіўся Гамон.

— Дак што страляць — патронаў жалка! — крыва ўсміхнуўся унтэр, забіраючы ў малога карабін. — Ягалда! — крыкнуў ён, павярнуўшыся да казакаў, што стаялі непадалёку.

Той, каго назвалі Ягалдай, — чырванашчокі казачына ў ялавых ботах і сініх шараварах з лампасамі, — задаволена ўхмыльнуўся, выйшаў наперад і выняў з ножнаў шашку. Асуджаныя актывісты яшчэ больш знерухомелі і ўгнулі плечы, схіліўшыся над ямінамі. Адзін з іх — той, што быў з нацельным крыжыкам, — борздзенька падхапіўся і кінуўся да бліжэйшага канваіра ў ногі, абхапіў рукамі боты і, плачучы, стаў прасіць літасці. Раззлаваны канваір ударыў яго нагой, адштурхнуў ад сябе і пырнуў штыком. Паранены закрычаў немым голасам і скурчыўся на зямлі. Яшчэ двое салдат, па прыкладзе канваіра, з разбегу ўсадзілі штыкі ў асуджаных, і тыя спаўзлі ў ямы.

— Ягалда! — паўтарыў унтэр загадным голасам.

Ягалда набраў у грудзі паветра і, не спяшаючыся, з аголенай шашкай у руцэ, наблізіўся да рэшты асуджаных актывістаў, якія, угнуўшыся, сядзелі, звесіўшы ў магілы ногі.

— Бей краснюкоў! — крыкнуў нехта ў натоўпе.

Ахвяры, у тым ліку і Ермалай Старшых, ужо былі пазбаўлены ўсялякай волі. Адзін, сцяміўшы, што гэта канец, перахрысціўся, астатнія нерухома чакалі канца. Той, што перажагнаўся, азірнуўся на людзей:

— Прашчайце, таварышы!

— Прашчай! — адгукнуўся нехта з гушчыні натоўпу.

Прысутныя нават не заўважылі, як падскочыла шабля ў спрытных руках Ягалды і маланкай апусцілася на патыліцу ахвяры, — толькі хруснула нешта ў шыйных пазванках і ў твар кату пырснуў струмень крыві — не паспеў нават ухіліцца. Усе пачулі, як грукнулася аб дно магілы галава. Ягалда пхнуў нагой цела, і яно абвалілася ў ямку следам за галавой. Запалонаўцам ажно заняло дых. Ягалда выцер з твару кроў і наблізіўся да наступнай ахвяры. Той, чыя

была чарга памерці, павярнуў галаву ў бок ката. Гэта быў Ермалай Старшых.

— Прашчайце! — закрычаў ён натужным танклявым голасам.

— Прашчай! — дружна адгукнуліся запалонаўцы.

Вочы асуджанага ад страху сталі круглымі; Лявон убачыў, як у іх заіскрыўся жах.

«Падурэлі, ці што?» — падумаў Лявон, пазіраючы на гэтае нялюдскае відовішча, якое не прысніш і ў самым дрэнным сне. У яго ажно перахапіла дыханне. З выгляду быццам бы і людзі — рукі, ногі, галовы, але па тым, што яны вытваралі, прызнаваць іх за людзей як бы і не выпадала.

Такім жа чынам Ягалда расправіўся і з наступнай ахвярай. Шашка пачырванела ад крыві.

— Руба-ака! — з захапленнем сказаў нехта ззаду.

Гэта была як бы нават не помста, не расплата, а праяўленне чагосьці звярынага, што таілася ў непазнаных глыбінях чалавечай прыроды.

— Стой! Астанавісь! — падаў каманду унтэр. — Пускай маладзёж павучыцца, а то ўсё сам ды сам.

Ягалду змяніў малады казак з сухім, злым тварам. Шашкай валодаў не горш за Ягалду і быў не менш жорсткі.

Заставаўся апошні асуджаны — старшыня Аляксееўскага камбеда Фёдараў. Сабраўшы апошнія сілы, ён падняўся на ногі і стаяў, у страшным напружанні, высока ўзняўшы галаву. Вочы былі скіраваны на натоўп. Казак ухмыльнуўся ў злараднай усмешцы, як быццам пачакаў чагосьці, а потым абрушыў акрываўленую шашку на шыю сваёй ахвяры. І тут адбылося незвычайнае: няшчасны, ужо абезгалоўлены (галава ўпала яму пад ногі), ступіў адзін крок, потым другі, трэці. Усе ахнулі. Казак ад нечаканасці жахнуўся, выпусціў з рук шашку, якая ўтыркнулася ў пясок, і асеў на зямлю. Гледзячы на гэта, Ягалда, не разгубіўся, выхапіў з рук вартавога (той стаяў побач) вінтоўку, кінуўся да ахвяры і з размаху усадзіў яму ў спіну штык. Цела звалілася на зямлю. Вялікай цёмнай плямай разлілася па пяску кроў, але падзьмуў вецер, і кроў зацягнулася пылам.

Лявон не вытрымаў, адвярнуўся. Страшна і балюча было глядзець на ўсё гэта. У вачах пацямнела, і яго пачало ванітаваць. Ён выйшаў з натоўпу, аддыхаўся. Людзі пакідалі гледзішча, разыходзіліся. Тут яго знайшла Фёкла, і яны разам падаліся дадому. Міма праходзілі Ілья Аляксандравіч з Афанассяй і Сісяйкін — усе моцна ўражаныя ўбачаным. Лявон чуў, як уздыхнула Афанасся:

— Шкада аднака...

— Не пажалеў і таго — з нацельным крыжыкам, — адзначыў Ілья Аляксандравіч.

— А чаго шкадаваць? Усё роўна нехта заб'е... — умяшаўся ў размову Сісяйкін. — Лютасць прачнулася ў людзях...

— Цяпер трэба моцная рука! — меркаваў Ілья Аляксандравіч.

Зноў уздыхнула Афанасся:

— Нонbackшніх мужыкоў, відаць, усіх паўбіваюць...

Лявон з Фёклай павярнулі на свой падворак. Маці была ўжо дома. Сын з нявесткай засталі яе ў роспачы.

— Якая крыважэрнасць! — заломвала рукі Марыля.

Фёкла пачала супакойваць. Лявон маўчаў, думаў пра сваё. «Надта ж узяліся і адны, і другія. Дзейнічаюць, забыўшы на літасць. Чалавечае жыццё — нуль без палачкі. Сёння жывеш, а заўтра — хто яго ведае! І столькі ў ім пачварнага! Шкада людзей: гінуць як мухі. Але не так усё проста: забіваючы іншага, чалавек знішчае адначасова і сябе. Падумаць, дык ахвяры вартыя сваіх катаў. І адны, і другія, і трэція намагаюцца перайначыць свет на свой лад. Рэвалюцыя — гэта паморак, зацьменне. Як зацьменне сонца. Чаму свет такі?..»

Астатнія бежанцы таксама разыходзіліся па хатах.

— Вось табе і рэвалюцыя! — расчаравана круціў галавой Гамон. — Ой-ёй!

— Каб на яе пагібель, на такую жызню! — раззлавалася Аляксейчыха. — Адна лютасць!

— Гвалт нараджае гвалт, — па-філасофску разважыў Ламака.

Неўзабаве калчакаўцы арыштавалі і пасадзілі ў каравулку жонак камбедаўцаў і чырвонаармейцаў.

— Ой-ёй-ёй, што гэта за вайна — свае сваіх б'юць!.. — скардзілася невядома каму жонка Цюрына Дар'я.

Прыйшлі і па Фёклу — хтосьці данёс і на яе. Маладзіца паказала характар:

— Не чапай! Ух, акаянныя... — яна смела і рашуча паглядзела на калчакаўцаў. — А работаць хто будзе?

— А муж твой дзе? — дапытваўся казак сярэдніх гадоў з рабаціннем на шчоках. Меў выгляд чалавека, ужо добра стомленага службай. Якраз у хату ўвайшоў Лявон.

— Я яе муж.

— Пачаму не ў арміі?

— Ранены я. На фронце.

Адчапіліся і ад Фёклы — забіраць у каравулку не сталі.

## IV

Фёкла кіравалася ў агарод. На кагосьці забрахаў і загрымеў ланцугом Марсік.

— Фяклуша! Фяклуша! — пачулася з хлеўчыка.

Фёкла пазнала братаў голас. Мішу ўдалося ўцячы, і цяпер ён прышоў не іначай як за «прапітаніем». Так яно і было. Паводле братавых слоў, ён і яго таварышы хаваліся ў трох вярстах ад Запалоннага ў лесе і наведваліся ў вёску за прыпасамі. Даймалі начныя халады.

Раптам Міша занепакоіўся:

— Ідуць — сволачы! Схавай мяне куды-небудзь у цёмнае месца!

З боку вуліцы пачулася:

— Уставай! Жыва! Вылятай! Ну!

Гэта, збіраючыся ісці на Маскву, калчакаўцы праводзілі прымусовы набор у сваю армію. Міша баяўся, што раптам заграбуць і яго. Не паглядзяць, што кульгавы. Во тады будзе! Сястра схавала яго, дрыжачага, у пограбе, што знаходзіўся ў двары, недалёка ад хаты.

Лявон бачыў у акно, як хаваўся швагер, потым выйшаў з хаты на вуліцу і падаўся бліжэй да плошчы. Там ужо было шмат пажылых мужчын, некаторыя з бежанцаў. Курылі цыгаркі.

— Цяпер толькі і чуеш: «мабілізацыя» ці «рэквізіцыя», — іранізаваў Рэпін.

Спірыдон Вярзілін аглядаўся па баках і бурчэў:

— На кой хрэн нам мабілізацыя! Надаела!

— Не шумі, Спірыдон, а то загрымім, — шыкнуў на яго Бурлак.

Па вуліцы марудным крокам праехаў казацкі раз'езд, распырскваючы конскімі капытамі вулічную гразь. Да Лявонавага слыху данеслася песня:

Нам смерть широко
Раскрывает объятия...

Гэта было, відаць, модна — спяваць пра смерць. Адзін з казакаў, што ехаў паперадзе, — па пагонах сотнік — з шырокім, на ўвесь твар, носам і рудою барадой (ён добра запомніўся Лявону) зласліва зірнуў на натоўп:

— Што ж вы за Расію не змагаецеся, за бацюшку-цара?

— Дык яго ўжо будта і нет, — за ўсіх сказаў Гамон.

— Што ты сказал, дурак? А ну, паўтары! — наехаў на яго шыраканосы сотнік. Твар яго пасінеў, як недаспелая ажына. Ніжняя губа пагардліва адвісла, паказаліся дробныя жоўтыя зубы. Гамон не паспеў ухіліцца, і коннік з ходу агрэў яго плёткай.

— Я цібя навучу, як родзіну любіць!

Гамон ажно прысеў ад нечаканасці і страху. Казакі спынілі коней каля сялянскага гурту. Той, шыраканосы сотнік з рудой барадой, што памкнуўся было вучыць Гамона, як трэба «любіць родзіну», абурана загаварыў:

— Мы саздаём народную армію, якая будзе змагацца з бальшавікамі! Гэта — і наш, і ваш ураг. Ваш абавязак — уступіць у рады дзействуюшчай арміі, каб умесцях справіцца з супастатам. Ён акапаўся ў Маскве, і мы вярнём матушку-Маскву, згонім супастата! У нас служыць пачотна, і нас чакае пабеда! З намі Бог!

Шыраканосы сотнік зрабіў перапынак, каб перавесці дых. Белыя былі, вядома, незадаволеныя тым, як праходзіла мабілізацыя ў іх войска. Для незадавальнення меліся падставы. Моладзі ў Запалонным няшмат. Многія мабілізаваныя, некаторыя забітыя, большасць — недзе хаваецца. Усіх, хто не ў арміі, калчакаўцы лічаць «дзезерцірамі».

— Служба ў нас платная, вы заработаяце бальшыя дзеньгі! — працягваў шыраканосы.

— А калі заб'юць? — вырвалася ў кагосьці з гурту.

— Тада — вечная слава, а дзеньгі — родсцвеннікам! — адказаў сотнік.

Народаармейцы — так называліся салдаты калчакаўскай арміі — атрымлівалі па сорак рублёў у месяц. Гэта — не мала.

Вярзілін пачухаў патыліцу:

— Да-а...

Нехта сказаў:

— Трудна рашыцца...

Шыраканосы ажно ўскіпеў, расчырванеўся, затраслася рудая барада:

— А ты чуў пра «ледзяны паход» карнілаўскай арміі з Растова ў лютым 1918-га? Не чуў?

Хто ў Запалонным, на цяперашні час адмежаваным ад усяго свету, мог чуць пра гэты паход? Ніхто. Ды ці мала якіх «паходаў» было...

— Дайце яму ў морду, ваша благароддзе, для пачатку, а потым можна тлумачыць што к чаму! — параіў шыраканосаму сотніку другі казак — такі ж пануры, як і ён. — Інакш ён і не зразумее!..

Але Вярзіліна ніхто не біў. Мужчынам было загадана ўзяць з сабой харчы, пару чыстай бялізны, кубак-лыжку — на гэта давалася паўгадзіны — і выходзіць на плошчу. Адведзены час хутка прамінуў. Калчакаўцы пачалі хадзіць па хатах, шукаць мужчын і забіраць з сабой. Вядома, тыя не чакалі, разбегліся. Казакі былі ўжо добра ўзлаваныя, калі ўбачылі чалавека, апранутага ў шынель. Ён ішоў сярэдзінаю вуліцы, насцярожана азіраючыся па баках. Гэта быў не тутэйшы і, відаць, не спадзяваўся на сустрэчу з казакамі.

— Ты адкуль? — здзіўлена запытаў адзін з казакаў, нібы ўбачыў знаёмага.

Чалавек спрабаваў растлумачыць, але губы ў яго так дрыжэлі, што цяжка было зразумець. Ён то прыкладаў рукі да грудзей, то працягваў іх некуды ўбок, паказваючы, адкуль ён.

— Хто такой?

— Да вот... іду...

— Куда?

— Дамой.

— Ну, ідзі! — усміхнуўся сотнік.

— Да не аглядайся! — дадаў чарнавалосы казак з буйнымі мангольскімі скуламі і наставіў на чалавека ў шынялі карабін.

Чалавек марудзіў, прадчуваючы, відаць, свой канец, але чарнавалосы апусціў карабін.

— Я па стаячаму не страляю, — усміхнуўся ён і сплюнуў з тоўстых вуснаў саломінку. — Бягі! А ўдруг не пападу...

Чалавек у шынялі рвануў з месца і пабег што было сілы. Прабег метраў пяцьдзесят, казакі ўсё пасмейваліся. Нарэшце чарнавалосы зноў узняў адной рукой карабін і пачаў цэліцца. Прыцэліўшыся, стрэліў. Чалавек упаў.

Калчакаўцы былі больш азвярэлыя, чым учрадзілаўцы.

— Мужчыны, выхадзі!

Фёкла пачула, як забрахаў Марсік. Некалькі коннікаў уехалі ў двор і спыніліся.

— Хто ў ізбе — выхадзі!

Выйшаў Лявон з Фёклай і Марыля. Пры Марылі — Васятка.

— Ну што, красавіца? — звярнуўся ўсё той жа шыраканосы сотнік да Фёклы. — Адпускаеш сваво? — ён засмяяўся, здагадаўшыся, мусіць, што перад ім муж і жонка. Васятка ўчапіўся ручкай за матчыну спадніцу і боязна пазіраў на сотніка. Фёкла пачала бараніць Лявона:

— Гаспада харошыя! Ізранены ён! Рука ў яго вот толька для відзімасці. Пасматрыце! — нібы апраўдвалася яна, баючыся адначасова і за Лявона, і за брата, што сядзеў у пограбе.

— Нядвіжыма яна ў мяне, — пацвердзіў і Лявон, паказваючы здаровай правай рукой на хворую левую.

— Пака будзь пры жане, — зміласцівіўся сотнік, — а патом у абоз пайдзёш!

І тут здарылася нешта нечаканае: у Фёклін двор з боку агародаў убег, як заяц, Грышка Латушка. Згледзеўшы казакаў, павярнуўся і кінуўся ў прыбіральню, што адзінока стаяла наводшыбе, за гаспадарчымі прыбудовамі, і зачыніўся ў ёй.

— Стой! — крыкнуў адзін з казакаў. — А ну давай сюда!

Грышка крыху счакаў, а потым выйшаў з прыбіральні і, трасучыся, падышоў да казакаў.

— Кто такой? — гучна спытаў шыраканосы сотнік і нецярпліва ляснуў нагайкай па халяве.

Грышка палахліва заміргаў сваімі маленькімі, неспакойнымі вачыма. Фёкле стала шкада напалоханага і безабароннага бежанца, і яна ўступілася за яго.

— Бежанец ён...

— Бежанец? Ён перш за ўсё дзезерцір! Зразумела? Атвячай!

Фёкла маўчала, да яе прытуліўся Васятка. Маладзіца помніла той выпадак, які быў з ёю ў Бузулуку.

— А ты ведаеш, як можаш адказаць па ваеннаму закону за ўкрывальніцтва дзезерціраў!? — сотнік пачаў наступаць на маладзіцу, грозна варочаючы вачыма. Твар яго зноў набыў колер недаспелай ажыны.

— А бежанцы — што?! Ну-к... — умяшаўся другі казак, таксама дзёрзкі і нахабны.

Фёкла зноў памкнулася наперад, ашпарыўшы казака смелым паглядам сваіх цёмна-блакітных вачэй. Ад ярасці яны ў яе ажно пасвятлелі. Яна ткнула пальцам у Грышкаў бок:

— Ён жа прыпадачны — хіба не бачыце?! Раскрыйце свае бельмы!..

Сотнік зняважліва глянуў на Грышку:

— На кой ён нам — прыпадачны! — і павярнуў каня.

Прайшоўшы па дварах, калчакаўцы забралі чалавек дзесяць, пасадзілі на падводы і пагналі ў Бузулук.

— Атра-ад! Слухай маю каманду!.. — сотнік, набіраючы паветра, зрабіў паўзу. — Рысью арш! — і атрад запыліў па дарозе.

Такім чынам Фёкла вызваліла, можна сказаць, Грышку Латушку ад прызыву ў калчакаўскую армію. Бо што б было з чалавекам — невядома.

— Добры ён нейкі, — сказала яна пра Грышку.

— Добры, бо пра ўласную шкуру клапоціцца, — усміхнуўся Лявон.

Калі казакі ад'ехалі, Гамон пачаў абурацца:

— Бальшавікі за кожнае няўгоднае слова пагражалі расстрэлам, але гэныя таксама не лепшыя...

Замест камбеда калчакаўцы зноў стварылі ўправу. Аднаўленне старой улады адбывалася цяжка — людзі баяліся помсты. Сёння — калчакаўцы, а заўтра прыйдуць бальшавікі ці хто-небудзь яшчэ. Без улады, аднак, не абысціся. Патрабаваліся харчы, коні і падводы, каб падвозіць то хлеб, то снарады, то абмундзіраванне. Адны і другія выграбалі са свірнаў ячмень і авёс на корм коням.

Сакратар усё той жа — нязменны Крандзялёў. Вядома, становішча яго не з лёгкіх.

— Пры такіх парадках сакратару найцяжэй, — скардзіўся Крандзялёў. — Паспрабуй дагадзі ўсім! Гэтыя таго патрабуюць, а тыя — гэтага! Вось тут і круціся...

Некаторыя думалі інакш:

— Ну і лаўкач гэты Крандзялёў, ну і лаўкач!.. — гаварыў бацьку Андрушка Платонаў, які паспеў прыкмеціць крандзялёўскую «вяртлявасць».

— Ды ён заўсёды быў такі, — адказваў Ілья Аляксандравіч. — Адно слова — пісар...

Крандзялёву на яго сакратарскай пасадзе даводзілася, як кажуць, круціцца. Калі прыязджаюць белыя, ён бегае за старшынёй земства (ім прызначылі, хоць ён і не згаджаўся, Герасіма Рэпіна). Але наведваліся, асабліва па начах, і чырвоныя (фронт не меў належнай акрэсленасці і шчыльнасці. У Бузулукскім павеце, за Борскім, ужо збіраліся чырвоныя палкі і дывізіі, каб ударыць па Калчаку).

Сёння ў сяле атрад чырвоных, заўтра — белыя. У такім выпадку — калі прыходзілі чырвоныя — Крандзялёў тут жа клікаў старшыню савета таварыша Андронава (ён, праўда, лічыўся старшынёй чыста ўмоўна). Белыя, нібы здагадваючыся пра нешта, пачалі яго правакаваць: з'яўляючыся, называлі сябе чырвонымі. Але Крандзялёў не з тых, каго можна падмануць. Распазнаўшы іх тактыку, ён ужо ні за кім не бегаў. Патрэбны былі падводы — яны самі хадзілі па дварах і бралі.

Сакратар увёў пасаду вартаўніка, прызначыўшы на гэта месца Таццянку Чудайкіна, які не вытрымаў ляснога жыцця і вярнуўся да сваёй Пелагеі.

— Што чырвоныя, што белыя — хрэн рэдзькі не саладзей, — сказаў свайму сябру аднойчы Гамон, і былы валвыканкомавец Чудайкін нічога на гэта не мог адказаць.

— Коней апошніх сталі адбіраць — які ж гэта парадак? — скардзіліся адзін другому запалонаўцы.

Людзі, папраўдзе, гінулі як мухі. Гарэлі сёлы, рэквізіравалася хатняя скаціна, збожжа. Праз Запалоннае праходзілі ўсё новыя атрады то калчакаўскіх, то чырвоных войск, і кожны атрад праводзіў рэквізіцыю. Фуражыры хадзілі па хатах і рабілі павальныя вобыскі. Усё знойдзенае адбіралі. Дзейнічалі дзелавіта, спрактыкавана. Толькі і чулася:

— Не карову! Лошадзь нужна!

— Аўцу!

— Раздзявайся!

— Разувайся!

Адбіралі ўсё — вопратку, абутак, бялізну. Зіркасты калчакаўскі інтэндант з вачыма, як у паляўнічага, крычаў:

— А вы ведаеце, у нас мінулай зімою цэльны полк замёрз пры пераходзе ад Securitiesанікалаеўска да Чэлябінска?! Цёплай бялізны не было!

Група салдат і казакаў з інтэнданцкага ўзвода, спяшаючыся, хадзіла па хатах. Не абмінулі і Кужалёў.

— Рэж карову! Тушу на фронт! — загадаў Лявону казак-фуражыр — чалавек аграмаднага росту з тварам, да самых вачэй зарослым рудым шчаціннем.

— Апошнюю кароўку? — заплакала Марыля.

— Нічога з вамі не станецца! — пеніўся ад злосці і ад безвыходнасці фуражыр. — Вы на месце, выгадуеце новую!

— Бальшавікі ababралі падчыстую і вы — таксама! — спрабавала бараніцца Фёкла.

— Мы не бясплатна! Мы за грошы! — фуражыр дастаў з сумкі жменю нейкіх паперак зеленаватага колеру. — Во! Не што-небудзь, а сібірскія дзенежныя знакі!

Але што на тыя «знакі» купіш?!

Нікога не міналі — ні багатых, ні бедных. Асабліва варожа калчакаўцы ставіліся да сем'яў, у якіх мужчыны пайшлі з чырвонымі. І мусіць, забраў бы той фуражыр кароўку ў Фёклы, каб не выпадак. Зноў выпадак! Але з іх, выпадкаў, саткана жыццё...

Да веснічак пад'ехала некалькі коннікаў.

— Есць хто жывой?! — крыкнуў адзін з іх. — Адпірай! — чалавек картавіў, дрэнна вымаўляючы «р».

Лявон паглядзеў і пазнаў капітана Нерабеева, які ўжо саскочыў з каня, сам адчыніў веснічкі і кіраваўся ўглыб двара. «Ён!» У Нерабеева ўсё той жа доўгі, крыху звернуты набок, нос, густыя, ужо добра пасівелыя вусы. Былы камандзір пазнаў Лявона, павітаўся са сваім былым падначаленым радавым Кужалём.

— Вот уж не думаў, што ты яшчо здзесь! Не ўехалі?

— Нікак нет, гаспадзін капітан! Абстаяцельствы так злажыліся.

— Віжу, брацец, віжу!

— А гэта што? — капітан кіўнуў у бок фуражыра і яго каманды.

— Каравёнку забіраюць! — не стрымалася Фёкла. — Апошнюю!

Фуражыр паспрабаваў нешта тлумачыць.

— Адставіць! — скамандаваў Нерабееў. — Шагам марш!

Фуражыр, убачыўшы, што перад ім афіцэр, ды яшчэ і франтавік, казырнуў і разам з падначаленымі пайшоў у іншы двор. Нерабеева і яго таварышаў запрасілі ў хату, пасадзілі за стол. Фёкла паставіла самавар.

— А я, відзіш, у адмірала Калчака служу, — як бы апраўдваўся Нерабееў.

Пагасцяваўшы хвілін дзесяць у Кужалёў, капітан развітаўся і разам з астатнімі коннікамі далучыўся да агульнага руху калчакаўскага войска, спешна адступаўшага на ўсход. Усяго белыя пабылі ў Запалонным роўна тры тыдні. Камандаванне чырвоных здолела перакінуць з Уральскага фронту, які забяспечваў абарону з поўдня, немалыя сілы. Адмірал вымушаны быў павярнуць назад, на Усход. Кужалі не хаваліся, глядзелі ў акно. Калчакаўскае войска ішло і ішло. Белыя гналі за сабой скаціну, трывожна ржалі коні, спяшалася пяхота.

У хату да Фёклы забег салдацік:

— Вадзіцы іспіць дайце.

Узросту няпэўнага, але не стары, з шырокага каўняра шыняля тырчэла доўгая маршчыністая шыя з вялікім кадыком. Ён прагна піў.

— Вернемся з японцамі! — сказаў ён, на момант адарваўшыся ад кубка з вадой.

Кужалі маўчалі, дзівіліся. Салдацік строга паглядзеў на Марылю, на Фёклу, павёў вачыма на Фядору з Барбаркай. Нарэшце ён напіўся, выцер рот рукавом шыняля, зноў агледзеўся:

— Глядзіце, такую вашу маць! Вернемся — калі што — пароць будзем!

Сказаўшы (замест дзякуй) гэтак, салдацік нязграбна казырнуў, павярнуўся і пабег.

— Малады яшчэ, — як бы паспачувала нечаканаму госцю Марыля. Яна ўсіх шкадавала і ўсіх хацела абараніць.

— Малады і дурны, — дадала Фёкла. — Народ жорсткі, таму і жыццё жорсткае.

— Жорсткае... — згадзілася Марыля.

Запалонаўцы пачалі рэзаць скаціну — свіней, авечак, кароў. Багатыя баяліся, што прыйдуць чырвоныя і адбяруць у іх усю жывёлу. Бедныя ж спадзяваліся, што прыйдуць чырвоныя і дадуць ім нешта з жывёлы, забраўшы яе ў багатых.

— Ідзе страшэннае вынішчэнне скаціны. Каровы будуць такія ж рэдкія, як і сланы, — сказаў Сісяйкін, сустрэўшы Ілью Аляксандравіча.

— Як, аднак, народ перамяніўся! — паціснуў плячыма былы запалонаўскі багацей. — Скаціны — і той не жалее.

— А ў чым яна вінавата — скаціна тая? — разважаў Сісяйкін. — Таксама тварэнне божае.

З адыходам калчакаўцаў зноў усё перамянілася — стала, як раней. Неяк у адначассе перамяніўся і Таццянка Чудайкін, тут жа ўспомніўшы, што ён пралетар.

— Гэта справа буржуазная, я нутром чую, — гаварыў ён, назіраючы, як запалонаўцы распраўляліся са скацінаю. Самому Таццянку было і лягчэй, і ясней, бо жыўнасці ніякай ён не меў.

Сабранае адзенне і абутак калчакаўцы склалі ў каравулцы, але скарыстаць яго не паспелі. Адзенне разабралі тыя, каму яно належала, астатняе, якое белякі нарабавалі не ў Запалонным, а недзе ў іншым месцы, раздалі бежанцам.

Марыля наракала на лёс і на парадкі.

— Безваладзь да дабра не прывядзе. Хай Бог крые! Калі ўжо гэта рэвалюцыя скончыцца?

— Мне здаецца, яна толькі пачалася, — адказвала свякрусе Фёкла.

Пад упартым націскам Чырвонай Арміі Калчак адкаціўся да Уфы.

## V

Фронт пасунуўся на ўсход, і ў пачатку чэрвеня 1919 года зноў з'явіліся чырвоныя. Якраз набірала сілы летняя гарачыня. З раніцы ўжо смажыла, прыпякала сонца. На пагорках пачала сохнуць трава, зямля прасіла дажджу. Запалонаўцы, выйшаўшы на вуліцу, бачылі, як з боку Борскага густа насоўвалася чырвоная кавалерыя. Вось ужо пярэднія яе рады ўліліся ў запалонаўскую вуліцу, напоўніўшы яе рухам, чалавечымі галасамі і конскім іржаннем. Падняўся едкі шэры пыл, людзі пачалі кашляць, але цікаўныя не адыходзілі ад платоў, глядзелі на чырвонае войска. За кавалерыстамі пайшла пяхота ў вастраверхіх шапках. На гімнасцёрках цямнелі пляміны ад поту. Шарагоўцы ішлі дружна, спяшаючыся. Курэў з-пад лапцей пыл. У некаторых на папругах матляліся гранаты. Гэта былі, як потым Лявон даведаўся, чырвонаармейцы 241-га сялянскага палка

27-й стальной дывізіі, якая ў свой час брала Уфу, наступала і адступала, абаранялася, а потым зноў кідалася наперад, наўздагон за Калчаком.

Нехта з чырвонаармейцаў заспяваў — звонкім, залівістым голасам:

Я пулеметчиком родился-я,
В команде максима возрос...

Песню дружна падхапілі:

Свинцом, картечью я крестился
И смертный бой я перенес.

Песня гучала з нейкім асаблівым натхненнем. Гучна вухкала адзінокая труба, якую нейкі дзівак-музыка ўздзеў на сябе, прасунуўшы праз яе галаву і тулава.

Дайшоўшы да плошчы, калона рассыпалася, дадзена была каманда на адпачынак і перадышку. Чырвонаармейцы паскладалі вінтоўкі ў козлы, пасядалі на траву. Некаторыя стоўпіліся ля калодзежа. Каля іх сабраліся мясцовыя. Адзін з чырвонаармейцаў жвава праціснуўся наперад, да калодзежа, схапіў вочап з вядром, апусціў уніз, зачарпнуў вады і падняў наверх. Быў ён па-свойму адметны: сярэдняга росту, каржакаваты, з шырокімі сківіцамі і моцнымі зубамі. Шэрыя, з жаўтаватым бляскам вочы глядзелі прыязна. З расхрыстанага шыняля віднелася валасатая грудзіна. Босы. Шынель, выходзіць, на голае цела апрануты. За плячыма тырчэла вінтоўка. Чырвонаармеец папіў сам і даў папіць астатнім.

— У вас чыя ўлада? — спытаў ён.

— Цяпер будзе ваша! — засмяяліся ў натоўпе.

— Натуральна, наша! — па-свойску згадзіўся чалавек з вінтоўкай і, дастаўшы кісет, пачаў частаваць запалонаўцаў махоркай. — Не Калчака!

— У Калчака — казакі, — разважліва сказаў Рэпін.

— Казакі — гэта нашы першыя ворагі і самыя лютыя! — сурова глянуў на яго Таццянка, які знаходзіўся тут жа, сярод мужчын.

— Сёння чырвоныя, а заўтра, магчыма, яшчэ хто... — падаў рэпліку нехта ў задніх радах.

— Не бойцеся! Мы нікаво не дапусцім! — запэўніў чырвонаармеец.

— Вы, таварыш, далёка дзе бывалі? — асмеліўся пацікавіцца Гамон — ён таксама прыйшоў на плошчу. Незнаёмы зірнуў на Гамона з непрыхаванай насмешкай.

— Не люблю я гэтага «выкання» — у нас у дывізіі ўсе на «ты»!

— Няўжо? — не паверыў Галёнка. — Ого!

— А што? Мы ўсе сацыяльна блізкія, свае, браццы, можна сказаць. Нашто нам «выканне»? Мы не гаспада там якія-небудзь задрыпаныя, мы сазнацельныя. Адно слова — пралетарыі!

Усе глядзелі на яго і слухалі. Усім перадаўся яго настрой — прыўзняты і вясёлы.

— Вам інцярэсна, дзе мы пабывалі. Самару бралі, Уфу, у Бугульме пабывалі. Цяпер Калчака гонім! І ўсякага пагонім, хто проціў нас!

Прысутныя змоўклі, толькі сцішана дыхалі, гатовыя слухаць гэтага словаахвотлівага апавядальніка.

— Я, таварышы, закончаны бальшавік! — прызнаўся чырвонаармеец. Ён зняў з-за плячэй вінтоўку і з любасцю пагладзіў яе. — Эх, зазноба мая...

Усе згодна, з разуменнем паківалі галовамі і заўсміхаліся. Пятро Ламака паправіў на галаве шапку і сказаў:

— Народу ў вас многа!

— Дзіва што! — дадаў Гамон.

— Красная Армія — бальшая, — згадзіўся чырвонаармеец, — і жывём дружна!

— Вот гэта правільна! — пахваліў Таццянка, які ўсё бліжэй падступаў да чырвонаармейца.

— У нас, таварышы, у роце камуна, агульны кацёл. І прадукты, і адзенне, і абутак. Хто што з дому палучае — лічыцца агульным. Адзявае кожны тое, што яму ў даны момант неабхадзіма...

— І ладзіце паміж сабой? — не паверыў Галёнка.

— Ладзім, ды яшчэ як! — чырвонаармеец паглядзеў на прускаўца, як на блазна.

— Дык вы што — камунары? — не ўцярпеў Таццянка. Твар яго засвяціўся нейкай незвычайнай усмешкай, як бы ён адкрыў для сябе штосьці важнае, доўгачаканае.

— І ў вас цяпер шлях адзін — камунія! — пераканаўча адказаў чалавек з вінтоўкай. — Ну-к, хто смелы? Сабірайся ў наш рэвалюцыйны полк! — ён абвёў вачыма прысутных.

Жадаючых аднак не знайшлося.

Заварушыліся бежанцы, пра нешта паміж сабой перамаўляючыся.

— А ці хутка нас адправяць на родзіну? — задаў пытанне Міхаль Тупчык.

Чырвонаармеец пачухаў за вухам, агледзеў прысутных:

— Цяпер — як Троцкі скажа...

— Канешна, Троцкі! — пагадзіўся Таццянка. — А хто ж яшчэ? Ён! Да Троцкага не даступішся. Бежанцы, разумеючы гэта, заўздыхалі, больш пытанняў у іх не было.

Калі ўсе разыходзіліся, Таццянка сказаў Гамону:

— Я чуў, што ты таксама пастрадаў за савецку ўласць?

— Пастрадаў і я, — не без гонару адказаў Гамон.

А праз нейкі час вярнуўся і Сямён Пяцельнікаў. Скуранка і скураная фуражка на ім добра скамечаныя і пацёртыя, але сам ён выглядаў бадзёрым і гатовым да дзейнасці. На сцяне будынка, які быў калісьці валасной управай, а потым рэўкомам, саветам, камбедам, зноў саветам і зноў управай, закрасаваўся свежы плакат: «Товарищи, все на Урал!»

Пачалі з мітынгу. На ганку — група вайскоўцаў, нейкая жанчына ў скуранцы і чырвонай касынцы, Пяцельнікаў. Потым да іх далучыўся і Міша Касякін, які ўвесь гэты час праседзеў у склепе.

Народу — біткам набіта. Прыйшоў нават Ілья Аляксандравіч.

Перад канцом мітынгу прывялі групу палонных-калчакаўцаў.

— У расход! — крыкнулі некаторыя з чырвонаармейцаў, што сталі папераддзе.

— Адправіць у штаб дзівізіі! — распарадзіўся камісар.

Сярод палонных стаяў, мяркуючы па шараварах з лампасамі, адзін казак.

— Казакаў у палон не браць! — суха сказаў камісар, згледзеўшы, мусіць, гэтыя лампасы.

— З бедных я! — пачаў прасіцца палонны. — Сілком мяне Дутаў забраў!

К ночы вёска аціхла. Адны адразу паснулі, а на другіх і ўгамону няма: аднекуль з'явіўся гармонік, пачаліся песні і скокі.

Першай ахвярай стаў мясцовы свяшчэннік — айцец Хрыстафор з Аляксееўкі. Гэта здарылася назаўтра, перад Вялікаднем. Ранкам, спрасоння чырвоныя байцы бачылі, як на вясковай вуліцы паказаўся папоўскі вазок. Вароты ва ўсіх зачынены, але айцу Хрыстафору адчыняюць. Святару — павага. Традыцыя. Айцец Хрыстафор, узяўшы з сабой ікону Божай маці, выехаў славіць свята ўваскрасення Хрыста. Прыхажане выносілі яму яйкі і пірагі. Аддавалі ледзь не апошняе.

— У нас, у праваслаўных, заведзено: кесару — кесарава, а Богу — богава, — казала Фёкла, выносячы айцу Хрыстафору паўрэшата пшаніцы.

— Всякое даяние благо, — адказваў на гэта айцец Хрыстафор, — а ў Самары — чулі? — ікона абнавілася! Пацярпіце, праваслаўныя, хутка канец гэтаму ўсяму.

Што праўда — то праўда: цяжка напоўніць папоўскі вазок, але яго ўладальнік не траціў надзеі. Каля вазка сталі круціцца два чырвонаармейцы: той, з голай грудзінай, што размаўляў учора з запалонаўцамі і казаў, што ён «закончаны бальшавік», і яшчэ адзін — у вастраверхай шапцы і лапцях.

— А яго самога трэба запрэгчы ў воз! — сказаў той, што быў у лапцях, калі папоўскі вазок ад'ехаў да наступнай хаты.

І адзін, і другі зарагаталі так моцна, што айцец Хрыстафор, азірнуўшыся на іх, перажагнаўся.

«Наславіўшы» ўсялякіх прыпасаў, айцец Хрыстафор хацеў, мусіць, зрабіць добрае: ён пачаў прадаваць пірагі і яйкі, якія набраў у сялян, чырвонаармейцам. Яйкі — 20 рублёў дзесятак, пірагі — 10 рублёў штука.

Гэтым ён сам сабе напісаў прысуд. Прачуўшы пра ўсё, да вазка падышоў камісар разам з Пяцельнікавым і Мішам Касякіным.

— Бацюшка, вы забылі, што Хрыстос прагнаў гандляроў з храма, — мякка сказаў камісар.

— Яны, сын мой, былі нячыстыя, — запярэчыў яму айцец Хрыстафор.

— Каб ачысціцца — у нас кулямёт ёсць! — пасміхнуўся Пяцельнікаў. — Пропаведзі вашы ў царкве — контррэвалюцыяй пахнуць!

— Таварышок, таварышок! — устрывожыўся айцец Хрыстафор. — Я ж як лепш!..

— У чразвычайку яго! — загадаў камісар.

Трыбунал судзіў айца Хрыстафора за самавольную рэквізіцыю прадуктаў у насельніцтва...

Судзілі таксама мілягінскага ўнука Санька, які, праз нацкоўванне дарослых, стрэліў у Фролку. Як непаўналетняга адправілі ў дзіцячы прытулак на перавыхаванне...

## VI

Лявон прывёз з Бузулука, з Пленбежа, некалькі газет. Сабраліся, па даўняй завядзёнцы, у Кужалёў. Галёнка выбраў газету, на якой зверху вялізнымі літарамі было надрукавана: «Красноармейская Звезда».

— Сібір, пішуць, супраць Калчака паўстала, — сказаў ён, пабегаўшы вачыма па шэрых газетных старонках. — Народ...

— Барба! — з разуменнем справы азваўся Гамон. — Дзіва што!

— Відаць, Калчаку канец, — падтрымаў размову Міхаль Тупчык.

— Хто яго ведае, — уздыхнула Галёнкава Міхаліна.

У хату, следам за бежанцамі, завітаў Таццянка, жвавы і хапатлівы, як заўсёды.

— Аб чом разгавор? — загаманіў ён з парога.

— Ды вось — пра паліціку гаворым... — патлумачыў Гамон, распраўляючы скрыўленую шыю.

А Галёнка знайшоў яшчэ нешта цікавае.

— Паслухайце, што ў Вільні робіцца! — ён абвёў вачыма землякоў і пачаў чытаць: — «Турмы перапоўнены. Завальная вуліца разгромлена і разбурана дашчэнту. Падазраваемыя ў блізкасці да камуністаў бязлітасна расстрэльваюцца.

На літоўска-беларускім фронце мы панеслі некаторыя страты ў тэрыторыі. Тут мы страцілі Вільню і некаторую частку тэрыторыі на ўсход ад яе, тут ужо дзейнічаюць рэгулярныя польскія войскі. Вільня, між іншым, імі занята вельмі арыгінальным спосабам: два эшалоны польскіх войск прыбылі па чыгунцы на вакзал і з такой паспешлівасцю захапілі горад, што літоўска-беларускі ўрад ледзьве паспеў адтуль выбрацца. Цяпер там з'явіліся нашы рэгулярныя часці і, трэба спадзявацца, што становішча хутка будзе выпраўлена».

— Выходзіць, што палякі наступаюць далей! — ажывіўся Міхаль Тупчык.

— Ну так! — пацвердзіў Галёнка. — Так і напісана: «На тэрыторыі Беларусі ідзе мабілізацыя ў польскую армію».

— Могуць і нашых забраць — хто там застаўся, — зноў выказаў меркаванне Пятро Ламака.

— «У Слоніме паўстаў Беластоцкі полк легіянераў», — працягваў чытаць Галёнка. — А вось яшчэ: «Салдаты польскага генерала Галера адмаўляюцца ісці на рускі фронт».

— А ў нас вось, колькі мы тут, ніхто не нарадзіўся! — сказала раптам Марыля.

Сапраўды — Лявон гэта заўважыў ужо даўно — у бежанстве перасталі прускаўцы пладзіцца. Ад чаго гэта? Чаму? Маладзіцы, здаецца, здаровыя, ды і мужчыны не ломкі. Але вось...

— Ох, доля наша, доля! — застагнала Ламакава Апраска. — Чаму свет такі?

Галёнка адарваўся ад газеты і паглядзеў на яе:

— Дадому хочаш? А я, думаеш, не хачу?

Загаманіў Міхаль Тупчык:

— Цікава, ці дачакаюцца калі той плуг з бараной, што за клуняю закапаў? — чалавек як бы думаў уголас.

— Дачакаюцца! — адгукнуўся Ламака. — Нідзе не дзенуцца.

— Дзе ж яны дачакаюцца, — запярэчыла Апраска, — калі ты іх дрэнна схаваў! Можа, згнілі ўжо або хто выцягнуў!

— Няма там каму цягнуць, — супакоіў Апраску Тупчык, — раз'ехаліся людзі...

— Не аб том вы судзіце, таварышы, — сказаў Таццянка, — нада здзесь парадак навадзіць.

Таццянка як у ваду глядзеў. Яшчэ праз некалькі дзён у Запалоннае прыбыў вайсковы трыбунал 27-й стальной дывізіі. Трыбунал павінен быў навесці парадак, устанавіць рэвалюцыйную законнасць. Шмат было выпадкаў дэзерцірства. Многія ўцякалі з арміі і хаваліся па вёсках. Зрэшты, паняцце «дэзерцірства» бальшавікі разумелі вельмі шырока. «Дэзерцірамі» яны лічылі ўсіх мужчын, хто не ў Чырвонай Арміі.

Зноў сагналі запалонаўцаў і бежанцаў на плошчу. Старшыня трыбунала — зацягнуты ў скураное адзенне чалавек у пенснэ, з акамянелымі скуламі і нейкім нерухомым тварам — прамаўляў, стоячы на ганку былога валаснога праўлення:

— Таварышы дэзерціры! Пакуль не позна, з'явіцеся ў свае часці, гэта значыць да першага красавіка. Тыя, хто не з'явіцца ў часці ці з'явіцца пасля тэрміну, будуць строга пакараны, уключна да вышэйшай меры сацыяльнай абароны — расстрэлу!

— Ого! — здзівіўся Вярзілін.

— Усе бацькі і родзічы дэзерціраў таксама ёсць прадажнікі і здраднікі савецкай улады! — абвясціў старшыня трыбунала.

— Ого! — зноў паўтарыў Вярзілін, — быў, мусіць, на падпітку.

— Цішэй! — падняў руку Пяцельнікаў.

— Гэта — рэвалюцыя! — ускіпеў трыбунальшчык. — Ізмены яна не прашчае! Клас мае права жорстка караць ізменнікаў і сабатажнікаў! Па рэвалюцыйных законах!

Падахвоціўся выступіць і Міша Касякін, які разам з Пяцельнікавым стаяў на ганку.

— Я выступлю! — сказаў Міша, але Пяцельнікаў стрымаў сябра.

— Ты, Міхаіл, адно толька разгаворы разгаварываеш.

Пасля сходу адбыліся арышты. Сярод іншых узялі і Спірыдона Вярзіліна, як ён ні даказваў, што ні ў чым не вінаваты. Арыштаваных павялі ў Бузулук. Спірыдону, аднак, пашанцавала і тут: праз некалькі дзён яго выпусцілі як бедняка.

Марыля баялася за Лявона. Хоць нейкае супакаенне ёй давала праца. Яна любіла даглядаць агарод. Тут, на сонечным угрэве, сваё жыццё. Узняліся, загойдаліся на ветры жоўтыя галовы сланечнікаў. Смела і ўпарта чаплялася за высокія тычкі фасоля, па краях грады падаўся ў рост боб. Там-сям тырчэла пер'е цыбулі. Адчуваўся моцны агурковы дух. З-пад густой націны зрэдзь віднеліся доўгія, з пупышкамі, гуркі. На асобнай градзе бушавала бацвінне буракоў. Але, мусіць, над усімі пахамі пераважаў кроп. Яго высокія, на тонкіх ножках, парасончыкі ўздымаліся над астатняй раслiннасцю і прагна цешыліся сонечным цяплом.

Лявон з Фёклай — у полі, на жніве. Разам з імі Фядорка з Варкай. Поле, як і агарод, жыло сваім жыццём. Жнівень 1919 года даймаў гарачынёю, але ўраджай удаўся дабрэнны. Пшаніца стаяла густой сцяной. Ледзь варушыліся буйныя каласы, налітыя цяжарам даспелага зерня. Не было ўжо ні коней, ні жнеек. Даводзілася абыходзіцца

касой. Лявон касіў, Фёкла з залоўкамі ззаду падбіралі скошанае, сцягваючы яго ў купкі.

Пад вечар, калі добра змерклася, яны разам выйшлі ў стэп, які шчодра паіў пахамі палыну і чартапалоху. Фёкла падняла рукі, абвіла яго шыю і моцна прыціснулася да грудзей. Погляд яе, здавалася, пранікаў у самую глыбіню душы, даставаў да дна. Яна ведала, што ён кахае і ганарылася гэтым. Кроў стомлена стукала ў скроні. Ён таксама яе абняў, і яны пацалаваліся, потым прыселі на траву.

— Ой, якая ў мяне добрая жонка...

Яна сумелася.

— Што з табой, Фяклуша?

— Я ж упершыню пачула з тваіх вуснаў «жонка».

— А няўжо я гэтага раней не казаў?

— Не.

— Жонка! А хто ж?

— Лёня, я адданая табе да скону! — на яго глядзелі яе цёплыя бяздонныя вочы.

— Цюпачка ты мая... — пяшчотна нашэптваў ён...

Першае зерне было адпраўлена ў Бузулук, але там палічылі, што замала, і адтуль з ротай чырвонаармейцаў прыехаў упаўнаважаны. Гэта быў усё той жа таварыш Дрэер. Той самы доўгі шэры шынель, падперазаны па грудзях раменнай дзягай, даставаў да падлогі. Вочы хаваліся за крыва пасаджаным пенснэ. Выгляд — незадаволены. У той жа дзень склікалі сход, і ўпаўнаважаны з месца рвануў у кар'ер.

— Я, таварышы, бальшавік. Бальшавікі, таварышы, раз і назаўсёды ўзялі ўладу. Усю як есць, цэлікам! Гэта я гавару вам са ўсёй атветственасцю, але, таварышы, у нас не хапае хлеба. І калі рэвалюцыйны пралетарыят, які ў сваёй барацьбе нясе вам шчасце сацыялізма, галадае, у вас у Запалонным пераганяюць хлеб на самагонку! Гэта праступленіе, таварышы! — ён абвёў вачыма залу, нібы шукаючы тых, хто мог быць яго праціўнікам, а магчыма, і ворагам. — Яны маюць упаўне ясную мэту: скупіць увесь хлеб, падняць на яго цэны і такім чынам умарыць пралетарыят з голаду і знішчыць рэвалюцыю. Дапусціць гэтага нялься!

— Кулакі нажываюцца на голадзе! На мяшках з золатам сядзяць! — падтрымаў упаўнаважанага Пяцельнікаў, які вёў сход.

Людзі моўчкі слухалі

— Ізлішкі зярна нада із'яць! — даводзіў сваё ўпаўнаважаны. — Таварышы, каторыя бедната! У гэтым смысле нужна ваша дапамога! Рабочы клас з аднаго боку, вы — з другога. Мы з малатком, вы з сярпом — вось у нас і смычка атрымаецца! Сацыялізм, таварышы, гэта ні ў коем случае не капіталізм! Гэта — роўнасць! Гэта значыць, што ніхто не будзе забыты, што кожны атрымае сваё. Людзі будуць як брацця!

Маўчанне сходу парушылі асобныя галасы:

— Няўжо?

— Не верыцца...

— Ціка-ава...

Прысутныя запалонаўцы загаварылі ўсе разам, перабіваючы адзін аднаго. Сісяйкін паціснуў плячыма:

— Нязбытачна гэта!

— Пачаму? — запярэчыў Пяцельнікаў.

— Людзі ўсё ж такі розныя: адны з раніцы паспаць любяць і спяць доўга, не прачынаючыся, другія — устаюць разам з жаваранкам; адны выпіць майстры, другім гарэлку тую і не паказвай; адны працуюць, другія падленьваюцца...

— Потым, зноў-такі, нацыя розная! — падхапіў думку прыяцеля Ілья Аляксандарвіч.

Пяцельнікаву такія развагі не спадабаліся:

— Хопіць ужо дзяліць людзей на нацыі! Перажытак гэта, ды к таму і шкодны. Усё гэта буржуйскія выдумкі — не больш! Пара ад іх вызваляцца!

— Мы кожны паасобку, а ў кнігах пішуць, каб разам жыць, сааб-ча... — падтрымаў Пяцельнікава Таццянка.

Назаўтра пачалася рэквізіцыя. Была ўтворана камісія, у якую ўвайшлі, апроч упаўнаважанага, Пяцельнікаў, Мацвей Каросцін, Міша Касякін, Таццян Чудайкін, Пробкін, Нямцоў і інш. Пайшлі разам з чырвонаармейцамі па вёсцы, па хатах. Завярнулі да Ільі Платонава. Пяцельнікаў звярнуўся да гаспадара на «ты» (жадаючы, мусіць, паказаць, што Ілью Аляксандравіча ён добра ведае):

— Здароў!

— Да якое там здароўе?

— Нада памоч!

— Што памоч?

— Колькі сабраў, я спрашываю!

— Колькі пасеяў, столькі і сабраў! — смела адказаў Ілья Аляксандравіч. — Нашто нам тыя ізлішкі сеяць, каб потым чорта нятружанага карміць!

— Хазяйства тваё, стала быць, падлягае канфіскацыі! — пастрашыў Пяцельнікаў.

— Рэквізіцыі, — паправіў сябра Міша Касякін.

— Налог я ўплаціў.

На падворак выйшла Афанасся.

— Ілья! Пакажы ім квітанцыю! — падказала яна мужу.

Ілья Аляксандравіч дастаў з кішэні паперку.

— Наёмную сілу спользаваў? — запытаў Таццянка.

— Замест грошай квітанцыю далі. Аплацім, сказалі, потым... — патлумачыў ён, падаючы квітанцыю Пяцельнікаву.

Афанассія заплакала, пачала выціраць ражком хусткі вочы.

— Наш сынок Саша загінуў за гэтую ўласць! — заныла яна, шморгаючы носам.

— Гэта — дэталь! — суха адрэагаваў Пяцельнікаў, вяртаючы квітанцыю — Сто пудоў нада здаць!

— Абочынны ты чалавек, Ілья Аляксандравіч, — насмешліва сказаў Таццянка, успомніўшы, што гэтак Ілья Аляксандравіч, запалонаўскі «хазяін», казаў яму, гаротніку Чудайкіну.

— Зярно вязі ў Бузулук на ссыпной пункт! — загадаў Пяцельнікаў.

Камісія пайшла далей.

— Дык гэта ж грабёж — крычаў наўздагон Ілья Аляксандравіч. — Як так можна? Гэта ж несправядліва! — абураўся ён. — Савецкая ўласць усё з нас, мужыкоў, дзярэ! Ну, братцы, астаёцца недаўмяваць...

Міша вадзіў камісію па гумнах, паказваў свірны, а таксама мясціны ў лесе, дзе мог быць прыхаваны хлеб.

— Ворагаў шкадаваць ніяк нельга, — разважаў Таццянка, — ім толькі паддайся — ураз з'ядуць! Я знаю!

Як толькі звечарэла, Ілья Аляксандравіч паклаў на воз пудоў пад шэсцьдзесят збожжа і павёз палявою дарогай у бок Бузулука. Доўга ехаў уздоўж Самаркі. Аграмадная, урачыстая поўня стаяла над уромай і купала ў сваіх мяккіх праменнях усё наваколле. Пад цяжарам накладзенага воз паскрыпваў, і гэты скрып выклікаў думкі. Цяпер жыццё здавалася Ільі Аляксандравічу ўвасабленнем няўцямнасці і абсурду: «Які ж сэнс у жыцці? Адна бяссэнсіца! Атрымліваецца так, што і сапраўды няма сэнсу...» «Куды мы едзем? Куды мы едзем?» — скрыпелі колы. «...За што ж такія непамерныя пакуты пасылаюцца людзям? Да ўлады прыйшлі іншыя. Няма ў іх ні спачування, ні сумлення. А можа, таго сумлення і зусім няма і ніколі не было ў людзей? Але тады на што ж можна абаперціся ў гэтым свеце? Ці ёсць у ім дзеля гэтага што-небудзь дастаткова моцнае? Ісціна? Якая ісціна? Ці ёсць яна — ісціна?..» Разбірала злосць. «Хто мог падумаць, што такое станецца?..»

Ілья Аляксандравіч павярнуў да Самаркі і спыніўся там, дзе бераг быў больш круты. Па адным сцягваў мяшкі з воза, развязваў і высыпаў у ваду. Няўцямна глядзеў, як вада паглынае збожжа. Развязваючы апошні мяшок, заплакаў.

Гэтак жа, вярнуўшыся ў Запалоннае, хацеў зрабіць і з другім возам, але ў галаве мільганула думка: схаваць! Вечарам зайшоў да Лявона, вывеў з хаты:

— Пшанічка есць, пудзікаў сорак, схаваць трэба! Задушыла рэквізіцыя, будзь яна няладная...

Лявон, падумаўшы, згадзіўся. Яму выкапалі за вёскай, за ярам. Памеркаваўшы, дно выслалі саломай і паклалі мяшкі. Яму засыпалі пяском.

— Пачакаем крыху, а там у Бузулук завязём, на базар, — ціха сказаў Ілья Аляксандравіч...

Шмат турбот у запалонаўскага міліцыянера Мішы Касякіна — за ўсім трэба прыгледзець. Дамоў вяртаецца позна. На вячэру ў яго, як звычайна, кавалак хлеба і кубак малака. Пад'еўшы, зняўшы з пояса папругу з наганам, дастае з шуфляды дзённік, пачынае гартаць, перачытваць:

*25 мая*

Адступаючы з Запалоннага, белякі рэквізіравалі 250 пудоў мукі, 300 пудоў бульбы, 30 пудоў сена, зарэзалі дзесяць кароў, забралі сем коней, махорку забралі. Аднак далёка не ўвязлі. Чырвоныя адабралі ў белых больш за тысячу падвод, паклікалі сялян — хто прызнае свайго каня, таму і аддадуць яго для работ.

*27 мая*

Пасля таго, як нашы ўзялі Бугуруслан, калчакаўцы адступілі на Белебей. Наступленне ідзе імкліва. Рабяты проста жалезныя. Без сну і отдыху.

*1 чэрвеня*

Мітынг у Запалонным. Выступаў камісар 241-га сялянскага палка (забыў прозвішча). Талковы таварыш. Са мною адразу перайшоў на «ты». Але асабліва парадавала жанчына. Уся ў хроме, на галаве чырвоны платок. Гаварыла ярка і пламенна. Смелая! Такая, каго хочаш убядзіт. Вот на такой бы я жаніўся! Запомніў імя: Дуня-пралетарка.

*2 чэрвеня*

Случай з папом.

*9 чэрвеня*

Шукаем дэзерціраў. Адпраўлен у Бузулук Спірыдон. У гэтым дзеле няплоха памагае трыбунал — аруж'е класавага самасазнанія.

*11 чэрвеня*

Па-рэвалюцыйнаму дзействует Пяцельнікаў. Таварыш ён міравой. Учарась ён сказаў:

— Хай жыве рэвалюцыя! Нікога дзеля яе не пашкадую!

Контррэвалюцыя хоча задушыць рэвалюцыю ў далёкай Баварыі. Такога дапусціць нельзя. Не дадзім!

*15 чэрвеня*

Ідзёт барба са спекулянтамі і самагоншчыкамі. Жаль Фролкі нет. Ён бы ўжо!.. Міравой быў таварыш.

*18 чэрвеня*

Неплахой чалавек шурын мой Лявон. Должнасць бы яму якую-небудзь, да не паложана. Не месны ён. І нет у ём пралетарскай жылкі.

*19 чэрвеня*

Выпушчаны з Бузулука Спірыдон. І ў вадзе не тоне, і ў агне не гарыць. Для такіх нужон свой трыбунал. Хаця б яшчэ адзін чалавек — і тройка была б...

*2 жніўня*

Прыехаў з раскладным лістом упаўнаважаны з Самары таварыш Дрэер. Бальшавік. Аратар. Заткнуў рот тым, хто сумняваецца:

— Гэта — ідэалізм, таварышы! Савецкую ўладу нельзя стронуць з места. Ана крэпкая.

Правільна.

*7 жніўня*

Звольнены і аддадзены пад суд старшыня Борскага валвыканкома Зайцаў і члены валвыканкома Пыралін і Куталін за прысваенне рэквізаваных у сялян рэчаў і прадуктаў. Дажыліся!

*14 жніўня*

Кулакі ўтаіваюць зярно. Будзем праводзіць рэквізіцыю — загад з цэнтра.

*17 жніўня*

Газеты паведамляюць, што палякі занялі Мінск, ім супрацьстаіць наша 16-я армія.

*18 жніўня*

Штой-та муціць Спірыдон. А кагда ён не муціў? Смуцьян. Толька і чуеш ад яго: «Я сам з усам!» Аднажды я наведаў яго. Ён асмеліўся праспяваць мне частушку. Сам слышал:

Нету мыла вымыть рыла,
Нету чаю в чайник класть.
До чего у нас в России
Замечательная власть.

Я сказаў яму: «Дурак!» Не панімает урэменных труднасцей. За такое нада судзіць немедлена. Паглядзім, што будзе далей.

*27 жніўня*

Кулакі спекулююць...

У гэтым месцы аўтар не заўважыў, як заснуў, уткнуўшыся носам у сшытак. Прачнуўшыся, перабраўся на сваю халасцяцкую пасцель.

## VII

Зіма 1919—1920 гадоў прайшла ў клопатах. Выдалася яна марознай і доўгай. Амаль увесь час гаспадарыла завіруха. Пад самыя вокны сумётамі нападаў снег. Людзі прыціхлі, туліліся па хатах, чакалі вясны, а тая не спяшалася. Нарэшце дачакаліся Стрэчання — пятнаццатага лютага, калі зіма з вясной сустракаюцца. І ўсё, можа, было б не так і блага, каб не бракавала прадуктаў. У пачатку 1920 года бяда гэта ўзмацнілася, і не толькі сярод бежанцаў, але і мясцовага насельніцтва.

Пасля калчакаўскага фронту, пісалі газеты, — другім па вастрыні з'яўляецца пытанне пра сельскую вясну, якую трэба было пачынаць па-новаму. У Запалоннае з Самарскага зямельнага аддзела зноў прыехаў таварыш Дрэер. Сабраў членаў ячэйкі і прызначыў агульны сход. Новая скураная фуражка з чырвонай зоркай сядзела на яго галаве. Шынель — доўгі, да пят, нават валачэцца па зямлі. У руках — партфель, які ўпаўнаважаны земаддзела паклаў на стол і пачаў у ім нешта шукаць. Нарэшце дастаў адтуль пенснэ і ўздзеў на нос: усе заўважылі, што адно шкельца было цэлае, другое — паколатае.

— Жыды ўладу ўзялі... — ціха сказаў хтосьці ў кутку.

Упаўнаважаны не пачуў гэтага ці зрабіў выгляд, што не чуе. Мужыкі дасталі з глыбокіх кішэняў кісеты, закурылі. Былі на сходзе і бежанцы — Гамон, Галёнка, Міхаль Тупчык, Лявон, Пятро Ламака ды іншыя.

Пачуўся голас Спірыдона Вярзіліна — ён звярнуўся да ўпаўнаважанага з пытаннем:

— А праўда, што генерал Дзянікін Маскву ўзяў, а Юдзеніч — Петраград?

Пытанне смелае. Упаўнаважаны абапёрся аб стол, агледзеў залу, зрабіў вытрымку і, калі наступіла цішыня, адказаў:

— Нет, не праўда! Пабілі мы аднаво і другова! Дзянікіна дальша Арла не пусцілі! — Дрэер закашляўся.

Зала прымоўкла ў нявемцы: верыць яму ці не?

Дрэер пакашляў і пачаў:

— Таварышы! Усюды пачынаецца жыццё, як гаворыцца, з чыстага ліста! Гэта давядзецца зрабіць і вам. Я звяртаюся да беднаты! Да сазнацельных! На сяло, таварышы, спушчана дырэктыва адносна камун, і ад гэтага нікуды не дзенешся.

— Апяць?! — незадаволена буркнуў Вярзілін. Па ўсім відаць было, што мінулагодні арышт нічому яго не навучыў.

Сход загуў. Рэпін выдыхнуў з грудзей цэлую хмару дыму і тыцнуў пальцам кудысьці ўбок.

— У камуніі ўсё агульнае. Курыцу, брат, і тую трымаць не дазволяць... — абурана выдыхнуў ён разам з дымам.

Ячэйкаўцы, якія сядзелі бліжэй да стала, пераглянуліся паміж сабой. Таццянка злосна плюнуў на падлогу і павярнуўся да Рэпіна:

— Я гляджу, Герасім, што ты да багацеяў ліпнеш!.. Новую жысь нада дзелаць! Нам няма чаго губляць, акрамя цапей!..

— Камунія не наша — яна з горада прыйшла! — агрызнуўся Рэпін.

Прамоўца, пачуўшы гаману, устрывожыўся і павысіў голас:

— Маючы ў сваіх руках хлеб, насенне, інвентар, кулакі коя-гдзе спрабуюць падпарадкаваць беднату свайму ўплыву, але гэта ім не ўдасца! Таварышы! Дазвольце прачытаць вам палымяную адозву губкома!

Дрэер пакапаўся ў партфелі і дастаў адтуль аркуш паперы. Гэта была адозва. Ён паправіў на носе пенснэ.

— «Таварышы-сяляне! Арганізуйцеся для вядзення гаспадаркі сумесна. Наладжвайце сельскагаспадарчыя камуны і арцелі. Камуны і арцельныя гаспадаркі зробяць вас моцнымі, шчаслівымі. Помніце, толькі згуртаваўшыся ў дружную сям'ю, вы будзеце сілай, якую ніштo не перабора. Уся зямля, за выключэннем прысядзібнай, павінна знаходзіцца ў арцельным карыстанні, без падзелу на ўчасткі. Апрацоўка палёў, касьба лугоў, нарыхтоўка сена і іншае — робіцца ўсімі наяўнымі работнікамі. Пачатак і заканчэнне — адначасова. Назіраюць за працай — выбарныя людзі, найбольш чэсныя. Тыя, хто не з'явіўся на работу, заносяцца ў грамадскую кнігу...»

На заканчэнне адозвы Дрэер крыкнуў:

— Далоў адчужанасць! Хай жыве наша адзіная працоўная сям'я! — і на манер Троцкага падняў над галавой руку.

— Што гэты яўрэй ад нас хоча?! Эйш ты яго — як кіпіць! — павёў галавой Сарокін.

— Бальшавіка не тронь! — успалашыўся Таццянка.

— Харашо гаворыць таварыш! — пахваліў аратара Фільчыкаў.

— Маладзец! Самога Карлу Марлу за бараду бярэ! — падтрымаў яго і парадаваўся за ўпаўнаважанага Таццянка і абмацаў сваю рэдзенькую і пакамечаную бародку.

— Строем будуць ганяць на работу... — зноў незадаволена заварушыўся Вярзілін. — Мне ў Бузулуку казалі.

— Хай бы бедным сем'ям раздалі, а то камунію ствараюць! — падаў думку Пераверзеў.

Упаўнаважанаму гэта не спадабалася:

— У вас, я бачу, агітацыя і прапаганда не пастаўлены ішо... — ён пастукаў кулаком па стале, правёў вачыма па першых радах. — Таварышы, стыхію трэба прывесці ў парадак, надаць разумныя формы. Гэта не утапізм. Камуна — гэта заўтрашні наш дзень. Камуна, зразумела, працоўная, пралетарская перш за ўсё. Не забывайце, што пралетарыят — гэта гегемон! Так!

— О, Гамона ўспомніў! — здзівіўся Пятро Ламака. — Няўжо ён нашага Гамона ведае?

— Гамона ўсе ведаюць! — супакоіў яго Галёнка.

— Трэба, таварышы, арганізоўвацца ў камуну, калёным жалеззем выпальваць дробнабуржуазную стыхію. Да дабра яна нас не давядзе. Толькі план, толькі свядомы пачатак адчыняць дзверы ў будучыню! Так, таварышы! — у гэтым месцы прамоўца закашляўся і пацягнуўся да шклянкі з вадой.

— Канешна, мірам жыць добра! — падтрымаў Дрэера Пяцельнікаў, які сядзеў, як заўсёды, на старшынёўскім месцы.

— Усім разам жыць — гэта нармальна! — азваўся і Міша Касякін.

— Таварышы! Камуна — гэта, калі перакласці на сучасную мову, хлебная фабрыка, — працягваў тлумачыць Дрэер, паставіўшы на стол пустую шклянку. — Так, я не жартую, хлебная фабрыка, і не менш!

— Вот так да! — не таіў захаплення Таццянка, трасучы рэдзенькай бародкай.

— Мы павінныператварыць земляробства ў фабрыку дабывання хлеба, і камуна для гэтага — лепш за ўсё! Там усе працаваць будуць, усіх прывучым — і хто п'яніца, і хто лодар! — даказваў прамоўца. — На зло імперыялізму! І ўсё абагулім! Каб усё было агульнае, таварышы! Скот, інвентар, хамуты розныя, дугі! Сундукі з адзеждай! Усё!

— Дык, можа, і баб абагуліць? — зарагатаў Вярзілін, і яго рогат падхапіў увесь сход. У памяшканні станавілася душна.

— Не нада, таварыш! — зрэагаваў на словы Вярзіліна прамоўца. — Я пра іное! Тут, калі хочаце, дзела ў другом! Камуна, таварышы, гэта не толькі эканамічная зацікаўленасць. Яна, таварышы, грунтуецца на духоўнай блізкасці, на роўнасці і братэрстве! Камуна — гэта, па сутнасці, крок да камунізму, а ад яго і да сацыялізму! Ізноў жа пра налог не нада думаць. Трэба памятаць, што ў камуне няма месца ні памешчыкам, ні кулакам, ні спекулянтам. Калі яны, не тут кажучы, увойдуць, камуна будзе недаўгавечнай. А мы, зразумела, гэтага не можам дапусціць.

— Дык, што, пай трэба ўносіць? — спытаў Сарокін.

— А што рабіць таму, у каго няма ні каровы, ні каня? — пацікавіўся Пераверзеў.

— Таго прымем і без паёў! — не разгубіўся Дрэер.

— Я вось думаю... — пачухаў за вухам Рэпін.

Дрэер суха пастукаў костачкамі пальцаў па стале:

— Думкі свае, таварыш, пакіньце пры сабе. Жыць трэба агульнымі інтарэсамі! — упаўнаважаны зноў паглядзеў у залу. — Я думаю, што доўга цягнуць мы не будзем, а к зіме ўжо пабудуем камунізм. Назло сусветнаму імперыялізму! — абвясціўшы такі прагноз, упаўнаважаны зняў з носа пенснэ і памахаў ім у паветры.

Падняў руку Міша Касякін, які сядзеў недалёка ад прэзідыума:

— Есць пытанне! А як з бежанцамі быць?

— Дык у іх жа пая няма! — крыкнуў Андронаў. — Яны ў нас бясхозныя!

Пачуўся чыйсьці незадаволены голас:

— Бежанцы гэтыя — аб'ядаць прыехалі...

— Мы ж не сваёй ахвотаю, — бараніўся Гамон.

— Бежанцы — гэта поўныя камунары-пралетарыі! — устаў на абарону бежанцаў Таццянка. — Гэта нада ўзяць ва ўніманіе!

— У нас сваёй гаспадаркі няма, — пацвердзіў Галёнка.

— Што ж! Вы сацыяльна блізкія, — пагадзіўся Дрэер. — Як вырашыць народ.

— Вы, як і мы, пралетарыі! — цешыўся Таццянка. — Усё нясіце, таварышы, — і міскі, і лыжкі! Камунія ёсць камунія! Каб умясцях!

Агульны сход, аднак, не праявіў рашучасці ў арганізацыі камуны, і ініцыятыву ўзяла на сябе ячэйка. Яна і пастанавіла ўтварыць у Запалонным сельскагаспадарчую камуну. Назву вырашылі даць, па прапанове Пяцельнікава, гучную: «Таварыш Троцкі». Адбыліся спрэчкі, ці, як сказаў Дрэер, «дэбаты» наконт таго, хто будзе кіраваць камунай.

— А пакіруе вамі, — падвёў вынікі дэбатаў упаўнаважаны, — таварыш Чудайкін — ён бядней за ўсіх! Будзе справядліва.

Гэта стала нечаканасцю для ўсіх, у тым ліку і для самога Таццянкі: на лбе ў яго адразу набухла і засінела тоненькая жылка, ён нервова камячыў сваю бародку.

Ячэйкаўцы спачатку не пагадзіліся.

— Ён сваю гаспадарку не змог наладзіць, а вы яго вунь куды! — у голасе Андронава чулася абурэнне.

На гэта ў Дрэера меліся свае довады:

— Працаваць, таварышы, кожны дурань будзе — гэта нескладана, а вось кіраваць — тут галава патрэбна! А галоўнае — класавы інстынкт!

— Гэтага кожнаму не даверыш! — падтрымаў упаўнаважанага Пяцельнікаў. — Таварыш Чудайкін не малады ўжо чалавек, гэта праўда, але энергіі хоць адбаўляй...

— Я за рэвалюцыю пастрадаў! — сціпла напомніў Таццянка.

Усё-такі згадзіліся.

Камунары вырашылі выселіцца на хутар Нікабалава і пабудаваць там барак. У камуну ўвайшло трынаццаць двароў. У асноўным ячэйкаўцы, беднякі і былыя франтавікі. Да іх далучылася некалькі батракоў і з бежанцаў — Гамон (ён усё ж даўні прыяцель Чудайкіна). З малымі і старымі назбіралася чалавек пяцьдзесят, а можа, і болей. Абагульнілі зямлю, прыхапіўшы і частку нікабалаўскай. Каморнік абмераў асобныя ўчасткі камунараў і намеціў агульны клін у адным месцы.

Зямлі, калі палічылі, аказалася дзесяцінаў пад сто і амаль столькі ж сенажаці. Пры ўступленні ў камуну кожны павінен быў

здаць свой інвентар, грошы, скаціну, насенне ў агульнае карыстанне. Пашанцавала, што атрымалі адзінаццаць вернутых з арміі коней. Забралі пару коней у папа. У некаторых «заможных» рэквізіравалі па карове. Узялі буронку і ў Ільі Аляксандравіча. Дарэчы, пра коней і кароў цяпер казалі: жывінвентар, насенне стала называцца семфондам.

У распараджэнне камунараў трапіла таксама дзве сеялкі, тры касілкі, сем плугоў, пяць барон і шэсць вазоў. Матэрыяльная, як сказаў таварыш Дрэер, база.

Вырашылі абагуліць усё, у тым ліку і прадметы побыту — нажы, міскі, лыжкі. Ахоўваць дабро паставілі Гамона, бо іншую работу яму цяжка было прыдумаць.

— Мірам парашылі! — сказаў на заканчэнне схода Таццянка.

Заaралі зямлю арцельна і гэтак жа засеялі: яравая пшаніца, грэчка, авёс, гарох. Усяго — каля васьмідзесяці дзесяцін. Пасля яравой сяўбы пачалі араць пад азіміну, але не хапіла плугоў і ворыва прыпынілі. Матэрыяльная база была ўсё ж такі даволі сціплая.

— Таварышы, пакуль што мы самі завіхаемся, а там далей машыны будуць працаваць! — гаварыў камунарам старшыня Чудайкін.

— Ішоў бы ты да нас! — гаварыў пры сустрэчы з Лявонам Таццянка. — Ваш Гамон вот у нас. У нас жыць лепш! Мы як брацця!

— У мяне пая няма, — шкадаваў Кужаль. — Без пая няўдобна.

Надта смяяліся з камуны тыя, хто па звычцы лічыўся заможным, хоць такімі яны ўжо даўно не былі.

— Бачыш, назву далі! — ківаў на шыльду Сісяйкін, сустрэўшы на вуліцы Ілью Аляксандравіча — «Таварыш Троцкі»...

— Камуна... Нехрысці! — стагнаў Ілья Аляксандравіч і асуджальна круціў галавой. Вецер кудлачыў яго парадзелую сівую бараду, матляў крыссем армяка.

— Поле ў іх адно, — шаптаў Сісяйкін, — без межаў, ядзяць з аднаго катла, кароў сагналі ў адзін статак і газетку, таксама адну, чытаюць...

Па вуліцы якраз праходзіла Фёкла. Недзе спяшалася, кінула жаласлівы позірк на свёкра. Ілья Аляксандравіч таксама ўгледзеў нявестку:

— Глядзі, малодка, мне ўнука, а то, кажуць, бальшавікі адбіраюць дзяцей, самі гадаваць будуць.

— Не баісь, Ілья Аляксандравіч! Дагляджу! — уздыхнула і пайшла далей.

Апроч стварэння камуны, у Запалонным яшчэ адна навіна: адчынілася лаўка — атожылак мясцовай спажыўкааперацыі. ЕПО — як яе тут называлі. Патрабілаўка. Узначаліў яе нехта Закалупін, які і стаў за прылавак. Прыехаў ён сюды з Арэнбурга і адразу паступіў на службу ў Борскі кааператыў. Гандляваў усім — і будаўнічымі матэрыяламі, і запчасткамі для сельгасмашын, і бытавым таварам, і прадуктамі. У Арэнбургу, казаў, не мог знаходзіцца пад уладай Дутава. І з Борскага яго быццам бы выжылі. Перабраўся ў Запалоннае.

Лаўку цёпла віталі пакупнікі. Неяк зайшоў і Лявон. Сустрэў яго сам Закалупін — невысокага росту мужчына, твар з рабаціннем, на галаве — пышная рудая шавялюра. І з вушэй тырчэла не-

калькі такіх жа рыжых, як і на галаве, валасоў. Сытыя губы шчыльна сціснутыя.

— Ну, як гандаль? — пацікавіўся прускавец, правёўшы вачыма па амаль пустых паліцах. Толькі ў кутку ён згледзеў нейкія каструлі і скрынку з цвікамі, а на сценах былі развешаны шлеі з хамутамі.

— Ой, які там гандаль! Хацелі зачыніць — ледзьве адкупіўся. І тавары дрэнна паступаюць, — Закалупін пачаў скардзіцца: — Палажэнія мая шаткая. Мы дробная буржуазея, а дробнаму, як вядома, горш за ўсё. З аднаго боку камуністы на нас ціснуць, з другога — спекулянт. Вось і атрымліваецца, што ні карасіны няма, ні солі, ні запалак, ні ботаў — нічога няма!

— Ботаў мне не трэба, я бульбы купіў бы.

Закалупін усміхнуўся:

— Бульбы хочаш. Не былі б та беларусы! Калі ласка, паўтара рубля за фунт!

— О-ой!..

— Што? Дарага?

— Нам не па кішэні.

— Лаўка ж каапературыўная. Я цэнаў не ўстанаўліваю...

На самай справе гэты Закалупін быў, відаць, добры круцель. У праезджага спекулянта рэквізіраваў, як ён казаў, 220 фунтаў тытуню. Той прадаваў па дзесяць рублёў за фунт, а Закалупін ухітрыўся прадаць па дваццаць. Тавары размяркоўваў прадком, але лавачнік умеў абвесці і яго.

«Ён не можа, каб не ўкруціць...» — гаварылі пра яго ў Запалонным.

Прускавец вярнуўся з лаўкі ні з чым.

*Працяг будзе.*







## Анатоль ЗЭКАЎ

### 1955 ГОД

Праз дзесяць год пасля вайны
з'явіўся я на белы свет.
І ў тым няма маёй віны,
што ўнука не пабачыў дзед.
Застаўся дзед на той вайне,
дзе палыхала ўсё ў агні.
Зусім не па яго віне
ў мяне паменела радні.

### БАЦЬКА

Не можа бацька, склаўшы рукі,
нат пасядзець адной хвіліны.
Піліў бы,
габляваў
і грукаў
штодня ад ранку без спачыну.

А як жа ён не любіць святаў,
калі сядзець і мусіш толькі.
І бацька лаецца зацята:
чаму прыдумалі іх столькі!

---

*Зэкаў Анатоль Мікалаевіч нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага універсітэта працаваў карэспандэнтам гомельскай раённай газеты «Маяк». Потым была праца ў камсамольскіх органах, рэдакцыях газет «Чырвоная змена» і «Книга и мы». Рэдагаваў газету «Добры вечар», штотыднёвік «Сталіца» і «Беларускую лясную газету». Цяпер — рэдактар аддзела часопіса «Вожык».*

*Выдаў кнігі паэзіі «Боль сумлення» і «Аварыя сумлення», сатыры і гумару «Дуэль» і «Дуэль-2», прозы «Вясельнае падарожжа ў Стамбул», для дзяцей «Чатыры зярняткі» і «На арэхавым кані».*

«Для лайдакоў, — бурчыць ён, — святы,
для тых, хто шчыраваць не хоча».
У працы жадны і упарты,
каб мог,
то адмяніў бы й ночы.

Усё б круціўся і кудзеліў,
рук не складаючы, мой бацька.
Хіба тады мо і складзе іх,
як у труне ляжацьме.

## МАМА

Ужо, на жаль, не першы год,
як мама сіл зусім не мае,
ды не паменела турбот,
бо што ні год —
заўжды, старая,
вачыма садзіць агарод,
вачыма гэтак жа ўбірае...

## Я ЕДУ ДАХАТЫ

Я еду дахаты
наяве — не ў сне,
дзе мама і тата
чакаюць мяне.

Я еду дахаты,
да родных бяроз,
дзе мама і тата
люляюць свой лёс.

Я еду дахаты
з гаркотай віны,
што мама і тата
вякуюць адны.

Каб маму і тату
абняць мне паспець,
я еду дахаты,
аварта б — ляцець.

## ДАРАГІЯ НАЗВЫ

Крывічы, Хутары і Сярэдзіна —
як далёкіх вякоў адгалоскі.
Гэтак памяць маю развярэдзілі
сёння вуліцы роднае вёскі.

Дзе, Бачанаўка, ты?
Дзе, — Салёпаўка?
Вас на лад перайначылі новы.
Толькі памяць мая ўсё галёкае
пад адвечным для кожнай назовам...

* * *

З магазіна крочу шпарка.
Ладзіць дзед веласіпед.
— Дзед, —
крычу, —
як гаспадарка?

Развядзе рукамі дзед:
— Спраў нямала ў гаспадарцы —
Лайдакуе зранку зяць.

— Можа, возьмем, дзед, па чарцы?

— А чаму б, унук, не ўзяць?..

Чарка. Шкварка. Зноўку чарка.
І гамонка пацячэ...

— Дзед, а, дзед, а гаспадарка?

— Ай, унучак, не ўцячэ...

## РОДНАЕ СЛОВА

Каб радзінным словам наталіцца
не на дзень які,
а на гады,
пакідаю тлумную сталіцу
і — ў сваю Патапаўку —
туды,
дзе яно пакуль яшчэ не знікла,
хоць крыху ахрыпла,
ды жыве;
дзе яму ў гамонцы,
звеку звыклай,
вольна так,
бы коніку ў траве;
дзе яно і ўзімку не залее,
хоць і дзьмуць прызяблыя вятры...
Ды і я ў завеі не калею,
бо сагрэты словам тым знутры.

## МАТЧЫНА ПЕСНЯ

У цёмным смоль-бары,
што ліўнямі аблашчаны,
сабе я песню матчыну
вазьму ў павадыры.

З ёй не зблуджу я ў тым
у лесе ацямрэчаным,
бо сонейкам асвечаны
яе распеў-матыў.

## НА ПАМІНКАХ

*Памяці М. Кірыленкі*

Летам ездзіў ты па дровы,
з лесу ягады насіў,
завіхаўся — дзве каровы! —
сена похапкам касіў,
яблыкі сушыў на печы,
гнуўся крукам на градзе, —
а ні ўдзень ты,
а ні ўвечар
ні хвіліны не сядзеў.

Шмат зрабіў,
спазнацца б з цішай,
адпачыць, бадай, як след.
Толькі што ж ты, дзядзька Міша,
пакідаеш белы свет?
Што ж так рана, дзядзька Міша?
Вунь зірні: у цвеце сад!

...А дачка з Цюмені піша:
«Хутка дзедам станеш, тат...»

## КРЫЖЫ

Анікуды ўцячы
ад крыжоў немагчыма,
што стаяць, як мячы,
на прасторах Айчыны.

Хто ты ёсць, імярэк,
што тут ладзіў хаўрус свой
і застаўся навек
у зямлі беларускай?

Лез да нас ты пішчом
у ваяцкім начынні.
А хто прыйдзе з мячом,
ад мяча і загіне.

Колькі іх тут ляжыць
у мяне на радзіме!..
На магілах — крыжы,
як мячы, па-над імі.

* * *

З лесу выйду,
зноў у лес зайду.
Так вось і хаджу кругамі,
быццам прадчуваючы бяду,
што наклікалі мы самі.

І яе не скруціш у хатуль.
Сёння ў рулявога лесу
спрытна перахоплівае руль
з гікам рулявы прагрэсу.

З лесу выйду,
зноў вярнуся ў лес,
а ў гушчар ступіць баюся,
быццам бы твару і я прагрэс...

Хоць і я таксама, мусіць.

* * *

...Піла нагоніць жах,
нібы грымоты з неба...

Краса ёсць і ў лясах,
і ёсць у ёй патрэба...

Не наша ў тым віна,
што, хочаш ці не хочаш,
а звеку трэба нам
то дошкі,
то брусочкі.

Без лесу, як без рук.
Хоць у жыцці, бывае,
сячэм нярэдка сук,
што нас саміх трымае.

* * *

Радыяцыйныя рабіны.
Радыяцыйныя дубы.
Радыяцыйная маліна.
Радыяцыйныя грыбы.

Наўкол абсяг засыпаў цэзій.
Пад ім — і дрэвы, і трава.
Ды толькі як нам
жыць у лесе
і з ім
зусім
не сябраваць?

* * *

Заначую я ў лясніцтве,
бы на ўскрайку свету.
Як жа хораша мне спіцца
ў леснічоўцы летам!
Вее свежасцю яловай.
Нібы мёд густы — паветра.

І пад птушак перазовы
я падумаю пры гэтым:
а ці варта мітусіцца
і ляцець куды заўгодна?
Добра спіцца мне ў лясніцтве
на прыполе у прыроды.

## НА БРАСЛАЎСКІХ АЗЁРАХ

На Браслаўскіх азёрах
я смяшу рыбакоў:
у вадзе лаўлю зоры,
а яны — шчупакоў.

Скаляць зубы ахвотна
нада мной яны так:
юшку зорную потым
будзеш есці, рыбак.

Я і сам у гуморы:
дам адпор —
будзь здароў!

І падміргваюць зоры
мне з азёрных віроў.

Я рыбак не запраўскі,
толькі, што ні кажы,
на азёрах Браслаўскіх
рыбакам не чужы.

* * *

Дарогу замяла завея —
праскочыць і не мар.
Урэшце
пад ветрам толькі задубееш,
а да сяла наўрад праб'ешся.

Адвыклі ад снягоў вялікіх,
крыўдуем, што зіма сваволіць,
бо й ад зімы тае адвыклі,
якую ведалі ў час школьны.

Ото ж зіма была, хто знае:
сумёты падпіралі вокны.
Цяпер зіма зусім не тая.
Да той зімы нам так далёка!

Ні маразоў, ні ветрадуяў
няма такіх,
з якіх мы выйшлі.
Што ж на зіму цяпер крыўдуем,
калі падсыпле снегу крышку?

* * *

Што локці нам кусаць
і ліць дарэмна слёзы?
Нанова не пачаць
таго,
што стала лёсам.

* * *

Нібы апошні дзень жыву,
хоць кожны дзень —
заўжды апошні.
Гляджу на звялую траву,
што расцярушана на пожні.

Як крыж,
паставяць стог на ёй,
нібы жыцця акрэсляць межы.
Вось так і век,
пражыты мной,
не мне,
а вечнасці належыць.







Анатоль ДЗЯЛЕНДЗІК

# ЛЕГЕНДА ПРА АНАСТАСІЮ СЛУЦКУЮ

**Літаратурны сцэнарый**

*Светлай памяці жонкі Ірыны Вікенцьеўны Шаблоўскай — доктара філалагічных навук, прафесара кафедры замежнай літаратуры БДУ.*

Прыцемак. Жорсткая бітва татарскіх воінаў з абаронцамі гарадскіх муроў. Лязгат мячоў, іржанне коней, рыканне звар'яцелых кароў, перадсмяротныя крыкі параненых. Горад гарыць, у яркім полымі, што раздзьмувае вецер, палаюць дамы. Чорны дым засціць неба. Маладая жанчына, у шлеме ды кальчузе, з мячом у руках схілілася над параненым і зразумела, што дапамагчы яму немагчыма.

Ён глядзіць на яе стомлены, пацямнелы твар і кажа:

— Ну, што, княгіня, канец? Возьмуць басурмане горад?..

Карта сярэднявечнай Еўропы.

*ГОЛАС ЗА КАДРАМ:*

*У XIII—XIV стагоддзях старажытныя беларускія, украінскія і літоўскія землі ад Балтыкі да Чорнага мора аб'ядналіся ў адну дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае. Багатыя землі ў цэнтры Еўропы на скрыжаванні гандлёвых шляхоў сталіся жаданым здабыткам для суседзяў. З усходу наступалі войскі Маскоўскага княства. Крымскае ханства, на той час васал Турэцкай імперыі, нападала з поўдня. Хуткімі*

---

***Дзялендзік Анатоль Андрэевіч*** *нарадзіўся 4 сакавіка 1934 года ў вёсцы Кулакі Салігорскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі медыцынскі інстытут. Працаваў урачом у Рэспубліканскай псіханеўралагічнай бальніцы ў Мінску.*

*Выдаў зборнік гумарэсак «Пагібель «Тытаніка». Аўтар драм «Выклік багам», «Аўкцыён», «Гаспадар» і інш. Аўтар сцэнарыяў многіх тэлефільмаў і радыёп'ес. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.*

*кінжальнымі рэйдамі татарскія загоны даходзілі да самых далёкіх беларускіх гарадоў, рабуючы і забіваючы, пакідаючы пасля сябе папялішчы. Многія гарады здаваліся без бою ці адкупляліся данінай. Паўсюль панавалі жабрацтва і спустошанасць. І толькі Слуцк, якім валодаў старажытны род Алелькавічаў, па-ранейшаму заставаўся няскароны.*

Мірная раніца, цішыня. Промні сонца прабеглі па сцяне княжацкай спачывальні, перайшлі на карціны з выявамі палявання, снедання на прыродзе. За прычыненым акном у садзе пяюць салаўі. У ложку песцяцца двое. Мужчына гадоў пад сорак пяць з бародкай стомлена дыхае, побач жанчына гадоў 28. Не расплюшчваючы вачэй, ён усміхнуўся і спытаўся:

— Княгіня Анастасія Мсціслаўская, як ты наважылася змяніць сваё славутае прозвішча на Алелькавіч? Ці спадабаўся табе наш горад Слуцк?

Жанчына ўсміхнулася, схілілася над мужам, перабірае яго валасы.

— Мне спадабаўся ты, княжа Сымон. Я кахаю цябе, — яна пяшчотна цалавала рубцы ад ранаў на яго плячы. — Хто сказаў, што раны ўпрыгожваюць воіна? Скрамсалі такое прыгожае цела... Ну, чаму ты заўсёды першы ідзеш у бой? Без цябе я — не змагу.

Тоячы ўсмешку, князь мяняе тэму:

— Кахаю? Няма такога слова. Шкадую!

— Ёсць,— яна пальчыкам гарэзліва націснула на яго нос. — Прыйшло шаснаццатае стагоддзе, а ты — дрымучы-дрымучы..!

Сымон працягвае разыгрываць жонку:

— Кахаю... Можа, нешта непрыстойнае? — Не, годнае слова. І з чаго цябе шкадаваць? Багатае, моцнае княства, жонка-прыгажуня...

Князь усміхнуўся, за вокнамі пачуўся шум.

Што гэта? — устрывожана спытаў князь. Ён хутка сеў, адшукаў вачыма меч і латы, што стаялі ў куце.

— Супакойся. Нядзеля, народ гуляе...

Сымон з палёгкай уздыхнуў.

Княгіня пяшчотна дакранулася да яго шчакі.

— Не спяшайся…

— Народ — даўно на нагах, а князь спіць, як пшаніцу прадаўшы? — ён пачаў апранацца.

Княгіня са спачуваннем паглядзела на мужа.

— Няўжо да канца дзён мы вось так... будзем ускокваць?

У зале за доўгім дубовым сталом, у крэслах з высокімі разьбянымі спінкамі, снедалі дзеці — дзесяцігадовы Юры і год шасці Аляксандра. Ім падавала ўжо ў гадах жанчына з суровым тварам у белым фартуху.

— Будзеце слаба есці, прыйдуць язычнікі і звядуць у лес, — сказала яна.

— Вольга, а хто такія язычнікі? — спытаўся хлопчык.

— О! Жахлівыя людзі! — адказала жанчына. — А мо і не людзі нават. Яны, як звяры, ходзяць у скурах.

— Ты іх бачыла?

— Так! Хаця яны ўсіх баяцца. Жывуць у лясах за непраходнымі балотамі.

— Дзікуны? — спытала дзяўчынка.

— Пра іх баюць жудасныя гісторыі! Могуцьператварацца то ў ваўка, то ў мядзведзя, то ў вепрука...

— Мне страшна! — вымавіла дзяўчынка.

— Памятаеце, — таямніча працягвала Вольга, — з вёскі прыходзіла старая і казала, што да іх прыпаўзае вужака і высмоктвае карову? Гэта яны пасылаюць сваіх малых дзяцей папіць малака...

— Які жах! — вымавіла дзяўчынка.

Накінуўшы на сябе лёгкае доўгае адзенне і прычасаўшыся перад люстрам, княгіня прайшла ў залу.

— Добрай раніцы, мае слаўныя! — Анастасія пацалавала дзяцей. — Як спалася?

— Цудоўна, — адказаў хлопчык, ён хацеў выглядаць старэйшым.

— Мама, паснедай з намі, — прапанавала дзяўчынка.

— Спачатку я мушу паплаваць,— сказала Анастасія. — Хто са мною?

— Брр! — здрыганулася Аляксандра. — Вада такая халодная!

Хлопчык усміхнуўся:

— Мама, а мо ты — рыба, бо не можаш без вады?

— Так яно і ёсць, — Анастасія падтрымала жарт. — А вы — мае рыбачкі!

Царква. Прычасце. Аляксандра, дзяўчынка шасці гадоў, стаіць перад алтаром. Гучаць словы «Літургіі на прычасце». За спінаю Аляксандры — члены княжацкай сям'і, гарадская знаць, світа.

Камера па чарзе спыняцца на тварах асноўных герояў фільма.

Каваныя дзверы царквы расчыняюцца. Пад царкоўныя званы ў святочным убранні выходзяць князь Сымон і княгіня Анастасія, іх дзеці Юры і Аляксандра, світа, гарадская знаць. Прывітальныя крыкі гараджан на плошчы зліваюцца ў адно: «Сто год! Сто год! Сто год!» Гераіня фэсту — маленькая княжна — паважна выступае наперадзе, прымаючы ад жанчын і дзяцей бела-зялёныя галінкі язміну. Букет з іх дзяўчынка прытульвае да грудзей, ён амаль захіляе яе шчаслівы тварык.

Гудзе кірмаш. Вяскоўцы прывезлі ў горад і з вазоў прадаюць цялят і коз, гусей і качак, трусоў і парасят, зерне і яблыкі, гародніну, мёд у сотах і кадках, буракі і гарбузы, зёлкі... А купцы і рамеснікі прапануюць ганчарныя вырабы, збрую, драўляныя і скураныя вырабы, абутак, адзежу, палотны, клямарныя вырабы... Гучна зазываюць народ балаганшчыкі, блазны, цыганы.

Зазывае да сябе народ і карчмар Навум. У яго вялікая сям'я, усе дзяўчаты — і тубыльцаў гэта забаўляе, яны кпяць з карчамара:

— Навум, будзеш шчыраваць, пакуль не народзіш сына?

Карчмар уздыхае.

Вусаты дзед Якуб, весялун і гаварун, падобны да Тараса Бульбы на вядомай карціне, любіць усіх разыгрываць. Ён прадае драўляныя вёдры, кадкі рознай велічыні, кубкі, лыжкі... З вербалозу дзед спраўна пляце кошыкі, насценныя ўпрыгожванні. Атрымаўшы грошы, адразу спяшаецца ў карчму. Вярнуўшыся пад хмелем і сеўшы на кадку, ён

выбірае ахвяру для свайго дасціпнага языка. Перад ім праходзіць немец Фердынанд, рахманы найміт гадоў пяцідзесяці, трымае за рукі хлопчыкаў-блізнят. Поруч ідзе Марыя, сакаўная жанчына, кідаючы позіркі на маладых мужчын.

Якуб не стрымаўся:

— Фердынанд, ладныя ў цябе блізняты!

Фердынанд усміхнуўся ад задавальнення. Якуб працягвае:

— А які з іх твой?

— Не сып соль на рану, — хтосьці нягучна сказаў Якубу.

Фердынанд цяжка ўздыхнуў, са скрухай паглядзеў на жонку. Марыя як адрэзала:

— Дзед! Прыкусі язык, далібог, адрэжу!

— Маўчу, маўчу! — Якуб ведаў, што з Марыяй лепш не звязвацца. І таму прывязаўся да шорніка-татарына, — той рыхтаваў для продажу сёдлы, кантары, збрую — з пытаннем:

— Вось адкажы, Мустафа, незваны госць лепшы ці горшы за татарына?

— Якуб, адчапіся! Надакучыў! Ты ж ведаеш, — я ўцёк ад хана!

— Дык лепшы ці горшы?

— Прыйдзе — даведаешся. А пакуль ідзі, адпачні… З раніцы налізаўся!

— Не варта зайздросціць!

— Зайздросціць? Мяне Каран ахоўвае, каб не піць гэтую атруту!

Князь Сымон і Анастасія ходзяць па кірмашы. Князь накіраваўся да лаўкі з мячамі, кальчугамі, латамі. Княгіню зацікавілі пярэстыя заморскія тканіны. Па ўзрушаным твары княгіні відаць, што яна любіць святы. Падзівіўшыся на заморскія карункі, княгіня падыходзіць то да адной, то да другой групкі людзей, а ў спаборніцтвах нават бярэ ўдзел.

Шыракаплечы шляхціц Мацвей Хадасевіч, гадоў сарака пяці, дэманструючы магутныя біцэпсы, кажа:

— Ну, панове, хто са мной змагацца будзе? Кожнага перамагу!

Ніхто не адважыўся на паядынак. І тады Анастасія ўзяла ў Аслана, яе ахоўніка, нагайку і, схаваўшы за поясам, гарэзліва выйшла ў круг, стала насупраць.

— Можна, я паспрабую?

Усе смяяліся, падумаўшы, што гэта жарт.

— Давай, княгіня! — бадзёра сказаў Хадасевіч. — Не баішся, што кіну цябе ў рэчку?

Шырока раскрыўшы абдымкі, Хадасевіч пачаў набліжацца да Анастасіі. І раптам тая, выхапіўшы з-за пояса нагайку, замахнулася ёю. Нагайка шчыльна абвіла ногі шляхціца. Анастасія моцна пацягнула. Шляхціц, не чакаючы такога, захістаўся, не стрымаўся і грымнуўся вобзем. Вось ужо рогату было! Анастасія вярнула нагайку Аслану, падышла да старой жанчыны:

— Адэля, што з унучкай?

— Ой, дзякуй, княгінечка! Дапамаглі заморскія лекі! Дай табе Бог здароўечка!

— Ну, то й добра!

Пушча на ўскрайку горада, месца для гульняў, трэніровак і адпачынку. Анастасія захоплена стральбой з лука і арбалета ў ліпавыя дошчачкі. На іх Юры намаляваў крэйдай розных звяроў. Хлопчык вучыцца ездзіць конна. Трэніруе яго асецін Аслан, нешматслоўны, жорсткі, хударлявы. Аляксандра гушкаецца на арэлях з кацянём на руках. На конях пад'ехалі Сымон і яго малодшы брат Уладзімір, гадоў дваццаці, назіраюць, як Анастасія страляе з лука і арбалета. З непрыхаваным захапленнем і з тугой загледзеўся Уладзімір на княгіню. Заўважыўшы гэта, Сымон усміхнуўся.

Уладзімір збянтэжыўся, ніякавата прамовіў:

— Княгіня і яе ангел-ахоўнік!

Сымон з усмешкай кажа жонцы:

— Лепш бы — у жывых!

— Шкада,— пярэчыць Анастасія. — Жывыя!

Аслан дае княгіні парады. Пастраляўшы з лука і арбалета, яна шпурляе нажы ў камель дрэва, ды безвынікова: нажы плазам стукаюцца і падаюць.

— Княгіня, не напружвай рукі! — гаворыць Аслан. — Рабі гэта лёгка, нібы гуляючы!

Сымон усміхнуўся, сказаў Анастасіі:

— Калі б ведалі татары, што ў нас такі ўдалы воін, яны ніколі не сунуліся б!

Княгіня не адказвае, кідае і кідае нажы, але не атрымліваецца, яны падаюць вобзем. Анастасія злуецца:

— Нашто мне гэта трэба?!

— Цішэй,— гаворыць Аслан. — Калі-небудзь гэта ўратуе табе жыццё. Толькі навучыся — лёгка, быццам маланка, з любога месца!

Анастасія ўпарта працягвае трэніроўку.

Уладзімір з пагардай гаворыць Сымону:

— Дурыкі дурыць! Ці жаночая гэта справа?

— А чаго ты злуешся? Яна табе магла б і маці быць.

Не паварочваючыся, Анастасія пачула словы Уладзіміра, сабралася і дакладна кінула нож у цэль.

— Малайчына! — кажа Аслан.

Сымон з усмешкай глядзіць на Уладзіміра. Той незадаволена адвярнуўся. Сымон і Уладзімір паехалі. Прыляцеў на кані ўзрушаны Юры. Спыніў каня, злез, усхвалявана ўсклікнуў:

— Любата!

— Беражы Ластаўку,— сказаў Аслан, прымаючы лейцы. — Конь — самы верны сябра!

— А сабака? — хлопчык забаўляўся з сабачкам, бегаў вакол.

— Ну, хіба можна параўноўваць?!

— Аслан, ты адкуль будзеш?

— З Каўказа.

— А чаму не жывеш дома?

Аслан уздыхнуў, адказаў не адразу:

— Маю краіну захапілі ворагі...

Да Юрыя падышла служанка Сафія.

— Княжыч, хадзем пачытаем.

Юры ўздыхнуў, неахвотна пайшоў за служанкай.

— Сафія, а ты баішся язычнікаў?

— Чаго іх баяцца?

— Вольга кажа — яны напалову звяры. Ловяць дзяцей і паляць на ахвярным агні…

— Якая лухта! Людзі як людзі. Добра ведаюць лекарскія таямніцы. Калі ў нас хто пачынае хварэць, хутчэй вязём у лес, лячыцца. Але нікому — ні слова... — ўсміхнулася Сафія.

Гледзячы ўслед Сафіі, Анастасія ўсміхнулася:

— Аслан, падабаецца Сафія? Паглядзі, якая прыгожая, вясёлая, сакаўная… Калі б была мужчынам… Хочаш, пагавару?

Аслан адказаў не адразу.

— Калі на Каўказ прыйшлі татара-манголы, яны забілі жонку і сына…

Анастасія спачувальна сказала:

— Аслан, гэта было даўно…

— Для кагосьці даўно…

— Прабач.

Ідзе падрыхтоўка да палявання. Служкі рыхтуюць загоны, коней, зброю.

Збоку на конях павольна едуць чацвёра — Сымон, Уладзімір, Анастасія ў мужчынскім адзенні і князь Міхал Глінскі, прыгожы брунет з вачыма, нібы ў вала, пераможца татар у былых бітвах і пястун жанчын.

Чуваць голас Глінскага:

— Я быў у іншых княствах. Многія згодны нас падтрымаць. Вялікі князь літоўскі хворы, знямоглы, час падумаць і пра сына.

— І хто зойме трон? — цікавіцца Сымон.

— Стаўшы на чале Вялікага княства, я цябе не забуду.

Уладзімір звярнуўся да Сымона:

— Ідэя слушная. Нам нельга заставацца ўбаку.

Анастасія незадаволена сказала:

— Даруй, князь Глінскі, так марудна я ездзіць не магу! — яна прышпорыла каня і паехала ў бярэзнік, наталяючыся сонцам, блакітным небам, вясновай зелянінаю.

— Я дагледжу! — кінуў Уладзімір і памчаў следам.

Сымон і Глінскі за ёй назіраюць. Сымон пабачыў, што за Анастасіяй і Уладзімірам памчаў на кані Аслан, які дагэтуль увесь час трымаўся збоку, але пастаянна наглядаў за княгіняй.

— Гарачая! Амазонка! — захоплена вымавіў Глінскі.

— Бацька выхоўваў яе, як хлопца, дазваляў усё.

— Такіх я люблю! Ладная ў цябе жонка!

— Я іншую і не ўзяў бы,— самазадаволена адказаў Сымон.

Глінскі ўсміхнуўся:

— Не баішся, што звяду?

— Паспрабуй! — адказаў Сымон, не сумняваючыся ў вернасці жонкі.

Памаўчалі. Пасля Глінскі пытае:

— Ну дык, як нашая дамова, Сымон, падтрымаеш?

— Я — супраць, Міхал. Гэта можа паслабіць Вялікае княства Літоўскае. Зараз усім трэба трымацца поруч. Не сёння-заўтра прыйдуць татары.

— Адказ канчатковы ці падумаеш?

— Няма чаго тут думаць.

— Глядзі, Сымон, каб шкадаваць не прыйшлося!

— На паляванне застанешся?

Сцёбнуўшы каня, Глінскі паляцеў да групы вершнікаў, што чакалі яго наводдаль.

Сымон задуменна паглядзеў яму ўслед.

Падбег Юры:

— Бацька! Вазьмі на паляванне!

— Не, Юры. Паранены звер небяспечны і для дарослага. Лепш на чоўне паплывём на рыбу.

— Я страляю — не горш за маці! Хадзем, паглядзіш!

— Юры, я сказаў — не!

Сымон прышпорыў каня.

Уладзімір дагнаў Анастасію, з пяшчотай усміхнуўся:

— Расчырванелася, як нявеста. Вось і пашанцавала братку!

— А ты чаму не жэнішся?

Уладзімір падроблена ўздыхнуў:

— Не магу адшукаць такой...

Наперадзе быў роў, скрозь ляжалі дрэвы. Уладзімір схапіў яе за руку:

— Цішэй! Разаб'еш нос!

Роў яны праехалі, але Уладзімір не адпускаў рукі. Анастасія не чакала ад брата Сымона такой нахабнасці, спрабавала вырваць руку, ды ён трымаў моцна.

— Калі раскажу Сымону, нарве крапівы…

— Хай! Я не магу без цябе!

Нечакана між імі ўрываецца Аслан. Уладзімір вымушаны адпусціць яе руку. Зыркаючы вачыма, Анастасія абурана паглядзела на Уладзіміра і паляцела ў лес. Мужчыны нядобра паглядзелі адзін на аднаго.

Уладзімір раз'юшаны:

— Як ты наважыўся мне шлях засціць! Я — князь! А хто ты!? Сабака смярдзючы! Без роду і племені!

Ён выхоплівае з галянішча нагайку, замахваецца на ахоўніка. Ды Аслан перахоплівае руку, стрымлівае яе, пільна глядзіць на князя. Уладзімір не вытрымлівае гэтага позірку. Адпускае руку, разварочваецца і ад'язджае. На хаду прышпорвае каня, раз'юшана сцябае яго нагайкай.

У непралазным гушчары — густы туман. Анастасія спыняе каня, адчувае, што згубілася, шукае знаёмыя арыенціры. Побач на бярвяно ўзлезла мядзведзянё, за ім другое. Анастасія ўсміхнулася. З замілаваннем глядзіць на малых. Ды раптам цішыню разарваў звярыны рык і на паляну выйшла мядзведзіца, накіравалася да Анастасіі. Конь палохаецца і, уздыбіўшыся, галопам ляціць праз гушчар. Анастасія ледзьве трымаецца ў сядле, нацягвае цуглі, спрабуючы спыніць каня, але той спужаным зверам імчыць па лесе. Раптам конь на хаду ўзбрыквае і скідвае княгіню. Анастасія падае. З яе злятаюць плашч і шапка. А конь, не прыпыняючыся, знікае ў зарасніку. Княгіня ляжыць нерухома.

Яе бачыць з-за кустоў малады, дужы, з доўгімі русымі валасамі язычнік Будзімір. Ён асцярожна, азіраючыся, ідзе ў бок княгіні. Поруч перавальваецца на кароткіх ножках карлік. Яны падыходзяць да Анастасіі, аглядаюць яе. Княгіня па-ранейшаму ляжыць у непрытомнасці. Вочы яе заплюшчаны. Будзімір нахіляецца, падымае Анастасію на рукі і нясе ў бок балота. Ён глядзіць на збялелы, прыгожы твар княгіні. Яна яму насамрэч падабаецца.

Анастасія расплюшчвае вочы, са здзіўленнем глядзіць на Будзіміра і зноў страчвае прытомнасць. Карлік подбегам — побач, падскоквае, спрабуе зазірнуць у твар княгіні. Збоку гэта выглядае пацешна.

З лесу выскоквае конь, без Анастасіі.

Сымон устрывожаны.

— Анастасія?!

Ён і іншыя ўдзельнікі палявання кідаюцца ў лес шукаць княгіню.

Аслан трубіць у ражок, спадзеючыся, што княгіня яго пачуе.

Гушчар. Туман. Мінуючы вялізны валун, парослы мохам, Будзімір нясе на руках Анастасію. Карлік бяжыць за ім. Здалёк чуваць ражок Аслана.

Язычнікі прыпыняюцца перад балотам. Карлік знаходзіць прыхаваныя гаці, выкладвае іх перад Будзімірам і перад сабой. Язычнікі пераправіліся праз балота. Карлік хавае гаці. Яны ідуць далей у лес.

У лесе шукаюць княгіню.

— Анастасія!

— Княгіня!

Гучыць ражок Аслана.

Будзімір з Анастасіяй на руках і карлік з'яўляюцца ў паселішчы язычнікаў. Гэта востраў у дуброве. Нязвычныя драўляныя пабудовы, буданы, зямлянкі, вогнішчы...

Іх сустракаюць язычнікі. Будзімір акуратна ўкладвае цела на скуры, разасланыя на шырокім камені.

Анастасія па-ранейшаму ляжыць у непрытомнасці.

Да яе падыходзіць маладая знахарка Ждана, робіць пасы, вымаўляючы замовы. Косіцца на Будзіміра, той ловіць яе раўнівы позірк.

Язычнікі ладзяць вакол вогнішча рытуальны танец. Музыкант на бубне задае рытм і сам скача разам з усімі. Будзімір з сімпатыяй глядзіць на Анастасію.

Ноч. Шэрань. Пад разгалістай елкай, за шырокім калодай-сталом, сядзіць старэйшына племені Крыва. Поруч, на адным з пнёў — Анастасія. На стале ў вялікай драўлянай місцы паруе зваранае мяса з прысмакамі са свежай зеляніны. Побач — акрайчык хлеба, кубак мёду і гарлачык малака. Стары нетаропка п'е. Ён жорсткі і маўклівы.

— Мне трэба вярнуцца дамоў, — кажа Анастасія, не дакранаючыся да ежы.

— Ноччу ісці небяспечна. Патрапіш у багну. Калі ўзыдзе сонца, нашыя людзі правядуць цябе. Частуйся.

Анастасія бярэ з міскі кавалачак мяса, смакуе.

— Што гэта? — пытаецца яна.

— Алень,— кажа Крыва. — А гэта — лясныя зёлкі, мёд, малако... На такой ежы пражывеш сто гадоў!

— Нашто так многа? — усміхаецца Анастасія.

Яна пачынае есці.

— Смачна!

Стары есць не спяшаючыся.

— Хто вы? — ціха пытаецца Анастасія.

— Людзі, — адказвае Крыва.

— Язычнікі?!

— Гэта вы нас так называеце.

— Жывяце ў лесе... Без Бога... Без законаў...

— У вас свой Бог, у нас свае... Лес корміць нас і сцеражэ... Ён ахоўвае тых, каго вы выракаецеся... Ты жывеш у Верхнім ці Ніжнім замку?

— У Верхнім.

— Я так і думаў...

— Чаму?

Памаўчаўшы, стары адказвае:

— Я будаваў гэты замак.

Княгіня зацікавілася:

— Ты?! Расскажы!

— Іншым разам.

Крыва робіць знак рукой. З'яўляецца хлопчык, падае руку, адводзіць старога. Анастасія разумее — Крыва сляпы. Яна ўздымаецца, ідзе па сцяжынцы. Дзесьці крэкчуць жабы, звіняць цыкады. Яна праходзіць уздоўж дзіўнага паселішча, бачыць няхітрыя пабудовы, вандлярні ў дыме, пчаліныя калоды... У Анастасіі ўзнікае адчуванне, што за ёй сочаць. Яна з трывогай азіраецца па баках.

Княгіня ідзе сярод высокай папараці і векавых дубоў, схаваных у начным тумане, уздрыгвае ад кожнага шоргату, ад трэску галінкі пад нагамі, ад крыку начной птушкі. Усё ёй падаецца варожым. Але нейкая невядомая сіла прымушае яе ісці наперад, у бок капішча...

У месячным святле, у клубах густога туману, праплываюць вялізныя ідалы, высечаныя на камлях дрэваў: багі Пярун, Дажджбог, Ярыла, Варун... Ад убачанага Анастасіі робіцца трывожна. Яна збочвае і таропка сыходзіць. Лес гусцее і гусцее. Княгіня разумее, што заблудзілася. Яна апынулася ля вады. Бачыць човен, рыбалоўную сетку. Да Анастасіі падыходзіць аляня, утыкаецца пысай у нагу. Княгіня ўскрыквае. Але ўбачыўшы жывёлу, сціхае, песціць аляня. Зводдаль, у месячным святле, ходзяць магутныя калматыя зубры, рагатыя ласі, прыгажуны-алені. Зачараваная гэтым відовішчам, Анастасія хоча наблізіцца да звяроў па слізкіх галінах паваленага дрэва, спрабуе перайсці бурлівы ручай, але, страціўшы раўнавагу, саслізгвае ў ваду. Спалохана плюхаецца, чапляючыся за галіны, выбіраецца на бераг.

Тым часам у начной цемры, у тумане, Сымон і Уладзімір з групай вершнікаў са смалянымі паходнямі марна шукаюць княгіню.

— Анастасія!

— Княгіня!

— Ау!

Трывожна гучыць ражок Аслана.

Днее. Анастасія ідзе па лесе праз густы туман. На ёй мокрая, брудная сукенка. Сярод чароту нечакана адкрываецца прастора ляснога возера з цёплай парнай вадой. Анастасія распранаецца, уваходзіць у ваду, плыве сярод жоўтых гарлачыкаў і белых лілей, захапляючыся ранішняй свежасцю.

Неспадзявана яна чуе голас:

— Русалка, не пацягнеш на дно?

Анастасія азіраецца і бачыць Будзіміра.

— Так хутка акрыяла?

Анастасія глядзіць на яго, згадвае ўчарашні дзень:

— Гэта ты — мой збавіцель?

— Цябе выратавала Ждана.

Будзімір распранаецца, скача ў ваду і вынырвае побач з княгіняй.

— Якое цудоўнае возера! — захапляецца Анастасія. — А вада — парная!

— Гаючая, — кажа Будзімір, адчмыхваючыся. — Узімку не замярзае.

— Праўда?

— Вадзянік не любіць, калі вада пакрываецца лёдам.

Анастасія ўсміхаецца.

— Верыш у Вадзяніка?

— Ён жыве вунь там...— Будзімір паказвае на зараснікі чароту.

— І ў іншых багоў верыш?

Будзімір бачыць крыжык на яе грудзях.

— Ты ж верыш у свайго Бога! — кажа ён. — Мы просім нашых багоў паслаць дождж ці разагнаць хмары... Удалага палявання... Перамогі ў бітве... Ён глядзіць на золкі касматы туман, за якім падымаецца барвовае сонца.

— Падабаецца?

— Ой! — раптам ускрыквае Анастасія.

Акурат на яе плыве вужака, пакідаючы кругі на вадзе.

— Свае,— кажа Будзімір вужацы.

Вужака плыве ўбок.

— Ахоўвае ваду,— тлумачыць язычнік княгіні.

Анастасія ўсміхаецца. Будзімір падплывае бліжэй.

Княгіня адчувае, што гэты дужы малады чалавек з доўгімі русымі валасамі на магутных плячах нейкім незразумелым чынам падпарадкоўвае яе сабе. Ён дакранаецца да яе пляча, ласкава гладзіць. Яна мякка адхіляецца.

— Не трэба...

— Ты мне падабаешся!

— І ты мне... Але не трэба.

— Чаму?!

— Грэх! — кажа яна.

Язычнік не разумее:

— Грэх?! Ты падабаешся мне, я — табе… Няма граху! Мае багі бласлаўляюць нас. Чуеш? — ён паказвае ў бок драўляных ідалаў на беразе.

— Што? — прыслухоўваецца Анастасія.

— Яны кажуць: «Будзімір, кахаеш гэтую жанчыну? I ты ёй падабаешся? Дык кахайце адзін аднаго!»

— Нешта я не чую! — усміхаецца Анастасія і гарэзліва прыплюшчвае вочы.

— Багі просяць мяне сказаць табе гэта.

— А мой Бог кажа, што ў жанчыны павінен быць адзін мужчына, а ў мужчыны — адна жанчына.

— Паглядзі вакол — алені, птушкі, рыбы!.. Усе яны вольныя!

— Людзі — іншыя!

— Дзіўныя вы, хрысціяне! Хіба можна ўсё жыццё кахаць аднаго? Праз некалькі зім ты пакахаеш іншага!

Будзімір горне Анастасію да сябе.

— Не трэба, — кажа княгіня, пераадольваючы жаданне.

— Ты што, баішся мяне?

— Я баюся згубіць галаву…

— Заставайся ў нас.

— Гэта немагчыма... — усміхаецца Анастасія, мякка выслізваючы з абдымкаў Будзіміра, і накіроўваецца да берага. — Адвярніся, я апрануся.

З зарасніку чароту за імі назірае Ждана. Вочы яе поўныя нянавісці.

У лесе Аслан бачыць плашч і шапку Анастасіі. Ён саскоквае з каня, падымае адзенне княгіні, азіраецца па баках.

Будзімір вымае з кішэні акарыну і падае трывожны гук.

— Стану патрэбны — пакліч.

Ён хавае акарыну пад камень-валун, пазірае на княгіню.

— Бывай,— кажа яна.

— Да сустрэчы! — усміхаецца ён.

З-за кустоў на іх з непакоем глядзіць Аслан.

З лесу выходзіць Аслан. Ён вядзе каня. У сядле — Анастасія, ужо ў шапцы і плашчы. Да іх спяшаюцца ўсе, хто шукае княгіню — Сымон, Уладзімір, Карэцкі, галава службы бяспекі горада, вершнікі. Сымон падбягае да Анастасіі, здымае з каня, цалуе, горне да грудзей.

— Ледзь не счарнеў!

— Заблукала…

— А дзе начавала?

— У язычнікаў.

— У нехрысцей?! Яны цябе не крыўдзілі?

— Ды не. Накармілі, абсушылі, паказалі дарогу…

Сымон заўважае Аслана, выхоплівае нагайку і закідвае. Але Анастасія спыняе яго.

— Не трэба, Сымоне,— мякка кажа яна.

Аслан нізка схіляе галаву.

— Даруй, княжа.
Да іх мчыць вершнік.
— Татары!
— Дзе? Колькі? — пытае Сымон.
— Трое! Агледзелі крэпасць і зніклі.
— Значыць, рыхтуюцца напасці, — заключае Сымон.

Позні вечар у карчме. На цымбалах граюць музыкі. Дочкі карчмара Навума прыслугоўваюць гасцям. У гадах, праставатая жанчына Маланка спрабуе вывесці з карчмы п'янага Якуба, але зрабіць гэта не так проста. Ён упіраецца, не хоча ісці. За пацешнай парай назіраюць праз расчыненыя дзверы з усмешкай Уладзімір і Хадасевіч, якія сядзяць у асобным пакоі.

— Авой! Трэба ж так налізацца! — абураецца жанчына. Зубоў у яе нямнога, праз тое і шапялявіць.— А грошай колькі аддаў! Аёечкі!

Навум кажа:

— Маланка, куды ты яго цягнеш? Хай пасядзіць.

— Во! Бачылі? Карчмар п'яніцу любіць, але дачкі за яго не аддасць! Навуме, аддай старэйшую! У цябе ж іх — воз! А?

Навум толькі ўсміхнуўся.

— Маланка, — пытаецца Якуб, — вось калі б у цябе было многа грошай, што б ты з імі зрабіла?

— Як гэта— што? Сядзела б па вечарах і лічыла! Ну, хадзем, небарака, хадзем!..

Урэшце ёй удаецца вывесці Якуба з карчмы. Захмялелыя Уладзімір і Хадасевіч працягваюць піць мёд.

— Навум! Яшчэ па кухлю! — грымнуў Хадасевіч.

— Бягу, шаноўныя госцейкі, бягу! — усміхаецца хударлявы спрытны карчмар і, зачарпнуўшы з бочкі хмельнага мёду, амаль танцуючы, прыносіць два кухлі і ставіць іх на стол.

— Прычыні дзверы, — загадвае Хадасевіч, — дзьме.

— Слухаюся!

Выходзячы, Навум шчыльна прычыніў за сабой дзверы.

— Можа, досыць? — пытае малады князь.

— Уладзімір, люблю цябе, як сына! — памаўчаўшы, нягучна пытаецца. — Не крыўдна, што княжыць Сымон?

— Старэйшы брат! — усміхнуўся Уладзімір. — Я ніколі не хацеў быць на стальцы. Столькі клопату!

— Зайздросціш?

Уладзімір адказаў не адразу:

— Хіба што — такая жонка... Але што тут зробіш — лёс!

Памаўчалі. Марудна смакуючы хмельны мёд, Хадасевіч кажа:

— А ты лёс — каленкам пад зад!

— Ну-ну! — гарэзліва вымавіў Уладзімір. — Як гэта?

— Ды і хан дапаможа.

— Ты пра што гэта?

Хадасевіч смакаваў мёд:

— Быў я ў яго, у Бахчысараі, летась. Вазіў лён, пяньку, пушніну, лыка... Адтуль — соль. Шчодры чалавек! А якое ў яго віно!

— Пачакай — засумняваўся Уладзімір, — мусульманін!?

Хадасевіч усміхнуўся:

— Каран забараняе піць віно толькі бедным мусульманам... Любіць частаваць!

— Кажуць жорсткі, непадступны.

— Праца такая — ваяваць. Ведаеш, колькі мае жонак?

— Чатыры, — выказаў меркаванне Уладзімір.

— А сотню — не хочаш? Толькі ў гарэме! Тут з адной ладу няма, — уздыхнуў Хадасевіч.

— Сотня жонак?! — Уладзімір здзіўлены. — Гэта ж усіх карміць трэба.

— А колькі дзяцей! Таму і ваюе, гаротнік. Што ні кажы, усё ліха — ад жанчыны. Ужо як я пакутую ад сваёй: «Не пі, не пі!» А ці ж я п'ю?!

— А як ён спраўляецца? — спытаўся Уладзімір.

— Ёсць каханыя, а ёсць толькі на адну ноч! Уяўляеш, як ёй?

Уладзімір задумаўся:

— Нашто столькі? Я усіх аддаў бы — за адну…

Хадасевіч пільна сочыць.

— Дык закранула?!

— Абдымаю маю Еву, а думаю — пра яе…

— Але пакуль Сымон жывы, Анастасію не аддасць!!

Уладзімір уздыхнуў, прыплюшчыў вочы, страсянуў галавой, нібы спрабаваў на ўсё забыцца. У карчму ўвайшоў Карэцкі, папрасіў куфаль піва, спытаўся ў карчмара:

— Хто?

Навум шэптам аб'явіў:

— Шляхціц Хадасевіч і малады князь Друцкі! Прасілі не турбаваць.

Карэцкі, не спяшаючыся, выпіў піва і неахвотна выйшаў.

За сцяной Уладзімір прадоўжыў:

— Дык што хан?

— З ім можна пагутарыць. А тут назбіраць незадаволеных. Выбраць зручны час. Замкі здаюць знутры.

Уладзімір усміхнуўся:

— Не можаш дараваць Сымону тое, што пазбавіў прывілей. Дык непрыстойна ж...

— Непрыстойна? — узрушыўся Хадасевіч.— Не ён іх шляхце выдаваў, не ён і пазбавіць!

Уладзімір прымірэнча паклаў руку на кулак Хадасевіча, але той узняўся з-за стала.

— Пайшлі дадому!

Развіталіся. Уладзімір накіраваўся да сваёй жанчыны.

— Ева, — сказаў ён задумліва, — я бачыў сон! Навальніца, грымоты... маланка… Пасля прыляцелі вялікія птушкі! Узялі мяне пад рукі, панеслі і грымнулі на сталец, ажно задніца забалела… І сказалі: «Уладзімір, будзеш княжыць!..» Прысніцца ж такая лухта!

Гэта прарочы сон! — усклікнула Ева, распусціўшы доўгія шыкоўныя валасы.

— Навошта мне гэта?!

— Зробіш мяне вялікай княгіняй! — Ева абняла яго.

Ну, хіба што дзеля гэтага... — іранічна ўсміхнуўся ён.

Уладзімір абдымаў маладую жанчыну. Але яго самотны пагляд быў скіраваны ўбок, нібыта ён думаў пра нешта іншае...

Стоячы на гарадскіх мурах, Сымон кіруе работамі па ўмацаванні горада. Побач Аслан, Фердынанд, дружыннікі. На вазах людзі вязуць бярвенне, пясок, каменне. Грукат сякер і кувалдаў.

— Уладзімір, — кажа Сымон, — займіся другой брамай, з мінулага набегу не правілі.

Гледзячы на абарончыя ўмацаванні, Хадасевіч перасцерагае Сымона:

— Чуў? Татары захапілі Любань, Капыль, Старыя Дарогі....

— Значыць, неўзабаве будуць тут, — устрывожыўся Сымон.

— Сваіх дзяцей я адаслаў у Менск. Там зацішней.

Сымон прамаўчаў.

У лесе Будзімір не знаходзіць сабе месца — ён не можа забыць госцю з горада. Ждана падышла, абняла, як рабіла гэта раней, але ён не адказаў на абдымкі.

І таму маладая знахарка вандруе па лесе, самотна напяваючы вакаліз без слоў пра ўкрадзенае каханне, пераходзячы ад верхняга рэгістру да ніжняга, і наадварот... За ёй, нібы хатні сабака, паслухмяна ідзе воўк...

Урэшце Будзімір кажа Крыве:

— Бацька, я мушу яе пабачыць!

Старому гэтая ідэя не падабаецца, але стрымаць сына ён не можа.

Апрануўшы «гарадскую» палатняную вопратку, Будзімір прыходзіць у горад, шукае Анастасію, але дарэмна. Побач Якуб коле дровы, і Будзімір звяртаецца да яго.

— Дзед, я шукаю маладую, прыгожую...

Схільны да жартаў Якуб загнаў сякеру ў калоду і ўсклікнуў:

— А, дык вось яна! — Ён азіраецца. — Маланка! Тут цябе хлопец пытае.

Жанчына мые ганак карчмы.

— А што яму трэба? — шапалявіць яна.

— Адкуль я ведаю? Можа, сватацца прыйшоў!

— Ну, скажаш! — заззяла Маланка.

— А вунь князь выйшаў, княгіня... — ужо сур'ёзна паведаміў Якуб.

Удалечыні Будзімір бачыць, як з замка на шпацыр выходзяць прыгожа, багата апранутыя Анастасія і Сымон. Княгіня трымае дзяцей за рукі. Іх суправаджаюць некалькі чалавек світы. Маланка кінула анучу ў драўлянае вядро, выцерла рукі аб фартух, падышла да Будзіміра:

— Авой, сынок! Дзе ж ты быў раней? Вось, усе зубы пасыпаліся...

— Маланка, — умешваецца Якуб, — заб'ём вепрука і ягоныя клыкі табе паставім. Будзеш усміхацца ва ўвесь рот, як нявеста!

Будзімір іх не чуе. Шырока раскрытымі вачыма ён глядзіць на Анастасію і згадвае яе ў сваіх абдымках, пяшчотную, трапяткую, ку-

панне ў возеры... Ён рэзка паварочваецца і ідзе да гарадской брамы. І тут Анастасія ўбачыла язычніка, спынілася.

— Што здарылася? — спытаў Сымон.

— Галава закружылася.

Сымон пераводзіць позірк на маладога хлопца ў палатнянай вопратцы, які крочыць да брамы.

Якуб пытае Маланку:

— Што ты яму сказала? Нібы скамянеў!

Прастадушная Маланка разгубілася:

— Аёечкі! А можа, трэба было пагадзіцца?

Ля гарадской брамы адзін з вартавых на кані прыгледзеўся да Будзіміра:

— А гэты што тут робіць? Стой! Ты чый? Адкуль?

Яны б'юцца. Дужы і спрытны Будзімір сцягнуў вершніка, ускочыў на каня і памчаў у бок лесу.

Усё гэта адбывалася на вачах Анастасіі і Сымона...

У лес Будзімір вярнуўся бы хмара.

— Бачыў? — спытаў Крыва.

— Чаму ты не сказаў, хто яна?

Стары адказаў не адразу:

— Ты мусіў пераканацца сам. Толькі ўласныя гузакі чаму-небудзь ды вучаць такіх упартых...

Пасля доўгага маўчання Крыва дадаў:

— Забудзь. Як рыбы не могуць жыць у небе, так і птушкі — пад вадой. Мы — розныя. У іх — свой Бог, у нас — свае багі... Ты мусіш трымацца свайго роду і звычаяў... І запомні, сыне, час гоіць любыя раны...

Позні вечар. Княжацкія пакоі. Сымон лашчыць Анастасію, але яна глядзіць убок, кажа:

— Хадасевіч сваіх дзяцей паслаў у Менск. Хай едуць і нашыя.

— Якая розніца?

— Там зацішней.

— Ты ж ведаеш, Юры не паедзе, уцячэ па дарозе.

— Дзяцей трэба адправіць, — настойвае Анастасія, не адказваючы на ласкі мужа.

Хмурны Сымон устае. Памаўчаўшы, кажа:

— Аляксандру адвязём. А Юры хай застаецца. Ніхто наперад не знае, што каго чакае. Што будзе, тое будзе.

У лесе Будзімір і Ждана сядзяць на камлі паваленай сасны. Ён задумліва пазірае ўдалеч.

— Ну, што з табой? — пытае дзяўчына.

Будзімір задуманы.

— Нічога.

— Калі будзеш думаць пра яе, я яе зачарую!

— Не трэба! — схамянуўся Будзімір.

Ждана кладзе руку на яго плячо.

Кожную ноч Сымон з паходняй абыходзіць умацаванні, правярае пасты. Часам з ім ідуць Уладзімір, Анастасія. І аднойчы ля брамы яны

знаходзяць старога Базыля, які спіць на варце. Уладзімір моцна штурхае яго ботам у бок.

— А?! — падхапіўся той. — Ой, што гэта?! Княжа, даруй, выпіў крыху…

Сымон загадвае ахове:

— Высечы! Дваццаць бізуноў!

Ахова схапіла Базыля, пацягнула. Базыль енчыць.

— Але, Сымоне!.. — княгіня спрабуе заступіцца.

— Дваццаць бізуноў! — абрывае яе князь. — Калі татары захопяць горад…

Пачуўся свіст бізуна і крыкі Базыля.

Анастасія рэзка павярнулася і шпарка пайшла ў бок замка. Сымон задумліва глядзіць ёй услед, пасля ідзе далей.

Пасля экзекуцыі Уладзімір накіраваўся да вартавога, які працягваў енчыць. Той асцярожна нацягваў нагавіцы.

— Ну, як, Базыль, — ці салодкая княжацкая міласць?

— Гэтага я не забуду!

— Тсс! Алелькавіч не заўжды справядлівы. Хадзем, пачастую цябе медавухай.

У змроку Хадасевіч і Уладзімір тайна прыязджаюць у размяшчэнне татарскіх войскаў, саскокваюць з коней.

— Ці патрэбна мне гэта? — сумняваецца Уладзімір.

— Яшчэ як патрэбна! — адказвае Хадасевіч. Ён падыходзіць да татарскага воіна: — Праводзь да хана. Ёсць размова.

Воін падводзіць да багатага шатра. Баты-Гірэй сустракае іх ля ўвахода. Гэта прыгожы брунет гадоў трыццаці, з чорнымі, бы смоль, вусамі і бародкай. У ягонай прыгажосці — нешта ад д'ябла. Нізка пакланіўшыся, Хадасевіч кажа:

— Я вітаю вялікага хана! А гэта мой сябра, князь Уладзімір, меншы брат Сымона...

Уладзімір пакланіўся. Хан шырока ўсміхнуўся, паказаўшы моцныя белыя зубы:

— Гасцям мы радыя!

Хан шчодра частуе іх віном, бузой, кумысам, канінай, усходнімі прысмакамі. Хадасевіч з задавальненнем смакуе каніну. Уладзімір грэбуе. Баты-Гірэй гэта заўважыў, усміхнуўся: — Хочаш, каб любілі жанчыны — пі кумыс і еш каніну! — Прывыкай да нашай ежы, кунак! Зараз мы — разам! Дуслык, дружба! А ты мой — ялдаш!

Уладзімір пасмакаваў каніну, гідліва скрывіўся.

— Захмялеў ад бузы! — весяліцца Хадасевіч. — Неўзабаве пачне бузіць!

— А мы супакоім! — падтрымаў жарт хан. У ягоным паглядзе нешта дэманічнае. — Зробім чык-чык і адашлём ахоўваць гарэм! Князь, згодны ахоўваць мой гарэм? Жартую... — Хан устаў, зняў са сцяны бізун з прыгожай казінай ножкай, звярнуўся да Уладзіміра: — Ёсць у цябе жанчына? Дару. Ім лепш перараканаць іх, незгаворлівых!..

Князь бярэ ў рукі падарунак і кланяецца хану.

— Чуў, табе даспадобы жонка Сымона? Анастасія будзе тваёй жонкай, — працягвае Баты-Гірэй, зазіраючы ў вочы Уладзіміра. —

Я дапамагу табе... А ты дапаможаш мне... Да майго прыходу адчыніш браму горада..

Уладзімір здзіўлена глядзіць на хана. Хадасевіч націскае ботам на нагу князя — маўчы!

— Я згодны бачыць Уладзіміра на стальцы, — працягвае хан. — З Сымонам мы не дамовімся... Горад будзе плаціць толькі невялікую даніну — грашыма, зернем, сабалямі...

Хадасевіч жартаўліва ўзняў бровы:

— Але так мы перавядзём усіх сабалёў!

— А як жа інакш? — Баты-Гірэй пацісНуў плячыма. — Я мацнейшы! Калі аб'ядНаецеся, паб'яце мяне, — хан рассмяяўся — плаціць буду я!.. Толькі Алах гэтага не дазволіць!

Хан узняў рукі да неба. Госці змрочна маўчалі.

— Паверце, я чалавек мірны, — лагодна працягваў Баты-Гірэй. — Навошта ваяваць? Ваш халодны край і балоты нікому не патрэбныя. Але вы не плаціце ясак, даніну! Плаціце, і будзем жыць у згодзе! Зур дуслык, вялікая згода!

— Калі будзеш браць горад? — спытаў Хадасевіч.

— Як толькі падыдуць галоўныя сілы.

Хадасевіч паведамляе хану:

— Раніцай па Менскім тракце павязуць дачку князя Сымона. Каб вашыя воіны часам не напалі...

Баты-Гірэй паглядзеў на воіна, што стаяў ля ўвахода. Той паспешна выйшаў. Шырока раскрытымі вачыма Уладзімір глядзіць на Хадасевіча.

Хан цёпла, па-сяброўску развітваецца з баярынам.

—А ты, княжа, застанься...

Была ўжо ноч, калі па дарозе назад Уладзімір нагнаў Хадасевіча і роспачна вымавіў:

— Госпадзе, што я раблю?!

Хадасевіч сказаў:

— Які ты неразумны, княжа! Лепш быць сябрам хана, чым ворагам... Скажы дзякуй, што пасябраваў... Хто ведае, што будзе далей?.. Дапамажы нам, Ісусе!

Досвіткам ля карэты Анастасія і Сымон развітваюцца з дачкой. Юры ўцёк, баючыся, што павязуць і яго, здалёк назірае за ад'ездам сястры... Карэту і некалькі вазоў з прадуктамі і падарункамі родзічам суправаджаюць вершнікі.

Уладзімір з акна занепакоена назірае за праводзінамі. Карэта і вазы паехалі.

Уладзімір зняможана прыхіліўся да акна.

— Даруй нам грахі нашыя!

У шатры, добра падсілкаваўшыся, Баты-Гірэй запытаўся ў воіна:

— Шарыф, узялі дзяўчат?

— Так, вялікі хан.

— Пакажы.

У шацёр уводзяць паланянак, што дрыжаць ад страху і невядомасці. Хан уважліва, як на кірмашы, аглядае кожную дзяўчыну, пра-

вярае зубы. Усміхаючыся, узяўся за каўнер сукенкі адной з дзяўчын і рвануў убок, агаліўшы грудзі. Дзяўчына спужана ўскрыкнула і страціла прытомнасць.

— Вось гэтую і гэтую — у гарэм, — загадаў хан. — Тых — на кірмаш, у Канстанцінопаль. Рэшту — воінам.

Адна з дзяўчат, што стаяла блізка да хана, выхапіла з ягоных ножнаў крывы нож і абедзвюма рукамі ўсадзіла сабе ў грудзі. Баты-Гірэй узрушаны ўбачаным.

— Дурніца! Яна мне падабалася больш за іншых... — Абыякавым жэстам ён загадвае вынесці цела.

Кажа Шарыфу:

— А што б яе чакала тут? П'яны муж, калаціў бы, прымушаў шмат працаваць... Не ведаюць жанчыны, дзе іх шчасце! — уздыхнуў хан.

Увайшоў воін, нізка пакланіўся:

— Вялікі хан! Мы злавілі дачку князя Сымона!

Хан жэстам загадвае прывесці. Убачыўшы дзіця, шырока ўсміхнуўся:

— Дык вось ты якая! Прынесці прыгажуні персікі, вінаград, лукум... — І каб ніводзін волас не ўпаў з яе галавы!

Праз гарадскую браму скачуць некалькі татарскіх вершнікаў.

— Татары!!! — залямантаваў барадаты мужычок на мурах.

На момант спыніўшыся, адзін з воінаў нацягнуў цеціву лука і пусціў стралу з прымацаванай граматай. Страла трапляе ў браму. Татары паскакалі назад. А за імі марудна ехаў воз, накрыты рагожай, без вазніцы. Узняўшы браму, мужчыны асцярожна падышлі да воза, прыўзнялі рагожу і з жахам ускрыкнулі. На возе ляжалі галовы забітых вершнікаў, якія суправаджалі Аляксандру.

У княжацкім цераме Сымон чытае грамату, што прыляцела на страле.

Адчыняюцца дзверы, урываецца Анастасія:

— Яны схапілі Аляксандру?!

— Так.

— Госпадзі! Я сама яе выправіла!.. Зрабі хоць што-небудзь!

— Хану патрэбны горад. Толькі тады дачка будзе вернута, а жыхарам захаваюць жыццё...

— А калі — не?!

Памаўчаўшы, князь кажа:

— Аляксандра будзе прададзена ў Канстанцінопалі...

— І ты так спакойна...

Анастасія кідаецца да Сымона, калоціць яго кулакамі ў грудзі, рыдае. Ён стаіць маўклівы, глядзіць убок.

Анастасія выбягае з церама, грымнуўшы дзвярыма.

Сымон уздрыгвае, глядзіць услед.

Забегшы на момант у свой пакой і схапіўшы нешта са зброі, Анастасія выбягае на двор, ускоквае на каня і праз браму накіроўваецца з горада.

Імчыцца па лясной дарозе.

Раптоўна з'явіліся два вершнікі, татары. Анастасія павярнула і прышпорыла каня. Татары кінуліся наўздагон.

— Жыўцом бяры! Жыўцом!

З абодвух бакоў вершнікі набліжаюцца да Анастасіі, працягваюць рукі да яе вопраткі. Дастаўшы дроцік, яна кінула яго ў горла аднаго вершніка. А затым выхапіла з-за пояса балюс, камень у скураным мяшочку на доўгай плеценай дзязе, раскруціла над галавой і шпурнула ў другога, як вучыў яе Аслан. Дзяга шчыльна абвіла шыю вершніка, і ён таксама грымнуў з каня...

Да Сымона ўваходзіць Уладзімір і кажа:

— Я паспрабую яе вызваліць. Вазьму групу вершнікаў...

Сымон ускіпеў:

— Татараў — тысячы! Хочаш, каб прывезлі і тваю галаву?!

Уладзімір маўчыць.

Злезшы з каня на ўскрайку балота і падышоўшы да валуна, Анастасія дастае з-пад каменя акарыну і надрыўна дзьме ў яе. На гук акарыны з гушчару выходзіць карлік. Ён укладвае гаці ў ваду. Княгіня праходзіць па іх і раптам спуджана спыняецца.

— П'яўкі!

Карлік усміхнуўся:

— Не бойся! Яны высмоктваюць благую кроў. Мы многія хваробы лечым п'яўкамі. — Ён усміхнуўся. — Што ты такая пужлівая?

Карлік праводзіць яе ў паселішча.

На паляне язычнікі вяжуць невад. Крыва сядзіць побач.

Анастасія хуткім крокам падыходзіць да старога. Карлік ледзьве паспявае за ёй.

— Крыва, дапамажы! У татар мая дачка! Толькі на тваіх людзей надзея!..

Здалёк за імі назірае Ждана. Яна паварочваецца і бяжыць у лес.

Ля крыніцы Будзімір каменным бруском вострыць меч. Пасля бярэ наканечнікі і прыладжвае іх да стрэлаў.

Падышла Ждана, абняла за шыю, пацягнула ў гушчар.

Будзімір не разумее, што адбываецца, але ідзе за ёй.

На іх шляху паўстае карлік.

— Прыйшла княгіня! — кажа ён. — У яе — бяда!

Будзімір спыніўся. Ждана моцна прыціснула яго да сябе, не адпускае. Але з сілай вызваліўшыся з яе абдымкаў, ён бяжыць у паселішча.

Ля агню, перамагаючы прыступ кашлю, Крыва распавядае Анастасіі:

— І калі ўзброеныя атрады хрысціян пачалі знішчаць бяззбройных язычнікаў, спальваць вёскі... Толькі за тое, што тыя не хацелі маліцца распятаму Богу...

— Не было гэтага! — пратэстуе княгіня.

— Было! Яшчэ да цябе! — Крыва закашляўся зноў. — Тады я сабраў усіх, хто хаваўся па лясах, і прывёў на гэты востраў. Так людзі выжылі... Але маю жонку — забілі! З дзіцём у жываце... Дзідай!

Княгіня не можа паверыць.

— Не веру!

— Тысячы язычнікаў былі знішчаны.

— Я ніколі пра гэта не чула...

— Спытайся ў сваіх... Нідзе не любяць пра гэта ўзгадваць!.. — кажа Крыва. Памаўчаўшы, працягвае: — Я вывучыў звычаі лясных людзей, таямніцы прыроды... Абралі мяне за старэйшыну...

Анастасія цяжка перажывае пачутае.

— Гэта было так даўно! Ці варта згадваць?

— Ты ўпэўнена, што войскі не прыйдуць зноў! З крыжом і мячом!

— Пакуль я жывая, гэтага не будзе! Малю, дапамажы! У татараў — мая дачка!

Крыва марудзіць. Ён падкідвае ў агонь галля, слухае полымя.

Анастасія моўчкі назірае.

З'яўляецца Будзімір.

— Будзімір! — кажа яна. — Татары выкралі маю дачку!

І столькі мальбы ў яе позірку! Будзімір пераводзіць позірк на бацьку.

Крыва кажа:

— Давай падумаем, як яе вызваліць...

Капішча. З мячом у руцэ Будзімір стаіць перад ідаламі і просіць дазволу на бітву.

Непадалёк Ждана з нянавісцю кажа Анастасіі:

— Калі з ім нешта здарыцца, я цябе пракляну! Зжыву са свету! Дзе б ты ні была!

Ждана ідзе лясной сцяжынкай і спявае, завываючы, песню адчаю без слоў... За ёй, нібы хатні сабака, апусціўшы галаву, ідзе воўк.

Будзімір на ўскрайку лесу. Папляваўшы на палец, ён дбайна вызначае кірунак ветру.

— Вогнішчы будзем паліць вунь у той нізіне, — паказвае ён.

Лясныя людзі прыбіраюцца ў воўчыя скуры, у кожнага — шлем у выглядзе ваўчынай галавы. Яны ўтыкаюць кароткія нажы ў драўляныя пні, лёгка, нібы начныя птушкі, пралятаюць над імі...

У начным тумане Анастасіі здаецца, нібыта зграя ваўкоў знікае ў цемры.

Лясныя людзі незаўважна падпаўзаюць да вогнішчаў у татарскім стане. Воіны дрэмлюць ля вогнішчаў. На агонь язычнікі кідаюць вастралістыя кусцікі дурнап'яну. Самі паспешліва прыкрываюць насы мокрымі анучамі, адпаўзаюць убок.

І спакваля ў татарскім стане адбываецца нешта незразумелае.

— Чуеш? — зморшчыўся адзін з воіноў.

— Што?

— Адкуль... гэты... дзікі пах?

— Невядома...

— Раней ты яго чуў?

— Не ведаю... Нешта ў мяне... з галавой...

— І ў мяне... усё плыве... Глядзі, які туман!

Татары, хістаючыся і размахваючы рукамі, бы п'яныя, ходзяць па лагеры, натыкаючыся адзін на аднаго, выхопліваюць мячы, б'юцца свае са сваімі...

Ім здаецца, быццам поўня над лесам ператварылася ў жахлівую пачвару і рухаецца на іх...

Копы сена на лузе таксама рушылі на іх...

Раптам пачулася воўчае выццё. Лясныя людзі ў воўчых скурах, з воўчымі галовамі рынуліся да татарскага стану...

— Шайтаны! Хушбуш! Шайтаны! — крычаць спужаныя татары і ўцякаюць.

Ваўкалакі ўлятаюць у стан. Шалёная разня.

Будзімір адшуквае і выносіць з шатра спалоханую Аляксандру, перадае Анастасіі.

У гэты час у сваім шатры Баты-Гірэй сядзеў насупраць светлавалосай дзяўчыны і настойліва прапаноўваў ёй заморскія прысмакі. Яна маўчала, апусціўшы галаву.

— І халвы не пасмакавала... Зірні на мяне, — хан пальцамі ўзняў яе падбароддзе і ўсміхнуўся. — Няўжо я табе не падабаюся? Па нашаму «кахаць» — ярату. Скажы — ярату...

Дзяўчына паглядзела вачыма, поўнымі слёз, варожа прамовіла:

— Ад цябе смярдзіць потам, нібы ад каня. Няўжо ты ніколі не мыешся?

Хан збянтэжыўся. Пасля доўгай паўзы сказаў:

— З ханам, славянка, так не размаўляюць... Ведаеш, што цябе чакае? — Ён пляснуў у далоні. — Шарыф!

Паколькі ніхто не ўваходзіў, хан паўтарыў гучней:

— Шарыф!!!

Але і пасля гэтага ніхто не ўвайшоў. Тады хан узняўся і выйшаў з шатра. Карціна, якую ён убачыў, уразіла яго: быццам сляпыя і п'яныя, воіны бадзяліся па лагеры, выцягнуўшы рукі перад сабою...

— О Алах! — ускрыкнуў хан, дастаючы бізун. Ён адразу зразумеў, што здарылася. — Ахмаклык! Дурман-трава! Начар!..

Прыкрыўшы нос рукавом, хан біў воінаў бізуном.

— Дагнаць! Кабахет!

І хаця лёгкі ветрык, заварушыўшы лісце, рассеяў дурман, не ўсе воіны сталі паслухмяныя.

Язычнікі адыходзяць у лес. Уцякла з імі і светлавалосая дзяўчына з шатра. Апрытомнеўшыя татары праследуюць уцекачоў. Але паколькі лясныя людзі прыбралі за сабой гаці, то, праваліўшыся ў багну і страціўшы некалькіх воінаў і коней, татары спыняюць пагоню...

Несучы Аляксандру на руках, Анастасія спыталася:

— Цябе ніхто не крыўдзіў, дачушка мая?

— Што ты, мама! Хан такі добры! Гэта воіны ў яго кепскія... Садзіў мяне на калені, частаваў... Запрасіў на цёплае мора. А калі вырасту, возьме ў Бахчысарай! Гэта ў іх галоўны горад. Мама, давай паклічам яго ў госці!

— О Госпадзе! — толькі і здолела вымавіць Анастасія і мацней прыцiснула да сябе дачку…

Аляксандра спала ў будане. Анастасія паглядзела на Будзіміра, твар яго быў у сажы, цела — у драпінах і парэзах. Анастасія пяшчотна правяла рукой па ягонай шчацэ.

— Ты такое для мяне зрабіў!.. — Памарудзіўшы, яна ўсміхнулася. — Я ўся прапахла дымам... Дзе нашае возера?

— Хадзем!

Яны плавалі і аддаваліся пяшчотам спачатку ў вадзе, пасля на беразе, у высокай траве, горача, аддана...

Ждана праходзіць скрозь зараснік чароту і бачыць, як Будзімір і Анастасія лашчаць адно аднаго...

Галіны будана, у якім спала Аляксандра, рассунуліся. Ждана глядзіць на дзяўчынку, якая спіць. У яе руках нож. Раптам рука з нажом з сілай апускаецца долу...

Анастасія і Будзімір падыходзяць да будана. Ён абдымае яе, цалуе. Анастасія кажа:

— Яшчэ ніколі не было так добра...

Яна рассоўвае галінкі будана і, убачыўшы тронкі нажа, як ёй падалося, у целе дачкі, шалёна крычыць. Будзімір кідаецца ў будан. Дачка падхопліваецца, садзіцца:

— Мама! Што здарылася?

І толькі зараз Анастасія зразумела, што нож быў загнаны ў зямлю побач з Аляксандрай.

Будзімір вырваў нож, глядзіць на знаёмыя тронкі. Разумее — гэта зрабіла Ждана...

А ў гэты час Ждана ідзе па лесе і спявае сваю песню адчаю. За ёй ідзе воўк, не ведаючы, чым дапамагчы…

Уздымаецца сонца. Анастасія з дачкой і Будзімір выходзяць з лесу. За імі ідзе карлік. Назбіраўшы шышак, ён змайстраваў забаўную фігурку, працягнуў Аляксандры. Дзяўчынка ўзяла, усміхнулася. Карлік вярнуўся ў лес.

Будзімір вешае на шыю Анастасіі вялікі мядзведжы клык, амулет-абярог…

— Ты хацеў бы жыць у горадзе? — спытала яна.

Ён адмоўна пакруціў галавой:

— Не змагу. Горад — вязніца, турма.

— Кожная зязюля пра сваё кукуе, — сумна ўсміхнулася Анастасія.

— Мы — вольныя, як птушкі. А хрысціяне — божыя рабы…

— Бывай, Будзімір.

— Бывай.

У вялікай зале замка, разам з Сымонам, Анастасіяй, Уладзімірам і Хадасевічам, сабраліся царкоўнікі, знаць горада.

Царкоўнікі не ўхваляюць паводзіны княгіні. Уладыка кажа:

— Пайсці да паганцаў?! Ідалапаклоннікі!

— Не так даўно мы таксама былі паганцамі, — кажа княгіня.

— Яны, бязбожнікі, не жадаюць хрысціцца!

— Гэта нашыя падданыя, добрыя, наіўныя, даверлівыя, — пярэчыць Анастасія. — Мы ім дапаможам.

— Нехрысці! Ладзяць чортавы гульбішчы!

— Людзям патрэбныя святы.

— Толькі царкоўныя! Тыя, што ўслаўляюць Госпада! — уладыка перахрысціўся.

Анастасія настойвае на сваім:

— Хіба мы не ўзялі ў іх Радуніцу, Масленіцу, іншыя звычаі? Чым кепская ноч на Купалле? Мы — адзін народ, і павінны быць разам!

— Нядобра княгіні там бываць! — уладыка глядзіць на Сымона.

Князь пахмура маўчыць.

У ткацкай майстэрні, напяваючы, адны дзяўчаты з шаўковых нітак ткалі паясы, іншыя з саломкі вязалі насценныя ўпрыгожанні.

Анастасія ўвайшла ў майстэрню, узяла пояс на руку, пакруціла, гледзячы на святло. Адна з дзяўчат усміхнулася:

— Такіх паясоў — не ткуць нідзе! Ці не так, княгіня?

— Чагосьці тут не стае … — Анастасія падумала і прамовіла: — А калі да шоўка дадамо залатую і срэбную ніткі?

— Дорага!

— Калі слуцкія паясы станем прадаваць у многіх гарадах, акупіцца…

Пасля Анастасія прайшла ў пакоі, дзе юнакі перапісвалі кнігі.

— Атрымліваецца? — спытала яна.

— Так, пані. Толькі марудна. Кажуць, ужо ёсць станкі, якія самі друкуюць кнігі…

— Будуць і ў нас.

У рыцарскай зале гарэў камін. Аслан навучаў Юрыя баявому майстэрству.

— Давай яшчэ раз.

Юры схапіў Аслана, паклаў на сваё сцягно і паваліў.

— Малайчына! — сказаў настаўнік устаючы. — Адпачні.

— Аслан, раскажы пра сваю бацькаўшчыну.

— Я ўжо столькі расказваў...

— Хачу паслухаць яшчэ раз.

Памаўчаўшы, Аслан працягнуў сваю гісторыю:

— Калі Аланію захапілі ворагі, мне прыйшлося ўцякаць.

— Чаму не змагаўся?

— У баі мяне цяжка паранілі, ляжаў без прытомнасці. Ворагаў былі полчышчы. І таму сябры мяне ўпотайкі вывезлі…

— А твая сям’я?

— Усіх забілі. Юры, не трэба пра гэта.

Паглядзеўшы на карціну на сцяне, Юры спытаўся:

— Аслан, — а ты бачыў мора?

— Я нават тануў. Калі на галеры везлі ў Турцыю, прадаваць. Быў моцны шторм!

— Ух ты! Быў у палоне?

— Перабіўшы ахову, я і яшчэ некалькі чалавек уцяклі.

— Мора — гэта, як наша Прыпяць, так?

— На моры, княжыч, другога берага не відаць. Коцяцца вялізныя, вышэй за лес, хвалі. А вада — салёная-салёная!

— Салёная вада? — не разумее хлопчык. — А як там жывуць рыбы?

— Прывыклі, — нечакана Аслан дадае: — Воля, Юры,— гэта самае дарагое. За яе можна і загінуць.

— Хіба не жыццё — самае галоўнае?

— Калі трапляеш у рабства, жыццё здаецца пеклам.

Памаўчаўшы, хлопчык кажа:

— Аслан, калі я стану вялікім князем, будзеш маім дарадцам.

У патайным пакоі, за зачыненымі вокнамі, за мёдам і півам сабраліся некалькі змоўшчыкаў. Сярод іх Хадасевіч, Ігар, Базыль, сябры магістрата, шляхціцы — усе на добрым падпітку.

— Не пашэнціла нам з вялікім князем! — кажа Хадасевіч. — Пазбавіў прывілей...

— Магдэбургскае права парушыў...— сказаў сябра магістрата.

— А нас, шляхту? — уставіў малады ганарлівы шляхціц. — Таксама крыўдзіць!

Усе глядзяць на Уладзіміра.

Сербануўшы мёду, Хадасевіч пытае:

— Княжа, табе не надакучыла быць другім?

Уладзімір усміхнуўся:

— А табе — баярынам? У кожнага свой лёс.

— Лёс можна і падштурхнуць...

Уладзімір больш не ўсміхаўся, пахмура глядзеў перад сабою.

— Ці не думаеце вы, што я... Брат!

Хадасевіч спакойна сказаў:

— Ну і што? Колькі разоў сын забіваў бацьку, сястра труціла... А пасля — княжылі да скону!

— Людзі, вы з глузду з'ехалі, — незадаволена прамовіў Уладзімір.

Памаўчалі.

— Калі з Сымонам нешта здарыцца — сядзеш на сталец? — спытаўся сябра магістрата.

— Тады і пагаворым.

Хадасевіч працягвае:

— Хто ты зараз? Ніхто! А быў бы — вялікім князем! Пашана! Павага! Усе дрыжаць! А жанчыны — усе твае! І Анастасія іншымі вачыма...

Уладзімір ударыў кулаком па стале. Усе здзіўлена пазіраюць. Кінуўшы востры позірк на Хадасевіча, Уладзімір запярэчыў:

— Забудзь!

Базыль пазяхнуў:

— А, што з ім гаварыць — зайцава натура...

— Небарака! — пагадзіўся сябра магістрата.

Хадасевіч нетаропка кажа:

— Баты-Гірэй вельмі не любіць Сымона! Некалькі разоў штурмаваў, і ... Але, калі Сымона не стане, навошта хану браць горад? Заплацім ясак...

За акном чуваць шоргат, шалёна брэша сабака. Усе трывожна пераглядваюцца. Хадасевіч загадаў маладому шляхціцу:

— А ну, паглядзі!

Той скочыў на двор, вярнуўся, пацісНуў плячыма.

— Нікога.

Піць больш нікому не хацелася. Хадасевіч загадаў:

— Разыходзімся!

У святліцу служанкі Евы ўвальваецца п'яны Уладзімір. Жанчына злуецца:

— Ну, што, княжа, зноў набраўся, як свіння гразі.

Уладзімір цяжка апусціўся на лаву. Ева сцягвае з яго брудныя боты.

— Халопка, — кажа ён грэбліва, — як ты са мной размаўляеш?! Можа, я вялікім князем стану!

— Без княства? — усміхнулася Ева.

— Ды ведаеш, колькі за мною людзей? Толькі свісні!

— Надзейных?

— А хто надзейней — ты?

— Не першы год ходзіш. Ці ўздумаў праверыць?

— Пачакай, надыдзе мой час...

Служанка недаверліва ўсміхнулася.

На княжацкай бяседзе госці адзначаюць дзень нараджэння Юрыя.

— Сто год! — крычыць Уладзімір.

За доўгім сталом — Анастасія, Сымон, Хадасевіч, знаць. Аслан не п'е. Уладзімір гучней за ўсіх выкрыквае здравіцы, але чамусьці нервуецца, напружаны, аглядаецца па баках.

Ева прыслугоўвае за сталамі, падлівае Сымону віно. Уладзімір злавіў яе напружаны позірк. Яны пільна пазіраюць адно на аднаго. Гэтыя позіркі перахапіў Карэцкі. Марудна смакуючы віно, задумаўся.

Да Анастасіі, што сядзіць побач з Сымонам, падыходзіць Сафія, нешта шэпча на вуха. Анастасія ўстае і выходзіць з ёй.

За сталом размаўляюць два шляхціцы.

— Сягодня балюем, а што — заўтра?

Сусед уздыхае:

— Кажуць, Баты-Гірэй ужо пад Чарнігавам... І гоніць столькі войска!..

— А то ж....

Уладзімір, які сядзіць побач з Хадасевічам, чымсьці занепакоены, глядзіць па баках, багата п'е, але не хмялее.

Хадасевіч весела кажа суседу:

— Чым добрыя татары, дык гэта тым, што прывозяць цудоўнае віно!

— А самі — не п'юць! — заўважае Карэцкі. — Вас, дурняў, спойваюць!

— Думаеш, атручанае? — блазнерыць Хадасевіч, быццам спужаўшыся: Не піце віна, атручанае! — Атрымаўшы асалоду ад панікі, што ўсчалася, весела дадае: — Усё аддавайце мне!

— Але ж і жартачкі ў цябе, баярын! — абураюцца госці.

Ева спатыкнулася, ледзьве не выпусціўшы кумган, медную пасудзіну з віном. Гледзячы на яе, Уладзімір няўдала павярнуўся і выліў келіх з віном на порткі Хадасевіча. Абураны баярын ускочыў, пачаў атрасаць з сябе віно.

— Нязграбны ты, князь, сёння!

Апусціўшы галаву, Уладзімір маўчыць.

Здалёк Карэцкі задумліва пазірае на абодвух.

У гарадскіх мурах — вежа. У ёй побач з гарматай — Сымон, Хадасевіч, Уладзімір, Карэцкі, Фердынанд, шляхціцы. Яны разглядваюць план умацаванняў горада. Фердынанд кажа Сымону:

— Вось кніга, што ты прасіў.

Сымон узяў кнігу, на вокладцы якой напісана «Пра таямніцы ратнага майстэрства», раскрыў і раптам застагнаў. На лбе яго выступілі кропелькі поту.

— Сымон, што з табой? — ускрыкнуў Ігар.

Усе назіраюць.

Сымон узняў вочы ад плана, выпрастаўся і пахіснуўся. Сціснуўшы зубы, абапёрся аб гармату.

Падтрымліваючы Сымона, Уладзімір кажа:

— Горача сёння. Мала адпачываеш, Сымоне. Хадзем, правяду.

— Працягвайце, — кажа Сымон.

Анастасія выходзіць з княжацкай спачывальні. Праз дзверы відаць лекараў у незвычайным адзенні. Яны ходзяць вакол Сымона, што ляжыць у ложку, і размаўляюць па-латыні.

Карэцкі запытальна пазірае на Анастасію:

— Ну, што?

— Блага…

Памаўчаўшы, Карэцкі выходзіць.

Служанка Сафія кажа Анастасіі:

— Не простая гэтая хвароба… Заморскія лекары не дапамогуць.

Княгіня запытальна глядзіць.

Сафія нягучна кажа:

— Трэба ісці да язычнікаў.

— Ты ўпэўнена?

— Колькі нашых людзей вылечылі!

Памаўчаўшы, Анастасія кажа:

— Я не магу яго пакінуць.

— Я пайду.

— Ведаеш дарогу?

— Не ўпершыню.

Вечар. Ад лесу да гарадской брамы падыходзяць дзве жанчыны, накрытыя цёмнымі накідкамі. Вартавы выходзіць насустрач.

— Яна са мной, — кажа Сафія.

Вартавы прапускае абедзвюх.



*Кадры з фільма «Анастасія Слуцкая» па сцэнарыі Анатоля Дзяледзіка.*





Княжацкія пакоі. На ложку ляжыць непрытомны Сымон. Побач Анастасія. За Сафіяй уваходзіць жанчына пад накідкай, скідвае яе. Гэта Ждана.

— Ты?! — ледзьве не ўскрыкнула Анастасія.

— Мяне прыслаў Крыва. Адыдзі.

Анастасія адышла. Сафія выходзіць.

Ждана падышла да Сымона, уважліва агледзела, выцягнула рукі наперад, стала рабіць пасы над яго целам і шаптаць: — Заклінаю і праклінаю ўсе духі нячыстыя, і ад злых людзей, і ад дому іх праганяю і аддаляю ўсялякую злабу, і хітрасць, і зайздрасць, і рэўнасць, звязанне, утрыманне, злостралянне, хітрае вока, язычнае ўядзенне, намовы, і ўсё, што шкоднае, і парады злых чалавек...

Раптам Ждана змоўкла, апусціла рукі, схіліла галаву.

Анастасія падышла, запытальна глядзіць:

— Дапамажы яму, Ждана!

— Ужо не ўратаваць.

— Не ўратаваць?! Памажы! — кажа Анастасія. — Я цябе азалачу!

— Яго атруцілі.

— Атруцілі?! Хто?!

— Думай сама.

У сутарэнні замка, у камеры катаванняў, кат раздзіраў прыгожае цела Евы. За катаваннямі назіраў князь Карэцкі. Накруціўшы яе доўгія шыкоўныя валасы на калаўрот, кат ціснуў на ручку калаўрота. Жанчына дзіка крычала, але катаванні працягваліся.

— Хто падбіў на гэта? Хто?! Кажы! Ну?!

Не вытрымаўшы пакут, Ева называе імя:

— Уладзімір!..

— Хто?!

— Князь Друцкі!..

Карэцкі выходзіць з сутарэння.

Пакоі княгіні. Карэцкі стаіць перад разгубленай Анастасіяй.

— Хто?! — перапытвае яна.

— Князь Уладзімір Друцкі, — кажа Карэцкі.

— Брат?! — Анастасія не хоча верыць.

— Табе вырашаць, — кажа Карэцкі.

Пасля доўгага маўчання яна вымаўляе:

— Буду маліцца, каб Сымон выжыў…

— Княгіня, што б ні здарылася, я з табой…

Пакоі Сымона. Гараць свечкі. Курыцца ладан. Князь прытомнее. Вакол баяры, святары, людзі з магістрата, шляхта. Сымон агледзеў усіх і прамовіў:

— У імя Айца і Сына і Святога Духа, — князь хрысціцца, — я, грэшны раб божы Сымон Алелькавіч, нікім не прымушаны, у здаровым розуме, на выпадак, калі Бог што вырашыць аб маім жыцці, даю тастамент свайму сыну і жонцы маёй… Загадваю, да ўзмужання Юрыя кіраваць княствам і горадам будзе — Анастасія!

Людзі світы незадаволена пераглянуліся. Хадасевіч развёў рукамі, выйшаў наперад:

— Мы паслухмяныя твайму загаду, княжа. Мы вельмі паважаем княгіню. Але ці здолее яна зараз кіраваць адна? Не ўсякі мужчына здолее. У цябе ёсць брат. Прызнач апекуном князя Уладзіміра Друцкага. Ён не толькі словамі, але і справамі даказаў сваю аддансць.

Анастасія і Карэцкі абменьваюцца позіркамі.

Сымон хмурыць бровы, сурова кажа:

— Загаду свайго не змяню — вы ўсе павінны падпарадкоўвацца княгіні! — Ён пераводзіць позірк на жонку, дадае: — А хто наважыцца бунтаваць, карай бязлітасна!

Незадаволеныя такім рашэннем князя, баяры і святары, людзі з магістрата панурыя выходзяць.

Сымону стала блага. Святар чытае малітву, прыкладвае да вуснаў Сымона крыж...

Татарскае войска рухаецца па дарозе, за ім ідуць падводы, кібіткі, коні, пешыя воіны, жанчыны-паланянкі... У акружэнні світы едзе Баты-Гірэй, здзіўлена вымаўляе:

— Бабу — на чале княства?! Можа, моцна перапілі?

— Ну, ужо зараз горад — наш! — ускліквае Мурад, які камандуе войскамі.

— Яшчэ ніколі мы не вялі столькі войска! Дваццаць тысяч!

— Пашлі грамату Уладзіміру, — кажа хан, — хай рыхтуе сустрэчу.

У галоўную залу са скруткам у руцэ амаль урываецца Карэцкі, шпарка падыходзіць да Анастасіі, працягвае пасланне. Яна стаіць за сталом, піша.

— Княгіня, гэта тэрмінова! Чытай! — ён разгортвае скрутак.

Анастасія прабягае па ім вачыма, глядзіць на Карэцкага.

— Уладзімір?! — княгіня ўражана.

— Вось зараз і вырашай! — кажа Карэцкі.

Анастасія прайшлася па зале, яна ў роздуме, вагаецца:

— Ці час? Татары падыходзяць.

Карэцкі настойвае:

— Горад — за цябе.

Анастасія рашуча вяртае скрутак Карэцкаму:

— Хай даведаюцца ўсе.

Гарадская плошча. Збіраецца натоўп. Хадасевіч і Базыль настройваюць гараджан супраць Анастасіі. Хітры Хадасевіч трымаецца ў цені, а прамалінейны Базыль сячэ з пляча:

— Бабу на княства?! Не! У іх волас доўгі, а розум — кароткі.

Яго падтрымалі:

— Дакладна! Князь Алелькавіч ад хваробы страціў розум!

— Бабы слабыя на адно месца, таму даваць ім уладу — аніяк нельга!

— Княству патрэбны дужая рука і мужчынская сіла!

— Прызначыць апякунскую раду!

— Князя Друцкага — у апекуны!

— Уладзімір абяцае вярнуць шляхце льготы і добра заплаціць кожнаму, хто яго падтрымае! — кажа Базыль.

— Хочам князя Друцкага! — крычаць у натоўпе.

— Уладзіміра на княжанне!

З усіх бакоў спяшаюцца прыхільнікі Друцкага. У іх у рукавах і пад адзеннем сякеры, мячы, дубінкі…

— Пачнём па сігнале! — кажа адзін з бунтароў.

У завулку чакае атрад конніцы на чале з Асланам. Абедзве групы рыхтуюцца да бітвы.

Расштурхоўваючы натоўп, у суправаджэнні варты, Карэцкі ідзе да памоста, узняўся, адсунуў магутным целам расчырванелага Базыля, разгортвае скрутак, паказвае ўсім. Натоўп сцішыўся. Да памоста выходзіць Анастасія.

— Гэта пасланне мы адабралі ў ханскага ганца, — кажа Карэцкі.

— Чытай! — настойваюць у натоўпе.

«Яснавяльможнага Вялікага князя Уладзіміра Друцкага вітае Крымскі хан Баты-Гірэй…»

Па натоўпе пракаціўся ўздых здзіўлення.

Як мы і дамаўляліся, — чытае Карэцкі, — я згодны, каб ты стаў на чале Слуцкага княства…»

Гул натоўпу ўзмацняецца. Вакол Уладзіміра ўтвараецца пустэча, усе ад яго адыходзяць. Хадасевіч таксама падаўся ўбок. Карэцкі чытае:

«Загадай княгіні рыхтаваць выкуп футрам, золатам і прыгожымі дзеўкамі».

Гул натоўпу нарастае. Карэцкі дачытвае апошнія словы:

«Адчыні браму да нашага прыходу, пра што я табе паведамлю загадзя. Баты-Гірэй», — Карэцкі паказаў скрутак на ўсе бакі.

Натоўп абурана гудзе.

Вартавыя сталі побач з Уладзімірам. Загнана ўсміхаючыся, ён істэрычна закрычаў:

— Прэч рукі, чэрнь! Я князь!

Анастасія моўчкі назірае за тым, што адбываецца на плошчы. Уладзімір узняў вочы на Анастасію.

— Я табе не здраджваў, княгіня! Я не мог зрабіць табе блага. Ты гэта ведаеш! Я хацеў выратаваць горад. Выкупам!

Анастасія кажа:

— Ты атруціў Сымона!

— Я зрабіў гэта дзеля цябе!

У натоўпе пачуліся крыкі:

— Смерць ліхадзею!

— Ганьба!

— На плаху!

— Чвартаваць!

— Камень на шыю і ў ваду!

— На кол яго!

Натоўп падхоплівае, гудзе:

—На кол! На кол! На кол!

Уладзімір абурана рассмяяўся:

— Князя — на кол?! Як можна?!

Карэцкі запытальна глядзіць на Анастасію. Натоўп сціхае, чакае рашэння княгіні.

Уладзімір з мальбой звяртаецца да княгіні:

— Злітуйся, Анастасія! Хрыстом Богам малю!

Пасля доўгага маўчання княгіня рэзка паварочваецца і сыходзіць.

— Злітуйся! — крычыць ёй наўздагон Уладзімір. — Я ж кахаю цябе!

Натоўп раве, хапае князя за рукі і ногі, нясе да месца пакарання.

Перадсмяротны крык Уладзіміра.

Убаку стаіць Хадасевіч з абыякавым тварам.

Бераг ракі. Цёплы летні дзень. Сямейнае гулянне на лужку. Аляксандра з Сафіяй і іншымі дзецьмі гуляе ў квача. Высока над вадой да галіны вярбы Аслан прымацаваў вяроўку, унізе зрабіў вузел, сказаў Юрыю:

— А зараз адштурхніся і скачы. Як мага далей!

Юры схапіў канец вяроўкі, разгойдаўся і, далёка праляцеўшы, спрытна скочыў у ваду. Вынырнуў, шчаслівы паплыў да берага.

— Здорава! — у захапленні вымавіў ён і зноў пабег назад.

Убаку Карэцкі кажа Анастасіі:

— Княгіня, спее змова.

Да іх падыходзіць Аслан.

— Я ведаю змоўшчыкаў, — працягвае Карэцкі. — Хадасевіч, Базыль, хтось з шляхты... Трэба ўзяць і пакараць.

Анастасія зморшчылася:

— Зноў? Пагадзілася пакараць Уладзіміра, а зараз кожную ноч бачу ў сне... Прыходзіць і глядзіць... А яму не было і дваццаці.

Яна пераводзіць позірк на Аслана. Ахоўнік спакойна кажа:

— Хай прыходзіць. А ты павярніся на іншы бок і спі...

— Можа, перадаць уладу якомусь з мужчын? Але каму?

Аслан пярэчыць:

— Калі татары побач? Назад дарогі няма. Будзеш мяккацелай, страціш не толькі княства.

Анастасія глядзіць на Юрыя, які скача ў ваду, на Аляксандру, што бяжыць за сабачкам.

— Святая Дзева, заступніца, памажы мне!

Зброевая майстэрня. Удары молата па кавадле, лязгат металу, мяхі раздзімаюць вуголле, ляцяць іскры... У клубах пары распалены метал шыпіць у вадзе... Немец Фердынанд падганяе крэмень да затвора ручніцы. Яго памочнікі адліваюць кулі. Дапамагаюць Фердынанду сыны-блізняты.

У майстэрню рашуча ўваходзіць Анастасія, за ёй ідзе Аслан.

— Фердынанд, — кажа яна, — мне патрэбныя баявыя меч і латы.

Немец прыжмурыўся, паглядзеў на яе кволую фігуру, адышоў убок, з некалькіх кальчуг выбраў адну і амаль кінуў ёй на рукі. Анастасія падхапіла кальчугу, ледзьве яе ўтрымала.

— Такая цяжкая? — збянтэжылася княгіня.

Фердынанд усміхнуўся. З мячоў ён выбраў лепшы, падаў Анастасіі.

— Ого! Колькі ён важыць?! — сказала княгіня. Паспрабавала фехтаваць з майстрам — не атрымалася. — Мне б — лягчэйшы, — вінавата папрасіла яна.

Фердынанд паглядзеў на дзетак:

— Пагуляйце.

Калі хлопчыкі выйшлі, немец спакойна, з акцэнтам вымавіў:

— Княгіня, калі перашкаджаюць мухі ды камары, дамы карыстаюцца веерам... Меч павінен быць цяжкі. Ім сякуць галовы, а не капусту.

— Я мядзведзя забіла — тонкай стралою!

— Майн Гот! У баі патрэбная — сіла! — кажа майстра.

— У баі патрэбныя розум, спрытнасць, хітрасць... — Яна выхоплівае нож з ножнаў на поясе Фердынанда і прыстаўляе да яго жывата. — Выкаваць мне лёгкі меч! — загадвае Анастасія.

— Бітэ, — павінуецца Фердынанд, — яволь.

Анастасія паварочваецца, хутка сыходзіць.

— Як ты размаўляеш з княгіняй?! — абураецца Аслан, узяўшы майстра за закаўрашы курткі.

— Яна мне плаціць не за прыязнасць, — стрымана сказаў Фердынанд, — а за добрасумленную работу.

— Хочаш, каб адсеклі галаву?!

— Я хачу, каб яна засталася...

Насустрач княгіні спяшаецца ўзрадаваная Сафія:

— Князь Міхаіл Глінскі! — служанка ўсміхнулася. — Такі прыгожанькі!

Анастасія зморшчылася:

— О Госпадзе! Скажы, што мяне няма!

— Але я ўжо... Кажуць, герцаг даў яму рыцарскае званне!

— Добра, няхай уваходзіць, — уздыхнула Анастасія.

Яна праходзіць у залу для прыёму гасцей. Неўзабаве туды ж увайшоў князь Міхаіл Глінскі, прыгожы стройны брунет.

— Яснавяльможнай княгіні Слуцкай Анастасіі хвала! — Ён галантна схіліў галаву.

— Вітаю вашу міласць, маршалак літоўскі, — адказвае княгіня.

Глінскі падносіць падарункі і дзіўнага звярка ў клетцы. Анастасія непрыхільна глядзіць на звярка.

— Я гэтых пачвараў не выношу! — ёй падалося, быццам на плячы сядзеў павук. — Ой, што гэта? Кузурка?!

— Травінка, — Глінскі асцярожна скінуў травінку з яе сукенкі.

— Павукоў баюся больш, чым татар!

Глінскі рассмяяўся. Анастасія збянтэжылася:

— Даруй, князь. Забыла, што ў цябе — татарская кроў...

— Нічога, прывык. — Ён перавёў пагляд на вялікі дыван на сцяне з партрэтам Сымона, уздыхнуў. — Паводле маіх звестак, сюды ідзе дваццацітысячнае войска Баты-Гірэя. Цяжка табе прыйдзецца!

— Што ты прапануеш? — кажа Анастасія.

— Дужую мужчынскую руку. — Пасля паўзы Глінскі дадае: — І сэрца.

Анастасія ўздыхнула:

— Дужая рука твая — мне патрэбная, а сэрца прыняць не магу.

Памаўчаўшы, Глінскі кажа:

— Памятаеш, перад паляваннем, ты памчала ў лес? Гарэзлівая, распаленая... Анастасія, ты даўно мне падабаешся. Будзь маёй жонкай!

Княгіня ўважліва разглядае Глінскага:

— Яшчэ не скончылася жалоба па Сымону. І ўвогуле, замуж не збіраюся.

— Ты мне патрэбная, — кажа Глінскі.

Анастасія ўсміхнулася:

— Я ці княства?

Глінскі шчыры:

— І ты, і княства…

Нечакана ён абняў яе, пацалаваў. Княгіня ўляпіла гучную аплявуху.

— У цябе такія галодныя вочы! — шаптаў ён. — Я ж бачу, гарыш ад жарсці!.. Я такі самы! Анастасія, ты народзіш мне спадкаемца Слуцкага княства!

— У княства ёсць спадкаемца — Юры!

І яму знойдзем месца... — Ён накінуўся на яе, пачаў ірваць адзенне. — Мне яшчэ ніхто не адмаўляў! А хто супраціўляўся, таго браў сілай!..

Анастасія ўдарыла яго каленам. Глінскі войкнуў, скурчыўся.

— Варта! — крыкнула Анастасія. Калі ахова ўвайшла, яна загадала: — Праводзьце князя, ён нездаровы.

Павярнуўшыся да Глінскага, прыгразіла:

— Каб тут цябе больш ніколі не было! Рыцар…

Калі стражнікі вывелі Глінскага, распаленая княгіня загадала служанцы:

— Сафія, вядро халоднай вады! Хутка!

Дзяўчына незаўважна ўсміхнулася і паспяшалася прынесці ваду.

Анастасія схапіла вядро і, не зняўшы вопраткі, абліла сябе халоднай вадой.

З групай вершнікаў пахмурны Глінскі выязджаў з брамы. І тут блазен і гаварун Якуб, як заўжды нецвярозы, скінуў зверху вялікі гарбуз перад канём князя. Конь спужана ўзвіўся на дыбы, ледзьве не скінуўшы седака. Адзін з вершнікаў збянтэжана заўважыў:

— Паводле народнага звычаю — гэта адмова нявесты жаніху... Бы дулю паказаць!

Глінскі паглядзеў угару — на мурах стаялі гараджане і смяяліся.

— Ах, так?! Я вазьму горад і прымушу яе мыць мне ногі! Эскадрон, наперад!

Глінскі і яго людзі кінуліся на варту. Завязалася жорсткая бойка.

Гараджане моцна пабілі гасцей, ім прыйшлося ўцякаць...

— Вось дык жанішок! — здзіўлена сказаў Якуб пасля сутычкі, аціраючы пот з ілба. — Гарачы!

Уладыка і Анастасія ідуць па плошчы непадалёк ад царквы.

— Час цяжкі, княгіня, — кажа святар. — Ідзе новы Армагедон! Табе нельга заставацца адной.

— Чаму?

— На чале княства павінен стаяць мужчына! З дужай рукой. Бо стварыў Гасподзь Еву з рабра Адамава...

— Ведаю — незадаволена кажа Анастасія.

— Ваяваць — не жаночая справа.

Памаўчалі.

— Уладыка, па Сымону і года не мінула…

— Дзеля народа, паствы Хрыстовай, я дам блаславенне.

Уладыка глядзіць запытальна. Анастасія маўчыць.

— Альбо дай зарок бясшлюбнасці, — кажа ён і сыходзіць.

Анастасія доўга глядзіць яму ўслед.

Гаманлівае і радаснае свята ў лесе — язычніцкае вяселле. Вялікае вогнішча на паляне. Граюць жалейкі. Дзяўчаты і юнакі, упрыгожаныя галінамі, лісцем, доўгай травой, спяваюць і скачуць. Пазіраючы на маладых, што весяляцца наўкол, Крыва, пераадольваючы прыступ кашлю, задыхаючыся, кажа Будзіміру:

— Сын, я доўга не пражыву… Ці не час ажаніцца? Ждана — дзяўчына неблагая.

Паназіраўшы за танцам Жданы, Будзімір уздыхнуў:

— Калі б мог забыць іншую...

— Яна не для цябе. Не можа птушка горняя пасябраваць з зямной.

— Мы людзі, бацька. І здолеем зразумець адно аднаго.

— Ты мусіш захаваць наш род і звычаі.

— Так і будзе.

Крыва спытаў:

— Для каго ты будуеш такі вялікі дом?

Будзімір перавёў пагляд на дом на прасмоленых дубовых палях, адказаў не адразу:

— Неўзабаве даведаешся.

Гасцёўня княжацкага замка. Пяць-шэсць князёў-суседзяў са сваімі світамі сядзяць за сталом, шчодра застаўленым прысмакамі, бутэлькамі з вінОм, гарлачамі з півам. Госці горача гамоняць. Захмялелы князь кажа другому:

— Вось неяк на паляванні падстрэліў ліса. Хвост — тры аршыны! Януш не дасць зманіць.

Януш паглядзеў на выхваляку і наступіў на яго нагу.

— Ну, не тры аршыны, а два, — паправіўся хвалько.

Януш зноў наступіў на яго нагу. Зморшчыўшыся, першы князь здзіўлена глянуў на Януша:

— Януш, халера ясна, дык што — у ліса зусім не было хваста?!

Усе засмяяліся. Пануры князь Кішка нават не ўсміхнуўся, спыніў агульную весялосць:

— А ты ўсё паляваннем забаўляешся?

— А чым яшчэ?

— Неўзабаве не да гэтага будзе.

Усе сталі сур'ёзныя, загаварылі пра тое, што непакоіла кожнага:

— Васілій Маскоўскі даўно на Смаленск пазірае!

— А яго міласць, Вялікі князь Літоўскі Аляксандр, зусім хворы, даўно не ўстае.

— Глінскага да сябе наблізіў і пралічыўся!

— Я чуў, што маскавіты і Баты-Гірэй ганцоў адзін да аднаго дасылалі. Ужо ж ці не на нашую бяду?

— Кожны абараняецца, як можа. Добра, што Сымон умацаваў Слуцк перад новым нашэсцем. А вось абарону горада ўзначаліць няма каму...

— Чуў я, што ўладыка блаславіў Анастасію на новы шлюб. Ці не таму паклікала?

— Так яно і ёсць! — радасна ўсклікнуў малады князь, папраўляючы вусы. — Яна жадае выбраць самага годнага!

Усе засмяяліся.

Увайшлі Анастасія, Карэцкі, Аслан. Госці ўсталі.

— Вітаю яснавяльможных гасцей! — абвяла вачыма гасцёўню княгіня.

Князі пакланіліся. Малады князь узняў кубак.

— Вялікай княгіні Слуцкай Анастасіі — віват!

Госці ўзнялі кубкі, згодна выпілі.

— Прашу сядаць, — папрасіла Анастасія.

Госці селі.

— Панове, я запрасіла вас для важнай размовы... — Яна агледзела ўсіх. — Нешта я не бачу князя Глінскага. Ці здаровы ён? Ці мае крыўду на нас? — ледзьве заўважна ўсміхнулася.

— Узняў мяцеж, але яго не падтрымалі, — паведаміў адзін з князёў.

— Вось як! — здзівілася княгіня.

— Уцёк у Масковію да Васілія...

— Ён заўжды быў авантурыстам, — дадаў сталы князь.

Анастасія працягвала:

— Нам варта падумаць пра абарону нашых земляў. Крымскія татары блізка. Неўзабаве зноў пойдуць загонамі на нашыя княствы, будуць рабаваць і забіваць, патрабаваць ясак. І мы зноў застанёмся без зерня, футра, без коней і жывёлы... Але самае жахлівае — яны забяруць жанчын і дзяцей...

Сталы князь нервова пастукваў па стале пальцамі, ён не дакрануўся ні да віна, ні да ежы, пахмурна перабіў:

— Што прапануе княгіня?

Анастасія чакала гэтага пытання:

— Мы павінны аб'яднацца і даць крымчакам знішчальны адпор. Інакш нападаў не спыніць.

Князь Кішка ўсміхнуўся:

— Яснавяльможная пані спадзяецца, што нейкая там дамова ўратуе?

— Я думаю не толькі пра сябе. Кожны горад, кожнае княства павінна мець атрад, які прыйдзе на дапамогу суседу. Мы стварылі атрад панцырных рэйтараў. Вось камандзір — палкоўнік Аслан Гаджыеў. Аслан, што стаяў ля дзвярэй, крыху нахіліў галаву.

Пануры князь паблажліва ўсміхнуўся:

— Хочаце біцца з татарамі ў чыстым полі? Яны — прыроджаныя вершнікі. Дзе там нашым! Баты-Гірэй вядзе дваццаць тысяч такіх галаварэзаў!

Княгіня запярэчыла:

— У Тэўтонскага ордэна крыжакоў было болей! Але палякі, ліцвіны і смаляне — перамаглі пры Грунвальдзе! Таму што аб'ядналіся!

Князі маўчалі. Адзін з іх, мяркуючы паводле адзення і пярсцёнкаў на пальцах, дужа заможны, сказаў:

— А ў мяне футра, зерня і золата хопіць, каб адкупіцца.

Пануры князь запярэчыў:

— Ад татар надзейней абароняць гарадскія муры. Вось іх і будзем умацоўваць.

Анастасія самотна папракнула:

— Кожны — за сябе?!

Усе моўчкі апусцілі галовы ці глядзелі ў акно.

Пабачыўшы рэакцыю князей, Анастасія з букета, што стаяў на стале, вырвала ружу, пераламала яе, пасля выцягнула ўвесь ахапак, кінула на стол.

— А зараз — паламіце ўсе адразу!

Кропелька крыві з пальца Анастасіі ўпала ў келіх з белым віном. Анастасія працягвала:

— Вось так і нас пераб'юць па адным! Вы гэтага хочаце?

Запанавала доўгае маўчанне.

Малады князь прапанаваў:

— Яснавяльможная Анастасія! Я дашлю паштовых галубоў. У выніку нападу — выпусці!.. Панове! За пекную княгіню — п'ём стоячы!

Ён узняў кубак. Астатнія кубкі таксама ўзняліся ўгору.

Княгіня гаротна сказала:

— Шкада. Сто год таму, пры Грунвальдзе, нашыя продкі былі мудрэйшыя!

Яна павярнулася і выйшла.

Анастасія глядзела ў акно, як раз'язджаюцца госці. Увайшоў Аслан, сказаў:

— Калі татары падыдуць да іх муроў, яны горка пашкадуюць!

— А што нам з гэтага?! — сказала яна са слязьмі на вачах. Памаўчаўшы, дадала: — Гэта я вінаватая. Не магла іх пераканаць...

— Іх пераканаюць татары... — стаяў на сваім Аслан.

Памаўчаўшы, княгіня сказала:

— Сёння ж пашлі людзей па наймітаў — да венграў, палякаў, шведаў...

— Дорага просяць!

— Пагаджайся! Не да каляды, калі поўная хата біды.

Ваенная рада адбывалася ў галоўнай вежы. Гледзячы на схему абарончых умацаванняў, што ляжала на століку, Анастасія запытала:

— Ці ўсё мы прадугледзелі?

— Усё прадугледзець немагчыма, — адказаў Фердынанд. — Татары хітрыя, ваююць сотні год... Кожны раз мяняюць тактыку...

— І ўсё ж такі, якія могуць быць нечаканасці?

Карэцкі сумна ўсміхнуўся:

— Пра гэта добра было б даведацца ў татар... Што яны выкінуць на гэты раз?

Фердынанд заўважыў:

— Мы павінны перамагчы іх у ваенных хітрасцях.

— Хадзем уніз, паглядзім, — прапанавала княгіня.

Усе пачалі спускацца па сходах. Хадасевіч ішоў апошні. Ён хутка згарнуў схему ўмацаванняў у скрутак, але, сутыкнуўшыся позіркам з Асланам, паклаў схему на столік.

— Як з запасамі харчоў? — спытала княгіня ў Хадасевіча.

Баярын адказаў:

— Для гараджан да зімы хопіць. А на халады татары не застаюцца. Але да нас прыбягуць людзі з бліжэйшых вёсак...

— Папоўніш запасы!— загадала княгіня.

Да іх падышоў мастак, мяркуючы па капелюшы, па адзенні, не тутэйшы. На аркушы паперы ён пачаў рабіць накіды да партрэта Анастасіі. Княгіні гэта не падабалася, але яна прамаўчала.

Сябры ваеннай рады выйшлі з крэпасці, спыніліся ля глыбокай ямы, на дне якой цесляры ладзілі рамы з завостраным коллем, зуб'ем дагары, тыпу «барана». Прыбег Юры з сабачкам, з цікавасцю назіраў за работай цесляроў.

Баярын Хадасевіч няўхвальна сказаў:

— Уяўляю, як будуць пакутаваць на коллі!

Паглядзеўшы на сына, княгіня адказала:

— З ваўкамі — па-воўчы! Не мы рабуем і забіваем!

Далей Анастасія і сябры ваеннай рады накіраваліся да другога эшалона абароны, там землякопы капалі ямы і закладвалі бочкі з порахам.

— А гэта што будзе? — спытаўся Юры.

Фердынанд усміхнуўся:

— Феерверк, ад якога татарам непаздаровіцца!

Анастасія хацела пайсці далей, але мастак папрасіў з акцэнтам:

— Княгіня, яшчэ нядоўга! — ён паспешліва рабіў накіды.

Анастасія пастаяла некаторы час, незадаволена пакруціла галавой:

— Не магу я стаяць без справы!

— Княгіня! Гэта для гісторыі!

— Гісторыя цудоўна абыдзецца без мяне!— сказала яна і пайшла далей.

Мастак засмучана развёў рукамі. Юры рассмяяўся, пабег па сцяжынцы, падскокваючы і збіваючы бур'ян палкай.

— Наперад! Смерць басурманам!

Анастасія глядзіць на сына, задумліва кажа Карэцкаму:

— Няўжо і яму ўсё жыццё прыйдзецца ваяваць? Чаму на сваёй зямлі мы не можам жыць спакойна, мірна? Няхай у мяне такі лёс... Але няўжо і нашым дзецям прыйдзецца ваяваць? Князь, хіба чалавек створаны для вайны?

Карэцкі ўздыхнуў:

— Аднаму Богу вядома, дзеля чаго створаны чалавек! — але яму не хочацца засмучаць княгіню, і ён кажа: — Калі-небудзь людзі не будуць ваяваць.

Хадасевіч скептычна ўсміхнуўся. Фердынанд, які чуў размову, здзіўлена ўсклікнуў:

— Донэр ветэр! Пра што ён кажа? Колькі існуе чалавек, столькі ваюе. Не было жаднага дня, каб хтосьці з кімсьці не ваяваў! Ці гісторыі не ведаеце? І так будзе — заўжды!

Хадасевіч насмешліва сказаў:

— А немец — аптыміст!

Фердынанд скончыў размову:

— Таму, як казалі рымляне, хочаш міру — рыхтуйся да вайны!

Аднойчы ўвечары, лежачы ў ложку, пры свечках Анастасія чытала кнігу «О премудростях ратного ремесла», акуратна перагортваючы пергаментныя старонкі важкага фаліянта, і раптам за дзвярыма пачула шоргат. Княгіня адклала кнігу, дастала з-пад падушкі нож, ціхенька падышла да дзвярэй і рэзка расчыніла. Там стаяў Будзімір.

— Ты?! Як ты сюды трапіў?

Будзімір зачаравана глядзеў на яе.

— Ты стала яшчэ прыгажэйшай!

— Але стражнікі, ахова?

— Няўжо мяне хто-небудзь спыніць? Прыплыў пад вадой…

— З Вадзянікам? — усміхнулася Анастасія.

— Ён застаўся чакаць на беразе...

Яна дакранулася да яго адзення.

— Ты ўвесь мокры!

Будзімір працягнуў да яе рукі, абняў.

— Пачакай, — сказала Анастасія. — Ідзём, дам сухое.

З камоды Анастасія дастала кашулю і падала Будзіміру.

Пераапранаючыся, ён сказаў:

— Ведаю, ты засталася адна.

— Я не адна, у мяне дзеці.

— Ці зможаш ты сябе абараніць?

— Я мушу абараніць сваіх дзяцей.

Агледзеўшы пакой, перавёў пагляд на ікону з распяццем Хрыста, доўга глядзеў.

— Будзімір, пахрысціся, — мякка і нягучна прапанавала Анастасія.

Ён адмоўна пакруціў галавой:

— Не хачу быць божым рабом.

— Хіба я — рабыня?

— У царкве стаіш укленчыўшы?

Памаўчаўшы, Анастасія сказала:

— Будзімір, прымі Бога! У цяжкую хвіліну ён дапаможа табе!

Язычнік сумна запярэчыў:

— Што ж не дапамог ён твайму мужу? Не вызваліў Аляксандру? Не абараняе ад татар? Анастасія, спадзявацца трэба — толькі на сябе!

— Хрысціянства прынясе асвету твайму народу, пісьменнасць!

— І адбярэ святы, весялосць, радасць! Людзі больш не будуць усміхацца. Толькі і будуць што каяцца ў грахах!.. Анастасія, чалавек створаны дзеля радасці!

— Малітвай мы ачышчаем душу. А ты здабываеш веру, надзею, любоў!

Будзімір уздыхнуў, гаротна сказаў:

— Мячом і тапаром прайшлі хрысціяне па маім народзе, загналі ў балота, многіх забілі... Ці лёгка забыць?

— Зараз усё будзе па-іншаму. Я такога не дазволю! Мы — адзін народ!

— Думаеш, у цябе атрымаецца захаваць уладу? Ваўкі ў горадзе — страшнейшыя за лясных! Тыя прагнуць наталіць голад. А гэтыя — заб'юць усіх, хто стане на шляху да ўлады і багацця!.. На ўсё пойдуць, каб атрымаць гэта! Ты жывеш — на парахавой бочцы!

Княгіня задумалася. Будзімір сказаў:

— Анастасія, забірай дзяцей і хадзем са мной... У дуброве я будую дом. Там мы будзем разам!

Са слязьмі на вачах Анастасія сказала:

— Не, Будзімір. Я хачу быць з табой. Але маё месца — тут. Людзі паверылі і разлічваюць на мяне...

— Што табе людзі? Калі ім будзе выгода, здрадзяць, прададуць... Ты павінна жыць дзеля сябе, дзеля дзяцей!.. — ён паправіў ёй валасы. — Мілая мая, любая, пяшчотная... Ты мне патрэбна!

Анастасія разумее, што разам ім не быць, круціць галавой і плача...

Памаўчаўшы, Будзімір кажа:

— Калі табе спатрэбіцца мая дапамога — пакліч! — і выходзіць з пакоя.

Анастасія раптам спынілася, накінула на сябе накідку, выйшла з замка, накіравалася да царквы.

Горад спаў. Пачынала днець.

Княгіня ўвайшла ў царкву. Гарэлі свечкі. Яна падышла да іканастаса, спынілася перад распяццем Хрыста, ледзьве чутна вымавіла:

— Госпадзе! Што рабіць? Як быць? Ці змагу я? А можа, кінуць усё?! І перадаць каму з мужчын?! Але каму? І ці здолеюць яны?.. Дай мне розуму, Госпадзе! Дай сілы і ясную галаву!..

Узышло сонца. Са сцяны храма прамень сонца спакваля перайшоў на аблічча Хрыста, асвятліў яго. Анастасія зразумела — гэта быў знак...

— Дзякуй табе, Госпадзе! Я дам зарок бясшлюбнасці...

Ціхі ранак. Па нізінах сцелецца туман. Дзесьці за лесам узыходзіць сонца. Удалечыні ад горада на ўскрайку лесу з'яўляецца невялікая група татар. На дзідзе ў першага вершніка развяваецца белае палотнішча — парламенцёры. Дазорныя на гарадскіх мурах іх заўважаюць, падаюць сігнал трывогі. Са зброяй у руках гараджане спяшаюцца на гарадскія муры. За брамай збіраецца дружына, воіны гатовыя сустрэць першы ўдар.

Група татарскіх вершнікаў, не спяшаючыся, рухаецца па дарозе да брамы горада.

Анастасія з абаронцамі стаяць на мурах, назіраюць.

— Гэта яна! — кажа хану адзін з воінаў.

Баты-Гірэй пад'ехаў яшчэ бліжэй, — на ім залаты шлем з каштоўнымі камянямі, штоззяюць на сонцы, дарагія латы, — уважліва паглядзеў на княгіню, нягучна сказаў сваім воям:

— Ладная кабыліца!

Звярнуўшыся да Анастасіі, усміхнуўся:

— Мір вам, добрыя людзі!

— І вам мір, калі прыйшлі з дабром, — адказала Анастасія.

— Я — Крымскі хан, Баты-Гірэй. Хачу пагаварыць з княгіняй. Выходзьце на перамовы.

На мурах занепакоіліся:

— Княгіня! Ні за што!

— Заб'е!

— Захопіць! Забярэ ў палон!

— Хану верыць нельга!

Падумаўшы, Анастасія вырашае:

— Трэба ехаць. Можа, атрымаецца дамовіцца... Сафія, беражы дзяцей. Аслан і вы ўтрох — паедзеце са мной.

Анастасія садзіцца на каня, загадвае Карэцкаму:

— Князь, застаешся замест мяне. Калі не вярнуся, узначаліш абарону горада.

Узнялася брама. Княгіня і ахова выехалі з брамы, накіраваліся ў поле.

— Я вітаю вялікую княгіню! — прыязна сказаў Баты-Гірэй, пільна разглядаючы Анастасію.

— Я вітаю вялікага хана, — стрымана адказала княгіня.

— Мы не хочам вас заваёўваць, — лагодна сказаў хан. — Навошта нам ваш халодны край, балоты? І мы не звяры, не хочам крыві. Але мы мацнейшыя. А слабейшы заўжды падпарадкоўваецца, плаціць альбо гіне. Вы павінны здаць горад, заплаціць ясак, і мы пойдзем далей.

На мурах Якуб спытаў:

— Што ён там балбоча? Можа, сватацца прыехаў?

— Сціхні, ты! — прыкрыкнулі на яго воіны, усім было не да жартаў.

— Угаворвае здаць горад, — адказаў Карэцкі.

— Адкуль ведаеш? — спытаў Якуб.

— Чытаю па губах.

— Вось яму! — Якуб паказаў фігу, быццам хан мог яе разгледзець.

У полі Анастасія сказала хану:

— Навошта — здаваць горад?

Баты-Гірэй прастадушна патлумачыў:

— Хочам паглядзець, што ў вас ёсць, як вы жывяце.

— Але ж і хітры басурманін! — абурыўся Якуб, пачуўшы пераклад Карэцкага. — Чумазлай!

У полі княгіня сказала хану:

— Мы згодны плаціць даніну. Але гэта будзе — апошні набег.Так?

— Ну, абяцаць не магу, — працягнуў хан.

— Браць палонных не будзеце, — сказала княгіня. — Так?

Хан цяжка ўздыхнуў:

— Крыху возьмем. Думаеш, мне патрэбныя гэтыя набегі? Туркі просяць для гарэмаў. Вашыя дзяўчаты і хлопцы — самы дарагі тавар!

— Тады — не! — цвёрда адказала княгіня.

— За намі, — Баты-Гірэй паказаў за спінай — многа-многа войска. Цьма! Вам не ўстаяць. Навошта лішняя кроў? Адкрыйце браму.

На мурах Карэцкі пераклаў. Якуб зноў не стрымаўся:

— Сукін сын! Прымчаў з нейкай Тмутаракані і камандуе!

У полі княгіня ветліва, але яшчэ больш рашуча заявіла хану:

— Не! Гэтага не будзе!

Хан усміхнуўся:

— Ці павінна такая ханым, жанчына, ваяваць з мужчынам?

— А ці павінен такі мужчына, — адказала Анастасія, — рабаваць і забіваць?

Баты-Гірэй усміхнуўся:

— Разбярэмся, калі станеш маёй наложніцай!

Татары засмяяліся. Усміхнулася і Анастасія:

— Наложніцай?! Калі рак на гары свісне!

Хан спытаўся ў сваіх, што гэта азначае. Яму з цяжкасцю патлумачылі.

— Рыхтуйцеся, няверныя, да смерці! — жорстка сказаў хан. — Вам усім будзе хана!

— Паглядзім! — адказала Анастасія. Яна прышпорыла каня і накіравалася да брамы.

Мурад жэстам даў знак воінам дагнаць княгіню, але хан яго спыніў:

— Нікуды яна не дзенецца! — усміхаючыся, патлумачыў памочніку: — Хачу пагуляць. Бачыў кошку з мышкай? — Ад'язджаючы ад брамы, весела сказаў: — А яна — не дурная! Розныя ў мяне рабыні. А вось такой — не было! Ну, што, Мурад, возьмем горад?

— Няма такіх крэпасцей, якіх бы татары не ўзялі, — упэўнена адказаў камандуючы войскамі.

Хан усміхнуўся.

Татары вяртаюцца да асноўных сілаў.

Анастасія ўехала ў горад, злезла з каня, зняла шлем, шпарка накіравалася да студні. Рукі яе дрыжалі. Яна ўзяла вядро з вадой і прагна, абліваючыся, піла.

Аслан выцер пот з ілба.

Гарадская плошча. З вежы трывожна гучыць горн. На плошчы збіраюцца дружыннікі. Карэцкі кіруе пастраеннем, аддае загады. Воіны ўздымаюцца на гарадскія муры, разбіраюць зброю і размяшчаюцца на верхніх пляцоўках муроў. Лучнікі раскладваюць перад сабой стрэлы. Побач з гарматамі ладзяць вогнішчы для запальвання кнотаў. Палаюць агні пад чанамі са смалой і вадой. У гарматы забіваюць снарады і ў жаралы закатваюць ядры.

Узышоўшы на мур ля брамы і агледзеўшы горад, княгіня дае каманду:

— Падрыхтавацца да бою!

Гучыць ваяўнічы сігнал ражка.

Адкрываецца гарадская брама. Дружына на чале з Карэцкім выходзіць з брамы, спыняецца перад замаскіраванымі воўчымі ямамі з вострым коллем на дне. Воіны расцягваюцца ланцугом перад мурамі горада.

Трывожная цішыня чакання. Змоўклі нават птушкі. Напружаныя твары на мурах — воінаў, простых мужчын і жанчын, старых і дзяцей. І раптам зводдаля нарастае гул, грукат капытоў. З-за пагоркаў шыро-

кай чорнай стужкай з'яўляецца лавіна татарскай конніцы і з ваяўнічымі крыкамі накіроўваецца да дружыннікаў, што стаяць перад мурамі. На дрэўках развяваюцца палотнішчы з паўмесяцам.

Твары дружыннікаў знешне спакойныя. І толькі напружаныя кісці рук, што да болю сціскаюць зброю, выдаюць іх стан.

Не даехаўшы некалькі дзесяткаў метраў да дружыннікаў, татарскія вершнікі разам з конямі падаюць у замаскіраваныя воўчыя ямы і рвы, натыкаюцца на колле. Крыкі жаху, болю, збянтэжанасці...

Атака захлынулася. Першыя шэрагі патрапілі ў ямы, сярэднія па іх спрабуюць прайсці далей. Некаторым вершнікам гэта ўдаецца. Дружыннікі напагатове — дзейнічаюць мушкеты, арбалеты, лучнікі са стрэламі... Кароткі рукапашны бой.

Татар, што прарваліся, дружыннікі перабілі. Захопнікі, што засталіся жывымі, пад градам стрэл бегма вяртаюцца на зыходную пазіцыю.

Баты-Гірэй, які назіраў за боем, злосна сплюнуў, роспачна прамовіў:

— Шайтан-Баба! Ну, што ж, тым больш страшным будзе пакаранне... Нікога не пакінем у жывых! А горад спалім!

Гледзячы на войскі, што стаяць за ім, хан пераводзіць пагляд на Мурада, паказвае рукой — наперад!

На дзідах уздымаюцца сцяжкі. Грыміць вялізны барабан на колах — чатыры аголеныя чалавекі б'юць магутнымі булавамі, грукат разносіцца далёка навокал.

І рынулася да горада пешае татарскае войска, узброенае шаблямі, лукамі, дзідамі, лесвіцамі і вяроўкамі. За пехацінцамі коні цягнуць цяжкія кідальныя гарматы, балістыты.

Па сігнале з муроў дружына таропка вяртаецца ў горад, забіраючы з сабой параненых.

Татарскія пехацінцы набліжаюцца да муроў горада. З замаскіраваных акопаў за імі цікуюць слуцкія воіны. У руках яны трымаюць напагатове кноты, каб у патрэбны момант узарваць бочкі з порахам. Напярэдадні бочкі былі ўпотай закапаныя па перыметры гарадскіх муроў. Гэта другі абарончы рубеж на подступах да горада.

Наблізіўшыся да выкрытых воўчых ямаў, татарскія пехацінцы кідаюць у іх вязанкі галля, з дапамогай іх намерваючыся перабрацца праз роў з вадой.

Як толькі татарскае войска параўнялася з закапанымі бочкамі з порахам, Анастасія, якая стаяла на вежы, скамандавала:

— Агонь!

Стрэліла гармата. Гэта быў сігнал для падрыву бочак з порахам. Гараджане, што знаходзіліся ў схоўнях, падпалілі кноты і па схаваных траншэях шпарка пабеглі назад. Адна за другой пачынаюць узрывацца бочкі, ствараючы суцэльную сцяну агню пад нагамі татар. Паніка сярод татарскіх пехацінцаў — пад імі ўзрываецца і гарыць зямля! Крыкі жаху, стогны, лямант... Чорны дым засцілае татарскае войска. Татары, што засталіся ў жывых, спяшаюцца адысці на зыходныя пазіцыі.

Дым рассейваецца. Са схоўняў слуцкія воіны бягуць да горада паўз варожыя целы, якія гараць, сцякаюць крывёю. Сярод случчан таксама ёсць і параненыя, і кантужаныя, і забітыя... Над нерухомымі целамі кружаць чорныя птушкі...

Татарскі стан. Ноч. У шатры Баты-Гірэй сядзіць на бастархане, разгортвае скрутак. Гэта план умацаванняў Слуцка. Хан уздымае вочы, глядзіць на Базыля:

— Што ж не прынёс раней? Чакаў, пакуль мае лепшыя коннікі ў пасткі патрапяць?

— Даруй, вялікі хан! Раней не мог — сачылі.

Хан пільна вывучае схему ўмацаванняў, паказвае на палосы воўчых ям і бочак з порахам.

— Гэта яна прыдумала?

— Так.

— Няўжо абаронай кіруе жанчына?

— Так, вялікі хан, княгіня Анастасія.

— Відаць, я яе недаацаніў... Дзе шайтан не можа, туды бабу пашле!.. Адзінокая?

— Многія сваталіся пасля смерці Сымона. Толькі яна ўсім адмаўляе.

— Што ж, — злосна ўсміхнуўся Баты-Гірэй, — у мяне такой упартай не будзе!.. Дзе лепш весці падкоп?

Базыль доўга глядзіць на схему і тоўстым пальцам паказвае:

— Вось тут, побач з вежай — тонкія муры, пясок… Унутры — парахавыя клеці. Калі рвануць — усё разнясе да чортавай мацеры!

Пасля доўгага маўчання хан кажа:

— Калі зманіў, не ўзарвём мур — павесім.

Крапасныя муры. Ноч. Варта пільна глядзіць па баках. Анастасія прыпала да мура, дрэмле.

— Княгіня, татары!

Анастасія адразу ж усхапілася, рушыла за стражнікам.

З муроў яна глядзіць у поле і бачыць, як набліжаецца конніца з факельшчыкамі на конях.

— Рыхтуйце пажарную каманду! — кажа Анастасія.

Чуецца бой барабанаў, шум, крыкі воінаў.

Факельшчыкі набліжаюцца да горада. Кожны з іх трымае па два факелы. Воіны спыняюцца перад ровам. Па баках ад кожнага факельшчыка — па атрадзе конных лучнікаў. Рухаючыся па коле, яны адзін за адным пад'язджаюць да факельшчыкаў, падпальваюць стрэлы, абматаныя прасмаленым пакуллем. Пасля гэтага набліжаюцца да рова і пасылаюць стрэлы з палаючым пакуллем праз гарадскія муры.

— Яны хочуць спаліць горад! — кажа Анастасія Карэцкаму. — Ваду — на дахі!

Звоняць званы.

З вёдрамі, баграмі, лесвіцамі гараджане бягуць да дамоў, ахопленых агнём.

Ля крапасных муроў, з тылавага боку горада, невялікая група татар употай, бясшумна перапраўляецца праз роў на двух плытах з ча-

роту, перавязанага лазой. Пераплыўшы роў, яны здымаюць з плытоў скураныя мяхі і пустыя скураныя вёдры, рыдлёўкі, матыкі. Плыты выцягваюць на сушу і прыладжваюць да мура. Пад іх прыкрыццём пачынаюць падкоп. Некалькі чалавек са зброяй стаяць на варце.

Рыдлёўкамі і матыкамі татары пад зямлёй пракладваюць невысокі і вузкі тунель, ставяць умацаванні пад дах і выносяць у вёдрах выкапаную зямлю. Работа ідзе канвеерам, і ім удаецца значна прасунуцца наперад.

Выносячы з парахавога склепа мех з порахам, адзін са слуцкіх воінаў прыслухаўся, пабег наверх, да Фердынанда:

— Татары робяць падкоп!

Спусціўшыся ў парахавы склеп і прыслухаўшыся, Фердынанд загадвае:

— Вынесці порах! Закаціць гармату!

Здалёк відаць, што ў горадзе пачаліся пажары. Усе, хто не змагаюцца на мурах, намагаюцца тушыць — пажарныя, рамеснікі, жанчыны, падлеткі... Вакол — невыносная гарачыня. Перш, чым кінуцца ў бойку, абаронцы абліваюць сябе вадой. Гараць і падаюць уніз дахі,уздымаючы ў неба тысячы іскраў.

У полымі гінуць людзі, жывёлы...

Непадалёк ад горада атрады татар з Баты-Гірэем чакаюць выбуху пад мурам, каб рынуцца ў пралом сцяны.

— Штосьці доўга капаюцца, — кажа Мурад.

Раптам чуецца глухі выбух. І адразу за ім — другі выбух, больш моцны — асвятляе мясцовасць навокал, разносіць прыстаўленыя да муроў плыты і выкідвае целы татар з падкопу.

У яркім святле Баты-Гірэй убачыў, што мур застаўся непашкоджаны. На ім стаяў Фердынанд і ўсміхаўся — яго хітрасць спрацавала...

Хан хмурыцца. Пасля доўгай паўзы ён паварочвае галаву, адшуквае Базыля, дае каманду:

— Павесіць!

Татары схапілі Базыля, звязалі рукі. На тоўстую галіну асіны накінулі вяроўку, пятлю — на шыю Базыля. Здраднік спалохана закрычаў:

— Вялікі хан! Я не вінаваты!..

Баты-Гірэй паварочвае каня і жэстам дае каманду адвесці войскі ад горада.

Анастасія ідзе па перадсвітальным горадзе, бачыць наступствы начнога боя — тлеюць згарэлыя дамы. Уздоўж вуліц стаяць стомленыя людзі, зазіраючы ў вочы княгіні з даверам і надзеяй.

На плошчу выбягае Юры і мчыць да маці. Падбегшы, кранае разарваны рукаў у крыві.

— Мама, ты параненая? У цябе кроў!

Яна адказвае яму сумнай усмешкай, калашмаціць яго валасы.

— Нічога, сынок. Дробязі. — Яна паварочваецца да стомленага, пастарэлага Карэцкага, нягучна кажа: — Выпускай галубоў. Новы штурм адны не адаб'ём.

З узгорка Баты-Гірэй глядзіць на змрочныя абрысы горада. Ён пахмурны, незадаволены, кажа памочніку:

— Высылай ганцоў за туменамі маіх братоў. Няхай спяшаюцца. Праз дзень павінны быць тут.

— Вялікі хан, — кажа памочнік, — а мо пакінем Слуцк і пойдзем далей, на Еўропу?

— Мурад, нельга пакідаць за спінай такую моцную крэпасць! Няхай воіны дзянёк адпачнуць. Я вазьму горад! Каб баба стала на маім шляху?!

Хан не адрывае вачэй ад гарадскіх муроў у зарыве світання. І раптам бачыць, як над вежай узляцелі два галубы. Зрабіўшы кола над горадам, птушкі набралі вышыню і памкнуліся ўдалеч. Адсачыўшы накірунак палёту галубоў, Баты-Гірэй з усмешкай кажа:

— Просіш дапамогі, княгіня? Гэта добра!

— Выслаць сокала? — пытае Мурад, гледзячы на вялікую шэрую птушку з моцнай дзюбай і вострымі крыламі, што сядзела на плячы ў аднаго з воінаў. — Імгненна дагоніць!

Баты-Гірэй кпліва кажа:

— Няўжо табе не шкада птушачак?.. — І жорстка дадае: — Не дачакаешся дапамогі, княгіня! Адкуль ідзе гэта дарога?

— З Менска.

— Выставіць дазор!

Дзень у горадзе. На плошчы шматлюдна, пасля начнога бою многія тут і спяць.

У дзверы карчмы гучна стукае Якуб.

Маланка адкрывае, незадаволена пытаецца:

— Чаго табе?

— Колькі можна спаць? Скажы Навуму — час справай займацца!

— Ты зноў п'яны? — прынюхалася Маланка.

— Не п'яны, а выпіўшы. Для справы.

— Як гэта?

Басурмане трываць не могуць майго паху! Дыхну — усе разлятаюцца!

— Ты глядзі! — гатова паверыць прастадушная Маланка. — Праўда?

Мужычок з вядром, які праходзіў паўз, усміхнуўся:

— Што нашаму чалавеку добра, тое басурманіну — смерць?

— Святая праўда! — пагадзіўся Якуб і перахрысціўся.

— Ну, тады заходзь, — Маланка расчыняе дзверы карчмы.

У княжацкім пакоі Анастасія стаяла перад люстрам, разглядала вялікія цёмныя кругі пад вачыма, намагаючыся рагладзіць пальцамі. Раптам убачыла сівую пасму валасоў, спуджана глядзіць. У дзверы пастукалі. Схаваўшы сівую пасму, спытала:

— Хто там?

Паспешліва ўвайшоў Аслан.

— Княгіня, найміты Янсена сыходзяць!

— Як — сыходзяць?! Мы ім добра заплацілі! — кажа яна, кідаючыся да выхаду.

Анастасія выскачыла на двор і ўбачыла, як доўгая калона добра ўзброеных воінаў сыходзіла праз браму.

Аслан кажа:

— Татары заплацілі ім яшчэ болей. Я не змог спыніць...

Анастасія не вытрымала, вылаялася:

— Каб іх чорт узяў! Хай яны будуць праклятыя!

Аслан пахмурна паведаміў:

— З Менска нам выслалі падмацаванне...

— Ага! Даляцелі галубы? — узрадавалася Анастасія. — Ну?!

Аслан памаўчаў.

— Татары іх чакалі. Акружылі ўсіх... — Далей не стаў працягваць.

— Госпадзе! — вымавіла княгіня. Яна зрабіла некалькі крокаў. ы— Што рабіць? Людзі стаміліся, змарнелі... Зараз чакаць ад кагось дапамогі... Яна спынілася. Пасля доўгай паўзы спыталаа: — Аслан, ці здолееш ты незаўважна выбрацца з горада? Я ведаю, гэта небяспечна...

Падумаўшы, асецін адказаў:

— Паспрабую.

Анастасія зняла з сябе клык мядзведзя, працягнула:

— Ідзі ў лес і перадай — патрэбная дапамога.

Па вяроўцы Аслан бясшумна спусціўся па глухім крапасным муры. Пасля бясшумна нырнуў у ваду і вынырнуў на іншым беразе. Агледзеўшыся, дзе паўзком, дзе кароткімі перабежкамі, як жвавая яшчарка, ён слізгае па адкрытай прасторы паміж горадам і лесам. Да ўскрайку лесу заставалася некалькі метраў. Аслан узняўся, каб зрабіць апошні рывок, але раптам, як з-пад зямлі, перад ім выраслі тры фігуры татарскага дазору на конях. З насмешлівай усмешкай адзін з іх звярнуўся да Аслана:

— Куды кіруешся, дружа?

Некалькі імгненняў Аслан глядзеў на іх, а пасля рвануў у бок аднаго з вершнікаў і куляй узляцеў на яго каня, сеў ззаду, жалезным абручом сціснуўшы рукі на шыі вершніка. Прышпораны Асланам конь памчаў абодвух вершнікаў у лес.

Іншыя дазорныя не чакалі такога спрыту ад пешага і страцілі час, ім прыйшлося даганяць уцекача. Але тут пад ногі аднаго з пераследнікаў мехам звалілася змярцвелае цела іх таварыша. Конь узвіўся на дыбы.

Аслан імчаўся да балота, чуючы за сабою тупат некалькіх коней пераследнікаў. Адзін з татар на скаку нацягваў цеціву лука.

Конь Аслана ляцеў па лесе. Ужо відаць былі прабліскі балота і валун, ад якога ішла сцяжынка да язычнікаў. Прасвістала страла і ўпілася ў круп каня пад Асланам. Конь шалёна заржаў і ўздыбіўся. Павярнуўшыся, Аслан кінуў амулет на другі бок балота. На галіне куста, за дрыгвой, разгойдваючыся, павіс мядзведжы клык.

Падаючы на пярэднія ногі, конь пад Асланам рухнуў на зямлю. Аслан кулём вылецеў з сядла, акурат пад ногі пераследнікаў, што акружалі яго.

На другім баку дрыгвы з гушчару спужаны карлік назіраў, як Аслан, схапіўшы дубіну, біўся з татарамі. Але сілы былі няроў-

ныя, вершнікі на конях, іх многа. Татары забіраюць збітага ў кроў Аслана. Кароткая рука карліка з цяжкасцю дацягваецца да галінак куста, на якіх вісіць амулет. З дапамогай палкі карліку ўдаецца зняць яго.

Татарскі стан. Да Баты-Гірэя падводзяць Аслана са звязанымі рукамі. Хан пільна глядзіць на палоннага. Убачыўшы пад разарванай кашуляй ланцужок, канцом шаблі вызваляе яго. На ланцужку — залаты паўмесяц.

— Мусульманін служыць няверным?! Нядобра.

Аслан спакойна глядзіць у твар хана. Баты-Гірэй кажа:

— Я ведаю, ты адважны і спрактыкаваны воін. Стань пад мае сцягі, і Алах даруе табе. Будзеш камандаваць атрадам.

Аслан запярэчыў:

— Твае сцягі залітыя крывёю. Ты рабуеш і забіваеш мірных жыхароў!

Світа спужана глядзіць — сказаць такое вялікаму хану…

Баты-Гірэй усміхнуўся:

— Як бы ты хацеў памерці?

— З мячом у руцэ, — адказаў Аслан.

— Ты страціў гэтую мажлівасць, — кажа Баты-Гірэй. Павярнуўшыся да сваіх, усміхнуўся: — Забіваць трэба прыгожа! Бо гэта апошняе, што бачыць чалавек … Разарваць! — загадвае хан.

Лес. Паляна язычнікаў. Адганяючы пчол дымаром, Будзімір і Крыва дастаюць з калоды рамкі з сотамі. Побач вільготнымі галінамі дыміць вогнішча. Запыхаўшыся, падбягае карлік, працягвае Будзіміру амулет.

Той бярэ клык мядзведзя, разглядае, кажа старому:

— Бацька, яна ў бядзе! Ёй патрэбная дапамога!

Крыва пазмрачнеў, адказвае не адразу:

— Будзімір, татар — тысячы! А колькі мужчын у нас?

— Возьмем хітрасцю!

— Сюды татары — не дойдуць! — не пагаджаецца стары.

— Бацька, там таксама нашыя людзі! Сам казаў — мы павінны быць разам. Няўжо дапусцім, каб горад спалілі, разбурылі?!

Крыва ўзяў смалістыя галіны, кінуў у вогнішча, слухае. Скручваючыся, нібы змеі, галіны шыпяць, смала капае на вуголле, успыхвае яркім полымем... Раптам узляцелі птушкі, трывожна крычаць. Нядобры знак.

Ждана ўкленчыла перад Крывам:

— Не адпускай!!!

Крыва моўчкі глядзіць убок.

У горадзе да Анастасіі падышоў усхваляваны Карэцкі:

— Княгіня! Хадзем на мур!

Побач з гарадскімі мурамі знаходзіцца Баты-Гірэй з невялікім атрадам. Хан на кані. Ён назірае, як Анастасія ўзнялася на гарадскі мур. У акружэнні татар стаіць збіты, акрываўлены Аслан. Ён таксама заўважыў Анастасію, глядзіць на яе.

Анастасія на муры ўсклікнула:
— Аслан?! Што яны хочуць з ім зрабіць?!

Памочнік спытаў хана:
— Пачынаць?
Баты-Гірэй усміхнуўся:
— Пачакай, мы не звяры. Хай адданы раб развітаецца са сваёй гаспадыняй!
Баты-Гірэй робіць узмах рукой.

З муроў Анастасія бачыць, як татары хутка прымацавалі дзягі да рук і ног Аслана, а два татарыны на конях сталі марудна раз'язджацца ў розныя бакі, нацягваючы дзягі. Аслан счапіў рукі на грудзях, напружыўся...
Сціснуўшы кулакі, Анастасія, не адрываючыся, глядзіць на свайго адданага ахоўніка, якому не можа дапамагчы...
Нацягваючы дзягі, Аслан стаіць не раздымаючы рук на грудзях. Бледны твар напружыўся, вены на шыі набухалі, на лбе выступілі кропелькі поту... Вершнікі сцёбнулі коней, і яны рванулі з месца...
Зларадныя выкрыкі татарскага войска скалыхнулі цішыню. З дрэваў перапалохана паляцелі птушкі.
Анастасія на сцяне. З-пад заплюшчаных вейкаў па шчоках цякуць слёзы. Убаку Юры з шырока раскрытымі вачыма нібы скамянеў — жудаснай смерцю загінуў яго лепшы сябра... Здалёк чувацт ваяўнічыя крыкі татар.
— Гэта я паслала яго на смерць, — кажа княгіня Карэцкаму.
Каб супакоіць яе, князь жорстка адказвае:
— То ж вайна. Ён быў воінам.
Анастасія круціць галавой, яна не можа даравацт сабе яго пагібелі. Узрушаная смерцю Аслана, са слязьмі на вачах, Анастасія павольна ідзе па гарадской плошчы. Гледзячы на яе, праставаты дзядзька ў лапавухім капелюшы кажа старой:
— Вось ім, багатым, ёсць чаго баяцца! Калі татары захопяць, то вельмі патрасуць! А нам, гаротным, што басурмане зробяць? Як царкоўныя мышы! Адэля, ну што ў цябе браць?
Старая падыходзіць да Анастасіі:
— Княгінечка, а можа, лепш адчыніць браму супастатам? Ну возьмуць тое-сёе... А так — паб'юць! Дальбог, усіх паколюць, парэжуць!
Анастасія здзіўленая:
— Здаць горад? Адэля, ці ў сваім ты розуме?
Вакол збіраюцца людзі. Анастасія звяртаецца да ўсіх:
— Вы бачылі, што зрабілі з Асланам татары. Вы чулі , што нарабілі яны ў Капылі, Цімкавічах, Старых Дарогах...
Дзядок недаверліва спытаўся:
— А што там?
Анастасія сказала:
— Усё забралі, дамы спалілі, а жыхароў — у рабства!.. Адэля, няўжо ты і ты, Гарошка, жадаеце, каб вашых дзяцей і ўнукаў прадалі туркам на кірмашы?

— А, божачка!— усхапілася Адэля. — Што ты, Насця!

Вакол сабралася вялікая грамада, з усіх бакоў падыходзяць людзі. Анастасія кажа:

— Каб абараніць свабоду, мы будзем змагацца да апошняга! Так, многія загінуць. Але толькі такім чынам мы абаронім нашых дзяцей!

— Мы з табой, княгіня! — ускрыкнуў хтосьці з натоўпу.

— Воіны і гараджане! — працягвала Анастасія. — Сёння вырашыцца лёс горада. Калі не вытрымаем, заўтра нас усіх пагоняць у рабства! А з муроў вы бачылі, як гналі людзей з Капыля і Клецка...

— Як скаціну! — пацвердзіў нехта ў грамадзе.

— Іх прададуць у далёкія землі! — сказала Анастасія.

У грамадзе закрычалі:

— Не бываць таму!

— Лепш загінуць!

— Анастасія, вядзі нас! Смерць басурманам!

— Мы мацнейшыя за татар — абараняем родных і блізкіх! І мы пераможам!— кажа княгіня! — З Богам!

— Клянёмся!

Воіны прысягаюць княгіні.

З царквы выходзіць бацюшка з іконай «Багародзіца з дзіцем», за ім ідуць святары, гараджане. Хрэсны ход вакол храма. Усе моляцца і пяюць «Багародзіцу».

Паселішча язычнікаў. Будзімір і іншыя мужчыны з мячамі і дзідамі стаяць перад ідаламі і просяць блаславення на бітву:

— Ды не крануць чортавыя і ліхія сілы мяне, Будзіміра, ні дому майго, ні роду майго... Ні ўдзень, ні ўночы... Ні пры рэках, берагах, ні ў водах...

Мужчыны паўтараюць словы Будзіміра.

Поле перад горадам. Зладжаныя рады татарскіх войскаў чакаюць штурму. Да Баты-Гірэя пад'ехаў яго малодшы брат Бурнаш:

— Вялікі брат, тумены Касыма не прыйдуць. У Пінску ён узяў багата дабра і зараз будзе вартаваць яго.

— Так мала патрэбна яму? — нядобра скрывіўся Баты-Гірэй.

— Даўся табе гэты Слуцк! Там, у Еўропе, ёсць і лепшыя гарады!

Не звярнуўшы ўвагі на яго словы, Баты-Гірэй пад'ехаў да войска:

— Воіны! Вы бралі ўсе гарады, што мы штурмавалі. Сёння возьмем і гэты, вельмі багаты горад! Уся здабыча і жанчыны — вашыя!

Радаснымі крыкамі воіны вітаюць хана.

— Алах з намі!—ускрыкнуў Баты-Гірэй і сурова паглядзеў на Бурнаша.

Ідзе жорсткі бой. Сценабітныя машыны, закрытыя металічнымі шыпамі зверху, «чарапахі», пад'ехалі да сцяны і вялізным бервяном на ланцугах, з вострым металічным набалдашнікам разбіваюць муры. За машынамі ідзе вежа з цяжкай гарматай. Балістыты перакідваюць цераз сцены камяні, бочкі з порахам, ядры...

На крапасных мурах Анастасія кіруе абаронай горада. Да яе бяжыць Юры:

— Мама! Я хачу быць з табой!

Анастасія ўбачыла, што за ім бегла запыханая Сафія!

— Я не змагла ўтрымаць! — усклікнула дзяўчына ў роспачы.

— Марш дамоў! — гнеўна сказала Анастасія сыну.— Зараз жа!

— Калі б бацька быў жывы, ен дазволіў бы!

Анастасія сурова паглядзела на служанку:

— Сафія! Каму сказала?

Сафія паспрабавала схапіць Юрыя за руку ды ён уцёк да абаронцаў, што кідалі на татар камяні і лілі смалу.

Фердынанд сядзіць на зямлі ля сцяны. Са слязьмі на вачах Марыя перавязвае яму галаву:

— Добры мой мужанёк! Калі пагляджу я ў бок маладых мужчын, можаш забіць мяне! Толькі жыві!

Хмура назіраючы за беспаспяховай атакай, Баты-Гірэй кажа памочніку:

— Мурад! Давай усе падмацаванні!

На крапасных мурах Анастасія загадвае:

— Ліце кіпень!

Абаронцы льюць кіпень на галовы татар, змываючы многіх з лесвіц і размякчаючы гліну, па якой узбіраюцца ворагі па сцяне. Сценабітныя машыны завязлі. Чужынцы беспаспяхова штурхаюць іх наперад, але зрушыць з месца не могуць. Ногі татар вязнуць, слізгаюць.

Атрад Будзіміра напаў на татарскія ўмацаванні. У бойцы забітыя воіны. Потым пад'язджае да кашараў з каровамі і быкамі, козамі і авечкамі. Гэта трафеі татар, яны захоплены ў насельніцтва. Людзі Будзіміра адчыняюць кашары. Запаленымі паходнямі, нагайкамі і дзідамі язычнікі выганяюць статкі. Спужаныя і раз'юшаныя жывёлы нясуцца ў тыл татарскіх воінаў. Пад націскам ашалелых быкоў і кароў, авечак і коз татарскае войска адступае. Заднія рады воінаў, затаптаныя жывёламі, напіраюць на пярэднія, разбураючы пастраенне. Ззаду людзі Будзіміра б'юць жывёлу бізунамі і бічамі.

— Шайтаны?! Зноў шайтаны! — устрывожана перадаюць адзін аднаму воіны, успамінаючы жахлівую ноч з дурманам.

Баты-Гірэй глядзіць і не разумее. Зладжаныя рады воінаў змяшаліся.

— Што робіцца?

— На нашы вазы напалі!—паведамляе Мурад.

— Хто?—ашалела пытае хан.

— Лясныя жыхары! Дзікуны!

— Вазьмі атрад і перабі!

Гарадскія муры. Ідзе жорсткі бой. Абаронцам удалося падпаліць татарскую вежу з гарматай.

У раз'юшанага татарына, што ўзбіраецца па лесвіцы, Якуб хоча даведацца:

— Вось скажы, сябра, нязваны госць — лепшы ці горшы за татарына?

З лесвіцы татарын, зыркнуўшы вачыма, спрабуе дастаць старога дзідай і адказвае Якубу:

— Дзед, возьмем горад, пасаджу цябе на кол!

— Сказала Наста — не ўдасца! — лагодна кажа Якуб і перакульвае чан з гарачай смалой на галовы татар. Лямант, лаянка, стогны...

Татары наступаюць. Маланка кідае ў іх камяні.

— Куды прэш, каб на цябе ліха!— крычыць Маланка і трапляе татарыну каменем у галаву. Ён валіцца з лесвіцы. Маланка кажа Якубу:

— І чаго яны пруцца? Жылі б мірна...

— Дык рабаваць лягчэй, чым працаваць!—адказвае стары. Паглядзеўшы на святара, які дапамагаў абаронцам, сказаў: — Айцец Даніла, ці то боская справа?

— Абараняць народ, — адказаў святар, кідаючы камень уніз, — святая справа.

— Бацюшка, ты хаця б сутану зняў.

— Калі давядзецца памерці, дык лепш..

Святар не паспеў дагаварыць — страла працінае яго грудзі.

Маланка раз'юшана кідае камяні:

— Каб на вас халера! Трасца вам у бок! — стаўшы спінаю да татараў, яна падняла андарак і паказала хударлявы зад.

— Усё, канец татарскаму войску... — усміхнуўся Якуб.

Татары пусцілі ў Маланку колькі стрэл, але не трапілі, тады яны падпалілі ёй спадніцу.

— Авой! — крычала Маланка і скакала. — Людцы добрыя, дапамажыце!..

Якуб і іншыя абаронцы дапамаглі ёй патушыць агонь.

Татары ўзмацняюць націск. На галовы абаронцаў накідваюць арканы і сцягваюць іх з муроў. Ля пралому, кідаючы камяні ўніз, Юры неабачна выйшаў наперад. Хтосьці з татараў спрытна накінуў аркан на яго шыю і пачаў цягнуць да пралому.

— Мама! — нема закрычаў хлопчык.— Мама!

Убачыўшы гэта, Анастасія залямантавала:

— Юры! Дапамажыце!

Яе голас у гуле бою пачуў Якуб. Нечакана для свайго ўзросту і вагі, вялікімі скачкамі ён кінуўся да татараў, на ляту схапіў кінутую аглоблю і, нібы волат, пачаў біць ёю ворагаў направа і налева... Кінуўшы аглоблю і стукнуўшы двух татар ілбамі, Якуб выняў нож, схапіў аркан і перарэзаў. Вызвалены Юры падхапіўся, з арканам на шыі пабег да маці. Яна зняла аркан, абняла яго, прытуліла да сябе. Княгіня азірнулася, каб хоць позіркам падзякаваць старому, але толькі ўбачыла, што адзін з татараў, што стаялі ззаду старога, падняў аглоблю і што было моцы ўдарыў Якуба па галаве. Стары захістаўся і зваліўся.

Шалёна загаласіла Маланка.

Воіны Бурнаша нападаюць на язычнікаў, вядуць з імі бойку.

Будзімір кажа сваім ратнікам:

— Паліце шатры і адыходзьце да лесу!

— А ты?

— Я павінен прарвацца ў горад!
— Будзімір, мы з табой!

Паселішча язычнікаў. Крыва, Ждана і другія жыхары ля вогнішча. Ждана варожыць і чаруе, падкідвае галінкі, нешта шэпча... Усе напружана глядзяць на полымя.

Крапасныя муры. Анастасія бачыць, як, змагаючыся з татарамі, да гарадской брамы прабіваецца атрад Будзіміра. Адзін за другім гінуць ваўкалакі. Да брамы Будзіміру застаецца зусім мала. Праціўшы яго воўчую скуру, засела страла. На Будзіміра нападаюць адразу некалькі воінаў. Ён зрывае з сябе шлем, воўчую галаву, і адкрытай пашчай насаджвае на галаву бліжэйшага татарына. Той спужана і безвынікова спрабуе зняць, воўчыя зубы раздзіраюць твар. Страла, што засела ў скуры, перашкаджае Будзіміру замахвацца мячом, і ён скідвае з сябе скуру. Да брамы зусім недалёка.

Анастасія ўсхвалявана дае каманду:
— Узняць браму! Хутчэй! Ну?! Хутчэй!
Са скрыгатам брама паспела прыўзняцца. Ды здалёк кінутая татарынам дзіда наскрозь працінае Будзіміра. Ён робіць некалькі крокаў у кірунку Анастасіі і падае ля самай брамы.
Шырока раскрытымі вачыма Анастасія зверху глядзіць на яго цела...

Паселішча язычнікаў. Ля вогнішча Ждана, Крыва, жанчыны і дзеці. Яны неадрыўна глядзяць на языкі полымя. І раптам агонь пачынае гаснуць. Полымя знікае, сцямнела нават папялішча, над вогнішчам падымаецца вузкая палоска дыму...
Крыва напружана слухае, нахіляе галаву ўбок і нібы сівее на вачах...
Шалёна закрычаўшы, Ждана вые, выгінаецца, яе рухі падобныя на дзіўны вядзьмарскі танец...

Неба над полем бою цямнее. Яго кроюць асляпляльныя зарніцы. То тут, то там жудасным белым святлом узнікаюць сполахі. Дзесьці воддаль пагрозліва грыміць гром. Татары занепакоена чакаюць навальніцы — іх конніцы яна перашкодзіць.
Раптам неба пацямнела яшчэ больш. Узняўся моцны вецер. Ён кудлаціць грывы коней, дзярэ вопратку воінаў, у шалёным танцы кружыць пясок і сухую траву.
Моцны вецер прымусіў хана гарнуцца да шыі каня. І тут Баты-Гірэй убачыў: у шалёным полымі гараць шатры татарскага стану...
Паўз яго праносіліся раз'юшаныя быкі, збівалі воінаў з ног, падкідвалі на рогі...
— Шайтаны! Зноў шайтаны!
Трывога татарскіх воінаў перарастае ў боязь. Не вытрымалі татарскія рады. Некаторыя воіны пабеглі.

Назіраючы з крапасных муроў, што адбываецца ў татарскім войску, Анастасія кажа Карэцкаму:

— Вось бы зараз ударыць конніцай! Быў бы Аслан!...

— Я гатовы,— сказаў Карэцкі, але, як падалося княгіні, без запалу.

Яна паглядзела на мажную фігуру немаладога князя, на перавязаную галаву пасля ранення і сказала:

— Гэта зраблю я! Застанешся тут.

— Княгіня, што ты задумала?!

— Пастроіць эскадрон! Хутка!

Баты-Гірэй бачыць — раптоўна адчыняецца брама. З горада на татар, што не чакалі атакі, выскоквае лавіна вершнікаў, і яны пачынаюць секчы пешых. Сярод нападаючых Мурад убачыў княгіню: яна была на шэрым у яблыках кані, у латах, валодала мячом не горш за астатніх.

— Вунь, д'ябалка! — паказаў Мурад Баты-Гірэю.

Хан здзіўлена глядзіць на княгіню:

— Што яна, розум згубіла?

— Ад адчаю, — кажа Мурад.— Гэта яе канец.

Натхнёныя яе прыкладам, за вершнікамі з горада хлынулі ўсе, хто мог трымаць зброю. Перапоўненыя гневам, гараджане шалёна секлі татар.

І татары не вытрымалі ашалелага напору, не стрывалі, пабеглі.

Баты-Гірэй кінуўся насустрач уцекачам, нагайкай сцябаў сваіх воінаў.

— Куды? Назад! Каго спужаліся— бабы?!

Яму пашэнціла спыніць татар. Ён выехаў насустрач Анастасіі.

— Ну што, прыгажуня, будзем біцца? — скрывіўся ва ўсмешцы хан, упэўнены ў сваёй сіле.

Бой прыпыніўся. Вакол іх з аднаго боку стаялі татары, пасмейваліся. З другога боку абаронцы горада напружана чакалі, што вырашыць княгіня, што будзе рабіць?

Анастасія ўзняла меч, накіравала каня да хана. Яго вараны і яе конь у яблыках кружаць насупраць адзін аднаго, б'юць капытамі.

І пачаўся жорсткі, шалёны паядынак.

Неўзабаве мацнейшаму хану шабляй удалося выбіць меч з яе рук. Рукой ён спіхнуў Анастасію з каня, у бруд.

Татарскія воіны равуць, прыскокваюць ад радасці, кідаюць шапкі ўгору.

Спахмурнелі, маўкліва стаяць абаронцы горада.

Лічачы сябе пераможцам, хан задаволена ўсклікнуў:

— Алах вялікі! Мы перамаглі няверных! Зараз сцягі з паўмесяцам панясём далей, у Еўропу! — ён абярнуўся да Анастасіі. — Зразумела? Жанчына павінна ведаць сваё месца. І ніколі не падымаць рукі на мужчыну.— Ён узяў нагайку, што вісела на запясці, грозна прамовіў: — А зараз — паехалі! Ну!?

З выпацканым тварам паніклая Анастасія павольна праходзіць перад сваімі воінамі.

— Падыдзі да мяне! — загадвае хан. — Зараз ты мая наложніца!

Анастасія пільна ўзіраецца ў хана. Усё яго цела закрыта кальчугай, шлемам і металічнымі пласцінамі. Неабароненыя застаюцца толькі вочы.

Княгіня выхапіла нож з ножнаў і вокаімгненна, як вучыў Аслан, шпурнула нож. Хан ускрыкнуў. З яго вока паўз тронкі нажа па шчацэ павольна пацёк цурок крыві. Некалькі імгненняў хан нібы здзіўлена глядзеў другім вокам, а потым пачаў падаць з каня...

Татары ў паніцы пабеглі. З радаснымі крыкамі абаронцы горада кінуліся іх даганяць.

Анастасія нерухома стаіць. Ля яе ног ляжыць цела хана. Стомленая, Анастасія вяртаецца ў горад.

Царкоўныя званы зліваюцца з узрушаным гоманам гараджан — перамога! Вакол многа параненых, забітых, дымяцца развалiны разбураных дамоў... У адчыненую браму вяртаюцца вершнікі і пехацінцы. Гараджане радасна іх сустракаюць, дапамагаюць параненым.

Здалёк відаць, як Ждана ў палатнянай кашулі блукае па полі, схіляецца над целамі, шукае Будзіміра. Заўважыўшы яе, Анастасія злазіць з каня, аддае лейцы і даспехі дружыннікам, накіроўваецца да дзяўчыны, якая сядзіць каля цела Будзіміра, кажа:

— Ждана, ён загінуў па-геройску, абараняючы свабоду і нашу зямлю.

— Чыю зямлю, чыю свабоду? Тваю? — хмура пытае дзяўчына.

Анастасія прысела побач, паклала руку на яе плячо.

— Ждана, мы адзін народ, мы павінны быць разам.

Падыходзяць язычнікі, асцярожна кладуць цела Будзіміра на шырокае палатно, выносяць. Анастасія пытаецца:

— Дзе вы яго пахаваеце?

Ждана адказвае:

— Паводле нашых звычаяў, попел будзе развеяны ў лясах і лугах. Будзімір будзе жыць у лістоце, у кветках, траве.

— Ждана, перадай Крыве. Вашы людзі могуць жыць вольна, дзе хочуць. Іх ніхто не будзе чапаць.

— Крыва памёр, — адказвае Ждана і ідзе ўслед за язычнікамі.

Анастасія моўчкі глядзіць ёй услед.

Маланка сядзіць на кукішках перад Якубам, што ляжыць на зямлі, і, хістаючыся з боку ў бок, ціхенька галосіць:

— Авой! Што ж ты мяне не пачакаў? Волеле-волеле...

Не расплюшчваючы вачэй, Якуб ціха кажа:

— Маланка...

— Жывы?! — спужана ўздрыгвае жанчына. — А каб цябе!

Якуб працягвае тым самым тонам:

— Маланка, так атрымалася, што мы ўсё жыццё побач адно з адным пражылі і ні разу не саграшылі..

— Ну, будзе жыць! — Маланка сарамліва ўсміхнулася. — Ужо ж дужа ты кахаў сваю Параску...

— Што праўда, то праўда, — уздыхае Якуб.

— А ёй не пашанцавала — выйшла за п’яніцу.

Якуб сеў, незадаволена агрызнуўся:

— Які ж я п'яніца? — ён зморшчыўся, мацаючы галаву, паглядзеў на аглоблю, што валялася побач. — Глядзі ты, цэлая!

Маланка ўсміхнулася, паклала пальцы на яго руку.

— А я была б не супраць.

З'явіўся Навум з дочкамі. Ззяючы, ён высока ўзняў рукі:

— Для ўсіх і мёд, і піва — дарма! Запрашаю ў карчму!

Якуб падхапіўся:

— Навум, а каб цябе чэрці паілі-кармілі! Дзе ж ты раней быў? Калі перад боем даў мне выпіць, даўно перамаглі б!

— А хто б табе, чорт рагаты, піва-мёд гатаваў? Частую ўсіх!

Сафія прыводзіць Аляксандру і Юрыя. Убачыўшы дзяцей, Анастасія раптам расплакалася. Падышоў Карэцкі.

— Ну што ты... Скончылася ўсё...

Анастасія прытуліла дзяцей, паступова апрытомнела.

Сафія кажа:

— Ну, пані, зараз можна і пра мужа падумаць. Столькі жаніхоў прыбяжыць!

Анастасія была па-ранейшаму сумнай.

— Не, Сафія! З гэтым скончана. Замуж не пайду.

— Чаму?! — служанка не можа схаваць здзіўлення. — Навошта хаваць сябе ў трыццаць год?!

— Такіх, як Сымон і Будзімір, — не знайсці... І нікому не хачу падпарадкоўвацца.

Здзіўленыя вочы Сафіі.

— А шчасце? Так хочацца быць шчаслівай!

— Самае вялікае шчасце — гэта свабода! — памаўчаўшы, усміхнулася. — Але калі табе спадабаецца хто, скажы, сасватаю...

Юры падыходзіць да немца — побач з ім жонка, дзеці,— і з пачуццём уласнай годнасці, па-княжацку кажа:

— Фердынанд, я думаю аднаўляць горад пачнём вунь з тых дамоў. У людзей над галавой павінен быць дах.

— Яволь. Вельмі мудрае рашэнне! — згаджаецца майстар.

Анастасія сумна ўсміхаецца, радуючыся ўзмужанню сына.

*ГОЛАС ЗА КАДРАМ:*

Такіх баёў за Слуцк было многа. Анастасія пражыла пяцьдзесят гадоў. Адны гісторыкі называлі яе амазонкай, другія параўноўвалі з Жаннай д'Арк. Як толькі Юры пасталеў, яна перадала яму княства. І сын годна княжыў, атрымліваючы перамогі ў бітвах. Яго жонкай стала Алена Радзівіл. Дачка Анастасіі Аляксандра ўзяла шлюб з высакародным князем, гетманам Канстанцінам Астрожскім...

У тыя трывожныя гады многія гарады былі ўзятыя татарамі, разрабаваны, спалены. Жыхары былі забіты альбо зведзены ў рабства. Не здаўся толькі Слуцк.

## *Ад рэдакцыі:*

*P.S.* Кінастудыя «Беларусьфільм» скончыла работу над фільмам «Анастасія Слуцкая» 15 мая 2003 г. Рэжысёр-пастаноўшчык Юрый Ялхоў, аператар-пастаноўшчык Таццяна Логінава, мастак-пастаноўшчык Валерый Назараў, мастакі па касцюмах Алена Ігруша, Жанна Капуснікава, кампазітар Віктар Капыцько, рэдактар Ізольда Кавелашвілі.

У фільме здымаліся Святлана Зелянкоўская, Генадзь Давыдзька, Анатоль Кот, Мікалай Кірычэнка, Вячаслаў Саладзілаў, Генадзь Гарбук, Сяргей Глушко, Віталь Рэдзька, Юозас Будрайціс, Аляксандр Пяскоў, Фуркат Файзіеў, Фархад Абдулаеў.

Фільм узнагароджаны прызамі на фестывалях: прыз за лепшы фільм, прыз акцёру А. Кату за лепшую ролю другога плана, прыз актрысе С. Зелянкоўскай за лепшы дэбют — на VI МКФ «Брыгаціна», Бярдзянск, Украіна, 2003.

Прыз актрысе С. Зелянкоўскай за лепшы дэбют, спецыяльны прыз журы акцёру А. Кату, прыз С. Глушко ў намінацыі «непрафесійны выканаўца» — на МКФ «Стажары», Кіеў, Украіна, 2003.

Прыз кінастудыі «Беларусьфільм» за лепшую гістарычную карціну на фестывалі ў Ноўгарадзе, Расія, 2003.

Прыз А. Кату за лепшую ролю другога плана на XII фестывалі кіно краін СНД і Балтыі «Кінашок», Анапа, Расія, 2003.

Чатыры прызы на X Мінскім МКФ «Лістапад»: аператару Т. Логінавай, С. Зелянкоўскай, акцёру А. Кату, фільму, 2003.

Плацінавы прыз за фільм і залаты прыз за касцюмы на МКФ ў Х'юстане, ЗША, 2004.

Прыз у намінацыі «Лепшы кінадэбют» атрымала С. Зелянкоўская на міжнародным кінафестывалі славянскіх праваслаўных дзяржаў «Залаты віцязь» у Іркуцку, 2004.





## Мікола ЧАРНЯЎСКІ

* * *

Пара настала запытаць,
Як жыў:
Ці кожным днём пражытым
Даражыў,
Ці ўсё, што мог,
Зрабіць ты змог,
Ці ўсім сябрам
Калісьці дапамог,
Якія давяраліся табе,
Ці за бацькоў
Сумленне не скубе,
Бо засталася даўняя віна,
На дне душы
Гняздуецца яна:
Як сын
Трымаўся хаты не заўжды
І адпускаў часценька павады —
І маладосці расцугляны конь
Нёс не на свой,
А на чужы агонь?..

Пара настала запытаць,
Як жыў:
Ці так дружыў, кахаў,
Радку служыў,
Ці ўсё, што зроблена, —
Засевак твой —
Багаты,
Плённы,
Радуе сяўбой?
Ці ўсім знаёмым
Дзверы адчыніў,
Ці ўсё па справядлівасці
Чыніў,
Ці ўсё благое,
Што згубіў,
Забыў?

Пара настала запытаць,
Як жыў:
Ці ўсё аддаў,
Што за жыццё нажыў,
Сваёй зямельцы,
Па якой хадзіў,
Ці — след пакінуў ты,
Ці, можа, наслядзіў,
Ці ўсё тваё
У дзецях прарасло,
Ахрышчанае любасцю буслоў?

Пара настала запытаць:
Як жыць,
Калі твой век
З пагорка ўжо бяжыць?..

---

***Чарняўскі Мікалай Мікалаевіч*** *нарадзіўся 16 студзеня 1943 года ў вёсцы Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі», на радыё, у часопісе «Бярозка». Цяпер — літаратурны рэдактар часопіса «Вясёлка».*

*Піша для дзяцей і дарослых. Аўтар зборнікаў лірыкі, сатыры і гумару: «Чалавечнасць», «Трывога», «Лёкса ў люксе», «У трох соснах» і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра, прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і вясёлкаўскай прэміі імя Васіля Віткі.*

* * *

Кажуць, людзі дабрэюць з узростам,
Бо на крыўды ўжо крыўды няма.
Холад, што быў,
Як нож той, навостран,
Адступае,
Цяплее зіма.

Кажуць, людзі шчырэюць з узростам,
Бо не ўмеюць пачуццяў хаваць:
Што пражыта —
Не ўявіцца простым,
Што пабачыў —
Каму перадаць?

Кажуць, людзі мудрэюць з узростам —
Прачытайце іх кнігу жыцця:
Што ні думка —
Загадкавы востраў
Глыбіні,
Пачуцця,
Адкрыцця.

Кажуць, людзі старэюць з узростам.
Што паробіш,
Такі ўжо іх лёс...
Быў бы рад, каб праз далечы-вёрсты
Гэта ўсё я
Да ўнукаў прынёс.

* * *

Мне на сёмы дзесятак бярэцца.
Менш не стане,
Як ты ні кружы.
Я хацеў бы з табою сустрэцца
На мяжы, запаветнай мяжы.

На мяжы, калі тахкае сэрца,
На мяжы,
Калі сонечна дням,
А душа, як жаўрук, захліпнецца —
Вёсны даўнія ўспомняцца нам.

Я хацеў бы з табою сустрэцца
На мяжы,
Дзе праз горкі палын
Зноў трава маладая праб'ецца,
Толькі мне ўжо —
На скрушны ўспамін.

* * *

Ёсць ціхае шчасце ў прыродзе,
Ёсць ціхае шчасце ў людзей:
Вясна красавік свой знаходзіць,
А людзі — праменьчык надзей.

Вясна раскашуе ў лістоце,
Спяшаецца радасць спазнаць:
Лістоце —
Зялёнай істоце —
Жыццё і душу перадаць.

А я пасмяюся над гэтым,
Зірну на гады, як айчым:
Вясна сустракаецца з летам, —
А я з кім сустрэнуся,
З чым?

## ПЕРАД ЭКРАНАМ ТБ

Тэлерэклама
З тэлеэкрана
Голымі сцёгнамі свеціць штодня.
Непрыхавана,
Беспакарана —
Жахі, забойствы, у грошы гульня.

Цешаць забавай,
Таннаю славай —
«Новыя» з пыхай шыкуюць ды п'юць.
Добрыя справы,
Цёмныя справы, —
Вылічаць, высачаць, спаляць, заб'юць.

Тэлеканалы —
Тэлеканавы,
Бруд расцякаецца, не прадыхнуць.
Шоу ды шоу,
Гвалт прымусовы —
Як гэта ўсё зразумець, праглынуць?..

## УЧАСТКОВЫ

Мне помніцца, Іван, наш участковы,
І дня, відаць, не меў, каб адпачыць:
Дарадца,
Адвакат,
Суддзя,
Ахова —
Кім толькі не даводзілася быць?!

Даймала спёка, непагадзь сляпіла,
А ён па справах да людзей спяшаў.
Мундзір стары цяжэў
Ад плям і пылу,
Ды чыстай заставалася душа.

Ён службу ведаў, ведаў адмыслова,
Шукаў у людзях дабрыні выток.
Не пратаколам «грэў»,
А цёплым словам:
«Здарова, дружа! Як жывеш, браток?!»

Наперад знаў, хто «зелле» гнаць збіраўся.
«Глядзі, браток!..» — зайшоўшы, настаўляў.
А той, ушчэнт збянтэжаны, здзіўляўся:
«Як ты прачуў? Яшчэ ж не расчыняў!»

Ніхто па хатах збродліва не шастаў,
Хоць у дзвярах, як дзецям на падман,
Замест замкоў сучкі тырчалі часта, —
Бо знялі: знойдзе злодзея Іван...

Спачыў Іван,
І з ім само сяло —
Даўно не тое ўжо,
Як некалі было...

Хоць стала болей бедных, чым багатых,
Яшчэ не знік, здавалася б, давер, —
Вісяць замкі на ўсіх хлявах і хатах...
Аб чым жа людзі думаюць цяпер?







# АЛЕСЬ МІЛЮЦЬ

На пліце, што ўзвышаецца над брацкай магілай у пасёлку Ватуціна Несцераўскага раёна Калінінградскай вобласці, сярод імён загінуўшых значыцца і прозвішча Алеся Мілюця. З Налібоцкае пушчы, з вёскі Скорычы, што на Карэліччыне, франтавая дарога павяла таленавітага пушчанца сюды, ва Усходнюю Прусію, дзе назаўсёды трагічна абарвалася.

Ён нарадзіўся ў 1908 годзе ў сялянскай сям'і. Скончыў два класы пачатковай школы, але шмат і настойліва займаўся самаадукацыяй. І пісаў вершы. Да паэзіі заўсёды клічуць два званы: адзін з іх — літаратура, другі — прырода. Першы звон гучаў імёнамі Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Максіма Танка. Другі — срабрыстымі хвалямі Нёмана, таямнічымі нашэптамі Налібоцкай пушчы. З 1928 года Алесь Мілюць шырока друкуецца ў заходнебеларускіх газетах і часопісах.

Ты будзь, брат, верны да канца  
Сваёй зямлі, свайму Народу! —

так пісаў паэт у 1930 годзе ў вершы «Брату». Голас быў звернуты і да сябе, і да ўсяго Народа. Па ўспамінах земляка і сябра А. Мілюцэя Янкі Брыля можна нават уявіць і ўзнавіць гэты голас, які быў «блізкі, крыху заікасты, калі вясёлы, а больш заклапочаны, усхваляваны».

Пасля славутага верасня 1939 года Алесь Мілюць працуе рахункаводам у сельпо, а вершы яго друкуюцца ў Стаўбцоўскай райгазеце. Пасля вайны ў раёнку прыйдзе працаваць Аляксей Пысін. Алеся Мілюця ўжо не будзе ў жывых, але імя яго будзе часта згадвацца ў наднёманскіх мясцінах. Яны маглі б сустрэцца на франтавых шляхах-дарогах ці нават на адных і тых жа вершаваных старонках.

Неўзабаве з друку выйдзе кніга «Мы іх не забудзем». У ёй Янка Брыль раскажа і пра свайго сябра Алеся Мілюця, там будуць змешчаны і вершы загінуўшага паэта.

Славу родную і волю  
Я нікому не прадам,  
За Народ свой беларускі  
Я жыццё сваё аддам.

Гэта яго радкі. Ягоная клятва. Так яно і здарылася. Паэт аддаў сваё жыццё за родны край, за свой Народ, за родныя вольныя і непаўторныя краявіды.

Шмат гадоў была невядомай магіла паэта. Ніхто не ведаў і таго, як загінуў ён. Магілу адшукалі студэнты Казанскага універсітэта падчас свайго следапытаўскага падарожжа па месцах былых баёў на Калінінградчыне. Знайшоўся і аднапалчанін Алеся Мілюця, які раскazаў, як загінуў паэт. А быў ён вайсковым пісарам, у абавязкі якога ўваходзіла і весці спіс загінуўшых. Там, на полі бою, запісваючы імёны забітых, ён і трапіў пад кулю варожага снайпера. Той прытаіўся ў цагельні, з акна якой і «пацэліў» у паэта.

Мы, на жаль, не ведаем радкоў, якія, пэўна ж, пісаліся Алесем там, на полі бою. Будзем спадзявацца і чакаць, што яны вернуцца некалі з таго страшнага ваеннага шляху. Куля снайпера здольная падкасіць сэрца паэта, але перад радкамі ягонымі яна бездапаможная.

*Прадмова і падрыхтоўка тэксту*
*Казіміра Камейшы.*

## БРАТУ

Ты будзь, брат, верны да канца
Сваёй зямлі, свайму Народу,
Што стогне з гора год ад году.
Ты будзь, брат, верны да канца...

Хоць мы спаткаем шмат нягодаў, —
Май дух адважнага байца!
Ты будзь, брат, верны да канца
Сваёй зямлі, свайму Народу!

*1930 г.*

## ЯНЫ

Запыталіся ў іх, хто такія яны
І чаму тут марнуюць жыццё без пары?
«Мы — саломеных стрэх, бедных вёсак сыны,
Мы — байцы за народ, мы — жыцця змагары!»

Папыталіся ў іх, за што з роднай зямлі
Іх сагналі сюды на нямала гадоў?
«Мы за Волю, за Праўду святую ішлі,
Мы стаялі за долю гаротных братоў!»

Папыталіся ў іх, што ім трэба было?
Што хацелі яны, што імкнуліся ўзяць?
«Мы хацелі, каб ў свеце загінула зло,
Каб самім нам над скарбам сваім панаваць!»

Папыталіся ў іх, што ім будзе пасля?
Які лёс іх спаткае у прышласці дзён?

«Хай пагінем усе... нас прытуліць зямля,
Кінуць людзі за кроў нашу катам праклён.
Будуць помніць і помсціць за нас!» —
Такі быў іх на гэта адказ.

*1930 г.*

## НАПРАДВЕСНІ

Нехта бразнуў сталёваю песняй,
Звонка сыпнуўшы іскрамі словы,
Каб з ружовай зарою прадвесня
Прабудзіць нашы нізы, дубровы.

Нехта дужы, і смелы, і горды
Расчасаў на загонах чупрыны,
І запелі шчаслівым акордам
Стрэхі хат і дарог каляіны.

Нехта глянуў у цьмяныя шыбы
Залатою вяснянай касуляй,
Так ласкава глядзіць толькі хіба
На дзяцей дарагая матуля.

Нехта бразнуў сталёваю песняй,
Звонка сыпнуўшы іскрамі словы,
Каб з ружовай зарою прадвесня
Кожны з нас быў да працы гатовы.

*1939 г.*





## Ганад ЧАРКАЗЯН

# АПАВЯДАННІ

## БАРАНЧЫК

Шмат пабачыла ў жыцці Авечка-мама. А пражыла яна нямала. Калі разважала пра сваю, як думала, шчаслівую долю, то ўпэўнівалася, што ёй проста пашанцавала. Магла ж стаць і ўпрыгожаннем да стала на якое-небудзь свята. А то й воўк мог занесці ў сваё логава і аддаць ваўчанятам. Магла і ўтапіцца, калі пераплывала бурлівую раку, як яе родная сястра, якая, папраўдзе кажучы, заўсёды была залішне гарачая. «Дурніца!» — часта казала іх мудрая мама, якая дажыла да глыбокай старасці. Нават учора яна, сталая ўжо авечка, ледзь не трапіла ў адкрыты каналізацыйны люк. І чаго толькі не надумаюць гэтыя хітрыя людзі. А потым як бы між іншым скажуць — зламала, бедная ножку, не на руках жа яе цяпер насіць на шашлык. Хоць ёй і шанцавала, але галоўнае — нарадзілася авечкаю — не даў Бог іншага. Ды і з шанцаваннем было не ўсё як мае быць — відаць, яна ўжо вычарпала ці не ўвесь жыццёвы запал. Ва ўсялякім выпадку, на нашчадкаў яго ўжо не хапала.

Хоць напачатку ўсё было вельмі цудоўна. Яе выбраў самы дужы і грозны баран, важак атары. Ягонае каханне дало ёй усе радасці свету. А калі з'явілася ягнятка, яна не ведала, што рабіць ад шчасця. Яна магла не піць, не есці, а толькі глядзець на гэта стварэнне. Але дзеці, на жаль, з гадамі патрохі пазбаўляюць нас таго шчасця, якім напачатку адорвалі.

Яе сынок неўзабаве пачаў выяўляць свой нораў, які быў не зусім авечы. Такіх увішных ды наравістых у атары яшчэ не было. Ён безу-

---

*Ганад Чарказян нарадзіўся ў 1946 годзе ў Арменіі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута. Працаваў у прафесійна-тэхнічным вучылішчы, інжынерам-тэхнолагам, начальнікам будаўнічага ўчастка. Зараз — у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах. Выдаў у перакладзе на беларускую і рускую мовы зборнікі вершаў «Прочность», «Цвет доброты», «Пространство и время», «Шамдзін», «Караваны гор», «Чаргаві», «Плач», «Дом дождя», «Тоска по дому» і інш.*

пынку бляяў, што правы ягнят увесь час парушаюцца, што ніякай свабодай і дэмакратыяй у атары нават і не пахне, а пастух — нягоднік-тыран і крывапіўца — займаецца генацыдам іхняга народа. І чамусьці ахвяраю ненажэрнага забойцы становяцца самыя маладзенькія ды пешчаныя ягняткі, якія не паспелі нічога зведаць на гэтым свеце. Калі ўжо рэзаць — дык старых ці падстаркаў, якія шмат пабачылі ды зведалі. Не, ён не дазволіць такога здзеку, ні перад кім не стане на калені, нават перад роднаю маці!

Баранчык працягваў бунтаваць, збіраючы вакол сябе гэтакіх жа пустадомкаў. Але, як ні пагарджаў жыццём Авечкі-маці, яе нібыта ўдалым лёсам, памяняць пакуль што нічога не мог. Ды і ў атары амбіцыі і запатрабаванні маладых мала калі супадаюць з думкамі і спадзяваннямі дарослых. Нават калі гэта думкі і спадзяванні роднай маці.

Авечка-мама аднаго разу не пагадзілася з Баранчыкам і паспрабавала далікатна запярэчыць дзіцяці:

— Людзі кажуць, што разумнае ягнятка двух матак ссе...

— Няўжо толькі ім і дазволена меркаваць пра наша жыццё?! Мы ж не залазім у іхняе. Ды плюнуць я хацеў бы на тое, што яны кажуць! У нас ёсць уласны гонар! Падпарадкоўвацца і выгінацца перад пастухом — ганьба! Мы прыніжаем самі сябе і сваю свабоду. Я ніколі не стану на калені. Лепш памерці стоячы, — гэта таксама кажуць людзі, — чым жыць на каленях!

Авечка-мама была адначас і напалохана гэтакаю прамоваю, але й ганарылася: ніхто з яго аднагодкаў і гаманіць як след яшчэ не навучыўся. Яны толькі гойцалі па лужку і браліся ў рожкі адзін з адным. О, яе Баранчык ці не самы разумны ў атары. Гэта, напэўна, ад бацькі. Яна зусім не крыўдавала, што ён забыўся пра яе існаванне, асабліва цяпер, улётваючы за выгінастаю пагляднаю авечачкаю. І нават ганарылася, што яе былы муж заўсёды выбірае самых прыгожых. Значыць, і яна была такою ж. І вось цяпер яе сынок — самы разумны. І хто яго ведае, калі, дзякуй Богу, паспяхова пераадолее дзіцячы ўзрост, можа, і стане па часе гэтакім жа грозным і мудрым важаком, з якім лічыцца нават пастух.

— Пастух жа ахоўвае нас ад ваўкоў, корміць, калі ўвяне трава, лечыць ад хваробаў, як жа яго не слухацца і не паважаць?! — спыталася Авечка з надзеяю, што Баранчык зразумее сваю памылку. Але ў яго ўжо была свая думка.

— Ілжывы нягоднік! Ахоўвае ад ваўкоў, каб з'есці самому! А нашы авечыя шкуры, якія ён носіць?! Не, мама, хоць мы і жывём у атары і ўсе бараны, але, як ні маракуй, я не стану на калені! Ні перад кім!

Авечка засмуцілася, што, валодаючы немалым розумам і адметным характарам, яе дзіця вярзе невядома што. Каб хоць не пачуў хто-небудзь. Не дай Божа скончыць жыццё на шампуры — а гэта вельмі проста. Як тут упэўніць пастуха, што яе сынок самы разумны, хоць вярзе глупства.

— Ён нас корміць, таму й заслугоўвае павагі, сынок, — паспрабавала Авечка яшчэ раз пасўшчуваць сваё ўпартае дзіця. Яно толькі брыкнула капыткамі і кінулася прэч, да самай стромы, дзе стаяў іншы раз толькі важак атары, яго бацька.

Маючы адметны характар і розум, Баранчык, тым не менш, быў пазбаўлены, калі ўлічваць яго ўзрост, той інфармацыі, якая б даз-

воліла яму ўзяцца, як той казаў, за розум. А ён пакуль не ведаў шмат якіх простых ісцін — накшталт такіх, што пасля лета прыходзіць восень, а там і зіма неўзабаве. Не ведаў ён і таго, што есці хочацца і тады, калі наўкола снег і мароз. Ой як шмат ён яшчэ не ведаў. Нават таго, што калі пастух не паклапоціцца пра іх зімаванне, то ўсе яны апынуцца на чыімсьці стале. Ён яшчэ не разумеў, што жыццё вельмі складанае і неадмысловае. А за кожнаю справаю — праца. І кожная справа, як на тое, заслугоўвае ну хоць падзякі.

Увесь дзень Баранчык скуб адну траву і не падыходзіў да маці, калі яна пяшчотна і жаласліва клікала яго, хоць салодкага мамінага малака яму хацелася ўсё больш і больш. Аднак яго стрымлівалі прынцыпы, што саспелі раней, чым розум. Авечка-мама цярпліва чакала, спадзеючыся, што ўсё ўладзіцца, як зазвычай бывае ў жыцці.

Пастух, на шчасце, не ведаў пра гэтыя дыскусіі ў ягонай атары. Ён з задавальненнем назіраў за дужым і смелым Баранчыкам і меркаваў, што праз гадоў пяць, як асцеражэцца ён ад усіх небяспек, ад злодзеяў-заатэхнікаў, ад раённага начальства, што больш небяспечнае, чым ваўкі, то, дасць Бог, з'явіцца ў яго новы важак, не горшы за старога. Пра ўдзячнасць ад бараноў пастух ніколі і не думаў, а тым болей не чакаў яе. Як-ніяк, але ён упраўляўся з атараю, дамагаўся запланаваных прыплоду і прывагі. А ўсё, што звыш — як захоча, так і зробіць. Ды і ад шашлыка з маладога баранчыка ніколі не адмаўляўся. Выбіраў для яго сярод тых, што залішне гарэзлівыя і крутлівыя, гатовыя адзін аднаму растаўчы галовы.

Увечары, калі атара вярнулася ў аўчарню і Баранчык, вымучаны і згаладалы, угледзеў засмучаную маці, ён адразу знайшоў свой любімы сасок і, упаўшы на калені, з насалодаю смактаў мацярынскае малако, ні пра што не думаючы.

Калі, наталіўшы голад і патрэбу ў матчыным цяпле, ён падняўся з каленяў, дык зноў адчуў сябе вольным і незалежным. Авечка-мама заўважыла гэта.

— Сынок! Добра, што ў цябе ёсць пачуццё ўласнай годнасці. Шмат каму гэтага не хапае. Але мне здаецца, што твае дзеянні і думкі часта супярэчаць адно аднаму...

— Мае? Супярэчаць? Якія?.. — не стрымаўся Баранчык.

— Не спяшайся, не перабівай, — працягвала Авечка-мама. — Вось зараз, калі ты піў мацярынскае малако, стаў на калені. Хоць яшчэ ўранні казаў, што ніхто не прымусіць цябе гэта зрабіць. Табе не было сорамна, сынок?

— Я ж піў, мама, — адказаў Баранчык.

— Выходзіць, ты, стоячы на каленях, дзякаваў маме?

— Ну, мабыць... я пра гэта і не думаў.

— Вось-вось, не так проста зведаць усё, што адбываецца з намі ў жыцці. Адна падзея вядзе за сабою іншую, усё ўзаемазвязана, дык патрэбна добра падумаць, каб мець што сказаць. А зараз ці ты зразумеў, хто ў жыцці пастух, а хто ягня ў атары?

— Разумею, мама...

— Дык вось і запомні: калі ты ясі чужы хлеб, калі не можаш сам забяспечыць сябе, дык хоць паважай таго, хто дае табе гэты хлеб, а калі і спатрэбіцца, як ты сёння зрабіў, дык стань і на калені... Будзь

разумнейшы, і даўжэй пражывеш. Пастух ведае, што робіць, на тое ён і пастух...

Баранчык зразумеў, што Авечка-мама не толькі добрая, але й вельмі мудрая. Ён заблытаўся ў словах, бы ў густой траве, і трапіў ва ўласныя цянёты. Ну не сакрэт, што кожны — ці ў атары, ці ў статку — павінен займацца сваёю справаю.

## ДЖЫН-А

Гэты чалавек прачнуўся ад пякельных сонечных промняў, якія нібыта нашэптвалі яму:

— Прачніся, усе цуды свету чакаюць цябе! Прачніся!..

Ён прачнуўся і здзіўлена пазіраў наўкол. І сапраўды, наўкола ўсё віравала, людзі хадзілі туды-сюды, кіпеў высозны вадаспад, ляталі птушкі і над усім гэтым зіхацела чыстае неба, а яшчэ вышэй — гарачае залацістае Сонца, якое да драбніц асвятляла кожны каменьчык і куст. Яно са сваёй вышыні сумленна выконвала тое, што яму прадвызначана вечнасцю. Без лішняга шуму і мітусні. Чалавек паступова звыкаўся з усім, што адбывалася, але не мог вызначыць сваё месца ў падзеях, якія адбываюцца. Нібыта ён апынуўся ў эпіцэнтры жыцця і не быў падрыхтаваны да гэтага. Як будзе дык будзе. Але цікаўнасць і ёсць цікаўнасць, а ёй таксама хочацца паўдзельнічаць у тым, што дзеецца на свеце. А тут побач ішоў задужа заклапочаны чалавек, якога той і спыніў:

— А што гэта за месца? — папытаўся ён.

Незнаёмец з цікаўнасцю паглядзеў на яго і паківаў галавою, маўляў, я не разумею твайго пытання, а потым пайшоў як ішоў. Чалавек затурбаваўся, што ягоную мову, мабыць, не ведаюць мясцовыя людзі. Але ў гэтую ж хвіліну да яго падышла жанчына і спынілася.

— Хто ты і што гэта за краіна? — спытаўся чалавек.

Жанчына паківала галавою, усміхнулася і падставіла шчочку. Інстынктыўна чалавек дакрануўся сваёю шчакою да ягонае і пачуў меладычны голас:

— Гэта краіна задаволеных жыццём... Тут няма кепскіх і харошых людзей. Тут няма багатых і бедных. Тут не існуе межаў. Ідзі і ты, незнаёмец, ідзі дарогаю, якая табе падабаецца...

Чалавек як быццам ацвеазеў ад гэтых словаў. Ён стаяў, здзіўлены, і не ведаў, у які бок падацца. Яна, жанчына, стаяла наўпроці яго і павольна прамовіла:

— Ідзі сваёю дарогаю...

Ён пайшоў, ні на што не ўглядаючыся на шляху, і неўзабаве перастаў заўважаць гэтую дзіўную жанчыну. Потым ізноў згадаў пра яе і пашкадаваў, што жанчыны няма блізка. У тое ж імгненне яна пакрыёма, ціхутка з'явілася побач.

— Я твой шлях,— сказала яна.

— Ты — мой шлях? — спытаўся чалавек, які ад спалоху ледзь не страціў мову.

Яна зноў нахілілася і падставіла шчаку:

— Дзесяць разоў пацалуй, і ты будзеш маім сябрам праз сто гадоў...

— А чаму праз сто гадоў? Я ж не дажыву...

— Дажывеш, як будзеш рабіць гэта як трэба, — сказала яна.

А ён з кожнаю секундаю ўсё больш губляўся і не ведаў, як сябе паводзіць.

— Як я трапіў сюды і хто я? — спытаўся чалавек.

Яна ўважліва вывучала ягоныя вочы, як бы пранікаючы ў глыбіню яго розуму.

Трохі счакаўшы, адказала:

— Ты адтуль, дзе людзі кажуць адно, а робяць зусім іншае, а дзень і ноч толькі рэгламентуюць дзейнасць людзей. Ідзе велізарны эксперымент — як уціхамірыць людскія амбіцыі. Яны самі не ведаюць, як ім пашанцавала, што пакуль яшчэ жывыя. У вас жа кожны капае яму сабе і сябру, яму капае кожны і для сябе, і для іншых. Вы глухія і сляпыя. Вы абыякавыя і безадказныя. Даруй...

— Даруй? — здзівіўся ён.

— Так, даруй, але завядзёнка тут гэтакая. Калі ўжо Богам ухвалена ваша з'яўленне ў нас, мы абавязаны азнаёміць з нашымі парадкамі і адначасова нагадваць, адкуль прыйшлі вы і якія ў вас парадкі. Гэта ўсё для таго, каб арыентавацца ў нашым Сусвеце.

— Ды атрымліваецца, што я пасланы да вас для эксперыменту? — дапетрыў ён нарэшце.

— Вось-вось,— адказала яна, я — Джын-а. Ты чалавек, але тут не маеш імя. Каб атрымаць яго, павінен даказаць, што варты гэтага.

«Ці то яна прыдурваецца, ці зусім здурнела»,— падумаў чалавек.

— Не, не пра тое ты падумаў, я не прыдурваюся і, будзь упэўнены, не страціла розум. Я Джын-а, чытаю твае думкі і ведаю пра цябе ўсё...

Чалавек змоўчаў, але думкі спыніць не мог. А думаў ён усё яшчэ па-зямному. «Божухна, я прапаў...»

— Ты не прапаў, а Бога не чапай. Гэта ў вас па ўсялякай драбязе звяртаюцца да Бога. Але ж ён вам усё аддаў, а вы, акрамя шкоды, нічога не можаце рабіць. Якое трасцы ў вас не хапае? Чаму вам, каб сцвердзіць сваё імя, трэба забіць кагосьці, адняць у слабага чужое? Чаму вы любімую жанчыну можаце прадаць і здрадзіць ёй?

«Яна наладзіць мне суд»,— мільганула ў чалавека ў галаве.

Джын-а апярэдзіла яго думкі:

— Не, я не магу наладзіць вам суд. Вы — госць майго свету. Проста, каб зразумець прынцыпы нашага жыцця, трэба нагадаць вам, як жывяце вы...

«Яна мне пачынае падабацца»,— мільганула ў галаве ў чалавека.

— Я шмат каму падабаюся, але чалавек павінен думаць пра абавязак, а не жаданне. За гэта ў вас трымаюць такіх людзей у клетках, якія называюць турмамі. Вось калі б вы маглі кантраляваць свае эмоцыі, жаданні, сваё стаўленне да калектыўнага жыцця, якое квітнее ў вас, не было б турмаў, нешчаслівых людзей, крыві, слёз мацярок, сясцёр, дзяцей, старых. У той дзень, калі самакантроль пераважыць самадурства, з'явіцца шанц захаваць сваю цывілізацыю. Інакш вы наклічаце на сябе бяду. Ды такую, што ўжо не будзе магчымасці пазбегнуць катастрофы...

«Навучыцелька мая...» — чалавек стараўся болей не думаць і вінавата паглядзеў на Джын-а. Падалося, што такія прыгожыя і шчаслівыя вочы ён убачыў упершыню. І як чалавек ні імкнуўся не думаць

пра гэта, у яго не атрымлівалася. Ён разважаў. Джын-а пяшчотна зірнула на чалавека і, нібы нічога не ведаючы, працягвала:

— Вось наконт навучыцелькі... Калі чалавек камусьці дае веды, вучыць паводзіць сябе прыстойна, паважаць старэйшых, бацькоў, закон, хіба яго можна адпрэчыць? Ён для кожнага становіцца абавязкам, які ніхто не ацаніў і заплаціць за які ніколі не зможа і не здолее...

Джын-а прыпынілася і паказала на вадаспад:

— Калі няма людзей, дык і прыродзе трэба адпачыць, вадаспад таксама адпачывае. Таму што жаданні прыроды і людзей, якія тут існуюць, супадаюць. У вас усё па-іншаму. Вы самі ствараеце велізарныя цяжкасці і потым з гэтакімі ж стратамі спрабуеце ўцячы ад праблемы. У вас амбіцыі такія няўдалыя і непатрэбныя, што пакутуюць усе. Хоць можна было б і па-нашаму. Вы самі, толькі вы самі можаце ўратаваць Зямлю. Уратаваць ад саміх сябе...

У гэтую хвіліну чалавек думаў: «Як толькі вярнуся на Зямлю, калі гэта здарыцца, ніхто не паверыць мне, што быў я безыменны, пабыў на іншай планеце і там сустрэўся з Джын-а».

— Яны павераць у гэта. Калі ты вернешся, міне амаль сто гадоў. Тады мне спадабаешся. Гэта — не іншая планета. Мы таксама жывём на Зямлі. Гэта і ёсць альтэрнатыўны свет. Свет, дзе людзі робяць толькі добрае, мараць і дасягаюць той мары. Толькі ж кожны згадвае пра тое, пра што можна рэальна марыць, што абавязкова збудзецца.

«Яна разумная і неапісальная красуня», — падумаў чалавек.

Джын-а адказала:

— Гэта і праўда, і няпраўда. Там, у тваім свеце, такіх, як я, — мноства. Але ўмовы, у якіх яны жывуць і працуюць, — ці дзе яшчэ ўбачыш. Яны не вінаватыя ў сваёй грубасці, меркантыльнасці, прадажнасці, пераменлівасці. Гэта ўсяго толькі адказ на ўмовы, створаныя для іх. Бачыш, якое жыццё супярэчлівае. Бо ўсе дрэнныя і харошыя жанчыны калісьці становяцца мамамі. Але пакуль яны не сталі імі, колькі ж ім трэба вытрываць. Зрэшты, парадокс: і мацяркі таксама церпяць ад вас... Таму што ў вас няма дакладных маральных прынцыпаў. Усё, чаго вы дасягнулі на працягу тысячагоддзяў, мімаходзь разбураеце дзеля лёгкага жыцця, моды і кан'юнктуры. У вас кіруюць людзі, якія не маюць ні маральнага, ні грамадзянскага, ні чалавечага права на гэта. Да сённяшняга часу вы не маглі пазбавіцца ад былых звычак статка. Вось калі будуць пераадолены гэтыя элементарныя нормы паводзін, калі вы зможаце ацаніць чалавечае жыццё, тады здолееце на крок наблізіцца да вытокаў цывілізацыі. Тады ў вас будзе шанц дакрануцца да крыніцы каштоўнасцяў, якія ўзбагачаюць мэту і сэнс існавання чалавечай цывілізацыі. Вынішчэнне падобных да сябе прывядзе і да знішчэння ўсяго чалавецтва...

«Я згараю ад сораму і жадання дакрануцца да яе вуснаў, таму што гэтыя вусны прамаўляюць пра людское шчасце. Але чаму тое самае шчасце зусім бяздарна мінае людзей, нават крылом сваім не закрануўшы тыя мільёны людзей, якія чакаюць яго на ўзбочынах жыцця?» — чалавек адчуў, што сказанае Джын-а паступова становіцца яго думкамі.

— Так, чалавек, я, Джын-а, пагаджаюся з табою. Я ўжо пра гэта казала. Жаданні заўсёды і ўсюды павінны быць замацаваныя вызначальнымі ўмовамі. Чаму старыя людзі робяцца разумнымі і да іх думкі іншы

раз прыслухоўваюцца? Ды проста багаты вопыт дае сталым людзям магчымасць зрабіць пэўныя высновы: дзе чалавек не схібіў, дзе памыліўся і як зрабіць, каб памылак не было, каб чалавек не траціў свае дні на лухту. Памылкі — тыя ж лухта ды няздольнасць існаваць цвяроза. І трэба імкнуцца рабіць іх як найменш. Адзін з тваіх продкаў казаў: «Калі хочаш нармальна жыць, знайдзі сваё вартае месца ў жыцці і рабі тое, што прыдасца ўсім. Першае — не захапляйся азартнымі гульнямі, інакш усё прайграеш. А значыць, і жыцця як не было. Аднак на працягу тысячагоддзяў гэты красамоўны ўрок не знайшоў сабе месца ў жыцці. Другое — не захапляйся спіртным, іначай усё прап'еш. Але чаму людзі забываюць гэтую простую ісціну? А колькі вартых людзей загінула з-за гэтага зла? Урок ёсць, а вывадаў няма. І трэцяе — не захапляйся залішне жанчынамі, бо яны захапляюць больш за ўсё. А колькі дала гісторыя ўрокаў, што пацвярджаюць гэтую ісціну. Бо ўсё проста, як сонечны дзень. Адну пакахаеш — гонар і ўхвала. А другую пакахаеш — пакрыўдзіш першую, ну і гэтак далей... Усё ў свеце паяднана. Усе чалавечыя заганы перашкаджаюць чалавецтву знайсці шляхі, каб кожнаму жылося добра сёння, заўтра. Таму што заўтра будзе іншы дзень, іншае надвор'е, і промні сонца могуць не дасягнуць грэшнае зямлі... Ты не заснуў, чалавек?..

«Хіба пад гэтакія меладычныя думкі можна заснуць? Я гатовы памерці за кожнае сказанае табою слова, Джын-а...» Чалавек спакваля разумеў, што прамоўленае Джын-а — сэнс і мары ўсяго чалавецтва, якія не ажыццявіліся на працягу прамінулага стагоддзя...

— А ты мяняешся, чалавек. Ты не аспрэчваеш тое, што я сказала.

«Хоць я ўсё і разумею, але гэта не азначае, што зямляне вельмі проста з тым пагодзяцца. Хоць нічога са сказанага не пярэчыць марам чалавецтва...» — падумаў чалавек у адказ.

— Вось урок і завяршаецца. Але гэта не азначае, што ўсё заканчваецца. Гэта ўсяго толькі пачатак акцыі аздараўлення чалавека ад усіх прыкрых заганаў. Яны ўкарочваюць чалавечае жыццё і тым самым планеты Зямля. Чым раней завершыцца працэс ачышчэння, тым лепей для вас. Чалавек, табе не трэба ведаць пра нас болей за гэта. Мы, каб ты не забыўся, заўсёды побач. Працягні руку — і мы побач. Але мы пададзім руку толькі таму, хто паспяхова прайшоў ачышчэнне. І калі ўсё будзе як след, паступова знікнуць перашкоды, што падзяляюць нас. Але да гэтага яшчэ далёка, дужа далёка, на жаль...

«Напэўна, гэта сон, і ён скончыцца нечакана, як і пачаўся... А шкада...» — падумаў здзіўлены чалавек.

— Не, не сон,— пачуў ён у адказ,— ты ж хочаш, каб ва ўсяго гэтага быў працяг. Калі па-нашаму, дык мінула дастаткова часу, і калі твае перакананні не памяняюцца, дык кожны дзень, гадзіну, секунду з табою будзе Джын-а ці хтосьці яшчэ лепшы. На развітанне, чалавек, па звычаю, ты можаш пацалаваць мае грудзі, і, магчыма, праз пяцьдзесят нашых гадоў з'явіцца на свет наіўны і чысты нашчадак чалавека з Зямлі, якога я назаву «Самы цудоўны сон».

«Я ўдзячны табе, Джын-а, хай сабе і памру на тваіх грудзях, таму што лепшай жанчыны няма і не будзе ў маім жыцці...» — думаў чалавек, пакуль набліжаўся да Джын-а.

Яна была чароўная, гэтая жанчына. Ён доўга не мог пазбыцца ад яе красы, ад пяшчотнага дотыку да Джын-а. Потым, калі чалавек з на-

салодаю расплюшчыў вочы, ён ужо адчуў цеплыню іншага свету, супярэчлівага і падманлівага...

Ад моцнай поўхі ён раптам ачомаўся.

— Ах ты, алкаголік няшчасны, набраўся, толькі пра гэтае і думаеш...

— Джын-а!

— Ах вось, яшчэ і Джын-а, — пачуў ён звыклы голас сваёй жонкі і ўпаў на падушку, матлашыў яе і бубнеў: «Джын-а, дзе ты? Ты падманула мяне! Джын-а!!!»

У тую ноч да самай раніцы чалавек, які ўжо ведаў сваё сапраўднае імя і імя сваёй жонкі, не звёў вачэй і ўсё паўтараў:

— Джын-а, не падманвай мяне, Джын-а, Джын-а, Джын-а...

# ПЛОТ

Дзед Арам атрымаў сваё імя ў гонар сябра сям'і з вёскі Кізнафар. Імя знанае, але не курдскае. Гэта й зразумела — сябра ж армянін. А да імя прыставілі канчатак «ян» і атрымаўся сапраўдны армянін — Арам Арамян. Ішла показка, што тут не ў сябры справа — ну як жа без сяброў пражывеш,— а ў тым, што жыла сям'я ў армянскай вёсцы і паклапацілася, каб сын як найменей вылучаўся сярод землякоў, а значыць, і менш рызыкаваў у жыцці. Старое, але часам засведчанае правіла. Яно ніколі нікога яшчэ не падводзіла.

Дзед Арам увесь час сцвярджаў, што армяне такія ж людзі, што й курды, ні наколькі не горшыя, толькі на больш арганізаваныя. І галоўнае, што яны проста так ніколі і нікуды не спяшаюцца. Ды й любяць жыць на адным месцы, хоць лёс і супярэчыць гэтаму. Курды ж любяць пераязджаць з месца на месца. Залішнюю ўвагу на тое, якая ў суседа нацыянальнасць, армяне зазвычай не звяртаюць. Усё залежыць ад самога чалавека. Калі харошы, дык будзь хоць турак. Але затое сярод супляменнікаў армянскае дзедава імя рабіла яго белай варонай і давала нагоду незычліўцам паплявузгаць. Такі-сякі халадок адчужэння дзед іншы раз зведваў, асабліва сярод незнаёмых. Але ён упарта заставаўся Арамам, хоць і не быў пазбаўлены неабходнай у жыцці гібкасці. З дурнямі быў просты, з разумнымі — разумны, з дарослымі — дарослы, а з дзецьмі быў таксама дзіцянём. Таму яны, відаць, і кучкаваліся вакол яго. Да таго ж дзед быў выдатным распавядальнікам. А ўжо ўсялякіх гісторый ды прыгод у яго было вялікае мноства — і сваіх, і чужых.

Калі заходзіла размова пра яго армянскае імя, дзед распавядаў як бы паміж іншым выпадак, які адбыўся з ім, калі ён жыў яшчэ ў армянскай вёсцы. І дзе, па сцвярджэнні злыязычнікаў, нахапаўся ўсяго армянскага.

У сяброўстве і згодзе, па-суседску пражылі доўгія гады сем'і Ашота і Арама. Нішто не раздзяляла іхняй зямлі, акрамя вузкай мяжы. А злучала кароткая — ад дома да дома — сцежка, па якой суседзі раз-пораз спяшаліся адзін да аднаго. У харошых суседзяў, як вядома, шмат прычын, каб заглянуць на агеньчык. Тым болей, што жылі ў той час аднолькава бедна ўсе — таму ўтойваць што-небудзь ад суседзяў не было звычкі. Хто ж цябе выручыць, як ні сусед. Па кручок для лава-

ша — каб выняць яго з таніра — цётка Джан, Ашотава жонка, заўсёды прыходзіла да іх, а Арамава жонка, Зукія, часта прыбягала да суседкі па соль. Праўда, проста лічылася — пайшла па соль. Можна было дзесяць разоў зварыць самага старога і няўварыстага барана, пакуль неразлучныя суседкі ўдосталь не нагаворацца.

Да таго ж жылі не закрываючыся, без замкоў — красці не было чаго. Хіба што — кручок для лаваша. З-за яго і адбылася гісторыя, якая магла скончыцца вельмі блага. Але спачатку з'явіўся каменны плот — першы ў вёсцы. Гэта ён і адгарадзіў Ашота ад Арама. Той-сёй пасмейваўся над Ашотам, але Арам не дазваляў сабе ніякіх выказванняў. Ён паважаў волю суседа на ўладкаванне свайго ўласнага жыцця. Хоць Арам і маўчаў наконт гэтага, нават наадзіноце з жонкаю, але ў глыбіні душы быў дужа пакрыўджаны. Гэтым плотам Ашот як быццам адгарадзіўся ад яго. Можа, таму, што ён курд? І, нягледзячы на армянскае імя і прозвішча, пра гэта ўсё ж не забыліся? Але так ці іначай, а сцяна ўсё ж вырастала. Арам таксама прымаў хоць які, а ўдзел у будаўніцтве. У дзень заканчэння работы прынёс збан маладога віна, які і распілі ў харошай кампаніі. Смяяліся, жартавалі, але ўсім было чамусьці няёмка, як быццам зрабілі яны штосьці не вельмі добрае, нават брыдкае. Аднак зробленага не вернеш. Вось яна, сцяна! Ашот аднойчы ўпёрся ў яе, калі на лёгкім падпітку памкнуўся ісці, як звычайна, па сцежцы, якая яшчэ не паспела зарасці. А каб яе д'ябал, гэтую сцяну, ды і высокая, што не адолееш! Падаўся сумны Арам уздоўж гэтай не абы-якой сцяны да няблізкага выхаду. Вось так і здарылася, што ўжо лішні раз не зазірнеш да суседа — па справе ці проста так, слоўкам перамовіцца. Было, што і тыднямі не бачыліся. І вось аднаго разу, пад вечар, з-за сцяны пачуліся якіясь нязвыкла трывожныя крыкі. Як быццам клікалі на дапамогу. Так, гэта Ашот, ягоны голас, хоць і прыглушаны сцяною. Арам, не задумваючыся, памчаўся напрасткі па знаёмай сцяжынцы, але з разбегу ледзь не ўдарыўся аб сцяну, якая нечакана вырасла з цемры. Сцяна! А хай цябе ліха! Арам ірвануў уздоўж, у абыход. А крыкі ўсё не сціхалі. Задыхаючыся, Арам забег у двор. Сусед, ухапіўшы жонку за ногі, з крыкам і віскатам выцягваў яе з таніра. Адзенне на ёй дымілася. Яна крычала ад апёкаў рук і твару. Потым, мабыць, страціўшы прытомнасць, аціхла. Арам дапамог аслабеламу суседу. Выцягнулі, нарэшце, абпаленую жанчыну. На яе было страшна глядзець. Прыбеглі і дальнія суседзі. Хтосьці прынёс гаршчок з мацуном, пачалі абмазваць апечаныя месцы. Суседка апрытомнела, пачала стагнаць. Яна яшчэ доўга пакутавала, але выжыла. Хоць ужо да канца жыцця закрывала калісьці вельмі прыемны твар чорнаю хусцінай. Але рукі былі заўсёды навідавоку, не давалі забыцца на тое, што здарылася. Ёй яшчэ пашанцавала, што муж апынуўся побач, не разгубіўся, своечасова паспеў Арам і разам яны вызвалілі яе з вогненнага капкана. А ўрэшце ва ўсім быў вінаваты кручок ад таніра, які спакойна вісеў пад такім жа навесам над печкаю — толькі на дварэ ў Арама. Да яго было нейкіх дваццаць крокаў. Раней, калі не было сцяны. А цяпер аддзялялі яго не менш за сто. Ну, а ведаеце, якія жанчыны? Хутчэй, хутчэй! Яны голаю рукою за распаленую патэльню хапаюцца — і хоць бы што. Дык вось і Джан паленавалася схадзіць і ўзяць яго зараней, а тут ужо і лаваш гатовы, як бачыш падгарыць — Ашот такога не любіць. Вось яна і нахілілася над таніра, над гара-

чым вуголлем. А галава закружылася — не маладзенькая ж. І вось табе няшчасце, гора на ўсё жыццё.

У гэтым месцы дзед Арам прымаўкаў. Але абавязкова знаходзіўся слухач, які заўсёды пытаўся пра адно і тое ж:

— А што ж было далей?

— Ды нічога асаблівага. Прачнуўся аднаго дня раніцай, гляджу — дзірка ў плоце. Ашот побач увіхаецца. Ну, падышоў. Гляджу, а ён не рамантуе сцяну, а разбірае яе. Трохі дапамог яму. Добрая справа. Каб нашай сцежцы нічога не замінала. А вы кажаце Арам — імя армянскае. Вось так. Не патрэбны сцены, не патрэбны платы, навошта межы, навошта ад кагосьці хавацца. Жывіце так, каб вам не было чаго саромецца. І памятайце, што чалавек відзён за самым высокім плотам.

# РАЗБІТЫ ЗБАН

Пасля завіхання ў вінаградніку, ён як звычайна, сядзеў на лаўцы і ціхамірна назіраў, як людзі кудысьці спяшаюцца. Адны ідуць у адзін бок, а хтосьці — у свой. Яму чамусьці здавалася, што ўвесь рух павінен падпарадкоўвацца толькі законам космасу, дзе ўсё прадвызначана на шмат стагоддзяў. Там усё пастаяннае і выверанае па часе. Сонца — «Ух ты, мой карміліец», дае высновы дзеду жыць менавіта гэтак, як яно — даваць святло, цяпло, напрамак жыцця... Вось так — кожны дзень. Але часта дзедавы развагі перапыняў суседаў сынок. Ён імкнуўся пагаманіць з дзедам, які не быў яго родны, але проста «старэйшы». Так называюць людзей, старэйшых за бацьку. Гэта па традыцыі...

Дзед нават узрадаваўся чарговаму з'яўленню хлапчука. Ён з мудрасцю пражытых гадоў разумеў, што ў яго і ў суседскага сына ёсць штосьці агульнае. І тут жа вырашыў, што сам як быццам выкрышталізаваўся, прайшоўшы праз усе перыпетыі жыцця. Стаў чысцейшы па аб'ектыўных прычынах. Магчыма, што прайшоў праз сіта жыцця і стаў крыху рамантыкам, мудрым, добрым, а яшчэ з'явіліся пачуцці, якія, хутчэй за ўсё, бываюць вось у такіх хлапчукоў. Пакуль жыццё яшчэ ў светлых фарбах, і гэтак важна, каб не патрапіць у цёмныя цянёты. У дзеда калісьці была вялікая і дружная сям'я, але па часе ўсе разышліся, раз'ехаліся, ды, дзякуй Богу, пра яго не забыліся, не пакінулі аднаго. Вунь там, непадалёку, дом старэйшага сына, які абавязкова наведвае штодня. Так зазвычаена. Прыносіць хлеб і ўсё, што патрэбна. Але ніколі не скарыць дзедавы капрызы — жыць аднаму і вольна. І гэтак склалася, што стары жадаў жыць асобна, у сваім старым доме, з усёю гаспадаркаю, нібыта ў адпачынку, а напраўду гэта й было для яго сапраўдным жыццём — увесь дзень у руху. Без стомы.

Цікаўны суседаў сын аднаго разу спытаў:

— Ты, дзед, колькі пражыў на зямлі?

Дзед адказаў не адразу. Ён проста не хацеў, каб хлопчык, дарослы не па сваіх гадах, падумаў, што на ўсё тут жа знойдуцца адказы. Але потым прамовіў:

— Восемдзесят восем, потым будзе восемдзесят дзевяць, а потым — дзевяноста...

— Гэта добра адрэагаваў хлапец, нібыта расшыфраваў тое, што сказаў дзед, а потым спытаўся: — А чаму вы жывяце адзін, бо можна

жыць і са старэйшым сынам. У вас гэтак шмат дзяцей і сваякоў, што пазайздросціш.

— Ніколі нікому не зайздросць, сынок, гэта няўдзячная справа. Мне на сваім веку давялося шмат пабачыць, але мне ніколі не падабалася, калі зайздросцілі. А ўвогуле, мне даспадобы так жыць. Я чалавек вольны. Усё, што патрэбна, я маю. І яшчэ хочацца мець насалоду ад таго, што табе вяртаюць даўгі, кожны дзень. Месяцы, гады. Прыемна, таму што адчуваеш: на свеце зрабіў тое, што па часе не забываецца...

— А які доўг, дзед? Хто вам так шмат вінен? — не сунімаўся суседаў сын.

— Я табе раскажу сучасную прытчу пра хлеб і доўг. Кажуць, што адзін чалавек купляў залішне шмат хлеба для сям'і. Аднаго разу прадавец хлеба спытаўся, маўляў, навошта табе кожны дзень столькі хлеба. Той, з непаразуменнем глянуўшы на яго, растлумачыў, што варта было б усім людзям захоўваць звычаі і доўг перад сваімі продкамі. Вось куды і як дзеліцца хлеб. Адну яго частку, маўляў, з'ядаюць ён з жонкаю, другая дзеліцца паміж дзецьмі, нібыта даецца ў пазыку, каб яны маглі спакойна падрасці, а вось трэцяя частка аддаецца бацькам — вяртаецца доўг. І калі б усе людзі на зямлі прытрымліваліся гэтага прынцыпу, шмат каму было б і прыемней, і зручней. І гэта варта было б запомніць. Таму традыцыі і жывуць стагоддзямі, бо нясуць у сабе мудрасць жыцця. Спачатку аддай, а потым чакай аддачы. У любым выпадку, нішто на гэтай зямлі не бывае дарэмнае. Вось так, сынок...

Суседаў хлапец слухаў, раскрыўшы рот, і ўсё пачутае здавалася такім мудрым і праўдзівым, што дахаты ісці зусім не хацелася.

Дзед зноў пачаў казаць:

— А маё завіханне ў вінаградніку — гэта яшчэ адна спроба напоўніць жыццёвую прастору сэнсам. Напоўніць жыццё такім сэнсам, каб не засталося думкі пра сумнае. Думаць трэба аб прыгожым і вечным. Прыгожае заўсёды вечнае. Гэтак склалася тысячагоддзямі. А вось табе яшчэ адзін урок пра мудрасць нашай мовы, адносіны да продкаў. Ты гэтак пяшчотна называеш мяне дзедам. Але ж я табе папраўдзе не дзед. Але гэтак павялося сярод нашага народа. Адпачатку ў гэтым слове прыхавана важная мэта. Вельмі мудрая. Вось паслухай, як яно выходзіць. Да ўсіх мужчынаў, бацькавых аднагодкаў, ты звяртаешся «ано», гэтак жа, як і да бацькавых братоў. А вось да маміных братоў ты ўжо звяртаешся «хало». Усе, хто старэйшы за бацьку, для цябе ўжо дзяды. Ці чужы ён табе, ці не чужы. Гэта адносіны пакалення да пакалення. Гэта паважна і мудра. Вось так, сыне.

Суседскі сынок на гэтым не заспакоіўся. Увечары, калі дзед скончыў усе свае справы і заняў звычнае месца каля сцяны, зноў з'явіўся суседскі хлапчук. Гэтым разам ён прыбег з тузінам пытанняў, на якія дзеду трэба было адказаць. А дзед як бы і чакаў гэтага:

— Ну, з чаго пачнём, сынок?

Між тым хлапчук уважліва ўслухоўваўся, пра што прамаўляў дзед, хоць таму было ўсё роўна, што казаць. Спачатку размова ішла пра машыны, якія дзед па звычаю называў «арба».

— Мой юны сябра,— тлумачыў дзед,— не, я не блытаю назвы ці новае прызначэнне машын. Не. Як даўней мае продкі казалі «арба», дык і я гэтаксама. Ты ж і сам бачыш, што нічога не памяняла-

ся, усё тыя ж чатыры колы ды чалавек. Проста родную мову трэба аберагаць ад чужых слоў. Чым менш будуць гэтакія словы засмечваць нашу мову, тым лепш. Тым больш чыстай яна будзе. Бо калі б нашы продкі не дбалі пра чысціню роднай мовы, дык яе ўжо й не было б. Вось як, сынок... А зараз і ты адказвай на мае пытанні. Аднойчы, кажуць, гэта было вельмі даўно, залішне скупы і строгі бацька віжаваў за сваёю адзінай дачкою гэтак старанна, што беднай дзяўчыне не было як выйсці з дому.

— Спакусаў шмат, а дачка — адна,— казаў строгі бацька ды яшчэ й апраўдваўся: — Яна ёсць і будзе самая багатая нявеста на свеце.

Тое, што дзяўчына была красуня, ніхто не мог аспрэчыць. А што спакусаў нямала — таксама не запярэчыш. Наконт багацця тым часам ніхто і не сумняваўся. Але ўсё ж заставаліся сумненні, што скупендзя бацька можа ў самы апошні момант, як той казаў, «перакроіць» прыданае сваёй любімай дачкі.

З людзьмі яна спатыкалася толькі тады, калі разам з аднагодкамі, узняўшы на плечы збаны, хадзілі разам па ваду. Аднаго разу здарылася, што дачка строгага і скупога чалавека выпусціла з рук збан і разбіла яго. Усе ведалі, што яе скупенда бацька за гэта абавязкова пакарае дачку. Калі вярталіся ад крыніцы, сяброўкі як маглі суцяшалі дзяўчыну. Але тая перажывала і разумела, што бацька гэты выпадак проста так не даруе. Папраўдзе кажучы, збан быў сямейнай рэліквіяй, таму спытаюцца з яе ой як моцна...

Калі сяброўкі набліжаліся да дома дзяўчыны, яны раптам спыніліся, знялі збаны з плячэй і бразнулі іх аб зямлю. Тыя разбіліся, а вада, вядома ж, выцекла...

— Ну вось і вырашэнне твайго пытання. Цяпер бацька не будзе караць цябе. Ніхто нікога не пакарае. Вось гэтакі лёс у збаноў: якія яны ні будуць, але ўсё роўна паб'юцца. Такі лёс як у збаноў, так і ў людзей...

Усё гэта чуў і бачыў бацька дзяўчыны. Тое, што зрабілі доччыны сяброўкі, здзівілі скупенду. Кажуць, што з гэтага дня ён зрабіўся зусім іншы. Штосьці ў ім перамянілася. Людзі моцна дзівіліся, калі аднаго дня скупы бацька хадзіў і раздаваў новыя збаны тым, хто дапамог яго дачцэ. Гэта было дужа даўно. Вось так, сынок. А зараз скажы, чаму скупы бацька раптам перамяніўся і зрабіўся іншым?

Хлопец думаў нядоўга, як быццам зараней меў адказ:

— Ён, бацька дзяўчыны, можа, быў асляплены багаццем і не бачыў, што дзеецца наўкол. Ён ніколі не паверыў бы, што пра яго так нядобра кажуць. І калі пабачыў ды паслухаў доччыных сябровак, зразумеў, што людзі розныя, але ў самую цяжкую хвіліну абараняюць таго, у каго бяда-гора. Багацце, хоць так проста і не даецца, але яно тады багацце, калі служыць людзям.

— У цябе дзённік ёсць? — спытаўся дзед у хлапчука.

— Ёсць.

— Папрасі ад майго імя, каб настаўнік паставіў табе выдатна. Ты гэтага варты.

— А што было з тою дзяўчынаю, дзед?

— Што-што? Як і заўсёды, выйшла замуж за дзеда... Але гэта было так даўно, так даўно, што й згадваць не хочацца. І калі ты будзеш гэтакі, як я, на шмат якія пытанні нават і ў цябе не будзе адказу. Бо такое жыццё, мой юны сябра...

# ПРАВІЛЬНАЕ РАШЭННЕ

Была ранічка, і насуперак сваёй назве рачулка Шумная не шумела. Спешчаныя ранішнімі сонечнымі промнямі невысокія хвалі прылашчваліся да каменнага берага. Гэтак было штодня. А можа, яно так здавалася. Але, як заўсёды ўздымалася Сонца на сваю вышыню, як быццам для таго, каб угледзець, ці дайшлі яго далёкія промні да Зямлі і куды яны не патрапляюць.

На люстрадзі Шумнай Сонца заўсёды знаходзіла сваё светлае адлюстраванне і, мабыць было задаволенае, бо яму было гэта неабходна.

На стромкім беразе апошнім часам штодня сядзеў чалавек і пазіраў на ранішнюю раку, углядаўся ў цудоўнае чыстае неба, на прымоўклую пакуль раку Шумную, і разважаў, што ж будзе з людзьмі, калі Сонца раптам зверне са свайго звычайнага шляху і не здолее сустрэцца з хвалямі Шумнай?

Ён быў вельмі шчыры і гэтага ж чакаў ад іншых. Ён быў занадта ўлюбёны, але не хацеў, каб гэта бачылі іншыя. Таму на тым стромым беразе ён сядзеў адзін. Нібыта ад яго ўцякалі і ўдача, і само жыццё. Пакуль ён у бядоце. Праз сілу закончыў вучобу і вярнуўся ў родныя мясціны, ужо не засталося таго, адкуль ён з надзеяю выпраўляўся вучыцца. З'явіліся на гэтай зямлі новыя гаспадары, як тыя заваёўнікі, і жыццё зрабілася зусім іншым...

Усё наўкола стала шэрае, аднастайнае, аднолькавае. Мал — гэта было ягонае імя — нарэшце зразумеў, што шмат што ў жыцці адбываецца не так, як нават у самых лепшых і цікавых кнігах. І ён са свайго звыклага месца, дзе рака была ціхаю і здавалася, што ў празрыстай вадзе плывуць гэтакія знаёмыя рыбкі, стаў сведкам падзей, якіх і бачыць не хацеў бы. Але, напэўна, лёс так вырашыў. З высокага супрацьлеглага берага, пазіраючы на плынь, пад ранішнімі промнямі Мал на свае вочы ўбачыў, як з берага скінулі ў Шумную чалавека. Ён доўга боўтаўся ў вадзе, але не патануў. Яго белая, як гарбуз, галава, то з'яўлялася, то хавалася пад ваду. А там рака Шумная была даволі ціхаю, і Мал разважыў, што людзі зноў ладзяць злачынства і няма каму іх спыніць. Потым на беразе з'явіліся тыя двое і дзеля забавы ці назнарок пачалі рабіць з гарбуза мішэнь. Кулі ці далей, ці бліжэй успеньвалі ваду ў Шумнай, але не траплялі ў чалавека...

Тым часам рака Шумная панясла чалавека ўніз па плыні. Відаць, стралкі заўважылі на беразе староннягa і проста сышлі, пакінуўшы ў халоднай ранішняй вадзе невядомага, які, як паплавок, то з'яўляўся, то хаваўся пад ваду... Чалавек прыкінуў: ці не д'ябальскія справы тут дзеюцца. Але яго бацька быў добры, не горшы, мабыць, і дзед, якога ён і не бачыў. Гены ёсць гены, яны перадаліся і Малу. «Калі адчуваеш няпраўду, — казаў ягоны дзед, — паспрабуй зрабіць яе праўдаю, а калі не атрымаецца, запамятай, што з табою можа здарыцца тое ж самае...»

Мал скінуў з сябе адзенне, і калі паплавок плыў насупраць, кінуўся яго ратаваць. Калі Мал адратоўваў чалавека, якому пагражала доўгае плаванне па рацэ Шумнай і, магчыма, ён стаў бы смачным «аб'ектам» для рыбаў і іншых насельнікаў ракі, з'явіліся тыя з другога боку і пачалі страляць... Але страляніна не здоўжылася, бо на яе

з'явіўся малодшы Малаў брат, які лепш за свайго навучонага брата арыентаваўся ў жыцці, дык і таксама пачаў страляць, але ў паветра, нібыта добрасумленныя правааховўцы...

Каб пазбегнуць вайны, тыя двое не расходавалі каштоўныя патроны і, мабыць, сышлі, каб не вяртацца...

Чалавек, якога скінулі ў ваду, быў не зусім просты.

— Яны хацелі напалохаць мяне. Але забіваць, напэўна, не планавалі...

Гэтак былы «паплавок» спрабаваў апраўдацца, што яго ўсё ж не забілі. Але было відаць, што ўсё не так проста, што ён нешта залішне прыдумляе... Калі дома браты напаілі яго гарбатаю, а яшчэ й налілі чарку гарэлкі, белая галава нядаўняй мішэні загаманіла:

— Я гаспадар усёй гэтай зямлі. Скажыце, што вы хочаце за маё выратаванне, і я ўсё выканаю.

— Усё роўна як у казцы,— сказаў Мал.

— Ну акурат,— дадаў малодшы брат.

Тым часам уратаваны адумаўся і дадаў:

— Яны яшчэ, можа быць, з'явяцца, але мяне не змогуць забіць. А вас — хто яго ведае...

— Ну, гэта ўжо мне не падабаецца,— сказаў малодшы брат,— мы ціхамірна жылі, нікога не чапалі. І вось — на табе...

— Мне таксама не падабаецца гэтая нечаканая гісторыя, і нам не варта ўмешвацца ў далейшыя падзеі...

— Я вам заплачу столькі, колькі й не снілася...

— Не, скажы папраўдзе, як ты стаў гаспадаром вось гэтых камяністых берагоў, дзе нашы продкі і продкі іх продкаў жылі варта і нікога не крыўдзілі?

— Вы яшчэ маладыя і пакуль што не ведаеце, што такое ўлада і грошы. Калі забілі старога валадара — краіна пайшла па шляху ў нікуды. Тады тыя, хто быў бліжэй да карыта і завіхаўся каля яго, — тыя і сталі новымі валадарамі. Ніхто нічога не краў, а прыдумалі такія парадкі, што бяры не хачу...

— А што цяпер? — не стрымаўся вучоны Мал, які ўсё сваё маладое жыццё аддаў на тое, каб даведацца, як пабудаваны свет, каб, не дай Божа, не закрануць, не скрыўдзіць чужыя інтарэсы і памкненні.

— Цяпер новы валадар зрабіўся неўраўнаважаны і зноў прадаўся. Яму ўжо не патрэбныя тыя, хто бачыў яго ўздым і падзенне зблізку.

Стала відавочна, што над домам, над сям'ёю навісла небяспека. Выходзіць, што гэты кавалак зямлі — чужы. Можа, і Шумная цячэ не туды? Можа, і Сонца свеціць не так? Можа, сюды хутка вернуцца тыя, хто прыхаваў свае патроны...

— Навошта нам украдзеныя даброты ды багацце, брат? — спытаўся малодшы брат, які заўсёды быў больш увішны за ўсіх.

— А нінавошта, — адказаў старэйшы брат.

Малодшы разумеючы, што Мал, навучоны яго брат, падтрымлівае яго, кінуўся да хлеўчука па старую гумовую камеру, на якой яны з маленства плавалі ў чыстай вадзе Шумнай...

— Вось,— сказаў Мал, тое, што вам патрэбна. А мы не хочам чужога багацця. Плывіце далей па рацэ. Ваш лёс у вашых руках...

Перш чым выправіць новага гаспадара гэтай зямлі ў невядомае плаванне, браты налілі яму шклянку гарэлкі, пажадалі дабра ды шчасця, і, вядома ж, здароўя...

— Вы гэта не зробіце...

— Мы зробім гэта, — сказаў навучоны брат, — пачуццё самазахавання падказвае... Мы заўсёды былі вольнымі людзьмі, гэтакімі і застанёмся. А вы, хутчэй за ўсё, пабагацееце, займееце шмат якой маёмасці, але будзеце ўсё жыццё дрыжэць і прыкрывацца аховаю! А фінал жа ўва ўсіх аднолькавы. З сабою на той свет нічога не даюць. І браць нельга, хоць, кажуць, там мытні няма...

— Жартаўнік, — сказаў багаты.

Браты ціхамірна апусцілі яго ў пракаветную чыстую ваду Шумнай, кінуўшы туды ж надзіманую камеру.

— Счаслівага плавання. Не крыўдуй, у нас розныя шляхі. Ды і небяспечна разам з вамі... Кожнаму сваё...

Той ужо не ўпарціўся і нават праказаў такі-сякі «дзякуй».

— Не ўспамінайце блага! — памахаў рукою Мал. А малодшы брат салютаваў прышламу стрэлам са старое аднастволкі...

На супрацьлеглым беразе зноў з'явіліся тыя двое, што кінулі ў Шумную заможнага чалавека і наладзілі на яго незразумелае паляванне.

— Эй вы, паўдуркі, — крычалі яны з таго берага,— як гэта ўсё зразумець? Вы з такой цяжкасцю яго... Ледзь самі не патапіліся... Выратавалі яго і зноў кінулі ў ваду?..

Старэйшы брат, не доўга думаючы, адказаў:

— Нас дзед і бацька вучылі: зрабі добрую справу і кінь у рэчку...

І малодшы заганарыўся, што ў яго такі разумны старэйшы брат...

## ГАНДЛЯР

І што ў гэтым свеце дзеялася? Усюды, як на вялізным кірмашы, прадавалі і куплялі ўсё. Хтосьці дыхтоўныя залатыя ўпрыгожанні, а той-сёй і падробкі пад тыя ж самыя пазлацанкі. На іх таксама быў попыт. Гэтак, як заўсёды. Добры і сумніўны тавар прадавалі побач. І адзін, і другі гандляр мелі прыбытак.

Аднаго разу, памаракаваўшы над кірмашовымі з'явамі, наш герой Алі зрабіў для сябе вызначальную выснову. Кірмаш — прываба для людзей, і чалавек, які ідзе туды, заўсёды на нешта арыентуецца заранеи. Яму штосьці патрэбна. А што ён купіць — залежыць ад гандляра. Алі вярнуўся з кірмашу, маючы свой план. Калі ўсе прадаюць і купляюць, дык чым ён горшы? Гледзячы, што ёсць на тым кірмашы патрэбнае ці непатрэбнае, Алі змікіціў, што неабавязкова хадзіць на працу штодня, як гэта робяць людзі з некалькімі вышэйшымі адукацыямі. Ну навошта, як той казаў, уплішчваць сябе ў нейкія часовыя жорсткія межы і дабрахоць здзекавацца над сабою, выконваючы не надта прыемны занятак, і, вядома ж, атрымліваючы за гэта нікчэмную зарплату? Алі вырашыў, што ён разумнейшы за ўсіх, самы ўдалы ды прайдзісветны. А калі папраўдзе, дык працаваць ён не любіў. Але думаць, як абхітрыць людзей, як кажуць, вешаць лапшу на вушы, што робяць гандляры, маючы пры гэтым «навар», любіў.

Перш чын увайсці ў кірмашовае жыццё, Алі вельмі старанна рыхтаваўся. Ён выбраў месца, дзе павінен стаяць ягоны прылавак з усім таварам. Пакуль не стаў за гэты самы прылавак, ніводнага разу не прагаварыўся, што ж будзе прадаваць. Баяўся канкурэнтаў. Мы шмат ведаем літаратурных герояў, якія былі рознымі там ашуканцамі ды аферыстамі, але ўсе яны жахнуліся б, каб уведалі, што задумаў Алі. Ён, вядома ж, не быў ашуканцам, а тым больш аферыстам. Проста захацеў «уліцца» ў тое рэчышча, што віравала ў тымчасным жыцці. Ён зазвычай падумаў, што ёсць дэфіцыт чагосьці, значыць, павінны быць і прапановы. Алі навесіў над прылаўкам надпіс, што тут прадаецца ні што іншае, а сумленне...

Першымі днямі людзі падыходзілі, але, прачытаўшы надпіс, усміхаліся і ішлі прэч. Мабыць, мяркуючы, што Алі ці паўдурак, ці сапраўдны дурань. «Усё ідзе па графіку», — сцвярджаў сам сабе Алі. Ён заказаў безліч надзіманых шарыкаў з надпісам: «Што б я ні рабіў, усё раблю сумленна!» Усе гэтыя шарыкі за дзень былі прададзеныя. І каля кожнага прылаўка з'явіліся ягоныя шарыкі. Ён ужо мог лічыць сябе не абы-якім гандляром, але надпіс над прылаўкам не памяняў. Бо сумленне заўсёды было дэфіцытным. Шарыкі Алі зрабіліся папулярнымі. Бізнес, які толькі пачаўся, набраў між тым сілу. Алі звярнуў увагу, што яго шарыкі з дзіўнаватымі заклікамі падабаюцца людзям. Значыць, чым больш дзіўнаватая ідэя, тым больш яна папулярная. Аднаго разу да прылаўка падышла сталага веку жанчына і пацікавілася, як і па колькі прадаецца сумленне. Хацеў Алі панасміхацца, маўляў, што вы за людзі, калі не ведаеце, што сумленне не можа прадавацца, але... Нічога не сказаў, выдаў сябе за сур'ёзнага і дзелавога чалавека, пакланіўся бабулі і адказаў:

— Вам, даражэнькая, я ўсю сваю прадукцыю магу прадаць за так.

Бабуля здзівілася, але не адышлася ад прылаўка:

— Ты лепей мне скажы, ці дае хоць што людзям твая прадукцыя? — спыталася яна.

— Калі чалавек верыць, што нават у чыстым паветры нешта ёсць, дык гэта і сапраўды так. Галоўнае — ведаць, чаго чалавеку не хапае... Вы ж самі бачыце, што на кірмашы не кожны купляе ўсё, што там прадаюць. Кожны выбірае тое, што яго цікавіць...

— Ну, відаць, ты прайдзісвет, сынок, і ведаеш сваю справу. То дай мне колькі можаш сумлення пад рознымі надпісамі. А Бог яго ведае, можа, у гэтым і ёсць нейкая логіка...

Алі штодня рабіўся ўсё больш вядомы ды папулярны. Напачатку людзі зазвычай не звярталі на гэта ўвагу. Але потым ці то жартам, ці ўсур'ёз пачалі дарыць яго пакеплівыя шарыкі адзін аднаму. Смех смехам, а гандаль у Алі квітнеў, здавалася б, на пустым месцы. Тая ж бабуля прыйшла яшчэ раз, купіла ў яго шмат што і паміж іншым сказала:

— У цябе, сынок, хоць і паветра ў шарыку, але ёсць да паветра абалонка. Гэта ж нешта значыць. А мой ёлуп прадае толькі паветра. І я баюся за яго...

Алі быў кемлівы чалавек, але згортваць сваю справу не збіраўся. Ён ужо прадаваў сваю прадукцыю ў шматкаляровай упакоўцы і быў рады, што вынайшаў тое, чаго не хапала людзям. І чым ён абсурдней думае, дык яго думкі робяцца больш каштоўнымі...

Людзі паступова звыкліся, што побач ці то жартам, ці ўсур'ёз прадаецца тое-сёе, што нельга, даўмеўшы розуму, ні набыць, ні купіць. Гэта вельмі ж ёміста называюць сумленнем. А калі яно ёсць у чалавека — дык ёсць, а як не — дык не. А купіць сумленне — глупства, ды й немагчыма...

Усе ведалі пра гэта, але кожны хоць аднойчы падыходзіў да прылаўка Алі, каб ці для знаёмага, ці сябра, а як станецца, дык і для сябе, набыць яго выраб. Закон кірмашу — ён непарушны. А ці адпавядаюць твае дзеянні законам таго ж сумлення, ці марам, застаецца пад пытаннем. Розным людзям, меркаваў Алі, патрэбна свая мараль. Хоць папраўдзе, калі падумаць, кожны чалавек можа набыць тое, што хоча.

Але Алі ведаў, што такі заробак — не самае горшае. Ды й не самае лепшае. Але сядзець без працы і выгалодваць, калі ўсё на свеце блізкае да абсурду — прадаецца ды купляецца... Алі як мог праганяў ад сябе непрыемныя думкі, бо прыгадваў, што ў жыцці, як бы ні было, усё адбывалася адмыслова. Кожны чалавек жыве сам сабе, але было б добра, каб кожны меў яшчэ й сумленне. Бо жыццё і сумленне існаваць адно без аднаго не могуць. Гэта ж заведзена з пачатку існавання свету.

Кірмаш ёсць кірмаш, а жыццё вірыць само сабою. Але Алі нарадзіўся і вырас у сям'і, дзе ніхто і ніколі не паквапіўся на чужое. Заўсёды ў сям'і паважалі доўг, гонар, любоў і сумленне. Усе жылі вартасна і думалі гэтак жа.

Аднаго разу перад сваім прылаўкам Алі ўгледзеў сваю старэнькую, добрую і зычлівую маму. Яна са здзіўленнем вывучала прадукцыю свайго сыночка і штосьці шаптала сама сабе. Напачатку яна хусцінкаю выцірала скупыя слязіны, потым звярнулася да сына, які прадаваў сумленне:

— Прадай, сынок, мне, як і ўсім, трохі свайго дабра. Кожны, хто штосьці прадае, павінен мець на гэта маральнае права. Ды, каб ты ведаў, не ўсё ў свеце прадаецца і купляецца. Ёсць паняцці і каштоўнасці, якія з'яўляюцца выключэннем з правілаў — яны не прадаюцца і не купляюцца. Калі прыйдзеш дахаты, атрымаеш тое, чаго, можа быць, не хапае шмат каму, нават табе самому. Выбачай, сынок, хоць і аддам усю сваю пенсію, але так трэба. Хочацца выправіць памылку, якую зрабіла калісьці. І няхай кожная маці зробіць тое ж самае. Інакш настане канец свету, сынок...

Алі слухаў, і яму хацелася праваліцца скрозь зямлю. Але, калі ўбачыў, як за мамаю вырастае чарга па сумленне, перадумаў. Навошта?..

*Пераклад з рускай У. Марука.*







## Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

**1957—2004**

### ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА

Белым бярозам
На сцюжы калець.
Разам з Купалам
Хварэць на ангіну.
Крохкую
Папараць-кветку на шкле
Ранак марозны
На шчасце пакінуў.

Колькі мяцеліц
Пасля адгуло,
Колькі з марозамі
Крозаў прапала...
Срэбнае шкло
Ўсе Каляды цвіло —
Папараць-кветка
З яго не знікала.

* * *

Шчаслівы настрой падарожны.
Ізноў я палоннік красы:
Празрыстыя рэкі
Пасожжа
І думныя
Ўвосень лясы.
Глытнуўшы радзіннага дыму,
З дабра не шукаю дабра.
І я гэтаксама
На месцы Радзіма

Пасожжа
Радзімай абраў бы.
І Ветка,
І Хоцімск,
І Родня —
Адхланне маё і спачын...
О кроўная повязь!
О роднасць!
І слова шчымлівае
Сын.

### ПРА ВЕЧНАЕ

Кажуць, быў я аблашчаны доляй,
Хоць мой дом не мінала бяда.

---

***Пісьмянкоў Алесь Уладзіміравіч*** *нарадзіўся 25 лютага 1957 года ў Касцюковіцкім раёне на Магілёўшчыне. У 1980 годзе скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў сакратаром Саюза беларускіх пісьменнікаў, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», галоўным рэдактарам штотыднёвіка «ЛіМ», узначальваў часопіс «Вожык». Памёр 23 красавіка 2004 года.*

*Аўтар кніг паэзіі «Белы камень», «Чытаю зоры», «Планіда», «Журавель над студняй», «Я не памру, пакуль люблю» і інш.*

Я па мёртвых паплакаў даволі,
А жывых яшчэ болей шкада.

Бо мы ўсе на зямлі гэтай госці,
Не забавімся мы на зямлі.
І калі я пакрыўдзіў кагосьці,
То і мне гэта рана баліць.

Нам усім не хапае спагады,
І любові жывым не стае...
Нам адпушчана так небагата,
Што й грахі не замолім свае.

## КРАЯВІД

Малюнак някідкі
Уздрыгнуць прымусіў:
Над рэчкай ракітнік,
На поплаве бусел.

І — хата ў бярозах
На самым узгор'і...
І слёзы, і слёзы
Казычуць у горле.

## ШКАДАВАННЕ

А кнігу ўсё ж я напісаў,
Сыноў двух ясных нарадзіў,
Але, народжаны ў лясах,
Свой лес яшчэ не пасадзіў.

Ды што там лес, ну хоць бы сад,
Як бацька некалі, як брат.
І толькі часам па вясне,
Калі тумaніцца пагляд,
Тады і мне ў шчаслівым сне
Шуміць мой лес,
Цвіце мой сад.

## ДОТЫК

Вясна. Чаромха. Весніцы.
Зямля з-пад ног сплыла:
Далонь маёй равесніцы
Мне сэрца апякла.

Чаромха зноў нявесціцца,
Нявесцяцца сады.
Свякроўка ўжо равесніца,
І я — немалады.

Не спіць мая бяссонніца,
І думы з ёй не спяць...
І дотык той мне помніцца,
І весніцы рыпяць.

## ПРАДВЕСНЕ

Адно спадзяванне — на снег.
Яго зачакаліся ў Менску,
А ён супыніў свой разбег
І ціха прылёг ля Смаленска.

Глухія кароткія дні
Нам трэба, як грып, перанесці...
Марозна лістота звініць
На бруку ў Траецкім прадмесці.

Жыву спадзяваннем на снег.

## НАСТРОЙ

Адзімую —
Адсумую,
Размінуся з бедамі.
І калі перазімую,
Бог дасць, пералетую.
Ах, як светла верыцца,
Што яшчэ наперадзе
Вогнішча на беразе,
Баравік у верасе,
Песня лебядзіная
Пра цябе,
Адзіная.

***Публікацыя Алены Пісьмянковай.***





# ПОЛЫМЯ

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ





**Міхаіл Мясніковіч,**

Старшыня Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

# ДАЛЯГЛЯДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАВУКІ

Сёння да беларускай навукі прад'яўляецца патрабаванне не толькі павысіць канкурэнтаздольнасць навуковых вынікаў, але і стаць вызначальным фактарам прагрэсу эканомікі і сацыяльнай сферы краіны. Беларусь мае навукова-тэхнічны патэнцыял, які ў стане вырашыць пастаўленыя задачы. І, безумоўна, найважнейшым складальнікам эфектыўнага навукова-інавацыйнага працэсу з'яўляюцца вучоныя, высокакваліфікаваныя спецыялісты, занятыя навуковымі даследаваннямі і распрацоўкамі. Інтэлектуальны патэнцыял краіны не страчаны, а наадварот — ідзе пад'ём на новым якасным узроўні. На пачатак 2004 года колькасць работнікаў, якія выконвалі даследаванні і распрацоўкі, складала 29,9 тысячы чалавек. З іх 59 працэнтаў — даследчыкі, 14 працэнтаў — спецыялісты вышэйшай навуковай кваліфікацыі. Калі параўнаць сітуацыю з навуковымі кадрамі ў нашай краіне з сусветнай практыкай, то, згодна з праведзеным экспертным аналізам, Беларусь займае 17-е месца: у нас 2296 даследчыкаў на адзін мільён жыхароў. Адзначу, што ўсяго было прааналізавана 88 дзяржаў свету. У пяцёрку лідэраў увайшлі Ісландыя (5686 даследчыкаў на адзін мільён жыхароў), Японія (4960), Швецыя (4507), ЗША (4103), Нарвегія (4095); наш бліжэйшы сусед Расія займае шостае месца (3397). Беларусь па колькасці занятых у навукова-тэхнічнай сферы пакуль застаецца ў групе развітых краін, яна знаходзіцца наперадзе такіх дзяржаў Заходняй і Усходняй Еўропы, як Аўстрыя, Іспанія, Італія, Венгрыя, Польшча.

У адпаведнасці з сусветнымі тэндэнцыямі развіцця навукі ажыццяўленне навуковай дзейнасці ў нашай краіне накіравана на перспектыўныя фундаментальныя даследаванні, эфектыўныя прыкладныя даследаванні і распрацоўкі, актывізацыю інавацыйнай дзейнасці. Прынятыя ў апошнія гады Прэзідэнтам і Урадам Рэспублікі Беларусь меры па ўдасканаленні дзеючай сістэмы фарміравання і рэалізацыі дзяржаўных праграм і інавацыйных праектаў дазволілі ў большай ступені, чым раней, забяспечваць у краіне распрацоўку новых тэхналогій, а таксама ўкараненне інавацый у вытворчасць. Праграмна-мэтавы метад правядзення даследаванняў і распрацовак дазваляе сёння рэалізаваць ланцужок: навуковая ідэя — навукова-тэхнічная распрацоўка — асваенне ў доследнай вытворчасці — серыйная вытворчасць. Зусім іншыя, чым у былыя часы, патрабавальныя адносіны да вынікаў навукова-тэхнічных праграм дазваляюць атрымліваць больш эфектыўны плён, кантралюецца ўкараненне навуковых дасягненняў у вытворчасць. У першую чаргу, распрацоўкі накіраваны на вырашэнне важнейшых сацыяльных праблем, рэсурсазберажэнне, павышэнне прадукцыйнасці працы і якасці прадукцыі і тэхналогій.

Дзякуючы праграмна-мэтаваму метаду, фарміраванне якога ўжо завершана, у 2003 годзе ў 143 арганізацыях і прадпрыемствах рознай ведамаснай падпарадкаванасці было створана 389 перадавых вытворчых тэхналогій, з якіх 344 з'яўляюцца новымі ў краіне, 38 — новымі за мяжой, 7 — прынцыпова новымі тэхналогіямі. Гэта дазволіла ў галінах эканомікі Беларусі выкарыстаць звыш 13,7 тысячы перадавых вытворчых тэхналогій, прычым удзельная вага тэхналогій, укаранёных у 2001—2003 гадах, склала 30,2 працэнта ад агульнай колькасці. Выдаткі на тэхналагічныя інавацыі, уключаючы пастаноўку вырабаў на вытворчасць, у краіне перавысілі адзін трыльён беларускіх рублёў. У 2003 годзе створана і даведзена да стадыі практычнага прымянення 228 новых відаў машын, абсталявання і прыбораў, 122 віды матэрыялаў і рэчываў, 175 тэхналагічных працэсаў і 60 сістэм і комплексаў, перададзена ў сортавыпрабаванне 30 гатункаў і гібрыдаў сельскагаспадарчых і пладовых культур, сфарміравана 14 селекцыйных статкаў свіней, буйной рагатай жывёлы і кросаў птушак, распрацаваны 231 від методык і праграмных прадуктаў. Зарэгістравана 1030 вынаходстваў, 484 карысныя мадэлі, 43 прамысловыя ўзоры, 14 гатункаў раслін, 1925 таварных знакаў. Прыведзеныя паказчыкі ў некалькі разоў перавышаюць аналагічныя ў канцы 1990-х. Мэтавы метад арганізацыі навуковай дзейнасці, канцэнтрацыя на прыярытэтных напрамках і кантроль — гэта і ёсць асноўныя складальнікі поспеху.

Наша краіна, калі стала самастойнай дзяржавай, атрымала ў спадчыну бессістэмную частку вялікага прамысловага комплексу, і толькі дзякуючы эфектыўнай дзяржаўнай уладзе і працавітасці яе народа за апошнія дзесяць гадоў створана эканоміка, якая нармальна функцыянуе, і эфектыўная сістэма адукацыі, а гэта з'яўляецца асноўным рэсурсам павышэння канкурэнтаздольнасці нацыянальных вытворцаў і дазваляе Беларусі займаць годнае месца па індэксе развіцця чалавечага патэнцыялу. Зразумела, зроблены толькі першы крок у стварэнні нацыянальнай інавацыйнай сістэмы, наперадзе вялікая работа, але мы ведаем, што і як рабіць.

Не толькі ў Беларусі – ва ўсім свеце навука з'яўляецца рэальным нацыянальным рэсурсам, які пры наяўнасці адэкватнай дзяржаўнай падтрымкі спрыяе хуткаму росту эканомікі, забеспячэнню бяспекі краіны і ўмацаванню суверэнітэту. Тым не менш вядома, што калі навукаёмістасць валавога ўнутранага прадукту краіны працяглы перыяд не перавышае аднаго працэнта ў год, ёсць верагоднасць узнікнення крызісных з'яў, звязаных з разбурэннем нацыянальнага навукова-тэхнічнага патэнцыялу, са стратай канкурэнтаздольнасці эканомікі. Таму ў развітых і новых індустрыяльных краінах развіваюцца карпаратыўныя фундаментальныя і прыкладныя даследаванні і расце доля выдаткаў на навукова-даследчыя і вопытна-канструктарскія работы ў валавым унутраным прадукце.

Эфектыўнае ўключэнне сучасных тэхналогій у гаспадарчы абарот можа забяспечыць павышэнне канкурэнтаздольнасці айчыннага прадукту, дазволіць даследчыкам і распрацоўшчыкам мець больш сродкаў на навукова-даследчыя і вопытна-канструктарскія работы. Сёння Урад рэспублікі і вучоныя робяць намаганні ў гэтым напрамку. Але па-ранейшаму актуальнай застаецца праблема выкарыстання аб'ектаў прамысловай уласнасці, арганізацыя іх прававой аховы. У адпаведнасці з запатрабаваннямі эканомікі патрабуюцца новыя падыходы да фарміравання тэматыкі фундаментальных і прыкладных даследаванняў. Неабходна ліквідаваць разрыў паміж навуковымі даследаваннямі і практычнай рэалізацыяй іх вынікаў.

Каб вырашаць праблемы беларускай навукі, неабходна выразна бачыць іх вытокі. Перш за ўсё гэта недасканаласць заканадаўчай базы, якая рэгламентуе ўзаемадзеянне навукі і вытворчасці. Развіццё так званай «карпаратыўнай», ці, кажучы па-нашаму, заводскай навукі, абцяжарана не толькі недахопам сродкаў, але і няпэўнасцю ўмоў размеркавання атрыманых даходаў паміж аўтарамі новаўвядзенняў, прадпрыемствамі і дзяржавай. Навуковыя ўстановы таксама не бачаць рэальных стымулаў для прасоўван-

ня сваіх інтэлектуальных прадуктаў. Таму акадэмія навук, выконваючы даручэнні Кіраўніка дзяржавы, з прыцягненнем вучоных вышэйшых навучальных устаноў і спецыялістаў галіновых навук падрыхтавала адпаведныя прапановы Ураду і Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Размова ідзе, у першую чаргу, аб стварэнні сучаснай і эфектыўнай нарматыўнай прававой базы. Ролю асноўнага інвестара навукі з прычыны аб'ектыўных умоў бярэ на сябе дзяржава. Пры гэтым накіраванне расходавання рэсурсаў ажыццяўляецца «не наогул», а па канкрэтных праграмах навуковых і навукова-тэхнічных даследаванняў. Адначасова ставіцца задача і ствараюцца адпаведныя перадумовы для паступовага пераносу цэнтру цяжару ў фінансаванні навукі з бюджэту на тыя суб'екты гаспадарання, якія рэальна зацікаўлены ў росце тэхнічнай узброенасці і павышэнні сваёй канкурэнтаздольнасці. Упершыню ў гісторыі беларускай навукі заключана звыш 120 пагадненняў паміж вучонымі, міністэрствамі і прадпрыемствамі на выкарыстанне вынікаў нават фундаментальных даследаванняў. Акадэмічная навука гатова актыўна садзейнічаць развіццю існуючых базавых галін эканомікі і фарміраваць новыя канкурэнтаздольныя вытворчасці для народнай гаспадаркі. Мы бачым, што значны навукова-тэхнічны патэнцыял Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі яшчэ недастаткова запатрабаваны эканамічнымі суб'ектамі краіны. Недастатковая актыўнасць і вучоных. Па выкараненні гэтых і іншых хібаў вядзецца сістэмная работа.

У галіновай навуцы патрабуе вырашэння пытанне дзяржаўнай падтрымкі вытворчасці новай канкурэнтаздольнай прадукцыі на перыяд яе асваення. Для гэтага трэба фінансаваць працу канструктара, вучонага, тэхнолага. Ва ўмовах рынку, мы лічым, зрабіць гэта можна за кошт адпаведных адлічэнняў ад выпуску новай прадукцыі, зміншаючы на гэту суму падатковую нагрузку, і (або) аднясення на сабекошт. Падатковае заканадаўства недастаткова ўлічвае спецыфіку навукова-тэхнічнай дзейнасці і яе ўплыў на эканоміку пры рэалізацыі вынікаў навуковых даследаванняў, вопытна-канструктарскіх і вопытна-тэхналагічных работ. Так, рэальная падатковая нагрузка ў сферы навуковага забеспячэння на 3—4 працэнты вышэй, чым у вытворчай. Актуальнымі ў галінах навукі застаюцца праблемы прававой аховы створанай прамысловай уласнасці, асабліва пры экспарце навукова-тэхнічнай прадукцыі. Таму неабходнасць павелічэння аб'ёму сродкаў, якія накіроўваюцца на вопытна-эксперыментальнае і прамысловае асваенне новай тэхнікі, тэхналогіі і прадуктаў, а таксама на прасоўванне новых тавараў на рынак, з'яўляецца вельмі актуальнай.

Высокі ўзровень і канкурэнтаздольнасць дасягненняў беларускай навукі пацвярджаюць не толькі эканамічны эфект, які атрымліваецца ад укаранення, але і пашырэнне міжнароднага супрацоўніцтва.

Навука, як табліца множання, інтэрнацыянальная; яна не мае меж. Мы ўважліва вывучаем вопыт арганізацыі навуковых даследаванняў у іншых краінах, таму што для эфектыўнага супрацоўніцтва неабходна вырашаць агульныя навуковыя задачы, у тым ліку шляхам прымянення новых метадаў і механізмаў пры арганізацыі навуковага працэсу. І адным з прыярытэтаў дзейнасці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі з'яўляецца міжнароднае супрацоўніцтва. Сёння акадэмія ажыццяўляе міжнароднае навуковае і навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва, развівае ўзаемавыгадныя сувязі з акадэміямі навук і іншымі замежнымі навуковымі арганізацыямі, выконвае міждзяржаўныя навуковыя і навукова-тэхнічныя праграмы і праекты, прымае ўдзел у рабоце міжнародных навуковых і навукова-тэхнічных арганізацый і асацыяцый. Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі ўсяго падпісана і дзейнічае больш за 50 пагадненняў аб супрацоўніцтве з замежнымі акадэміямі навук і навуковымі цэнтрамі, з сусветнымі лідэрамі ў галіне інфармацыйных тэхналогій. Па многіх з іх вядзецца актыўная сумесная работа, ажыццяўляецца абмен вучонымі. Па некаторых – яшчэ трэба будзе вырашыць нямала арганізацыйных пытанняў, каб яны пачалі працаваць эфектыўна.

Знешнія сувязі акадэмія навук развівае з улікам асаблівасцей краін і рэгіёнаў-партнёраў і прыярытэтаў навуковых даследаванняў акадэміі. Камерцыялізацыя вынікаў навуковых даследаванняў, у тым ліку і на знешніх рынках, ажыццяўляецца ў дзвюх асноўных формах: у выглядзе вытворчасці і продажу навукаёмістай прадукцыі, створанай на аснове новых тэхналогій, а таксама ў форме аказання гэтак званых «навуковых паслуг» па дагаворах і пагадненнях. Так, па выніках работы ў 2003 годзе аб'ём балансавага прыбытку Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі склаў каля 8 мільярдаў рублёў. У 2004 годзе прыбытак узрос. Атрыманыя сродкі ў асноўным ідуць на развіццё.

Мы ў пэўнай ступені зламалі існуючыя стэрэатыпы ў арганізацыі міжнароднага навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва, калі пачалі працаваць з сусветна вядомымі кампаніямі. З 2003 года дзейнічаюць пагадненні аб супрацоўніцтве Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі з «Хьюлет-Пакард», «Дэл», «Оракл», «Эрыксон», «СІСКО». Гэтыя кампаніі з'яўляюцца сусветнымі лідэрамі ў галіне інфармацыйных тэхналогій. Выдаткі адной толькі кампаніі «Хьюлет Пакард» на фундаментальныя даследаванні штогод складаюць каля 3 мільярдаў долараў. Для нас вельмі важна, што гэтыя кампаніі праяўляюць цікавасць да распрацовак беларускіх вучоных, выдзяляюць пэўныя сродкі, ідзе навуковы абмен. Сумесна мы вядзём работу па арыентацыі моладзі на навуковую працу, што вельмі важна і чаго не было ў акадэміі навук раней. Прыкладам таму з'яўляецца адкрыты конкурс Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і кампаніі «Эрыксон» сярод маладых спецыялістаў на распрацоўку паслугі мабільнай сувязі. У нас прадуманы на бліжэйшае будучае і рэалізуюцца іншыя напрамкі супрацоўніцтва з названымі інфармацыйна-тэхналагічнымі кампаніямі, што дазваляе гаварыць аб значных перспектывах узаемавыгаднай работы.

Прыярытэтамі даследаванняў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі з'яўляюцца інфармацыйныя сістэмы і тэхналогіі, праграмныя прадукты, біятэхналогіі і біяінжынерыя, мікра- і нанатэхналогіі, многафункцыянальныя матэрыялы, аднаўляльныя крыніцы энергіі, медыцына, агранавукі, электроніка. Якраз гэтыя навуковыя напрамкі шырока запатрабаваны сёння як на ўнутраным, так і на знешнім рынках. Менавіта прыярытэтнымі напрамкамі ў сумеснай рабоце зацікаўлены нашы замежныя партнёры, з якімі мы супрацоўнічаем у межах VI Рамачнай праграмы Еўрапейскага Саюза, у тым ліку і па праектах Міжнароднага навукова-тэхнічнага цэнтра, ІНТАС, МАГАТЭ, НАТО і інш. У 2003 годзе быў арганізаваны сумесны конкурс ІНТАС—Беларусь, які прадугледжваў выдзяленне для беларускіх вучоных аднаго мільёна еўра на правядзенне навуковых даследаванняў. Прыемна адзначыць, што з 12 праектаў, якія перамаглі, восем былі падрыхтаваны навуковымі арганізацыямі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Сёння практычна ўвесь комплекс навуковых праграм акадэміі значна ўмацоўвае знешнеэканамічны патэнцыял нашай краіны. Вынікі міжнароднай дзейнасці акадэмія навук у першую чаргу выкарыстоўвае ў рабоце са сферай матэрыяльнай вытворчасці для павышэння канкурэнтаздольнасці беларускай прадукцыі. У гэтых мэтах акадэмія навук у апошнія тры гады стварае праграмы супрацоўніцтва з многімі прадпрыемствамі краіны, у тым ліку з такімі буйнымі, як БелАЗ, МАЗ, «Беларуськалій», БМЗ, «Нафтан», «Гомсельмаш» і інш.

Прывабнымі і перспектыўнымі з'яўляюцца распрацоўкі беларускіх вучоных у галіне энергетычных тэхналогій і нанатэхналогій, якім ва ўсіх развітых краінах надаецца першараднае значэнне. З развіццём менавіта гэтых напрамкаў звязваюцца самыя амбіцыйныя нацыянальныя праграмы ЗША, Японіі, Еўрапейскага Саюза. Вучоныя Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі таксама працуюць у гэтых кірунках. Створаны высокаэфектыўныя генератары і накапляльнікі вадароду, якія адкрываюць шлях да экалагічна чыстай «вадароднай энергетыкі». Ужо сёння распрацаваныя беларускімі вучонымі метады канверсіі вуглевадароднага паліва ў вадарод могуць быць выкарыстаны ў новых тэхналогіях хімічнай прамысловасці. Гэта дае істотную эканомію сыравіны пры вытворчасці такіх важных для развіцця экспарт-

нага патэнцыялу нашай краіны рэчываў і матэрыялаў, як аміяк, метанол, азотная кіслата. Набіраюць тэмпы і распрацоўкі ў галіне паліўных элементаў электрахімічных генератараў, якія дазваляюць ажыццяўляць непасрэднае пераўтварэнне хімічнай энергіі паліва ў электрычную, мінаючы стадыю яго спальвання. Першыя эксклюзіўныя прапановы акадэміі навук ужо прадстаўлены Ураду Рэспублікі Беларусь.

Мы маем сур'ёзныя распрацоўкі для мадэрнізацыі вытворчасці бытавых і прамысловых вадагрэйных катлоў, газавых пліт і ацяпляльнага абсталявання. Распрацаваны і ўкаранёны энергаэфектыўныя тэхналогіі і абсталяванне, сучасныя аўтаматызаваныя паравыя і вадагрэйныя катлы магутнасцю 0,25—3 МВт з каэфіцыентам карыснага дзеяння да 60—90 працэнтаў. Беларускія тэхналогіі прамысловай вытворчасці новых вугляродных нанаматэрыялаў — фулярэнаў і нанатрубак апярэджваюць у гэтым напрамку распрацоўкі вядучых навуковых цэнтраў свету. Стварэнне нанаалмазаў выйшла на прамысловую стадыю і можа забяспечыць патрэбнасці не толькі нашай краіны. Распрацоўкі сусветнага ўзроўню створаны ў галіне інфарматыкі, энергетыкі, хіміі, селекцыі і інш.

Асабліва трэба адзначыць супрацоўніцтва беларускіх арганізацый з Міжнародным навукова-тэхнічным цэнтрам. Важным вынікам мінулага года стала адкрыццё сумеснай лабараторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Фраўнгофераўскага таварыства Германіі для правядзення фундаментальных і прыкладных даследаванняў у галіне оптыкі, дыягностыкі і неразбуральнага кантролю. Гэтая лабараторыя ўяўляе сабой першы прыклад сумеснай міжнароднай лабараторыі на тэрыторыі СНД. Для рэалізацыі гэтага праекта, выканаўцамі якога з'яўляюцца Інстытут фізікі імя Б. І. Сцяпанава Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Інстытут неразбуральнага кантролю Фраўнгофераўскага таварыства, Еўрапейскім Саюзам праз Міжнародны навукова-тэхнічны цэнтр ужо выдзелена 650 тысяч долараў ЗША. Плануецца, што аб'ём сродкаў вырасце да некалькіх мільёнаў долараў. У цэлым жа на кастрычнік 2004 года сума фінансавання, выдзеленая Міжнародным навукова-тэхнічным цэнтрам на праекты з удзелам беларускіх арганізацый, складае больш за 28,5 мільёна долараў ЗША.

Разам з павышэннем узроўню навуковых даследаванняў і распрацовак, атрыманнем доступу да новых тэхналогій, метадаў і інфармацыйных крыніц міжнароднае супрацоўніцтва прыносіць і адчувальны матэрыяльны эфект арганізацыям, якія знаходзяцца ў веданні акадэміі навук. Агульны аб'ём экспартных паставак навукаёмістай прадукцыі і тэхналогій арганізацыямі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі толькі ў 2003 годзе склаў 6,2 мільёна долараў ЗША, што перавышае аналагічны паказчык 2002 года на 20 працэнтаў. У бягучым годзе плануецца зарабіць па замежных кантрактах больш чым 7,1 мільёна долараў.

Нельга не адзначыць значнай падтрымкі акадэміі навук з боку дзяржавы, якая забяспечвае магчымасць нарошчваць наш навуковы патэнцыял праз міжнародную дзейнасць. У апошнія гады на развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы акадэміі навук з усіх крыніц выдзяляецца значна больш сродкаў, чым раней. Напрыклад, у 2000 годзе на гэтыя мэты было накіравана 2,1 мільёна долараў, столькі ж — у 2001 годзе, а ў 2003 і 2004 — ужо 6 і 8,5 мільёна долараў адпаведна. Можна сцвярджаць, што тыя вучоныя і навукова-даследчыя інстытуты, якія жадаюць працаваць у інтарэсах нацыянальнай эканомікі і на экспарт, могуць рэалізаваць свой патэнцыял. Галоўнае — прыкласці да гэтага максімум старання.

*Пераклад з рускай М. Міхайлава.*





**Пётр НІКІЦЕНКА,**

акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, дырэктар Інстытута эканомікі, акадэмік

# НААСФЕРНАЯ ЭКАНОМІКА* — СТРАТЭГІЧНЫ ІМПЕРАТЫЎ РАЗВІЦЦЯ НАВУКІ І ПРАКТЫКІ: ПРАБЛЕМЫ СТАНАЎЛЕННЯ І ЭВАЛЮЦЫІ

З 1995 года ў нашай краіне забяспечваецца штогадовы прырост валавога ўнутранага прадукту на 5—6 працэнтаў, а ў 2004 годзе — больш чым на 10 працэнтаў. Узрастае навуковы, адукацыйны і духоўны патэнцыял народа. Захоўваюцца мір, спакой, унутраная і знешняя бяспека. Умацоўваецца ўпэўненасць людзей усіх пакаленняў у заўтрашнім дні.

Урэшце, у Беларусі функцыянуе прэзідэнцкая мадэль грамадскага ўзнаўлення, дзе інтарэсы працоўнага чалавека, яго правы рэалізуюцца ў адпаведнасці з дзеючай Канстытуцыяй.

Вучонымі даказана, што ў краінах, якія небагатыя на прыродныя рэсурсы, 80—90 працэнтаў прыросту валавога ўнутранага прадукту забяспечваецца за кошт наасфернай навуковай і інтэлектуальнай састаўной.

Структура індустрыяльнай вытворчасці, якая склалася ў нашай краіне ў другой палове XX стагоддзя, адпавядала вырашэнню задачы павелічэння эканамічнай і ваеннай магутнасці Савецкага Саюза пры поўным забеспячэнні прадпрыемстваў рэспублікі сыравіннымі і энергетычнымі рэсурсамі з іншых рэгіёнаў СССР.

З пераважна сельскагаспадарчай рэспублікі суверэнная цяпер Беларусь ператвараецца ў магутную індустрыяльна-постіндустрыяльную развітую краіну з высокім навуковым і адукацыйным патэнцыялам, які арыентуецца на забеспячэнне неабходнага навукова-тэхнічнага і тэхналагічнага ўзроўню прамысловасці, энергетыкі, сувязі, транспарту, сельскай гаспадаркі, будаўніцтва.

---

* Слова «наасфера» паходзіць ад старажытнагрэчаскага noos (розум) і «сфера» і азначае «сфера розуму». Пад наасфернай эканомікай маецца на ўвазе разумовы спосаб грамадскага ўзнаўлення тавараў, работ і паслуг як арганічная састаўная сінергітычная частка сістэмы карпаратыўных вытворчых адносін і постіндустрыяльных вытворчых сіл, якія ствараюцца на комплексным выкарыстанні назапашанай планетарнай сферы розуму (наасферы), што функцыянуе ў форме навукі, навукова-тэхнічнага прагрэсу, культуры, інтэлекту, ведаў аб прыродзе, чалавеку і грамадстве і законаў (заканамернасцей) цывілізацыйнага постіндустрыяльнага сацыяльна-эканамічнага этапу інавацыйнага ўстойлівага развіцця.

Гэты навуковы патэнцыял і яго матэрыяльная база ствараюцца ўсёй краінай, напружанай працай некалькіх пакаленняў вучоных, рабочых, будаўнікоў, усіх працоўных. І ў цяперашні час ён уяўляе сучасную вытворчую сілу грамадства, здольную забяспечыць развіццё нашай краіны ў «постіндустрыяльную» эпоху, у якую з непазбежнасцю эвалюцыйна ўступае чалавецтва: 34 працэнты апытаных вучоных лічаць, што патэнцыял беларускіх вучоных адпавядае ўзроўню сусветнай навукі; на думку 49 працэнтаў вучоных, ён адпавядае ўзроўню навукі СНД.

Вучоныя Беларусі ўносяць асноўны ўклад у развіццё айчыннай прамысловасці, энергетыкі, сельскай гаспадаркі, адукацыі, аховы здароўя, самой навукі і іншых важных бакоў жыцця нашай дзяржавы. Тут не трэба прыводзіць канкрэтныя прыклады. Дастаткова пазнаёміцца з пералікам работ, якія ганараваны за апошнія гады дзяржаўнымі прэміямі Рэспублікі Беларусь.

Але, нягледзячы на поспехі, дасягненні вучоных, навуковыя адкрыцці не заўсёды даходзяць да вытворчасці і рэальнага жыцця людзей. Навуковы аналіз і аб'ектыўная ацэнка эфектыўнасці нашай эканомікі ўказваюць на вычарпанасць былых магчымасцей забеспячэння ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага інавацыйнага развіцця, на наяўнасць вялікіх, пакуль не задзейнічаных, навукова-інавацыйных рэзерваў і магчымасцей, якія ўсім нам неабходна ўвесці ў практычнае дзеянне.

Таму галоўная задача навукі і практыкі мне бачыцца ў распрацоўцы комплексу мер па выхадзе на новы этап інавацыйнага шляху развіцця краіны і асноўных напрамкаў удасканалення беларускай мадэлі ўстойлівага развіцця з улікам ролі вучоных у гэтых працэсах.

Зразумела, у першую чаргу сёння павінна ісці размова аб галоўнай і вызначальнай умове забеспячэння ўстойлівага развіцця краіны — аб самой навуцы, аб навуковай дзейнасці, асноўныя задачы якой — забяспечыць навукова-тэхналагічную базу сацыяльна-эканамічнага развіцця, зыходзячы з выкарыстання пераважна рынкавых метадаў гаспадарання, і праз сістэму адукацыі, а таксама сістэму шматлікіх сувязей навукі з вытворчасцю зрабіць навейшыя дасягненні навукі даступнымі для ўсіх суб'ектаў гаспадарання і ўсіх членаў грамадства.

Жыццё не стаіць на месцы. Увесь цывілізаваны свет ужо рыхтуецца да новай навукова-тэхнічнай і культурнай рэвалюцыі, у аснове якой ляжыць пераход да новых інфармацыйных тэхналогій, да новых крыніц энергіі, да біятэхналогій, што дазваляюць укараніць у жыццё самыя смелыя мары фантастаў, якія яшчэ зусім нядаўна здаваліся нязбытнымі, да так званых «нанапрацэсаў» і «нанатэхналогій», што выкарыстоўваюць унікальныя ўласцівасці матэрыі на малекулярным узроўні.

Навукова-тэхналагічная рэвалюцыя ўжо дае плён, які ўражвае, у тых краінах, дзе намаганні дзяржавы па стварэнні спрыяльных умоў для зараджэння і развіцця высокатэхналагічных прадпрыемстваў прывялі да з'яўлення новага інфармацыйнага навукаёмістага сектара эканомікі, які імкліва расце і аказвае ўсё большы ўплыў на ўсе сферы жыцця грамадства.

Нам неабходна ў самы кароткі тэрмін пераламіць сітуацыю, падрыхтаваць усе неабходныя ўмовы для стварэння і развіцця айчынных навукаёмістых вытворчасцей у іншых галінах і сферах.

Менавіта таму Праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2001 — 2005 гады прадугледжана, што навукаёмістасць валавога ўнутранага прадукту ў 2005 годзе складзе 1,8 працэнта, а гэта дазволіць павысіць узровень унутраных выдаткаў на даследаванні і распрацоўкі, накіраваць значна больш сродкаў на развіццё доследна-эксперыментальнай базы навукі, павышэнне аплаты працы навуковых работнікаў і спецыялістаў. Пры гэ-

тым важна забяспечыць дасягненне прагнознага паказчыка росту навукаёмістасці, які, на жаль, з'яўляецца адзіным паказчыкам, што не выконваецца.

Дзяржава прызначана зрабіць усё магчымае, каб гэты паказчык быў дасягнуты. Яго выкананне — гарантыя поспеху ўстойлівага развіцця краіны ў перспектыве.

Разгортванне і станаўленне айчыннай эканомікі ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі будзе абумоўлена працэсамі, якія вядуць да глабалізацыі, інфарматызацыі і наасферызацыі. Ігнараваць гэта — азначала б застацца на ўзбоччы новай постіндустрыяльнай, наасфернай цывілізацыі.

Дамінуючымі ў гэтым тысячагоддзі будуць працэсы рэгіянальнай інтэграцыі (рэгіяналізацыі) ва ўсіх сферах жыццядзейнасці грамадства. Яе трэба разглядаць як падрыхтоўку да глабальнай канкурэнцыі. Значна павялічылася эканамічная магутнасць транснацыянальных і мультынацыянальных карпарацый. Фінансавыя магчымасці гэтых суб'ектаў сусветнай гаспадарчай сістэмы нярэдка перавышаюць сукупны патэнцыял не толькі асобных краін, але і цэлых рэгіёнаў. Сёння прыватны капітал мае больш рэсурсаў, чым цэнтральны банк нават такой краіны, як ЗША. Штомесячна сусветны фінансавы рынак перамяшчае больш за тры мільярды долараў ЗША з краіны ў краіну, з іх два мільярды долараў не кантралююцца дзяржавамі або іншымі афіцыйнымі інстытутамі.

Павялічваецца разрыў ва ўзроўнях жыцця народаў, у тэмпах навукова-тэхнічнага развіцця, канцэнтрацыі капіталу. Паводле даных прафесара Гарвардскага універсітэта Дж. Сакса, толькі 15 працэнтаў насельніцтва зямнога шара ствараюць сусветныя тэхналагічныя інавацыі. Палова насельніцтва ў стане адаптаваць іх у вытворчасці і спажыванні. Астатняя частка — прыкладна трэцяя частка насельніцтва Зямлі — зусім не звязана ні з інавацыямі ў сваіх краінах, ні з адаптацыяй замежных тэхналогій. Але ж эканамічны рост сёння немагчымы без інавацый. У дадзеным выпадку гэтыя рэгіёны трапляюць у «пастку беднасці», выбрацца з якой не ўяўляецца магчымым. Прафесары Гарвардскага універсітэта Майкл Портэр і Эндру Уорнер вывелі так званыя «індэксы тэхналагічнага падзелу» і даказалі неабходнасць уліку гэтых індэксаў пры разліку тэмпаў эканамічнага росту краін.

У сувязі з нарастаннем працэсаў глабалізацыі абвастраецца барацьба за рынкі збыту як паміж прамыслова развітымі краінамі, так і паміж транснацыянальнымі карпарацыямі. З дапамогай розных пагадненняў уводзяцца абмежаванні «на ўваход» на сусветны рынак краін, якія развіваюцца. Сусветны рынак не нагадвае чыстыя і прамыя праспекты Мінска.

Адбываецца перадзел сусветнага рынку рэсурсаў, і перш за ўсё рынку энергарэсурсаў, асноўная доля якіх размешчана ў краінах, якія развіваюцца, а расходаванне — у індустрыяльна развітых краінах. Па ацэнках экспертаў ААН, выкарыстанне энергарэсурсаў у XXI стагоддзі будзе ўзрастаць. Вось чаму ў энергаздабываючых рэгіёнах зямнога шара пастаянна ўзнікаюць ваенныя канфлікты, дзейнічаюць розныя тэрарыстычныя групоўкі.

У выніку інтэнсіфікацыі гаспадарчай дзейнасці паглыбляецца крызіс сістэмы «прырода — чалавек — грамадства». Сёння хуткасць антрапагенных парушэнняў прыроды вышэй за хуткасць яе самааднаўлення.

Нягледзячы на ўяўную разнапланавасць названых праблем, яны, па сутнасці, з'яўляюцца састаўнымі асноўных глабалізацыйных тэндэнцый сусветнага цывілізацыйнага развіцця, якія фарміруюць яго мегатрэнд. Гэты мегатрэнд у бліжэйшай перспектыве выявіцца не толькі на прыняцці тактычных палітычных рашэнняў нацыянальнымі і рэгіянальнымі ўрадамі, але і на фарміраванні новых дактрын, тэорый і іх парадыгм, якія будуць пакладзены ў аснову стратэгічнай палітыкі рэгіёнаў і дзяржаў.

Змяненні, што адбываюцца ў сусветнай эканоміцы, асабліва востра праявіліся ў краінах з пераходнай эканомікай. Менавіта гэтыя краіны павінны вырашыць задачу перабудовы сістэмы эканамічных, палітычных і сацыяльных адносін, каб стварыць структуру дзяржавы і эканомікі, якая дазволіла б эфектыўна ўвайсці ў сусветнае супольніцтва. Такая перабудова прадугледжвае, перш за ўсё, рэфармаванне сістэмы дзяржаўнага кіравання.

Парадокс пераходнага перыяду заключаецца не ў змяншэнні ролі дзяржавы ў жыццядзейнасці грамадства, а ў тым, што неабходна змяшчэнне «цэнтраў цяжару» ў дзяржаўным кіраванні і рэгуляванні. Зыходзячы з вопыту індустрыяльна развітых краін, трэба мець на ўвазе, што эфектыўная сучасная эканоміка па сваім характары не можа быць чыста рыначнай. Значную ролю ў ёй іграюць дзяржава і дзяржаўны сектар. Для гэтага патрабуюцца моцны ўрад з падсправаздачнымі грамадству інстытутамі і працэдурамі, а таксама сістэма норм рэгулявання для забеспячэння балансу эканамічнай эфектыўнасці і сацыяльнай справядлівасці.

Дзяржава павінна максімальна «разгрузіць» сябе ад празмернай апекі «ўсіх і кожнага» і сканцэнтравацца на вырашэнні глабальных праблем, якія стаяць перад грамадствам на парозе новага стагоддзя, а менавіта на вырашэнні праблем забеспячэння суверэнітэту і незалежнасці краіны; забеспячэння яе экалагічнай бяспекі і энергетычнай незалежнасці; інтэграцыі ў міжнародную сістэму падзелу працы і гандлю; абароны правоў і свабод сваіх грамадзян.

Калі казаць пра чаканні нашых людзей, то на першым месцы — бяспека: асабістая, маёмасная, руху; далей — матэрыяльны дабрабыт, ахова здароўя, доступ да адукацыі і культуры, добрасуседскія адносіны і іншае.

Пры гэтым шматразова ўзрастае адказнасць усіх членаў грамадства за вынікі сваёй працы, за дабрабыт сваіх сем'яў, выхаванне і адукацыю дзяцей, за сваё здароўе, жыллёвыя ўмовы і забеспячэнне сваёй старасці.

*Даведка. У савецкай сістэме дзяржава з самага пачатку фарміравалася як адміністрацыйна-камандная, заснаваная на дзяржаўнай уласнасці. Яна павінна была выконваць тры галоўныя функцыі: гаспадарча-арганізатарскую, палітыка-выхаваўчую і абарончую. Адпаведна пад такую дзяржаву і стваралася структура дзяржаўнага кіравання з дастаткова жорсткай сістэмай адміністрацыйных правіл і працэдур. Усё кіраванне было сканцэнтравана ў цэнтры, што дазваляла надаць эканамічнаму і сацыяльнаму жыццю грамадства мабілізацыйны характар і трымаць яго пад бюракратычным кантролем. Такім чынам, парадыгма дзяржаўнага кіравання вынікала з сацыяльна-эканамічнай сутнасці грамадства, якое стваралася.*

*У ЗША і Заходняй Еўропе фарміраванне парадыгмы дзяржавы і дзяржаўнага кіравання бярэ свой пачатак у Сярэднявеччы. Цэнтралізацыя ўлады і ўзнікненне нацыянальных дзяржаў у сярэдневяковай Заходняй Еўропе вырашалі галоўным чынам эканамічныя задачы, спрыяючы фарміраванню нацыянальных рынкаў, рыначнай эканомікі ў дзяржаўна аформленых рамках і дазваляючы ў межах права рэгуляваць непрымірымыя супярэчнасці.*

*Аднак у сучасных умовах у індустрыяльна-постіндустрыяльных развітых краінах мяняецца канцэпцыя дзяржавы і дзяржаўнага кіравання. І гэта звязана, перш за ўсё, з працэсамі глабалізацыі і наасферызацыі, якія патрабуюць змены мадэлі дзяржаўнага рэгулявання і кіравання на аснове наасфернай тэорыі развіцця (У. І. Вярнадскага, М. Маісеева і іншых).*

*У другой палове XX стагоддзя дзяржава засяродзіла ў сваіх руках столькі функцый, што перастала спраўляцца з імі і само дзяржаўнае кіраванне стала вельмі дарагім і крайне неэфектыўным. Вось што на гэты конт піша нямецкі прафесар К. Эрдман: «Роля нацыянальнай дзяржавы... «дыфузная» (дзяржава бярэ на сябе няпэўнае мноства функцый і задач) і «партыкулярна»*

*абмежаваная (дзяржаўная ўлада ў прасторавых адносінах ахоплівае суверэнную тэрыторыю, а ў асобасных — грамадзян дзяржавы). Нацыянальная дзяржава дае сваім грамадзянам пачуццё бяспекі, агульнасці і сацыяльнай тоеснасці. Але нацыянальная дзяржава не свабодная ад унутраных супярэчнасцей. З аднаго боку, яна «самы магутны з вядомых у гісторыі чалавецтва інструментаў для найбольш эфектыўнага абслугоўвання як мага большай колькасці людзей». З другога боку, дзяржава... настолькі пашырае свае паўнамоцтвы, што не можа справіцца з іх выкананнем». Гэта — па-першае. Па-другое, працэсы глабалізацыі сусветнай эканомікі і ўцягванне ў гэта нацыянальных эканомік патрабуюць уліку «знешняга фактару» ці «фактару знешняга асяроддзя» ў сістэме дзяржаўнага кіравання.*

*Сёння глабалізацыя змяняе класічныя падыходы да ролі і месца дзяржавы, а адпаведна і да дзяржаўнага кіравання ў сусветным развіцці. Сучасная дзяржава прызначана ўвесці свае народы без разбурэнняў і страт, катастроф і беспарадкаў у новую глабальную цывілізацыю. Але кожная дзяржава, маючы агульную мэту, шукае свае шляхі інтэграцыі, зыходзячы з канкрэтных умоў правядзення такіх трансфармацый, што і з'яўляецца перадумовай змянення ролі дзяржавы і сістэмы дзяржаўнага кіравання.*

*У пачатку 1990-х гадоў у шэрагу краін прапагандавалася і практыкавалася рэзкае змяншэнне ролі дзяржавы. Гэта прывяло да запаўнення вызваленых дзяржавай ніш крыміналітэтам, карупцыяй, зрошчвання сілавых і іншых дзяржаўных органаў з рознымі групоўкамі. Адбылося рэзкае падзенне ўзроўню жыцця. Таму пошукі і абгрунтаванне новых падыходаў да ролі дзяржавы і дзяржаўнага кіравання ў кантэксце глабалізацыі з'яўляюцца вельмі актуальнымі.*

*Існуюць розныя мадэлі функцыянавання дзяржаў. Заходні ўзор дзяржаўнага кіравання мае характар адміністравання. Яго пабудова грунтуецца на тым, што грамадскае адміністраванне не павінна наносіць шкоду эканамічнаму і сацыяльнаму развіццю, заснаванаму на прыватнай ініцыятыве, прадпрымальніцтве. «Лепшы ўрад той, — кажуць амерыканцы, — які менш кіруе». Як адзначаў тэарэтык амерыканскага дзяржаўнага адміністравання Д. Варвік, урадавая бюракратыя прызначана забяспечыць палітычную і эканамічную стабільнасць, каб абараніць інвестыцыі гіганцкіх карпарацый; абараніць інтарэсы грамадства ад карпарацый; прадухіліць палітычны хаос, выступаючы пасрэднікам паміж карпарацыямі і прафсаюзамі; стымуляваць эканамічную дзейнасць карпарацый.*

Якія ж задачы трэба вырашаць і ў якім кірунку павінна, на наш погляд, працаваць навука ў Беларусі, зыходзячы з унутраных магчымасцей нашай краіны і тых працэсаў глабалізацыі, якія сёння абумоўліваюць цывілізацыйнае ўстойлівае развіццё? Ці магчыма вырашэнне гэтых задач у нашай краіне?

Нягледзячы на дасягнутыя поспехі, цяперашні стан навуковай сферы краіны патрабуе сур'ёзнага ўдасканалення.

Пры распрацоўцы пад кіраўніцтвам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Урада беларускай мадэлі ўстойлівага развіцця мы не пайшлі па шляху сляпога капіравання існуючых рэкамендацый міжнародных арганізацый, асабліва ў частцы ажыццяўлення прыватызацыі метадам шокавай тэрапіі. Не сталі фарсіраваць гэты працэс дзеля самога працэсу. Рэфармаванне ўсёй эканомікі, уключаючы і ўласнасць, ажыццяўляецца і будзе ажыццяўляцца, зыходзячы з карэнных інтарэсаў народа і зместу мадэлі ўстойлівага развіцця.

Асноўнымі ўзаемазвязанымі і ўзаемаабумоўленымі сістэмнымі элементамі і этапамі развіцця навукі, падрыхтоўкі яе да якаснага выканання сваёй місіі павінны стаць:

вызначэнне прыярытэтных напрамкаў фундаментальных і прыкладных навуковых даследаванняў, якія лягуць у аснову тэхналагічнага фундаменту грамадства заўтрашняга дня;

прывядзенне арганізацыйнай структуры і матэрыяльнай базы навукі ў адпаведнасць з выбранымі прыярытэтамі на аснове Комплекснага прагнозу навукова-тэхнічнага прагрэсу на 2000—2020 гады, зробленага Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі па заданні Прэзідэнта і Урада Рэспублікі Беларусь;

канцэнтрацыя рэсурсаў і сродкаў на выбраных напрамках;

арганізацыя эфектыўнай сістэмы падрыхтоўкі кадраў, здольных успрыняць найноўшыя дасягненні навукі і ажыццявіць «тэхналагічную рэвалюцыю» ў розных галінах эканомікі;

стварэнне інфармацыйных тэхналогій і інфраструктуры для папулярызацыі і распаўсюджвання новых ведаў сярод усіх слаёў насельніцтва ў мэтах фарміравання і падрыхтоўкі грамадскай думкі да ўспрыняцця новых імператываў сацыяльна-эканамічнай арганізацыі грамадстваў;

стварэнне ўспрымальнай да інавацыі эканомікі;

якаснае паляпшэнне арганізацыі навуковай, навукова-тэхнічнай і інавацыйнай дзейнасці;

стварэнне ў цэлым інавацыйнага патэнцыялу грамадства, адпаведнага постіндустрыяльнай (наасфернай) эканоміцы (узроўню адукацыі ў краіне, навуковай пісьменнасці насельніцтва і асабліва кіруючай эліты, тэхналагічнай культуры, інфармацыйнай забяспечанасці і інш.);

фарміраванне прававой урэгуляванасці пытанняў інтэлектуальнай уласнасці, міграцыі навуковых кадраў і іншых пытанняў не толькі на ўзроўні нарматворчасці, але і ў свядомасці і паводзінах усіх людзей.

Пры фарміраванні стратэгіі развіцця краіны вельмі важным з'яўляецца правільны выбар ключавых або базісных арыенціраў, якія дазваляюць устанавіць асноўныя напрамкі рэфармавання сістэмы грамадскай вытворчасці. Такія арыенціры вызначаюцца сістэмай каардынат, у аснову якой пакладзены найбольш прынцыповыя для развіцця грамадства галіны навукі, якім дзяржава надае першараднае значэнне.

Дзяржаўная падтрымка ў першую чаргу павінна аказвацца тым кірункам навукова-тэхнічнай і інавацыйнай дзейнасці, якія забяспечваюць распрацоўку і вытворчасць новай канкурэнтаздольнай прадукцыі і развіццё рэсурса-, энерга- і працазберагальных навукаёмістых вытворчасцей і тэхналогій, таму што менавіта такі падыход з'яўляецца агульнапрызнаным у сусветнай практыцы і падтрымліваецца ўсёй навуковай супольнасцю.

Другая праблема — недастатковае ўспрыняцце інавацый эканомікай. Вось тут і павінны папрацаваць эканамісты, тэарэтычна абгрунтаваць і разлічыць аптымальны баланс долі дзяржаўнага кіравання і рыначнай эканомікі не на шкоду нашай мадэлі дзяржавы сацыяльна арыентаванай накіраванасці.

Варта заўважыць, што ўжо ўстарэла і арганізацыйная сфера навукі: 49 працэнтаў вучоных не задаволены арганізацыяй навуковай працы, 62 працэнты не задаволены тэхніка-эксперыментальнай базай даследаванняў, 59 працэнтаў — інфармацыйным забеспячэннем. Пра якія інавацыі можа ісці размова, калі вучоныя не маюць неабходнага?

Навукова-інавацыйныя структуры знаходзяцца ў зародкавым стане. Толькі ў паловы інстытутаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі маюцца навукова-вытворчыя або камерцыйныя структуры. Хоць, на думку 15 працэнтаў вучоных, структуры спрыяюць укараненню навуковых распрацовак,

на думку 21,3 працэнта — даюць магчымасць дадатковага заробку; 9 працэнтаў лічаць, што за кошт прыбытку яны спрыяюць абнаўленню эксперыментальнай базы інстытута, 11,6 працэнта лічаць, што дазваляюць захаваць кадравы патэнцыял інстытута.

Не менш важна мець у краіне ўвогуле высокі інавацыйны патэнцыял грамадства. Лічыцца, што ў нас, у Беларусі, традыцыйна высокі інтэлектуальны патэнцыял насельніцтва. Думаю, што не ўсё тут адназначна. Так, беларускі народ давярае навуцы, тым не менш толькі 64,3 працэнта лічаць, што навуковыя тэхналогіі робяць лягчэйшым наша жыццё, робяць яго больш камфортным і бяспечным. Чаму такая сітуацыя? Ды таму, што навуковыя дасягненні не даходзяць да рэальнага паўсядзённага жыцця людзей. У лепшым выпадку даходзяць да прамысловасці. А ў вёсцы, тым больш на дачных, садова-агародных участках як карысталіся стагоддзі назад рыдлёўкай і плугам з канём, так і карыстаюцца да гэтай пары.

У развітых краінах, напрыклад у Японіі, навукова-тэхналагічнае планаванне ў вёсцы ажыццяўляецца на двух узроўнях: 1) інавацыі ў канкрэтных галінах; 2) інавацыі ў паўсядзённым жыцці. У кожным выпадку тэхналогія разглядаецца як сукупнасць трох базавых галін: 1) распрацоўка новай прадукцыі; 2) развіццё вытворчых працэсаў; 3) скарыстанне адпаведнай прадукцыі ў роднасных галінах.

Калі ў нас, у Беларусі, арганізацыйныя навыкі ўспрымання новай тэхналогіі супадуць з ростам масавай адукацыі, высокім узроўнем навучання рабочых без адрыву ад вытворчасці, то рост тэхналагічнага і інавацыйнага патэнцыялу ў нашай краіне будзе натуральным і заканамерным.

Хацелася б спыніцца на прававым забеспячэнні навуковых працэсаў. На паперы ў нас ёсць закон аб інтэлектуальнай уласнасці. У жыцці ён не выконваецца і пастаянна парушаецца. Напрыклад, айчыннаму праграмісту нявыгадна распрацоўваць праграмы, бо ён ведае, што праз месяц-другі яго інтэлектуальны прадукт будзе ўкрадзены, размножаны і прададзены ўсялякімі хакерамі, падпольнымі фірмамі.

А вось у Індыі, дзе закон аб інтэлектуальнай уласнасці выконваецца, вучонаму выгадна ствараць і прадаваць праграмныя матэрыялы легальна, таму што там, дзякуючы прававой забяспечанасці і стварэнню льготных умоў для дзейнасці высокатэхналагічных прадпрыемстваў, экспарт толькі адных камп'ютэрных праграм ажыццяўляецца на суму каля 40 мільярдаў долараў ЗША ў год.

А што ў нас? Мы маем таленавітых вучоных, адукаваных спецыялістаў, але не можам забяспечыць іх нават стопрацэнтнай зарплатай. Людзі ідуць у адпачынак без забеспячэння. І вельмі часта, не знайшоўшы прымянення сваім сілам і таленту на радзіме, едуць за мяжу, дзе дапамагаюць зарабляць замежным навуковым фірмам і карпарацыям мільярды долараў.

Безумоўна, не ўсё страчана. Нядаўна адбылася сустрэча Прэзідэнта краіны А. Р. Лукашэнкі з нашымі пераможцамі міжнародных алімпіяд па розных навуковых дысцыплінах. Светлыя твары, разумнейшыя галовы, будучая інтэлектуальная эліта нашага грамадства. Але ці змогуць яны знайсці дастойнае прымяненне свайму таленту на радзіме, што чакае іх пасля заканчэння адукацыі і пачатку прафесійнай дзейнасці?

Другі прыклад. Вялікая колькасць вучоных, асабліва маладых, а таксама выпускнікоў ВНУ намерваюцца эмігрыраваць за мяжу. Кажучы словамі А. Р. Лукашэнкі, «мы не можам пайсці на забарону, парушаць дэмакратычныя прынцыпы дзяржавы, але мы можам перавесці гэта пытанне на юрыдычную і эканамічную аснову. Атрымаў бясплатную вышэйшую адукацыю,

высокую кваліфікацыю — вярні затрачаныя сродкі згодна з дагаворам з вышэйшай навучальнай установай або няхай за цябе заплаціць замежная фірма». Усе гэтыя пытанні патрабуюць прававой прапрацоўкі, давядзення іх да рэальнай жыццёвай практыкі.

Але як бы мы ўсе ні арганізоўвалі, афармлялі, як бы ні пераструктуравалі навуковую сферу, галоўнай з'яўляецца праблема чалавека навукі, вучонага з вялікай літары. Як зрабіць так, каб беларускія вучоныя хацелі працаваць на радзіме, для радзімы і для ўласнага творчага задавальнення? Як сцвярджаюць сацыёлагі, толькі 14 працэнтаў навуковых работнікаў цалкам рэалізуюць свой творчы патэнцыял, а 45,5 працэнта — толькі напалову. А калі дабавіць да гэтага тое, што 83,8 працэнта навуковых работнікаў не задаволены заработнай платай, 60 працэнтаў — сваімі жыллёвымі ўмовамі, а 62 працэнты пастаянна падпрацоўваюць у двух-трох месцах, то аб прадукцыйнасці нашай навукі, аб утрыманні вучоных у сваёй айчыне можна толькі марыць.

Ці магчыма рэфармаванне навукі ва ўмовах нашай дзяржавы ў адпаведнасці з распрацаванай мадэллю ўстойлівага развіцця? Думаю, што магчыма. Сутнасць мадэлі мэтазгодна выкласці сістэмна.

Беларуская мадэль устойлівага развіцця — гэта:

1) сацыяльна арыентаванае грамадскае ўзнаўленне, дзе чалавек, развіццё яго асобы з'яўляецца найвышэйшай каштоўнасцю і самакаштоўнасцю ў краіне;

2) устойлівае сацыяльна-эканамічнае развіццё на аснове забеспячэння гарманізацыі макрасістэмы «прырода — чалавек — грамадства» і захавання прыроды для будучых пакаленняў;

3) фарміраванне грамадзянскай супольнасці з яе дэмакратычнымі інстытутамі, спалучэннем дзяржаўнага кіравання і мясцовага самакіравання;

4) апераджальнае, прыярытэтнае развіццё нематэрыяльнай, сацыяльнай сферы: навукі, адукацыі, аховы здароўя, культуры, спорту, турызму і інш;

5) не матэрыялізм і не ідэалізм, а матэрыялізм і ідэалізм узятыя разам;

6) не атэізм і не рэлігійнасць, а навуковае і рэлігійнае светаўспрыняцце ў канструктыўным узаемадзеянні і супрацоўніцтве;

7) не панаванне адной партыі, а шматпартыйнасць. Не сцвярджэнне тэзіса, што гісторыя ўсіх грамадстваў, якія існавалі калі-небудзь, зводзіцца да класавай барацьбы, а сцвярджэнне тэзіса, што час рэвалюцыянераў і барацьбітоў прайшоў, надышоў час чалавека, які ўмее дамаўляцца;

8) спаборніцтва ў свеце не столькі за прыбытак і рынкі, колькі за каштоўнасці свабоды, дэмакратыі і эканамічнай этыкі;

9) карпаратыўнасць вытворчасці шляхам стварэння транснацыянальных карпарацый, фінансава-прамысловых груп, холдынгаў і іншых інавацыйных унутраных і міжнародных альянсаў;

10) інавацыйная ёмістасць самой навукі, адукацыі і вытворчасці;

11) змяненне ролі дзяржавы. Яна ўсё менш будзе функцыянаваць як суб'ект гаспадарання. Яе гаспадарчыя функцыі возьмуць на сябе буйныя карпаратыўныя сістэмы. За дзяржавай застаецца роля распрацоўшчыка прававога поля, якое дыктуецца глабалізацыяй цывілізацыйнага працэсу і неабходнасцю ўваходжання краіны ў інтэграцыйныя міжнародныя саюзы, альянсы. У сувязі з гэтым будзе змяншацца роля дзяржаўнага чыноўніка як адміністратара і ўзрастаць роля чыноўніка як аналітыка, прагназіста і разумнага кіраўніка.

Такім чынам, беларуская мадэль устойлівага сацыяльна-эканамічнага інавацыйнага развіцця — гэта:

высокаэфектыўная эканоміка з развітым інавацыйным навуковым прадпрымальніцтвам і рыначнай інфраструктурай, прыярытэтным развіц-

цём інтэлекту (розуму), духоўнасці, навукі, адукацыі, аховы здароўя, культуры, дэмакратызацыі грамадства і дзяржаўным рэгуляваннем размеркавальных адносін з дапамогай падаткаў і іншых эканамічных метадаў, якое абуджае зацікаўленасць чалавека ў пашырэнні і ўдасканаленні вытворчасці, у высокапрадукцыйнай працы;

гарантыі неабмежаванага росту дабрабыту членаў грамадства, якія добрасумленна працуюць, і дастойнага сацыяльнага забеспячэння непрацаздольных, састарэлых, інвалідаў, жанчын, якія знаходзяцца ў адпачынках па догляду дзяцей;

эфектыўная ахова жыцця, здароўя, абарона правоў і свабод усіх грамадзян.

Убіраючы ў сябе названыя прынцыпы і арыенціры, беларуская мадэль улічвае асаблівасці, якія адлюстроўваюць гісторыю краіны, традыцыі, менталітэт нашага народа, яго псіхалогію і нацыянальны характар з абвостраным пачуццём чалавечай салідарнасці, калектывізму і ўзаемадапамогі. Гэта мадэль чыніць перашкоды магчымаму развіццю негатыўных вынікаў рыначных адносін — эгацэнтрызму, эксплуатацыі чужой працы і беспрацоўю.

Беларуская мадэль стварае перадумовы фарміравання нацыянальнай ідэі ў наступным слогане: «Отечество — Интеллект — Благосостояние для всех» або на беларускай мове: «Айчына — Інтэлект — Дабрабыт для ўсіх». На аснове такой мадэлі развіцця і нацыянальнай ідэі, якая гэтак фармулюецца, зыходзячы з наяўных працэсаў глабалізацыі, можа быць створаны новы сацыяльна-эканамічны ўклад, заснаваны на найноўшай па структуры і канкурэнтаздольнасці беларускай эканоміцы.

Пры гэтым не трэба кідаць на волю лёсу традыцыйныя вытворчасці, якія эфектыўна працуюць, тым больш ствараць ім штучныя адміністрацыйныя і палітыка-эканамічныя ці эканоміка-прававыя перашкоды.

Разам з тым асноўную ўвагу вучоных краіны, уладных дзяржаўных структур важна сканцэнтраваць на навуковым абгрунтаванні і развіцці прыярытэтных відаў эканамічнай дзейнасці, якія будуць фарміраваць будучыню беларускай нацыі. Гэта павінна быць квітнеючая нацыя ва ўсіх адносінах, нацыя, якая стане прыкладам высокай духоўнасці, культуры, навукова-інтэлектуальнага развіцця, матэрыяльнай заможнасці і дабрабыту. Новае аблічча беларускай нацыі павінна адпавядаць самым лепшым узорам сучаснага нацыянальна-дзяржаўнага развіцця. Трэба мець на ўвазе, што такое развіццё нярэдка знаходзіцца не толькі ў стане цеснага ўзаемадзеяння культур, традыцый, навукі, палітыкі, сацыяльна-эканамічнай практыкі, але і ў стане іх спаборнасці. Годна ўдзельнічаць у гэтай спаборнасці можа толькі высокаразвітая ў эканамічных і духоўна-культурных адносінах нацыя. Зрабіць яе такой здатныя навука, адукацыя, культура і высокія тэхналогіі.

Нацыя, грамадскія даброты, правы чалавека іграюць ролю галоўных перадумоў і фактараў прагрэсу, утвараюць яго падмурак. Аднак практычнае ўвасабленне гэтых фундаментальных пачаткаў магчыма толькі пры паслядоўнай арыентацыі на іх самога стрыжня дзяржаўнай палітыкі.

Любоў да сваёй зямлі, айчыны з'яўляецца важнейшым імператывам жыцця беларускага народа. Патрыятызм з'яўляецца адной з апор дзяржаўнасці. Але каб патрыятычныя пачуцці занялі належнае ім трывалае месца ў свядомасці кожнага грамадзяніна, неабходна адпаведная работа ўсёй сістэмы грамадскага выхавання, неад'емнай часткай якога павінна стаць умацаванне ў кожнага чалавека пачуцця вернага, бескарыслівага служэння сваёй краіне і грамадзянскай адданасці сваёй нацыянальнай дзяржаве.

У цяперашні час асаблівасці праяўлення патрыятычных пачуццяў уяўляюць сабой даволі неаднародную карціну. Найбольш выразна ў Беларусі праяўляецца лакальны патрыятызм, пачуццё прыналежнасці да «малой радзімы». У меншай ступені выяўлена агульнанацыянальнае пачуццё патрыятызму, і яшчэ больш звужана выяўленне пачуцця нацыянальна-дзяржаўнага патрыятызму. Сярод грамадска-палітычных і духоўных перадумоў патрыятычнай свядомасці велізарнае значэнне маюць сукупны культурны вопыт беларускага народа, яго гісторыя, у тым ліку і разнастайныя духоўныя традыцыі. У першую чаргу размова ідзе аб сацыяльна-маральных каштоўнасцях, пра тое, што аднаўленне паўнаты гістарычных духоўна-культурных сувязей з'яўляецца важным фактарам фарміравання сучаснай патрыятычнай свядомасці. А патрыятычная свядомасць — важнейшы элемент кожнай ідэалогіі. Ідэалогія сапраўды шырокага грамадскага і дзяржаўнага значэння немагчыма без такіх фундаментальных сацыяльных каштоўнасцей, як радзіма, народ і сям'я. Усведамленне чалавекам сваёй неадрыўнасці ад іх, пашырэнне меж патрыятычнага пачуцця, унутраны шлях ад малой радзімы да вялікай — менавіта гэта робіць чалавека грамадзянінам сваёй краіны, сваёй дзяржавы.

Створаная ў Беларусі на чале з Кіраўніком дзяржавы мадэль развіцця краіны таксама патрабуе ўдасканалення па меры развіцця грамадства і сусветнай цывілізацыі.

Пры сённяшніх зыходных умовах і лімітаваных фактарах механічнае запазычанне замежнага вопыту разломвае існуючую структуру нацыянальнай эканомікі і саму грамадскую згоду, вядзе да канфліктаў і нестабільнасці. Але і цягнуць у будучае цяжар неэфектыўнай эканомікі і інертнага грамадства немэтазгодна і небяспечна. Эканоміка павінна быць адкрытай, успрымальнай да інавацый. Сёння інавацыі — гэта эканамічны рост, гэта дабрабыт народа, гэта новая наасферная цывілізацыя XXI стагоддзя.

*<u>Даведка.</u> Сацыялагічны падыход акцэнтуе ўвагу на розных сацыяльна-прафесійных групах, кожная з якіх займае пэўнае месца ў сацыяльнай структуры і ўносіць той або іншы ўклад у развіццё грамадства. Зыходзячы з матэрыялаў сацыялагічных даследаванняў (1995 — 2000 гг.), інтэлектуальны патэнцыял розных сацыяльна-прафесійных груп можна ацаніць па тыпу, спосабу і аб'ёму ўкладу ў рэфармаванне грамадскіх адносін. Група кіраўнікоў выконвае ролю «стратэга», які задае асноўныя кірункі змены эканамічных працэсаў. Спецыялісты вышэйшага ўзроўню кваліфікацыі выконваюць ролю «тактыка», які ажыццяўляе асноўныя рашэнні «верхняга эшалона» ў адпаведнасці са сваёй пасадай і прафесіяй. Астатнія групы не іграюць актыўнай ролі ў правядзенні эканамічных рэформ.*

*Па даных сацыялагічнага маніторынгу хатніх гаспадарак Рэспублікі Беларусь, занятае насельніцтва размяркоўваецца па прафесійна-службовых групах наступным чынам. У 2000 годзе доля кіраўнікоў складала 13,6 працэнта; спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі — 26,4 працэнта; спецыялістаў сярэдняга ўзроўню кваліфікацыі — 9,5 працэнта; служачых і работнікаў сферы абслугоўвання — 11,3 працэнта; кваліфікаваных рабочых прамысловасці — 27,4 працэнта; некваліфікаваных рабочых — 7,7 працэнта (не адказалі — 4,1 працэнта). Атрымліваецца, што здольнасцю да інтэнсіўнага ўключэння свайго інтэлектуальнага патэнцыялу ў стратэгічныя рашэнні ў ходзе рэалізацыі мадэлі наасфернай эканомікі валодаюць 13,6 працэнта кіраўнікоў; у тактычныя рашэнні — 26,4 працэнта спецыялістаў вышэйшага ўзроўню кваліфікацыі. Такім чынам, у лепшым выпадку можна разлічваць на актыўнае выкарыстанне інтэлектуальнага патэнцыялу ў прыняцці стратэгічных і тактычных рашэнняў наконт наасфернай мадэлі толькі 40 пра-*

*цэнтаў занятых у эканоміцы Рэспублікі Беларусь (роля астатніх 60 працэнтаў — пасіўная). Аднак інтэлектуальны патэнцыял і гэтых 40 працэнтаў найбольш падрыхтаваных спецыялістаў на працягу многіх гадоў стрымліваецца замаруджаным тэхніка-тэхналагічным развіццём, недаацэньваецца маральна і матэрыяльна. Гэта сур'ёзная праблема, якая патрабуе свайго вырашэння.*

Вырашэнне гэтай дылемы можа быць знойдзена шляхам апраўданага дзяржаўнага ўдзелу ў эканамічным і сацыяльным жыцці грамадства, распрацоўкі паслядоўных і сістэмных пераўтварэнняў, мадэрнізацыі сістэмы дзяржаўнага кіравання з паступовым пераходам ад каманднай дзяржавы да грамадскага адміністравання.

Мадэліраванне трансфармацыйных працэсаў дзяржаўнага кіравання з'яўляецца складаным і супярэчлівым працэсам. Неабходна адказаць на пытанні: якія зыходныя прынцыпы і тэрміны гэтай трансфармацыі, інструменты і механізмы, суадносіны суб'ектыўных і аб'ектыўных фактараў у гэтай мадэрнізацыі, наколькі і на якіх напрамках можа быць выкарыстаны заходні вопыт дзяржаўнага кіравання? Праблема заключаецца не ў тым, што патрабуецца простае пераразмеркаванне ўлады паміж дзяржавай, рынкам і грамадствам, а ў тым, што патрабуецца трансфармацыя саміх гэтых інстытутаў у сувязі са змяненнем грамадскіх каштоўнасцей, прыярытэтаў і ідэі, якая з'ядноўвае грамадства.

Парадыгма новай мадэлі дзяржаўнага кіравання на пачатку XXI стагоддзя, на нашу думку, можа прадвызначацца шэрагам атрыбутыўных прыкмет, многія вытокі якіх — у глабалізацыі сусветнай эканомікі.

Перш за ўсё неабходна разглядаць усе структуры дзяржаўнага кіравання не як элементы, якія стаяць «над грамадствам», а як элементы, якія выконваюць задачу па стабільным функцыянаванні грамадства, зыходзячы з неабходнасці яго рэфармавання («не чалавек для дзяржавы, а дзяржава для чалавека»). Дзяржаўнае кіраванне — гэта свайго роду сфера паслуг, якія аказваюцца грамадству органамі дзяржаўнага кіравання, што ў сваю чаргу выклікае неабходнасць бюджэтавання (інакш кажучы, расцэнкі) функцый дзяржаўнага кіравання з далейшай магчымай іх прыватызацыяй.

Неабходна паступовае ўключэнне ў сістэму дзяржаўнага кіравання няўрадавых і квазіўрадавых арганізацый. Патрабуецца распрацоўка новай канцэпцыі самакіравання рэгіёнаў і ўзаемадзеяння органаў самакіравання з «вертыкаллю». У сувязі з гэтым вельмі важнымі ўяўляюцца праблема дэцэнтралізацыі кампетэнцыі і сумяшчэнне прафесійнай і рэсурснай адказнасці на кожным узроўні дзяржаўнага кіравання. Усё гэта дазволіць актывізаваць творчыя сілы нацыі, стварыць умовы для эфектыўнай работы дзяржаўнай бюракратыі і кантролю за яе дзейнасцю, змагацца з карупцыяй.

Як паказвае вопыт, у развіцці эканомікі і грамадства нельга абысціся без задзейнічання сацыяльнага патэнцыялу, узмацнення сацыяльнага кампанента ў дзяржаўным кіраванні. Функцыі дзяржавы павінны быць засяроджаны на гуманітарных аспектах жыццядзейнасці грамадства. Дзяржава абавязана абараніць грамадства ад хвалі насілля і тэрору, забяспечыць дапамогу тым, хто мае патрэбу, выступіць гарантам сацыяльнай стабільнасці. Гэта дазволіць задзейнічаць сацыяльны патэнцыял нацыі.

«Цэнтр цяжару» ў дзяржаўным кіраванні эканамічнай сферай пераносіцца на знешні эканамічны сектар і, перш за ўсё, на лабіраванне інтарэсаў айчынных прадпрыемстваў на знешнім рынку. Гэта і ёсць важнейшая атрыбутыўная прыкмета новай мадэлі дзяржаўнага кіравання ва ўмовах глабалізацыі. Дзяржава павінна засяродзіць увагу не на дробязнай апецы прад-

прыемстваў, а на правядзенні прамысловай палітыкі ў высокатэхналагічных галінах і сферах, якія іх забяспечваюць (навука, адукацыя). Рынак — рынкам. У сучасных умовах свабодных рынкаў недастаткова: паспяховая інавацыйная дзейнасць патрабуе падтрымліваючых інстытутаў. Камерцыйныя інавацыі сёння — гэта ў пэўнай ступені прадукт, які заснаваны на навуковых ідэях, атрыманых галоўным чынам у дзяржаўнай сферы, і прымяненне інжынерынгу (заснаванага на патэнтах). Першае рэалізуецца ў акадэміях, ва універсітэтах і ў дзяржаўных лабараторыях, другое — у прыватных, прыбытковых фірмах. Інавацыя, каб мець поспех, патрабуе акадэмічных даследаванняў, урадавай падтрымкі і ўспрымальнай да новага індустрыі.

У эканамічнай сферы неабходна кіравацца прынцыпам «свабода — правіла, рэгуляванне — выключэнне з яго». Ажыццяўленне прамысловай палітыкі немагчыма без адпаведнай сацыяльнай палітыкі і развіцця галоўнага рэсурсу наасфернай эканомікі — чалавека. У сацыяльнай палітыцы даводзіцца прымаць і непапулярныя рашэнні, напрыклад, па ўпарадкаванні льгот, адраснай дапамогі, пенсіённага забеспячэння. Але яны патрэбны для таго, каб павысіць сацыяльную справядлівасць і эфектыўнасць сацыяльнай абароны.

Важнай прыкметай наасфернай эканамічнай парадыгмы з'яўляецца ўлік экалагічнага фактару. Пакуль што недастаткова выразна навукай сфармулявана канцэпцыя бяспечнага сацыяльна-экалагічнага развіцця рэспублікі. Асаблівую актуальнасць набывае гэта праблема ў сувязі з узмацненнем тэндэнцый да глабалізацыі, якія яўна не адпавядаюць патрабаванням экалагічнай бяспекі і сацыяльнай справядлівасці, паколькі праяўляюцца шляхам распаўсюджання норм, стандартаў і палітыкі ў інтарэсах рынкаў тавараў і паслуг, а не гарманічнага развіцця чалавечага патэнцыялу. У спалучэнні з палітыкай звышрасходавання прыродных рэсурсаў, якія не аднаўляюцца, такія з'явы становяцца фактарам і экалагічнай пагрозы, і парушэння прынцыпаў бяспекі існавання чалавека, яго здароўя і сацыяльна-духоўнага развіцця.

Становіцца ўсё больш відавочнай сувязь глабальных і рэгіянальных экалагічных праблем, што накладвае свой адбітак і на стратэгію бяспечнага развіцця Беларусі. Падтрыманне біясферных працэсаў у нашым рэгіёне на належным узроўні — не мясцовае, а глабальнае пытанне. Да прыкладу, Беларусь з яе лясамі і балотамі з'яўляецца «лёгкімі Еўропы», забяспечвае яе кіслародам (заўважым у дужках, нічога не атрымліваючы ўзамен).

У цэлым жа экалагічная сітуацыя ў рэспубліцы і звязаныя з ёй паказчыкі сацыяльнага развіцця працягваюць пагаршацца. У сувязі з паглыбленнем сацыяльных вынікаў пагаршэння якасці прыроднага асяроддзя ўзнікла вострая патрэба ў фарміраванні новай дзяржаўнай экалагічнай палітыкі, заснаванай на парытэце экалогіі, палітыкі і эканомікі.

Для таго, каб выкладзеная вышэй стратэгія стала рэальнасцю, місію «фундаменту цывілізацыйнага прагрэсу» прызначана выканаць айчынная навука, якая здольна падрыхтаваць адпаведную тэарэтыка-метадалагічную і прававую базу для будаўніцтва новай эканомікі, прыярытэтна забяспечыць палітычнае кіраўніцтва краіны ўсімі неабходнымі для гэтага прапановамі.

У рэспубліцы ёсць усё неабходнае, і галоўнае — кадры вучоных-эканамістаў, філосафаў, сацыёлагаў, палітолагаў, юрыстаў, псіхолагаў, эколагаў, спецыялістаў іншых галін навук, якія здольны выпрацаваць неабходныя праграмы, метады і прынцыпы эфектыўнага вядзення народнай гаспадаркі Беларусі на новай аснове.

Таму асаблівую значнасць набываюць сацыяльна-гуманітарныя навукі як тэарэтычнае забеспячэнне дзяржаўнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця Рэспублікі Беларусь, першачарговымі задачамі якіх з'яўляюцца:

распрацоўка тэорыі беларускай эканомікі новага ўкладу, тэарэтычных і практычных асноў развіцця нацыянальнай эканомікі на сучасным этапе;

забеспячэнне станаўлення беларускай дзяржаўнасці, яе прававых асноў і фарміравання дэмакратычнага грамадства;

даследаванне сацыяльных і палітычных працэсаў у Беларусі і сучасным свеце: распрацоўка філасофска-светапоглядных аспектаў сацыяльнага развіцця, тэарэтыка-метадалагічнае абгрунтаванне сучасных сацыяльных тэхналогій. З гэтай праблемай мы судакрануліся ў сацыяльнай сферы. Усе, здаецца, згодны, што сацыяльная дапамога дзяржавы павінна быць адраснай, але як гэта зрабіць практычна, якімі павінны быць крытэрыі беднасці, хто і калі павінен ажыццяўляць праверкі, каб і людзей не пакрыўдзіць, і павысіць эфектыўнасць сацыяльных трансфертаў, — на гэтыя пытанні адказаў не было. Таму мы пайшлі на сацыяльны эксперымент у адным з раёнаў. Гэта пытанне мы вырашым, але ж ёсць і іншыя, дзе даводзіцца дзейнічаць метадам проб і памылак.

Калі размова ідзе аб стварэнні сучаснага аблічча беларускай нацыі XXI стагоддзя, выхаванні пачуцця патрыятызму, то цалкам відавочна, што гэта немагчыма без дзейснага ўдзелу мастацкай літаратуры, мастацтва, усёй духоўнай культуры, якія традыцыйна займаюць цэнтральнае месца ў выхаваўчым працэсе. У гэтай вялікай, адказнай рабоце на роўных прымаюць удзел і мінулае, і сучаснасць. Сёння мы па-новаму адкрываем для сябе тую гістарычную ісціну, што, нягледзячы на вельмі складаныя сацыяльна-палітычныя ўмовы шматвяковага гістарычнага жыцця, таленавіты беларускі народ змог вылучыць са свайго асяроддзя многа выдатных вучоных, пісьменнікаў, дзеячаў культуры і мастацтва, якія ўнеслі істотны ўклад у еўрапейскую цывілізацыю. Адна з найбольш багатых у славянскім свеце і наша літаратураная спадчына, якая ўключае творы высокага ідэйна-мастацкага ўзроўню. Выхаванне высокаадукаванага, усебакова развітага, духоўнага чалавека, сапраўднага грамадзяніна-патрыёта нашай краіны немагчыма без глыбокага засваення найбольш каштоўнага з гэтай спадчыны. Лепшыя традыцыі далёкага і блізкага мінулага — жыватворныя, яны — як крыніца — актыўна ўдзельнічаюць у стварэнні новага, служаць культурнаму прагрэсу народа, яго духоўнаму ўзбагачэнню.

У гэтых адносінах, дарэчы, нямала робіць Нацыянальная акадэмія навук шляхам выдання і прапаганды класічнай спадчыны мінулага, асваення яе вечнай каштоўнасці.

Сёння пісьменніцкія справы ідуць горш. На жаль, даводзіцца канстатаваць, што беларуская літаратура на сучасным этапе ў многім страціла былыя свае пазіцыі і перажывае творчы і арганізацыйны крызіс і спад, абумоўлены рознымі прычынамі аб'ектыўнага і суб'ектыўнага характару. Цяпер не час і не месца падрабязна пра гэта гаварыць, заўважу толькі, што частка пісьменнікаў чамусьці не імкнецца быць запатрабаванымі грамадствам. Адсюль — шэраг памылак, упушчэнняў, крыўд, канфліктаў, непамерна раздутых амбіцый. Размова ідзе перш за ўсё аб літаратурнай крытыцы, цяперашні стан якой выклікае немалую заклапочанасць. У наш час крытычнае канструктыўнае слова ў адрозненне ад папярэдніх гадоў перастала аказваць дзейсны, спрыяльны ўплыў на літаратурны працэс, на творчую практыку. Не ўплывае яно і на маральны клімат у літаратурным асяроддзі. Са старонак літаратурных выданняў фактычна зніклі канструктыўныя, праблемныя артыкулы, палемічныя выступленні, сур'ёзныя абагульняючыя матэрыялы. Няма глыбокага аналізу

і асэнсавання тэндэнцый і перспектыў развіцця мастацкай літаратуры. Зніклі і аператыўныя водгукі на новыя творы.

Каб вывесці беларускую крытыку з такога стану, неабходна, на мой погляд, прыняць шэраг сур'ёзных арганізацыйна-творчых мер:

палепшыць фінансавы стан літаратурных выданняў;

павялічыць іх тыраж для таго, каб абласныя, раённыя бібліятэкі, а таксама бібліятэкі ВНУ, агульнаадукацыйных школ, ліцэяў, гімназій, навуковых цэнтраў былі ў стане атрымліваць перыядычныя выданні, у якіх друкуюцца літаратурна-крытычныя матэрыялы;

праявіць клопат аб прафесійнай вучобе крытыкаў, выхаванні творчых кадраў праз семінары і стварэнне творчых груп крытыкаў на філалагічных факультэтах вышэйшых навучальных устаноў Беларусі;

абавязаць дзяржаўныя выдавецтвы ўключаць у выдавецкія планы кнігі, зборнікі літаратурна-мастацкай крытыкі.

Літаратурная крытыка гэтак жа, як і літаратуразнаўства, прызначана павышаць вастрыню ўспрыняцця наспелых з'яў грамадства і часу і ў той жа час пераадольваць існуючую ізаляцыю навукі і грамадскай практыкі, актыўна ўздзейнічаць на фарміраванне мастацкіх і маральных запатрабаванняў нацый, на складаныя працэсы дзяржаўнага будаўніцтва, адмовіўшыся ад апісальна-тлумачальнай практыкі, перайсці да сістэматычнага маніторынгу перспектыўных мастацка-творчых тэндэнцый з выкарыстаннем найноўшых сацыялагічных метадаў, інфармацыйных тэхналогій, навуковых экспертыз, прыёмаў тэарэтычнага прагназавання.

Разам з тым неабходна выкараніць схаластыку і начотніцтва, якія яшчэ маюць месца ў навукова-даследчых і вышэйшых навучальных установах гуманітарнага профілю, і падключыць калектывы вучоных-гуманітарыяў да актыўнага ўдзелу ў вырашэнні вышэйзгаданых рэальных праблем сацыяльна-гуманітарных навук.

Нягледзячы на тое, што важнейшай функцыяй навукі застаецца прадуцэнтаванне новых фундаментальных ведаў, задачай першаступеннай важнасці з'яўляецца своечасовае і пастаяннае выкарыстанне гэтых ведаў для забеспячэння сацыяльнага і навукова-тэхнічнага прагрэсу. Паколькі дасягненні навукова-тэхнічнага прагрэсу ў рэшце рэшт рана ці позна праяўляюцца ў вытворчасці, то працэс атрымання навуковых ведаў, выканання навукова-тэхнічных распрацовак і іх укранення павінен быць непарыўным і забяспечваць арганічную сувязь паміж яго рознымі этапамі. У нас жа і непарыўнасць, і арганічнасць не назіраюцца да гэтай пары.

Вызначэнне стратэгіі павышэння эфектыўнасці грамадскага ўзнаўлення краіны з'яўляецца асноўным зместам і мэтай дзейнасці як вышэйшага палітычнага кіраўніцтва, так і ўсіх іншых кадраў дзяржавы.

Забеспячэнне экалагічнай бяспекі Беларусі канчатковай мэтай мае не ахову прыроды ў прымітыўным яе разуменні, а стварэнне ўмоў для развіцця чалавечага патэнцыялу рэспублікі, для здаровага і духоўна багатага жыцця.

Вялікая ўвага навукі павінна ўдзяляцца пошуку новых экалагічна бяспечных, інавацыйных тэхналогій. Неабходны новыя распрацоўкі і падтрымка стандартаў у галіне аховы здароўя, працы і навакольнага асяроддзя. Ад узмацнення жорсткасці гэтых стандартаў Беларусь нічога не губляе. Зніжэнне ж падобных патрабаванняў нікольні не ўзмацняе канкурэнтаздольнасці эканомікі, толькі робіць больш слабымі будучыя пакаленні.

Трэба сур'ёзна абмежаваць увоз на тэрыторыю рэспублікі сельскагаспадарчай сыравіны і прадуктаў харчавання, атрыманых з прымяненнем геннай інжынерыі і выкарыстаннем забароненых у рэспубліцы дабавак.

Сродкам масавай інфармацыі неабходна актыўней прапагандаваць здаровы лад жыцця, прынцыпы рацыянальнага харчавання, публікаваць экалагічную інфармацыю, спісы дазволеных харчовых дабавак, пералікі забароненых да ўвозу прадуктаў. Ва ўмовах глабалізацыі грамадскага жыцця праблема экалогіі — гэта праблема не адной дзяржавы. Тут патрэбны намаганні ўсіх краін. Гэта — з аднаго боку.

З другога — павелічэнне тэмпаў эканамічнага росту, каб падняць узровень жыцця большасці насельніцтва краін, якія развіваюцца, да ўзроўню жыцця насельніцтва прамыслова развітых краін, патрабуе нарашчэння вытворчасці. Пры сённяшнім яе тэхналагічным узроўні патрабуецца павялічыць здабычу і выкарыстанне прыродных рэсурсаў, а значыць павялічыць і забруджанне навакольнага асяроддзя. Вось чаму неабходна перш-наперш пераглядваць існуючы сусветны парадак, які замацоўвае няроўнасць, неэквівалентны абмен, фінансавую нестабільнасць, робіць больш жорсткімі ўмовы перадачы тэхналогіі з прамыслова развітых краін у краіны, якія развіваюцца.

І ў гэтым працэсе прызначаны сыграць істотную ролю нацыянальныя дзяржавы, якія з'яўляюцца важнымі суб'ектамі міжнародных адносін. У сучасным свеце Рэспубліка Беларусь зарэкамендавала сябе як міралюбная краіна, якая падтрымлівае добрасуседскія адносіны з усімі дзяржавамі, што мяжуюць з ёй.

Як і ва ўсім свеце, для Рэспублікі Беларусь праблема забеспячэння інфармацыйнай бяспекі самая актуальная па ўсёй шырыні свайго спектра. Асноўная прычына яе значнасці заключаецца ў прагрэсіруючай інфарматызацыі грамадства, у аб'ектыўным росце эканамічнай і сацыяльнай ролі інфармацыі. І грамадскі прагрэс, і развіццё кожнага чалавека суправаджаюцца развіццём іх інфармацыйнага асяроддзя.

Нават у палітычнай сферы вызначальнае значэнне набылі не столькі сілавыя, колькі інфармацыйныя фактары, напрыклад, магчымасці эксплуатаваць інтэлектуальны патэнцыял іншых краін, распаўсюджваць і ўкараняць свае духоўныя, ідэйныя каштоўнасці, сваю культуру, мову і г. д.

Па меры навукова-тэхнічнага прагрэсу ўзмацняецца роля інфармацыйнай бяспекі асобы, грамадства і дзяржавы. Інфармацыйна-небяспечныя ўздзеянні на асобу ажыццяўляюцца свядома і мэтанакіравана — шляхам маніпуліравання, дэзінфармацыі, абразы, пабуджэння да неадэкватных дзеянняў. Пры гэтым часта выкарыстоўваюцца спецыяльна створаныя сродкі — сродкі масавай інфармацыі, радыёэлектроннай барацьбы, праграмнае забеспячэнне для персанальных кампьютэраў і інш.

Недастатковая забяспечанасць права грамадзян на інфармацыю, маніпуліраванне інфармацыяй выклікаюць неадэкватную рэакцыю насельніцтва і ў шэрагу выпадкаў вядуць да палітычнай нестабільнасці ў грамадстве. Неразвітасць інфармацыйных зносін у сферы бізнесу тармозіць станаўленне цывілізаванага рынку, а адсутнасць механізму ўключэння інфармацыйнага рэсурсу ў гаспадарчы абарот прыводзіць да сур'ёзных эканамічных страт. Слабое забеспячэнне органаў дзяржаўнай улады і кіравання поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыяй ускладняе прыняцце абгрунтаваных рашэнняў.

Інфармацыйная прастора Беларусі характарызуецца адкрытасцю для ўздзеяння інфармацыйных пагроз праз замежныя радыё- і тэлекамунікацыйныя сродкі, друкаваныя выданні, Інтэрнет. Недапушчальна высокі ўзровень залежнасці рэспублікі ад замежнага праграмнага забеспячэння і сродкаў інфарматызацыі. Недасканалае заканадаўства ў інфармацыйнай сферы.

Сярод прыярытэтных напрамкаў забеспячэння інфармацыйнай бяспекі Беларусі варта было б назваць:

удасканаленне механізмаў рэалізацыі права грамадзян на атрыманне інфармацыі, форм і спосабаў узаемадзеяння дзяржавы са сродкамі масавай інфармацыі, забеспячэнне доступу да адкрытых інфармацыйных рэсурсаў дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, да архіўных матэрыялаў, да іншай адкрытай сацыяльна значнай інфармацыі;

распрацоўку і ўкараненне сучасных метадаў і сродкаў аховы інфармацыйных тэхналогій, перш за ўсё тых, якія выкарыстоўваюцца ў сістэмах кіравання войскамі і зброяй, а таксама экалагічна небяспечнымі і эканамічна важнымі вытворчасцямі;

ажыццяўленне дзяржаўнага кантролю за распрацоўкай, стварэннем, развіццём і выкарыстаннем сродкаў аховы інфармацыі;

забеспячэнне прававых і арганізацыйных умоў для папярэджання, выяўлення, спынення злачынстваў у інфармацыйнай сферы;

удзел Беларусі ў міжнародных пагадненнях, якія рэгулююць на раўнапраўнай аснове сусветны інфармацыйны абмен, у стварэнні і выкарыстанні міждзяржаўных і міжнародных глабальных інфармацыйных сетак і сістэм.

Змяненні, якія адбываюцца ў планетарным маштабе, з непазбежнасцю дыктуюць пэўныя ўмовы, у межах якіх развіваюцца і будуць развівацца грамадскія і эканамічныя працэсы ва ўсіх прамыслова развітых краінах. Толькі краіны з высокім узроўнем навукі і адукацыі змогуць існаваць і развівацца ў гэтых новых умовах.

З улікам вышэйвыкладзенага ўяўляецца неабходным фарміраванне ў нашай краіне ў бліжэйшыя дзесяць-пятнаццаць гадоў новага сацыяльна-эканамічнага ўкладу, які прыйдзе на змену сённяшняму, заснаванаму на ўвозе ў краіну энергетычных і сыравінных рэсурсаў і розных паўфабрыкатаў у мэтах далейшай іх перапрацоўкі або канчатковай зборкі і продажу на рынку гатовай прадукцыі.

Канцэптуальна гэты новы ўклад будзе азначаць:

паступовае зніжэнне важнасці і маштабу энерга- і рэсурсаёмістых вытворчасцей і іх удзельнай вагі ў эканоміцы краіны, выцясненне такіх вытворчасцей новымі, заснаванымі на высокіх тэхналогіях і новых матэрыялах;

павелічэнне долі і вагі сектара паслуг, які рэзка пашырыцца з улікам найноўшых тэлекамунікацыйных тэхналогій;

змяненне прыярытэтаў і ўзроўню выкладання ў сістэме адукацыі ў кірунку большай яго наасферызацыі і гуманізацыі;

перамяшчэнне навуковых прыярытэтаў у бок навук аб чалавеку і фарміраванне новай тэхналагічнай прасторы вакол патрэбнасцей чалавека.

Пераход да новага сацыяльна-эканамічнага ўкладу павінен стаць адным з прыярытэтаў сацыяльна-эканамічнай палітыкі дзяржавы. Пад ім маецца на ўвазе рэалізацыя наступных захадаў:

рэзкага павышэння ролі навукі і вучоных у грамадстве;

выдзялення «астраўкоў» новага ўкладу і іх прыярытэтнай падтрымкі з боку дзяржавы;

паскоранай інфарматызацыі беларускага грамадства і актыўнага выхаду ў сусветную інфармацыйную прастору;

канцэптуальнай змены прыярытэтаў у энергетыцы з істотным акцэнтам на развіццё аднаўляемых і нетрадыцыйных крыніц энергіі і атамнай энергетыкі;

паскоранага развіцця прыватнага (прадпрымальніцкага) сектара эканомікі з максімальнымі прэферэнцыямі і падтрымкай навукаёмістых вытворчасцей.

Стварэнне суверэннай, незалежнай дзяржавы Рэспубліка Беларусь і пераход да наасфернай эканомікі выклікаюць карэнныя змяненні не толькі

ў палітычным жыцці, гаспадарчай дзейнасці, але і ў развіцці беларускага грамадства. Яно даволі хутка прыстасавалася да пазітыўных у сваёй аснове перамен, адчула сябе гаспадаром роднай краіны. Нягледзячы на заканамерныя цяжкасці пры любой перабудове сацыяльна-палітычных і эканамічных адносін, беларускае грамадства не дало ўцягнуць сябе ў якія б там ні было канфлікты і праяўляе вялікую сілу і энергію ў вырашэнні ўсіх задач, якія стаяць перад ім. Галоўнай яго рысай з'яўляецца небывалае імкненне разумна падыходзіць да вырашэння ўсіх буйнамаштабных праблем свайго развіцця, спадзеючыся толькі на ўнутраныя магчымасці і рэзервы.

Як ніколі раней, беларускае грамадства вылучаецца высокай ступенню нацыянальнага патрыятызму. Садзейнічаюць гэтаму не толькі ператварэнне Беларусі ў суверэнную дзяржаву, але і павышэнне цікавасці людзей, асабліва моладзі, да сваіх каранёў, гісторыі Айчыны. Кожнае мястэчка, гарадок багатыя сваёй гісторыяй, традыцыямі, сваімі знакамітымі землякамі. Грунтоўнае азнаямленне з мінулым не можа не ўсяляць дух патрыятызму ўсім і кожнаму. Таму неабходна і надалей удасканальваць працэс павышэння ўзроўню гістарычных ведаў сярод падрастаючага пакалення, форм патрыятычнага выхавання. Асноўная роля ў гэтым належыць сістэме народнай адукацыі. На шляху суверэннага развіцця Беларусь атрымала неабмежаваныя магчымасці па фарміраванні такой сістэмы народнай адукацыі, якая цалкам і поўнасцю адпавядала б яе карэнным нацыянальным інтарэсам. Не сакрэт, што ў апошнія перад перабудовай дзесяцігоддзі практычна ўсе тыпы выхаваўчых і навучальных устаноў працавалі як на рускай, так і на беларускай культурна-моўных асновах. Дзяржава і нацыянальна зарыентаваныя колы грамадства ўзяліся за карэннае рэфармаванне народнай адукацыі ў мэтах не толькі павышэння ўзроўню ведаў, але і ролі беларускага фактару. Гэта служыць пераканаўчым сведчаннем таго, што ў бліжэйшы час у жыццё будуць уступаць пакаленні патрыётаў сваёй Айчыны, носьбіты яе самабытных нацыянальна-культурных традыцый.

Істотна наблізілася да нацыянальных інтарэсаў Беларусі такая важная сфера, як гуманітарная навука. Перад ёй стаяць задачы глыбокага асэнсавання пройдзенага краінай шляху і вызначэння перспектывы далейшага развіцця грамадства ва ўмовах дзяржаўнага суверэнітэту і рыначнай эканомікі.

З моманту дасягнення Рэспублікай Беларусь палітычнай незалежнасці прайшло нямногім больш дзесяці гадоў. Аднак і гэтага часу аказалася дастаткова, каб вызначыліся пэўныя пазітыўныя зрухі ў фарміраванні новых адметных рыс беларускай нацыі. Галоўнай з іх, вядома, з'яўляецца тое, што беларусы сталі ў поўным сэнсе дзяржаўнай нацыяй, чаго ім не ўдалося здзейсніць за ўсю гісторыю свайго існавання. У народа павысілася зацікаўленасць у добраўпарадкаванні свайго нацыянальнага жыцця, што важна ў сувязі з паглыбленнем працэсаў глабалізацыі і наасферызацыі. Новае аблічча нацыі фарміруе павышэнне значнасці беларускай мовы. Яна ўсё часцей выкарыстоўваецца ў грамадскім жыцці краіны, міжасобасных зносінах людзей, чаго мы не назіралі ў сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Расце ў грамадстве гонар за высокі прафесіяналізм беларускага нацыянальнага мастацтва. Выразна вызначыліся нацыянальныя інтарэсы беларускай дзяржаўнасці. Усё сказанае дазваляе зрабіць вывад аб нарашчэнні тэндэнцыі ўзмацнення, узбагачэння нацыянальных асноў беларускага народа.

Таму галоўная задача беларускіх вучоных — забяспечыць пастаянальнае і ўстойлівае развіццё нашай краіны, якая выбрала інавацыйны шлях развіцця эканомікі і на аснове назапашанага патэнцыялу зможа годна адказаць на выклікі часу і ўступіць у «постіндустрыяльную» наасферную

эпоху з моцнай нацыянальнай эканомікай і стабільнай сацыяльна-палітычнай сістэмай.

На гэтым шляху першасным і самым галоўным для нацыі з'яўляецца фарміраванне на аснове наасфернай тэорыі развіцця ў нашых людзей адпаведнага мыслення і светапогляду — фундаментальнага імператыву цывілізацыйнага ўстойлівага развіцця краіны.

* * *

XXI стагоддзе верагодна ўвойдзе ў гісторыю планеты як стагоддзе наасферызацыі — стагоддзе рэалізацыі ідэй У. І. Вярнадскага, яго вывадаў аб біясферы і яе пераходзе ў наасферу, якія маюць вялікае светапогляднае і практычнае значэнне*.

Лейтматывам канцэптуальнага погляду Уладзіміра Іванавіча з'яўляецца тое, што «чалавек, як усё жывое, не з'яўляецца самадастатковым, незалежным ад навакольнага асяроддзя прыродным аб'ектам».

«Чалавек павінен зразумець, — падкрэсліваў вучоны, — як толькі навуковая, а не філасофская або рэлігійная канцэпцыя свету яго ахопіць, што ён не ёсць выпадковая, незалежная ад навакольнага (біясферы або наасферы) свабодна дзеючая прыродная з'ява. Ён складае непазбежнае праяўленне вялікага прыроднага працэсу».

Пераўтвараючы прыроду, чалавек адначасова пераўтварае сваю ўласную прыроду, развівае спячыя ў ім фізічныя, інтэлектуальныя і іншыя сутнасныя (наасферныя) сілы. Разам з тым ён усё часцей сутыкаецца са шматлікімі не толькі станоўчымі, але і адмоўнымі вынікамі свайго пераўтварэння навакольнай прыроды, асабліва тады, калі яго дзейнасць не адпавядае законам яе развіцця. Такое становішча мае месца, бо прыроднае асяроддзе пражывання чалавека не з'яўляецца пасіўным органам, бо біясфера і наасфера — гэта глабальныя сістэмы, якія развіваюцца і самаразвіваюцца. У сувязі з гэтым чалавек — разумны ў сваім успрыняцці свету і практычных дзеяннях — зыходзіць з заканамернасцей працэсаў назапашвання ў прыродзе, супярэчлівага характару ўздзеяння на іх антрапагенных фактараў.

Таму важна глыбока асэнсоўваць розумам практычную значнасць гарманізацыі сацыяльна-эканамічнай і прыродаахоўнай дзейнасці ва ўмовах пагрозы глабальнага экалагічнага крызісу.

Іншымі словамі, вырашэнне праблем сацыяльна арыентаванага грамадскага ўзнаўлення павінна зыходзіць з разумення таго, што чалавек уключаны не толькі ў сацыяльна-эканамічны, сацыяльна-культурны, навукова-тэхнічны, грамадска-гістарычны, але і ў эвалюцыйна-генетычны планетарны (глабальны) наасферны працэс. Чым паўней развіты разумовыя здольнасці, інтэлект, культура, душа індывідуума, чым адказней і творча ён адносіцца да справы і другога чалавека, чым глыбей і сістэмней прадбачыць аддаленыя вынікі свайго ўздзеяння на прыроду і грамадства, тым больш складаныя задачы ён ставіць і вырашае.

Гэта наглядна можа быць прадстаўлена дыяграмай развіцця грамадства ва ўзаемасувязі з працэсам станаўлення і развіцця навукі.

---

* Навука і адукацыя на парозе III тысячагоддзя: Матэрыялы Міжнароднага кангрэса (г. Мінск, 3—6 кастрычніка 2000 г.). — Мн.: Аналітычны цэнтр НАН Беларусі, 2001. — С. 325—334. Станаўленне этапу наасферы Вярнадскі звязваў з дзеяннем наступных асноўных фактараў: адзінствам біясферы і чалавецтва, адзінствам чалавечага роду, планетарным характарам чалавечай дзейнасці і яе сувымяральнасцю з геалагічнымі працэсамі, развіццём дэмакратычных форм чалавечага супольнага жыцця і імкненнем да міру народаў планеты, небывалым росквітам («выбухам») навукі і тэхнікі.

## *Дыяграма стадый развіцця, складзеная па сістэме «SINIC»*

***Час***

- 100 000 да н. э.
- 12 000 да н. э.
- 700 н. э.
- 1302
- 1765 Першая прамысловая рэвалюцыя
- 1876 Другая прамысловая рэвалюцыя
- 1945 Рэвалюцыя, звязаная з аўтаматыкай
- 1974 Рэвалюцыя, звязаная з кібернетыкай
- 2005 Рэвалюцыя, звязаная з біёнікай
- 2025 Рэвалюцыя, звязаная з псіханетыкай
- 2033 Рэвалюцыя, звязаная з псіханетыкай і нанатэхналогіяй

***Грамадства***

- Першабытнае грамадства
- Калектыўнае грамадства
- Аграрнае грамадства
- Рамесніцкае грамадства
- Прамысловае грамадства
- Грамадства механізацыі
- Грамадства аўтаматызацыі
- Грамадства кібернетыкі
- Грамадства аптымізацыі
- Аўтаномнае грамадства
- Прыродазнаўчае грамадства
- Наасфернае грамадства

***Тэхналогія***

- Першабытная тэхніка
- Традыцыйная тэхніка
- Рамесніцтва
- Прамысловая тэхналогія
- Сучасная тэхналогія
- Тэхналогія аўтаматычнага кантролю
- Тэхналогія электроннага кантролю
- Тэхналогія біякантролю
- Псіхабіялагічная тэхналогія
- Метапсіхалагічная тэхналогія
- Нанатэхналогія

***Навука***

- Першабытная рэлігія
- Узнікненне навукі
- Старажытная навука
- Навука эпохі Адраджэння
- Сучасная навука
- Навука кантролю
- Кібернетыка
- Біёніка
- Псіханетыка
- Метапсіханетыка
- Наасфера

 «Зерне» (падзея)

 Патрэбнасць

 Навацыі

 «Парастак» (вынік)

Пры гэтым не менш важна зразумець, што матэрыяльная культура ніколі не была, не бывае і не можа быць паўней і багацей за нематэрыяльную, духоўную культуру. Першая заўсёды толькі адбітак, злепак другой, які як прадукт матэрыяльнай вытворчасці маральна і фізічна старэе, разбураецца і гіне. Прадуктам, які не толькі вечна захоўваецца, але і назапашваецца, з'яўляецца прадукт нематэрыяльнай вытворчасці (веды, культура, навука), на аснове якога магчымы новы рост матэрыяльнай і нематэрыяльнай вытворчасці. Цяжка спадзявацца на забеспячэнне вытворчасці канкурэнтаздольнай прадукцыі (работ і паслуг), прыярытэтна не назапасіўшы адпаведнай крытычнай масы розуму, інтэлекту, прафесіяналізму, адказнасці і іншых якасцей асобы чалавека.

Пры абмеркаванні важнейшых складальных багацця класікі пакінулі па сутнасці без увагі яго галоўныя складальнікі — розум і рацыянальную арганізацыю чалавекам уласнага жыцця. Менавіта розум дапамагаў чалавеку засвоіць новыя метады земляробства і павысіць ураджайнасць. Дзякуючы розуму чалавек вынайшаў новыя спосабы транспарціроўкі і распаўсюджвання тавараў, новую стратэгію паводзін на рынку, новыя магчымасці зносін паміж людзьмі. Розум вызначыў дысцыпліну як вядучую сілу прагрэсу.

Розум павышае кошт вырабу, уводзіць у абарот новыя рэсурсы. Нафтавыя пласты на працягу многіх тысяч гадоў не прыносілі ніякай карысці чалавецтву, пакуль чалавек не адкрыў спосабы іх выкарыстання. Можна без канца пералічваць аб'екты, створаныя Творцом — Розумам, якія заставаліся нявыкарыстанымі, пакуль чалавек дзякуючы розуму не ўбачыў у іх нешта карыснае. Многае з таго, што будзе выкарыстана заўтра, яшчэ і сёння ляжыць без справы. Шлях да багацця хутчэй ляжыць праз розум, чым матэрыю і слова.

Уласцівасць розуму, выяўленая словам «прадпрымальнасць», істотна залежыць ад веры ў тое, што наш свет — гэта свет неабмежаваных магчымасцей; свет, які, з аднаго боку, не можа быць цалкам лагічным, матэматычна дакладным і абсалютна прадказальным, а з другога — ён усё ж не зусім ірацыянальны і бяздумны і паддаецца асэнсаванню. Самы дасканалы розум можа аказацца бездапаможным — да поспеху можа прывесці проста ўдача. Але калі разглядаць аддаленую перспектыву, то тут чалавеку супрацьстаіць свет, поўны рызыкі, дзе менавіта розум дае магчымасць дабіцца значнага поспеху.

Каб зрабіць эканамічную сістэму рацыянальнай, неабавязкова навязваць ёй бачанне адной або некалькіх асоб — хутчэй, неабходна заахвочваць розум кожнага індывіда.

Розум і час ператварылі схаванае золата скупога ў «капітал». Алхімікі, якія імкнуліся адкрыць «філасофскі камень», які б ператвараў звычайныя металы ў золата, не заўважылі сапраўдную крыніцу багацця — розум. Філасофія свабоднага рынку — гэта, у першую чаргу, павышэнне эфектыўнасці, вытворчасці, вынаходніцтва, росквіту на аснове развіцця розуму, якім надзелены канкрэтныя дзеячы ў канкрэтнай сітуацыі.

Парадак, які нябачна фарміруецца з вялікай колькасці, здавалася б, несумяшчальных індывідуальных рашэнняў, аказваецца больш рацыянальным і разумным у параўнанні з тым, які навязваецца людзям жорсткім цэнтралізаваным планаваннем або дзяржаўным адміністрацыйным рэгуляваннем.

Сміт прывёў шматлікія доказы на карысць таго, што разважлівасць звычайнага чалавека прывядзе не да анархіі, як было прынята думаць, а да нараджэння новага парадку. Яснае наасфернае мысленне — гэта першы абавязак кожнага разумнага чалавека і грамадства. Грамадства — не дадзенасць як прырода, яно вынік дзейнасці людзей. Менавіта розум і дух чалавека фарміруюць грамадства.

Розум упарадкуе ўсю сістэму. Ён спрыяе новаўвядзенням, паляпшэнню арганізацыі эканамічнай дзейнасці, павышэнню эфектыўнасці вытворчасці і больш поўнаму задавальненню патрэбнасцей. Ён дапамагае прагназаваць і планаваць не толькі на бліжэйшую, але і на дальнюю перспектыву.

Розум дазваляе скаардынаваць узаемадзеянне ўсіх элементаў сістэмы: фінансаў, матэрыялаў, абсталявання, вытворцаў, пасрэднікаў і спажыўцоў. З дапамогай розуму чалавек можа вызначаць праграмныя мэты і сродкі іх дасягнення і гэтым самым удасканальваць яго прымяненне. Розум падпарадкаваны мэтам смелых пачынанняў, жыццё якіх даўжэй за жыццё чалавека. Многае ў гэтым свеце залежыць ад прагнознага і свядомага ўмяшання ў ход падзей — выкарыстанне розуму павышае верагоднасць поспеху ў выбары праграмна-мэтавых метадаў дзяржаўнага кіравання сацыяльна-эканамічнымі працэсамі.

Каб быць творчай асобай — рызыкаваць у новых галінах, эксперыментаваць, станавіцца першапраходцам, — чалавек павінен не баяцца сістэмы, не згубіць тое, што ён мае, адмовіцца ад бяспекі дзеля рызыкі.

Кожная сацыяльна-эканамічная мадэль вызначае межы асабістай ініцыятывы індывіда. Адны інстынкты яна заахвочвае, праяўленне другіх падаўляе.

Лічыцца, што зайздрасць — важнейшая чалавечая загана. Зайздрасць нарадзілася задоўга да ўзнікнення сацыяльна-эканамічных сістэм, яшчэ ў біблейскія часы. Сама прырода зрабіла людзей рознымі па знешнасці, характару, розуму, сэрцу, духу і сумленню. Абсалютна падобных людзей, як і дрэў у лесе, няма і не можа быць. Гэтыя натуральныя адрозненні вечныя, усеагульныя і незнішчальныя — спробы іх сцерці могуць прывесці да яшчэ горшага зла.

Кожнае грамадства, якое не падтрымлівае і не спрыяе прыроджаным лідэрам, карае сябе, бо яно такім чынам пазбаўляе сябе магчымасці выжыць і развівацца. Кожная форма арганізацыі эканамічнай дзейнасці, якая імкнецца быць максімальна вытворчай, павінна вынайсці сістэму, што дазволіць таленавітым у якой-небудзь галіне людзям праяўляць сваю адоранасць, удасканальваць яе і знаходзіць сваё месца ў грамадстве, якое дасць магчымасць максімальна выявіцца іх таленту.

Спроба стварыць дасканалага чалавека пры дапамозе дзяржаўнага прымушэння — галоўны корань зла любой сацыяльна-эканамічнай мадэлі. Як толькі розум чалавека становіцца мэтай і самамэтай грамадства — эканоміка не абмяжоўваецца вытворчасцю тавару. У папярэднія эпохі, калі лозунг эканамічнага развіцця яшчэ не ператварыўся ў маральны імператыў, свядомасць людзей, іх розум, натуральна, былі арыентаваны не на будучае, а на мінулае.

Стагоддзі хрысціянства ўмацавалі веру ў чалавечы розум, і ў пэўны час эканамічная дзейнасць змагла абаперціся на гэтую веру, каб змяніць свет. Чалавек з дапамогай розуму ўсвядоміў новыя магчымасці. Незадзейнічаныя раней фінансавыя сродкі, спалучаныя з практычнасцю, набылі дзве новыя каштоўныя ўласцівасці: яны сталі вызначаць кошт часу і прадукцыйнасці працы.

Інвесціраванне грошай надало грашовым сродкам новую функцыю, чым проста сродкі абмену. Неабходнасць выхаду эканамічнага мыслення за межы існуючага ў цяперашні час, пры якім прыярытэтнай вытворчасцю, мэтай і самамэтай жыццядзейнасці з'яўляецца рэчыўная, матэрыяльная вытворчасць, дзе падзел працы дыктуецца ў значнай ступені характарам сродкаў вытворчасці і тэхналогіяй, а не здольнасцямі і патрэбамі людзей, развіццём асобы чалавека, становіцца парадыгмай сацыяльна арыетаванай эканомікі.

Праца ў цэлым павінна стаць на справе свабоднай, гэта значыць такой, пры якой чалавек будзе ўключаны ў не абмежаваную ні месцам, ні часам агульначалавечую карпаратыўную творчую пераўтваральную дзейнасць. Прыярытэтнае фарміраванне асобы чалавека і яго розуму ў параўнанні з рэчыўным назапашваннем з'яўляецца заканамернасцю цывілізацыйнага працэсу.

Чалавецтва падышло да неабходнасці рэалізацыі агульнапланетарнай стратэгіі — забеспячэння кожнай краінай разумнай устойлівай гарманізацыі сістэмы «прырода — чалавек — грамадства». Аснова — назапашанне за дваццаць стагоддзяў патэнцыялу ведаў, культуры і навукова-тэхнічнага прагрэсу, войнаў, канфліктаў, беднасці і багацця, тэхнагеннай нагрузкі на планету.

Патрэбна, каб спецыялісты ўсіх прафесій і ўсіх краін прынялі ўдзел у грамадскім добраўпарадкаванні планеты на аснове законаў пабудовы і функцыянавання нацыянальных наасферных мадэляў устойлівага развіцця, зыходзячы з канцэпцыі монапалярнага свету пры разнастайнасці нацыянальных культур і біялагічнай разнастайнасці.

Наша сусветнае грамадства стаіць на раздарожжы. Яно ўсё яшчэ імкнецца на аснове лакальных дзяржаўных інтарэсаў вырашаць праблемы цывілізацыйнага працэсу.

У свеце ўзніклі дзве культуры — натуралістаў і гуманітарыяў. Паміж імі ўтварылася прорва, якая пакуль паглыбляецца і пашыраецца. Фізічнае не толькі супрацьстаіць духоўнаму, але і эксплуатуе апошняе праз навукова-тэхнічны прагрэс, яго «поспехі». Разам з навукова-тэхнічным прагрэсам прыйшлі страты. Адзіны і цэласны свет раскалоўся. Законы фізікі сталі панаваць у свеце. А чалавек аказаўся з яго выключаным, ператвораным у фактар развіцця навукова-тэхнічнага прагрэсу. Космас, сусвет, прырода, навукова-тэхнічны прагрэс, грамадства існуюць самі па сабе, і феномен Чалавека таксама існуе сам па сабе. Пануе аб'ектывізм у разуменні свету. Сапраўды навуковымі лічацца толькі тыя веды, што не залежаць ад чалавека, які ўяўляе сабой толькі старонняга назіральніка.

Пры панаванні такой светапогляднай парадыгмы многае засталося за кадрам навуковага мыслення і практычнай дзейнасці, перш за ўсё асоба самога чалавека, яго розум. Альтэрнатывай такому светапогляду ў другой палове XIX стагоддзя ўзнік настрой думак, які называецца цяпер «рускім касмізмам». Ён грунтуецца на ўсведамленні таго, што чалавек — састаўная частка прыроды і гэтыя часткі не павінны супрацьстаяць адна другой, а павінны разглядацца ў адзінстве як сістэма. Чалавек і ўсё, што вакол яго, — часцінкі адзінага Сусвету, касмічнага Розуму. Узнікла разуменне, што без стварэння новага сусветнага сацыяльна-эканамічнага парадку, актуальнасць якога стала відавочнай на фоне сучасных дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу, не можа працягвацца цывілізацыйны працэс усяго чалавечага роду на планеце Зямля.

Чалавецтва падыходзіць да неабходнасці выбару новай парадыгмы — разумнага агульнапланетарнага грамадскага сацыяльна-эканамічнага добраўпарадкавання: існці цяперашнім шляхам — значыць загінуць.

Наасферызацыя — катэгорыя ўсеагульнай навуковай планетарнай працы. Наасферызацыя грамадскага добраўпарадкавання грунтуецца на ўстойлівай тэндэнцыі постіндустрыяльнай цывілізацыі, якая вядзе ўсе краіны да монапалярнага свету на чале з ААН ці іншым агульнапланетарным інстытутам.

Наасферызацыя — гэта:

працэс стварэння постіндустрыяльнай, наасфернай эканомікі: постіндустрыяльнай, наасфернай сістэмы ўзнаўлення грамадскага прадукту з прыярытэтнай каштоўнасцю і самакаштоўнасцю развіцця асобы чалавека

і захавання прыроды для будучых пакаленняў ва ўмовах планетарнай гарманізацыі сістэмы «прырода — чалавек — грамадства»;

спаборніцтва не столькі за прыбытак і рынкі, колькі за каштоўнасці свабоды, дэмакратыі і эканамічнай этыкі;

інтэрнацыяналізацыя, якая не стварае канфліктаў і з'яўляецца ключом да дасягнення міру, змяняе псіхалогію чалавека як барацьбіта і рэвалюцыянера на псіхалогію чалавека, які ўмее дамаўляцца;

тэндэнцыя да панавання сферы розуму, рэгулявання планетарнай дзейнасці на аснове захавання біялагічнай і культурнай разнастайнасці з каштоўнасцю і самакаштоўнасцю чалавека і забеспячэння прыярытэтнага развіцця нематэрыяльнай сферы грамадскага ўзнаўлення, асабліва навукі, адукацыі, культуры і аховы здароўя. Наасферызацыя не азначае зніжэння планетарных і лакальных сацыяльных стандартаў, яна вядзе праз інфарматызацыю да павышэння дабрабыту ў сусветным маштабе;

карпаратыўнасць вытворчасці шляхам стварэння транснацыянальных карпарацый, фінансава-прамысловых груп і іншых інавацыйных міжнародных альянсаў;

глабалізацыя Сусветнай гандлёвай арганізацыі і сусветных рынкаў. Яны не з'яўляюцца прычынай крызісу. Яны — каталізатар для большай празрыстасці, прадпрымальніцкай эфектыўнасці і дэмакратычнай культуры. Рашаючым рэсурсам наасферызацыі ў спаборніцтве глабальных рынкаў з'яўляюцца не запасы сыравіны канкрэтнай краіны, а неабмежаванасць планетарных рэсурсаў ведаў, навукова-тэхнічнага прагрэсу, інавацый;

шлях да глабальнага дабрабыту праз адкрыццё новых рынкаў, а не захаванне маёмасці, гэта інавацыйная навукаёмістасць адукацыі і валавога ўнутранага прадукту. Наасферызацыя не скарачае свабоды асобна ўзятага грамадзяніна. Яна ўяўляе вялікую прастору для ўласнага дзеяння, развіцця чалавека як асобы і скарачэння культу чалавека як чыноўніка;

змяненне ролі дзяржавы. Яна ўсё менш уплывае як суб'ект гаспадарання на эфектыўнасць сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Яе функцыі бяруць на сябе транснацыянальныя карпарацыі, фінансава-прамысловыя групы, іншыя міжнародныя карпаратыўныя сістэмы. Гэта значыць, роля дзяржавы як суб'екта гаспадарання, якім яна была да гэтай пары, адыходзіць у мінулае. За дзяржавай застаецца роля распрацоўшчыка прававога поля, якое дыктуецца глабалізацыяй і неабходнасцю ўваходжання краіны ў сусветныя альянсы. У сувязі з гэтым змяншаецца роля дзяржаўнага чыноўніка як адміністратара і ўзрастае роля чыноўніка як аналітыка, прагназіста і разумнага кіраўніка.

Наасферызацыя не пазбаўляе нацыянальныя дзяржавы ўлады. Яна вядзе праз глабалізацыю да новага партнёрства паміж сферамі эканомікі, палітыкі і права на міжнародным, планетарным узроўні.

Усведамленне тэндэнцый і заканамернасцей наасферы як імператыву развіцця краіны дыктуе неабходнасць іх уключэння ў сістэму адукацыі Беларусі ў мэтах фарміравання наасфернага мыслення ў кожнага спецыяліста і чыноўніка ў XXI стагоддзі.

***Пераклад з рускай М. Міхайлава.***







Марыя ШАМЯКІНА

# АКАДЭМІЧНАЯ НАВУКА — УЧОРА І СЯГОННЯ

Большасць маладых людзей асацыіруюць навуку не з нейкімі канкрэтнымі адкрыццямі і вынаходніцтвамі, дасягненнямі ў тэхналогіях. Першае, што прыходзіць у галаву, калі гаворка ідзе пра навуку, — фантастычныя творы. Гэта так, для людзей, далёкіх ад навукі, яна ў першую чаргу звязана менавіта з фантастыкай.



*Позірк у будучыню айчыннай навукі: Старшыня Прэзідыума НАН Беларусі М. У. Мясніковіч і Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь С. С. Сідорскі.*

Навука — гэта погляд у будучыню, магчымасць прыадчыніць акно ў дзень заўтрашні. Але як толькі пэўная навіна навукі ўладкоўваецца ў жыцці, як толькі пэўная тэхналогія робіцца агульнадаступнай, яна перастае хваля-

---

***Шамякіна Марыя Вячаславаўна** нарадзілася 11 жніўня 1976 года ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт БДУ, магістратуру і аспірантуру па спецыяльнасцях — тэорыя літаратуры і фалькларыстыка. Магістр гуманітарных навук.*

*Аўтар шэрага артыкулаў па паэтыцы беларускага фальклору, некалькіх падборак вершаў у штотыднёвіку «ЛіМ», «Нёман», «Чистый мир» і аповесці «Вязень пясочнага гадзінніка», якая выйшла ў часопісе «Маладосць».*

*З 2004 года супрацоўнік часопіса «Полымя».*

ваць і захапляць. Праўда, здабыткі фундаментальнай, тэарэтычнай навукі хвалююць значна даўжэй. Часта яны падаюцца звышардынарнымі і праз стагоддзі, як адкрыцці Піфагора ці Галілея. Многія вынаходніцтвы застаюцца ў гісторыі нават тады, калі перастаюць быць навуковай навіною, — дзякуючы асобе вынаходніка. Цікавыя гісторыі пра вучоных — цэлы жанр.

У свядомасці людзей, далёкіх ад навукі, праблема ўзаемадзеяння фундаментальнага і практычнага накірунку навукі даўно вырашана. Практыка — тое, чаго чакаюць, пра што мараць, а набыўшы, хутка суцяшаюцца. Тэарэтычная навука захапляе і натхняе намнога даўжэй.

Нават пісьменнікі шукалі ў навуцы натхнення. Многія беларускія навукоўцы паралельна з навукаю займаюцца і мастацкай творчасцю: У. Гніламёдаў, А. Мальдзіс, А. Бельскі, С. Кавалёў і інш.

Наогул навукоўцаў-пісьменнікаў у сусветнай літаратуры, як ні дзіўна, даволі многа. Гэта М. В. Ламаносаў, Ё. В. Гётэ, філолаг Дж.Р. Р. Толкіен, такі папулярны сёння, І. Яфрэмаў і інш. Люіс Кэрал, аўтар дылогіі пра Алісу, пісаў не толькі для дзяцей. Ён стаў аўтарам незвычайнага, так бы мовіць, «матэматычнага» рамана «Сільвія і Бруна». Яго паслядоўнік — наш сучаснік Крыстафер Прыст — рушыць у тым жа накірунку. Славу яму прынеслі раманы «Перакулены Свет» і «Машына прасторы», мастацкая тканіна якіх з'яўляецца эстэтычнай і тонкай ілюстрацыяй... спецыяльнай тэорыі адноснасці А. Эйнштэйна.

Цэлы жанр прыгожага пісьменства — навуковай фантастыкі — з'яўляецца творчасцю, натхнёнай навукай. Сусветна вядомы пісьменнік-фантаст Артур Кларк, дарэчы, вынаходнік спадарожнікаў сувязі.

Сустракаецца і адваротная з'ява, калі творчасць пісьменніка ці мастака натхняе вучоных, дае накірунак для пошуку. Такімі сталі творы французскага пісьменніка XIX стагоддзя Жуля Верна, які прадугледзеў і ў нечым нават ініцыіраваў навукова-тэхнічны прагрэс XX стагоддзя. Прыярытэт Аляксандра Бяляева можна сцвярджаць у сферы медыцынскіх вынаходніцтваў, геннай інжынерыі. Шэраг адкрыццяў былі зроблены пад уплывам твораў Івана Яфрэмава.

Мастак Марыс Эшэр, які, дарэчы, ніколі не цікавіўся матэматыкай, стаў аўтарам шэрага карцін, якія сучасныя матэматыкі выкарыстоўваюць для ілюстрацыі пэўных заканамернасцей.

У сучаснай мастацкай літаратуры навука звычайна разглядаецца ў двух іпастасях: як сродак выратавання цывілізацыі ці як магчымая прычына яе пагібелі. Часцей аўтары схіляюцца да другога. Мінуў час аптымістычнай фантастыкі, адэптамі якой былі Жуль Верн і савецкія фантасты тыпу Івана Яфрэмава. Цяпер перамагае накірунак Герберта Уэлса ці позніх братоў Стругацкіх. На тое ёсць некалькі прычын. Адна з іх — надта хуткі рух прагрэсу, калі навуковая рэальнасць апераджае фантазію аўтараў. На рынку з'яўляюцца ўсё новыя і новыя тэхналогіі, якія змяняюцца амаль імгненна. З другога боку, у апошнія гады назіраецца пэўная дэгуманізацыя навукі. Не чалавека-, а тэхнацэнтрызм. Дарэчы, аднымі з першых, хто пачаў барацьбу са стварэннем штучнага інтэлекту, кланіраваннем і г.д., сталі менавіта пісьменнікі-фантасты. У першую чаргу Станіслаў Лем. На жаль, не толькі на Захадзе, але і ў Расіі прапагандуюцца вучоныя-гуманітарыі, якія разлічваюць на сенсацыю, а не на праўдзівасць, ствараюць тэорыі хутчэй скандальныя, чым глыбокія. Беларуская навука ўтрымліваецца ад гэтага шляху. У прыватнасці, беларускія гісторыкі не падтрымалі «новую храналогію» А. Фаменкі. Асцярожна яны ставяцца да тэорыі глабальнага парніковага эфекту, справядліва лічачы, што для канчатковых ацэнак не хапае дадзеных.

Арыентацыя на глыбіню і класічны кірунак сучаснай беларускай навукі прадыктавана ў многім тым, што беларуская навука заўсёды была ўключана ў культуру як яе арганічная частка. У прыватнасці Беларуская Акадэмія навук



*Падпісанне пагаднення аб супрацоўніцтве паміж акадэміяй навук Францыі і Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі.*

была створана на базе Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта) у 1928 годзе. У распрацоўцы статута Інбелькульта бралі ўдзел З. Х. Жылуновіч (пісьменнік Цішка Гартны), Я. Ф. Карскі, У. І. Пічэта, Я. Л. Дыла. На пачатку дзейнасці Інбелкульта галоўная ўвага надавалася распрацоўцы пытанняў мовазнаўства, вывучэнню беларускай гісторыі, літаратуры, мастацтва. Вынікі дзейнасці навуковай установы былі ўнушальныя. Так, мовазнаўцы распрацавалі беларускую навуковую тэрміналогію, гісторыкі распачалі выданне архіўных матэрыялаў. У вывучэнні мовы, літаратуры, мастацтва, этнаграфіі актыўны ўдзел бралі пісьменнікі Якуб Колас, Янка Купала, Максім Гарэцкі, Цішка Гартны, Змятрок Бядуля. Інбелкульт стварыў трывалы падмурак для далейшага развіцця беларускай навукі. Урачыстае адкрыццё Акадэміі навук БССР адбылося 1 студзеня 1929 г. Першым яе прэзідэнтам стаў У. М. Ігнатоўскі, прафесар гісторыі. Дарэчы, прафесар Ігнатоўскі ўваходзіў у рэдкалегію часопіса «Полымя». Сярод заснавальнікаў і першых правадзейных членаў — класікі беларускай літаратуры Янка Купала і Якуб Колас, пісьменнік Цішка Гартны, літаратуразнавец І. І. Замоцін. На той момант увесь штат акадэміі складаў 128 чалавек, з якіх навуковых супрацоўнікаў было ўсяго 87.

У 1936 годзе навуковая ўстанова атрымала новую назву — Акадэмія навук Беларускай ССР. Гэты перыяд быў адзначаны вялікай колькасцю навуковых дасягненняў. Дзякуючы дзейнасці беларускіх вучоных наша рэспубліка стала адным з буйнейшых навуковых цэнтраў Савецкага Саюза. Адкрыцці, тэарэтычныя і практычныя распрацоўкі, культурныя дасягненні таго часу атрымалі прызнанне ва ўсім свеце.

У жыцці Акадэміі навук Беларусі былі і вельмі складаныя часы. Энцыклапедыя Гісторыі Беларусі падае такія звесткі: падчас барацьбы з так званым нацыянал-дэмакратызмам у 1929—33 гадах былі пазбаўлены звання акадэміка і рэпрэсаваны такія вучоныя, як Гарэцкі, Дубах, Дурнаво, Ластоўскі, Некрашэвіч, Лёсік, Пічэта і інш. Першы прэзідэнт акадэміі Ігнатоўскі быў выключаны з партыі і скончыў жыццё самагубствам у 1932 годзе. У 1937—1938-м быў

рэпрэсаваны І. З. Сурта і многія з ягоных калег. Больш за 140 супрацоўнікаў акадэміі пацярпелі ад рэпрэсій. Асабліва цяжка гэта адбілася на развіцці гуманітарных навук, моцна звязаных з пытаннямі ідэалогіі.

Неверагодна цяжкімі былі і гады Вялікай Айчыннай вайны. На пачатак 1941 года акадэмія налічвала каля 750 супрацоўнікаў, у яе структуры было 9 інстытутаў, 12 навукова-даследчых устаноў. І ўжо ў ліпені 1944, пасля вызвалення Мінска, 8 інстытутаў узнавілі сваю дзейнасць. Праўда, у 1945 годзе акадэмія налічвала ўсяго 360 супрацоўнікаў. Былі разбураны практычна ўсе будынкі, разрабаваны бібліятэчныя фонды. Многае трэба было пачынаць з нуля. Падчас вайны захопнікі спрабавалі залучыць на свой бок беларускіх вучоных, якія апынуліся на захопленых тэрыторыях. Для гэтага нават была створана спецыфічная арганізацыя «Беларускае навуковае таварыства», аднак ніякай працы яна не вяла, бо не атрымала падтрымкі з боку беларускіх навукоўцаў.

Падчас вайны шэраг вучоных удзельнічалі ў баявых дзеяннях, іншыя працягвалі навуковую працу ў розных рэгіёнах Расіі, іншых саюзных рэспублік. Пасля вайны акадэмія адраджалася хутка, і ўжо ў 1951 годзе яна налічвала 29 навукова-даследчых устаноў, з іх 16 інстытутаў. Агульная ж колькасць супрацоўнікаў перавысіла 1200 чалавек. Асабліва значнымі ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе былі дасягненні ў галіне фізіка-матэматычных і тэхнічных навук. Дарэчы, гэта былі гады хуткага навуковага росту Савецкага Саюза, агульныя працэсы не абмінулі і Беларусь.

У пасляваенныя гады Беларусь стала адным з цэнтраў высокіх тэхналогій былога СССР. Тут размяшчаліся ў асноўным пераапрацоўчыя вытворчасці, прадпрыемствы па канчатковай зборцы прадукцыі. Зразумела, навука павінна была арыентавацца на вынаходніцтвы ў гэтых сферах. Але не толькі практычныя дасягненні, а і фундаментальныя даследаванні былі значнай часткай працы беларускіх навукоўцаў.

З 1973 года, калі пачалі прымацца заяўкі на вынаходніцтвы, і да 1991, калі распаўся СССР і рэгістрацыя вынаходніцтваў прыпынілася, дзевяць распрацовак беларусаў былі прызнаны внаходніцтвамі.

Першымі беларускімі навукоўцамі, адкрыцці якіх былі зарэгістраваны, сталі Я. Г. Канавалава ў галіне фізікі і акадэмік А. А. Ахрэм, які заўважыў з'яву рухомасці двайных сувязей у цыклічных дыенавых сістэмах (хімія).

У 1977 годзе акадэмік М. А. Барысевіч атрымаў прызнанне дзякуючы адкрыццю з'явы стабілізацыі-лабілізацыі электронна-ўзбуджаных малекул (пабочнымі) газамі (фізіка).



*Супрацоўнікі лабараторыі Інстытута мікрабіялогіі праводзяць візуальную ацэнку чысціні біякультуры.*



*Кандыдат тэхнічных навук У. У. Анішчанка, намеснік навуковага кіраўніка праграмы «Скіф».*

У галіне фізікі ў 1980 годзе было зарэгістравана і адкрыццё Ф. І. Фёдарава: з'ява бакавога змяшчэння промня пры адбіцці.

Прафесар У. Я. Мацюшэнка з Гомеля і ягоныя калегі адкрылі з'яву «ўтварэння і насычэняя вадародам зоны ў падпаверхнасным слоі метала пры трэнні».

В. І. Вацякоў, У. С. Улашчык і В. А. Лапіна з калегамі сталі аўтарамі ажно трох адкрыццяў у галіне біяхіміі і медыцыны.

Значны ўклад у развіццё літаратуразнаўства і мовазнаўства ўнеслі беларускія пісьменнікі-акадэмікі: Янка Купала, Якуб Колас, Кандрат Крапіва, П. Броўка, П. Глебка, М. Лынькоў, Максім Танк, І. Навуменка, І. Шамякін.

Распад Савецкага Саюза аказаўся для Нацыянальнай акадэміі цяжкім выпрабаваннем. Былі разарваны не толькі эканамічныя і палітычныя сувязі, але і навуковыя кантакты. Перапынілі сваю працу некаторыя важныя праграмы, некалькі гадоў не рэгістраваліся навуковыя адкрыцці. Беларуская навука вымушана была з самага свайго пачатку развівацца ва ўмовах вельмі складаных. Часы росквіту, прызнання і шырокай падтрымкі з боку дзяржавы пастаянна чаргуюцца з перыядамі страт і занядбання: рэпрэсіі, вайна, разбурэнне дзяржавы. Гэта перашкаджае працэсу бесперапыннага росту, які неабходны для навуковага прагрэсу ў дзяржаве. І ўсё ж навука існуе, у незалежнай Беларусі пасля перыяду некаторай разгубленасці яна развіваецца хуткімі і на дадзены момант стабільнымі тэмпамі.

Сённяшні час патрабуе, каб навука абслугоўвала ў першую чаргу практычныя патрэбы грамадства. Дакладныя і прыродазнаўчыя навукі, навукі аб Зямлі рушаць у накірунку вытворчасці. У Злучаных Штатах Амерыкі, Японіі, еўрапейскіх краінах навуковыя даследаванні ў значнай ступені арыентаваны на стварэнне новых тэхналогій. Беларуская навука таксама спалучае фундаментальныя даследаванні з практычнымі дысцыплінамі. Ці можа быць інакш? «Тэорыя без практыкі — мёртвая».

Інакш пачыналася гісторыя сусветнай навукі, пра што таксама не варта забываць. Антычная навука шукала ў першую чаргу новыя філасофскія дактрыны і ў асноўным стратэгічна кіравалася на інтэлектуальны рост навукоўца, але мы ведаем неверагодную колькасць і практычных вынаходніцтваў антычных вучоных, якімі карыстаемся і цяпер.

Непарыўная сувязь тэорыі і практыкі — адна з асноў сучаснай навукі. Як сказаў у сваім інтэрв'ю часопісу «Нёман» Старшыня Прэзідыума НАН Беларусі М. У. Мясніковіч: «Інавацыйны шлях азначае такую арганізацыю сацыяльна- эканамічных стасункаў у грамадстве, пры якой забяспечваецца прырост грамадскага багацця і рост дабрабыту ягоных членаў за кошт пастаяннага павышэння прадуктыўнасці выкарыстання ўсіх рэсурсаў і фактараў вытворчасці. Важна, што галоўным рэсурсам пры гэтым прызнаецца і, адпаведна, ацэньваецца прадукт інтэлектуальнай працы, а галоўным фактарам росту эфектыўнасці і канкурэнтаздольнасці эканомікі — інавацыйная дзейнасць, якая ажыццяўляецца... непарыўна і пастаянна па ўсім ланцужку: дзяржава — гаспадарчы суб'ект — грамадзянін».

Але не толькі прыродазнаўчыя і дакладныя навукі паспяхова працягваюць сваё развіццё. Гуманітарныя навукі заўсёды былі пад самай пільнай увагаю нашых навукоўцаў. Многія беларускія літаратуразнаўцы з'яўляюцца ў той жа час пісьменнікамі, публіцыстамі.

Гуманітарны накірунак наогул вызначае сучасную навуку ва ўсіх краінах свету: мы назіраем зварот да гуманітарнага ракурсу любых навуковых даследаванняў. На жаль, чуюцца прапановы аб'яднаць некалькі гуманітарных інстытутаў. Трэба памятаць словы Мантэня, які казаў, што без навукі дабра ўсе астатнія навукі прыносяць толькі шкоду, а гуманітарныя навукі ў значнай ступені ўтрымліваюць у сабе маральна-этычны кампанент. З іх пачынаўся Інбелкульт — калыска Нацыянальнай Акадэміі навук.

15 верасня 1998 года на сесіі Папскай Акадэміі навук у Ватыкане прагучаў надзвычай трывожны тэзіс: «Пачалася антынавуковая рэвалюцыя!» За апошнія шэсць гадоў, сапраўды, можна бачыць прыкметы гэтай глабальнай з'явы. Вядома, што ў XIX стагоддзі рэзка ўзраслі тэмпы навукова-тэхнічнага прагрэсу. Паскарэнне ішло да сярэдзіны XX стагоддзя. Як вынік яго — прарыў у космас. Але далей назіраецца зніжэнне інтэнсіўнасці і эфектыўнасці навуковых доследаў. Магчыма, гэта неабходная перадышка, каб абагуліць назапашаныя навуковыя дадзеныя.

Дарэчы, у РБ вынікам абагульнення стала выданне шматлікіх профільных энцыклапедый: «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі.», «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Фундаментальным з'яўляецца і выданне скарбаў фальклору або «Гісторыі беларускай літаратуры XX ст.» у 4-х тамах.

Сінкрэтызм, імкненне да збліжэння розных сфер дзейнасці — рыса сучаснасці. Мы назіраем узаемапранікненне навукі і культуры, навукі і рэлігіі... Цяпер ужо немагчыма раздзяліць гэтыя важнейшыя элементы нашай цывілізацыі і даследаваць іх паасобку.

Доктар фізіка-матэматычных навук Леанід Ляскоў зазначае: «Наш свет невычарпальны... Базай навуковых ведаў з'яўляецца мноства вывучаных заканамернасцей. На долю рэлігіі застаецца сфера непазнанага. І хоць сфера навуковых ведаў будзе ўвесь час пашырацца, няма падстаў думаць, што вобласць, якая засталася ў рэлігіі, будзе адпаведна звужана, таму што межы непазнанага ідуць у бясконцасць. <...> Навука і рэлігія — дзве іпастасі адзінай рэальнасці. Адна б мела прадметам даследавання знешні свет, а другая — унутраны, таму што чалавек створаны, каб жыць адначасова ў двух светах. Не варта аддаваць прыярытэт таму ці іншаму аспекту. Ісціна ў гармоніі».

Для сучасных гісторыкаў, археолагаў развіццё навуковых ведаў з'яўляецца важнейшым вымярэннем для вызначэння ўзроўню цывілізацыі. Гэта абсалютна аб'ектыўна, бо самыя інтэлектуальныя з цывілізацый старажытнасці праіснавалі максімальна доўга і пакінулі пасля сябе самую вялікую спадчыну.

Сучасная навука з яе лагічным апаратам дае магчымасць вывучаць свет з вялікай паўнатой і праўдзівасцю. І ўсё ж навука пакуль не можа патлумачыць многія рэчы. Па шэрагу навуковых накірункаў даказаныя і вытлу-

мачаныя факты складаюць толькі адзінкі працэнтаў. Усё астатняе ў «навуковай карціне» Свету — вобласць гіпотэз або проста маўчання. Шкада, што інтарэсы навукі абмяжоўваюцца толькі той часткай працэсаў і з'яў, якія можна вывучаць у эксперыменце. Між тым і ў рэлігіі ёсць аб'ектыўныя веды, але яны вобразныя.

Вядома, што найбольш эфектыўная барацьба з забабонамі — тлумачэнне прыродных з'яў і працэсаў з навуковых пазіцый. Бо што такое на самой справе забабоны? Абагулены народны вопыт. І любая, нават самая недарэчная, на першы погляд, прыкмета будзе ў рэшце рэшт вытлумачана навукова.

У сучаснай карціне Свету пакуль што не высветлена пытанне свядомасці. Вядома, што ідэя пра першаснасць свядомасці ідзе ад Платона і Парменіда. На ёй заснаваны ўсе ўсходнія філасофска-рэлігійныя сістэмы. Так, у індуізме ўсе матэрыяльныя аб'екты — розныя ўсведамленні адной і той жа вышэйшай рэальнасці — Брахмы, што стварыў свет з самога сябе. Пад уздзеяннем асаблівага псіхалагічнага стану — майі — нам здаецца, што свет рэальны, а гэта ўсяго толькі сетка лагічных паняццяў. Мэта індуізму — вызваліцца з-пад чараўніцтва майі. У даасізме дао — сінонім індуісцкага Брахмы. Дао расцэньваецца як першапрычына і мэта ўсяго існага, яго нельга ўспрыняць пачуццямі, выявіць у словах. Усходнія рэлігіі абапіраюцца на духоўную практыку. Яны канцэнтруюць тысячагадовы вопыт, але ў абалонцы міфаў.

Увага ў сучасным свеце перамяшчаецца са свету фізічнага ў свет свядомасці. Можна меркаваць, што менавіта ў гэтым напрамку адбудзецца грандыёзны рывок у развіцці цывілізацыі. Гэта прывядзе і да спасціжэння самых закрытых сусветных таямніц, над якімі сёння б'юцца фізікі і біёлагі. З другога боку, ці трэба іх спасцігаць? Тых генных і фізічных тэхналогій, якія ўжо існуюць, абсалютна дастаткова, каб знішчыць чалавецтва.

Відаць, сёння, як і 2000 гадоў таму ў антычным Рыме, цывілізацыя зноў дасягнула межаў свайго спосабу быцця ў прадметна-лагічных адносінах. Асноўнае рэчышча навуковага прагрэсу перамяшчаецца з знешніх сфер даследавання ва ўнутраныя: інфарматыку і біятэхналогіі.

Атрыманая ад СССР тэхнасфера, бясспрэчна, адмірае. Відаць, наступае іншы час. Ва ўсіх развітых краінах цяпер запатрабаваны звышэфектыўныя, невялікія прадпрыемствы, сучасныя тэхналогіі, якія заменяць старыя энергазатратныя і экалагічна небяспечныя галіны прамысловасці.

У апошнія гады Расійская акадэмія прыродазнаўчых навук узнавіла рэгістрацыю адкрыццяў. Але М. У. Мясніковіч у сваім інтэрв'ю часопісу «Нёман» (№ 2, 2003 г.) сказаў: «Павінен адзначыць, што далёка не ўсе ідэі і навуковыя вынікі, годныя высокага прызнання, афармляліся як заяўкі на адкрыцці. Вучоныя краіны ў бесперапынным пошуку, нашы фізікі, хімікі, біёлагі, медыкі, аграрыі штогод ствараюць арыгінальныя тэорыі, выяўляюць новыя заканамернасці. На іх працы спасылаюцца, іх цытуюць, нашых аўтараў запрашаюць з загалоўнымі дакладамі на сусветныя кангрэсы — гэта і ёсць рэальнае прызнанне лідэрства ў той ці іншай вобласці».

*Фотаздымкі Н. Сямашка.*



**Таіса Бондар**

# ШЭСЦЬДЗЕСЯТ МІНУС ДВАЦЦАЦЬ ДВА

### *З «Дзённікаў»*

*Калісьці не верылася, што наступіць той год, у які мне споўніцца шэсцьдзесят. Ды калі папраўдзе, то і цяпер не верыцца. Калі б не ўсмешка...*

*Урэшце, мае значэнне адно тое, што зроблена. Зроблена, нягледзячы ні на часавыя ці палітычныя, ні на ваколлітаратурныя звады і бойкі. І хто ведае, ці застанецца што з напісанага мною або маімі «вечнымі апанентамі» актуальным і запатрабаваным нашчадкамі! Не нам — ім, нашчадкам нашым, вызначаць. І ўсё ж, пройдзены шлях змушае азірнуцца, і няма для гэтай мэты нічога лепшага за дзённікі, што вяла я колькі сябе помню. Не ўсё захавалася — не ўсе нататкі пакідала я ў старых сшытках, складваючы іх сярод стосаў кніг. Вярнуўшыся ж да тых, што не згубіліся, перачытаўшы іх, што-кольвечы прапаную ўвазе чытачоў. Не на іх суд — для таго, каб расказаць, чым мы жылі, пра што думалі, на што спадзяваліся, з-за чаго пакутавалі. Для таго, каб яшчэ раз засведчыць, што жыццё душы вызначалася не так пражываемым гістарычным часам, як духоўнай арыентацыяй. І гэта вызначальна не адно для мяне...*

## 1. ГОД 1983-ці

**30 красавіка**

Нынче прав на песню нет у соловья.
Ходят женщины надменны и тихи.
Только павшие годятся в сыновья.
Только мертвые годятся в женихи.

Які цудоўны верш! Які глыбокі смутак! Атрымала ў падарунак свята — Святланіну (С. Кузняцовай) кнігу, і не магу адна — з гэтым святам. Пагукала з памяці цыбатую сарамлівую дзяўчынку, адарвала яе ад дзённіка, з якога так наіўна, так бездапаможна вытыркаюцца з-за выпадковых, прыгожа падабраных слоў, прызнанні ў любові, у любові да жыцця. Яна не ведае — не можа ведаць! — колькі гора выпадзе мне, колькі балючых крыўд сустрэну я па дарозе ў сённяшні дзень. Яна не чытала — не магла прачытаць! — гэту кнігу...

---

*Таіса Бондар нарадзілася ў 1945 годзе ў г. п. Рудзенск. Скончыла факультэт англійскай мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў. Працавала настаўніцай, у штотыднёвіку «ЛіМ», часопісах «Беларусь», «Всемирная литература». Цяпер дырэктар РВУ «Літаратура і Мастацтва». Аўтар зборнікаў паэзіі «Захапленне», «Акно ў восень», «...І голас набыла душа», «Святочны снег», кніг прозы «Сінія яблыкі», «Час, калі нас любілі», «Паветраны замак на дваіх», раманаў «Спакуса», «Ахвяры» і інш.*

Ты мне сказал, что часто ложью платим
За то, что нам привиделось во сне,
Но быть стихи должны просты, как платье,
Как это платье черное на мне.

Как это платье. Горькой простотою
Я не хвалюсь и не кичусь давно.
Такого платья я уже не стою,
И мне теперь не по плечу оно.

Узгадваецца шэсцьдесят шосты год... Я ўсё яшчэ праседжвала над дзённікам, шукаючы ў сэрцы сцежку да першых вершаў. Да першых вершаў, якія я дрогкай рукою — упершыню! — пакажу зусім не знаёмым мне людзям... А сёння спрабую ўцячы ад вершаў (не нарадзіліся, а ўжо баляць!) ва ўспаміны. А на твары дзяўчынкі — здзіўленне. І зайздрасць. І неразуменне. Ну, што яна можа зразумець ува мне сённяшняй? Цудоўнае, сумнае гэта свята роднасці з другой душой? Нервовы рух пальцаў, што камечаць чарговую цыгарку? Мітуслівыя думкі, што ўсё хочуць скараціць адлегласць паміж душой і мной?

І ўсё ж, няхай пабудзе са мной. Мы не будзем запальваць святла, зробім выгляд, што толькі-толькі пазнаёміліся, што нам і не патрэбен ніхто іншы, што наступны дзень не развядзе нас у розныя бакі, разгарадзіўшы безданню ў дваццаць тры гады. Мне зноў спатрэбіўся дзённік...

**2 мая**

Гульня ў «дзяўчынку» працягваецца. Толькі гэтым разам выдавецтва «Юнацтва» — са мной. Зноў даслалі на «дапрацоўку» рукапіс кнігі, а па ўсім рукапісе — колькі выпадковых (ад неразумення мовы паэзіі) заўваг і галоўнае патрабаванне (ад неразумення задумы) — увесці ў канву твора і дзяцей-змагароў, дзяцей, якія ўсталі ў шэрагі партызан. Але гэта тое ж самае, што ў адну кнігу ўвесці другую, што адну тэму «разбавіць» другой. Я ж і так паспрабавала ўціснуць у адну паэму занадта многа: магчыма, для таго, каб абвінаваціць звярыную сутнасць фашызму, каб выказаць трывожны непакой перад пагрозаю новай сусветнай вайны, можна было б узяць адзін — адзіны! — выпадак...

Адкуль такая сцяна неразумення? Хіба дапушчальнае такое непрыняцце аўтарскай пазіцыі? Што вымагае такой сляпой упэўненасці ў сваёй праваце — у маёй неправаце? Заключэнне — абсалютна бяздоказнае. Нават пагардлівае. Як і папярэдняе. Проста адцягваецца час. Адхіляецца кніга.

Разумею: людзі, якія чамусьці вырашаюць лёс майго твора, каб ніякім чынам яго не вырашыць, не вартыя той барацьбы, якую я спрабавала весці. Яны не вартыя нават душэўнае ўвагі. Ды вельмі ж цяжка выпакутавала я гэтую паэму пра дзяцей вайны, вельмі ж балюча...

Трэба м а л і т о ў н а жадаць быць лепшым, пісаў Ф. Дастаеўскі. Малітоўна... Але як, не ведаючы ніводнае малітвы, не знаходзячы ніводнае малітвы ў душы?

**3 мая**

Скончыла артыкул «Роздум над партрэтам сучасніка» для часопіса «Мастацтва Беларусі». Гаворка пра Гаўрылу Харытонавіча Вашчанку міжволі абярнулася гаворкай пра адчуванне часу, месца мастака ў сваім часе, веру ў сваё выключнае прадвызначэнне, служэнне — не ўласнаму эга, а народу. Значэнне зробленага Вашчанкам для мастацтва Беларусі настолькі аграмаднае, што пісаць пра гэта не проста. Часам адчувала ўсю бездапаможнасць маёй любові да яго, майго захаплення ім. Ну што такое — словы, калі павінна гаварыць пачуццё? Калі гэтае пачуццё — значна большае, значна больш магутнае, чым любоў і захапленне?

Апошнім часам я стала разумець, што — шчаслівая. Шчаслівая тым, што ў маім жыцці ёсць такі чалавек, як Гаўрыла Харытонавіч. Што, нарэшце, знайшла, адкрыла ў сабе здольнасць любіць узвышана і бескарысна. Што жыццё з усёй яго мітуснёй не можа засланіць светлае радаснае адчуванне доўгага-доўгага духоўнага свята — роднасці з сябрамі. Што ў садзе паэзіі сонца лашчыць, саграває і кветку, пасаджаную мной...

Толькі б, удыхнуўшы яе пах, убачыць новае неба! Толькі б зрабіць яшчэ адзін — наступны! — рух угору, у глыбіню душы сваёй! Мае малітвы — вершы.

**5 мая**

Вершы... Малітвы... Вельмі блізка — па стане душы. А душа нібыта звяла: чым адпойваць, не ведаю. Раней хапала чыёйсьці ўсмешкі, некалькіх слоў разумення, некалькіх гадзін адпачынку. А тут — на працягу месяцаў і месяцаў — толькі сумна ўзіраюся ў нейкія аграмадныя, непапраўныя разбурэнні і нічога — нічога! — не магу змяніць. Жыву, раблю дзесяткі малых і немалых спраў, усміхаюся, размаўляю, а нібыта памерла. Сачу за сабой збоку, бачу стомлены твар і згаслыя вочы, прыспешваю рухі, занадта запаволеныя, занадта чужыя, — і чакаю. Чаго? Не ўяўляю. Калі не здарыцца нешта надзвычайнае... Не, не! Трэба неяк выходзіць з гэтага стану.

**10 мая**

Пачала думаць над празаічнымі старонкамі перажытага, варушу ўспаміны, шукаю сцежку, па якой можна было б з мінулага вывесці знаёмых і незнаёмых людзей у кнігу. Якая гэта павінна быць кніга? Трагічная. І аптымістычная. Як жыццё. Як забітая і ўваскрэслая надзея. Герой (гераіня?) — перамогуць мой лёс. Хачу, каб перамаглі — пераламалі, пераўвасобілі ў падзеі.

Неяк у гаворцы з Лёшам Дударавым у мяне вырваліся словы, што дасюль — страшна! — вяртаецца ў сны маці, што ніяк не магу пазбавіцца адных і тых жа прывідаў, аднаго і таго ж болю. Ён сказаў: «Стань на калені, папрасі прабачэння ў маці. За ўсё — за ўсё, нават за тое, чаго не ведаеш. І вернецца спакой...» Дзівак! Што ён ведае пра мае пакуты? Што ён ведае пра спакой? Гэта ж проста тэатральны жэст — «стань на калені!» Не раз, не два ўкленчвала я перад памяццю — перад сэрцам сваім «ожесточенным»: шчырасць нараджаецца не жэстам, а ціхамірнасцю душы. А я не ведаю, што такое ціхамірнасць... Хоць, здаецца, ведаю, што такое шчырасць.

«Ожесточенное» сэрца... Што размякчыла б яго? Што?Занадта балюча раняць кожны напамін, кожная здагадка пра ўласную жорсткасць: хіба кожны зразумее, што жорсткасць гэта скіравана на сябе? Што мне невыносны яе цяжар? Што гэта — больш за мяне? Што марна караць сябе за не падуладнае ні розуму, ні пачуццю? Нельга ж зрабіць больш, чым павярнуць яе асцюкамі ў сябе...

Не ведаю, чаму, як станавіліся пісьменнікамі іншыя. Магчыма, я і смяюся над гонам за славай таму, што пісаць для мяне — гэта ачышчацца, вызваляцца ад усяго, што не дае дыхаць. Жыццёва неабходны працэс! Інакш я захлынулася б. Болем. Ці нянавісцю. Ці агідай. Ці любоўю... Ніякіх запонаў унутры. Вірлівы, мутны паток свядомасці, які разбурае ўсё, — нават час бяссільны, нават час ніякавее перад ім. Стань на калені... Калі б гэтым жэстам льга было ўратаваць спакой — уратаваць душу!

**11 мая**

Спакой — смерць... Былі ўчора ў бальніцы, наведалі рэдактара. Жахлівае ўражанне засталося пасля сустрэчы з Алесем Харытонавічам: калісьці браў мяне на работу ў «ЛіМ» (і пяці гадоў не мінула!), у хвіліны ад-

пачынку «заляцаўся» і да мяне, і да іншых маладзіц, быў веселуном, любіў выпіць, мог прагаманіць з сябрукамі да апоўначы — пастарэў гадоў на трыццаць... Цяжкая сустрэча. Цягнуўся на мой позірк, квола-квола ўсміхнуўся на мой пацалунак...

Можа, зашмат мы патрабуем ад жыцця, калі яно так жорстка разлічваецца потым, напрыканцы шляху?

Колькі раз спатыкалася сэрца аб змарнаваныя гадзіны, дні! Не знікае — больш выразным становіцца адчуванне часу. Часам фізічна — кожнай тканкаю! — адчуваю, як перацякаюць праз мяне хвіліны жыцця, і ніводную не затрымаць, ніводную не адкласці на потым... Кожны раз (пакуль што!) перамагае ўпэўненасць, што наперадзе яшчэ ёсць пэўны кавалак жыцця, пэўны прамежак шляху. А хто ведае...

Надзіва спакойна разважаю я пра самае патаемнае, самае непрадбачанае. Не пра гэта трэба думаць, не пра гэта! Хоць бы вярнулася душа! — няхай бы не заспявала, заплакала: усё лепш, чым даўкая пустата ў грудзях, усё лягчэй...

**15 мая**

Вярнулася да распачатай даўно паэмы «Вольга-Валянціна». Тапчуся на адным месцы — дакладней, на адной супярэчлівасці: як расказаць пра сваю гераіню — моваю паэзіі, якую «нельга пераказаць прозай», ці мовай, якая імкне да «прастаты і яснасці»? Шалі ўраўнаважаны. Свае «за» і свае «супраць»... Адно спадзяванне: выведзе як не думка — то рука!

Дзіўна: мяне ўвесь час абвінавачваюць у тым, што я заклікаю да ўскладнёнасці паэзіі. Больш! — да «зашыфраванасці». Але ж нельга спрошчваць словы — пачуцці! — бясконца. Сумныя вынікі, як водзіцца, навідавоку...

Мне здаецца, што і я зашмат спрошчваю. І таму — маркота, таму — бясплённасць. Таму — гэты занадта доўгі прастой, калі ўсё, што пішу, здаецца чужым і непатрэбным.

**16 мая**

Ах, якая стаіць цяплынь! Цвітуць сады. І гэта амаль невыносна. Закрываюся ў сценах. Чытаю іспанцаў. Не тое што шкада маладосці — што мне ў ёй шкадаваць? — шкада сэрца, так нікім і не разгаданага, не расплёсканага, паўнюткага любові. Старэе любоў. Цямнее. А ўсё ж хмеліць мяне...

Хоць што гэта я? Дзесяткі няскончаных спраў, пакрэсленыя старонкі паэмы...

**18 мая**

Мне часам здаецца, што ўсё-ткі не змагла — не магу! — вывернуць душу. Вывернуць тыя напластаванні слоў, учынкаў, крыўдаў, нявдзейсненых жаданняў і падзей — і зазірнуць у самыя глыбіні. Можа, нават не «не змагла», а — баялася. Баюся. Вынікаў баюся. Разбурэнняў у сабе баюся. Баюся нечага неўсвядомленага — у выпадку чаго непапраўнага.

І так — кожны. І таму — няма Паэта.

О, гэта звычка азірацца па баках, перахопліваць свае памкненні на паўдарозе! — гэты жорсткі рэдактар, ад якога нельга пазбавіцца. Усё-то ён ведае, усё-то ён можа падказаць, ад усяго перасцеражэ. А трэба ж зусім іншае: поўная раскаванасць — поўная воля. Усе нашы скуголенні: вось не даюць, маўляў, слова сказаць, вось патрабуюць, маўляў, не геніяльных твораў, а шэрых, прыгладжаных, — не што іншае, як мізэрныя апраўданні перад сабой. Ніхто не забараняе — не можа забараніць! — напісаць т в а ё — м а ё , апроч нас саміх. Ці — нічога с в а й г о і не было. Гэтак атрымліваецца. І даказаць адваротнае нельга. Немагчыма.

Пэўна ж, як піша Яўген Богат у «Літаратурцы»: «уровень чести общества зависит от уровня уважения к таланту, поклонения ему, восхищения им, от умения видеть одаренность и одаривать ее. И нет большего удара по чести, чем торжество посредственности...» І ўсё ж, і ўсё ж...

**25 мая**

Першая старонка кнігі напісана. Неяк зусім нечакана. Ён — яна... Можа — атрымацца! Можа! Адчуваю ўнутранае трымценне. І ад таго, што стрымліваю сябе, і ад таго, што можа — атрымацца. Не ведаю, чым гэта стане — назавецца. Прыёмам. Ці знаходкаю. Ці стратаю. З'явілася трапяткое адчуванне: знайшла. Толькі б напісаць! Цяпер многае — ад таропкай непаспешлівасці...

**29 мая**

Чытаю Кетэ Кольвіц. «Я не только могу закончить мою работу — я должна ее закончить. Это кажется мне смыслом всех разговоров о культуре. Она возникает только в исполнении каждым своего долга. Если каждый знает свои обязанности и выполняет их, тогда выходит нечто настоящее. Культура всего народа, в конце концов, не может быть построена ни на чем ином...»

Выпіскі можна было рабіць і далей. Але чым далей чытала дзённікавыя нататкі Кольвіц, тым больш дакладным было адчуванне: сугучна — сугучна майму. Але ж мы належым не толькі розным узростам — розным эпохам, адкуль гэта адчуванне? Адкуль гэта роднасць у падабенстве? Згадваю свой «Дзённік жанчыны» — нават стыль мала чым адрозніваецца. А «Дзённік» я пісала ў трыццаць сем...

Цікавая ў мастачкі не псіхалогія творчасці — псіхалогія а д н о с і н да творчасці. Няўжо мы, людзі, так мала рознімся? Нешта ж нас усё-такі розніць.

**1 чэрвеня**

Вельмі ж імкліва — дні, тыдні... Часам здаецца наіўным тое, што спрабую лічыць хвіліны. Якія там хвіліны! Жыццё — як вялізны сноп жывых рухомых промняў, што вырываюцца, ірвуцца з рук, то асляпляючы, то асвятляючы сцежку паперадзе. Трымаю, напружваю ўсе сілы — а іх меней ды меней. Спачатку амаль незаўважна. Цяпер — перабольшана навідавоку. Відочна! І — не мне што-небудзь змяніць... Я нават не магу пазначыць (дзе ўжо занатаваць!) усё, што ўяўляецца значным, што застаецца ў памяці, у крыві.

Была на спектаклі па п'есе Л. Расчаравана. Чытаючы калісьці п'есу, бачыла за словамі прагу чалавека (Буслая) вырвацца са сваёй бездапаможнасці, уцячы ад свайго лёсу. Хоць тое-сёе і тады выклікала пярэчанні. Спектакль жа быццам разарваў нябачныя нітачкі, што звязвалі, аб'ядноўвалі ўсё ў адно: зала смяецца там, дзе павінна б сціцца сэрца. Акцёры (о, гэта вечная гульня ў трагікаў!) «вопиют» у пустыні: занадта гучныя рэплікі, занадта істэрычныя тырады. Можа, калі б шэптам, з мукай, то ўскрыкнула б душа ў кожным, хто прыйшоў, хто глядзеў. А так — смяюцца. І апладзіруюць. Апладзіруюць і тады, калі п'яны «герой» валіцца на падмосткі. І тады, калі Мікалай доўга-доўга п'е шклянку гарэлкі... Чаму — апладзіруюць? Апроч Гарбука ніхто не іграў. Калі б не Гарбук, усё — на ўзроўні мастацкай самадзейнасці... Вельмі расчаравана.

**2 чэрвеня**

Сёння раптам здалося: пералом у душы, якога так доўга чакала, незаўважна адбыўся. Радуюся жыццю. Усяму жывому вакол і — у сабе. Радуюся

нават тады, калі пахмурная, калі змушана нерваваццa. I ніякія «намеснікі» не могуць парушыць гэту гармонію: я і свет, я і жыццё. Светлых людзей — больш! Трэба толькі дапамагчы ім убачыць гэтае святло — праз мае вочы, праз маю радасць.

«Намеснік» — слова якое недарэчнае! Намеснік самога сябе — чалавека ў сабе? Гэта ж цэлая плойма іх — а ўсё роўна святло перамагае. А ўсё роўна людзі цягнуцца на святло, на шчырасць — насустрач разуменню.

**4 чэрвеня**

Увесь час паўтараю: «Что легко, то делать не должно!» Не тое каб лёгка — добра пішацца. Працавала сёння восем гадзін. З'яўляюцца новыя героі. Колькі іх ужо, апроч маіх? Сцяпан, Фрося, цётка Варвара, Гнась, Дзмітрыеўна (цікава, якая яна будзе?), Цімох, Пахом, Ганька, Косцік... Цяпер давядзецца сачыць за кожным. Тоненькія нітачкі — а без іх канвы не будзе.

Дзіўна: прадумала толькі галоўную лінію. Дваіх. Не, траіх! А пачынаю пісаць — жыву, і ўжо само — тое! — жыццё дыктуе. Амаль як і ў паэзіі. Прыходзіць слова — вобраз, а верш — на ім — вакол. I ўсё ж не магу адагнаць лёгкае шкадаванне: вось калі б вершы!..

Вершы — не прыходзяць. Замест гэтага трэба чытаць «испражнения стихами» некага С. У выдавецтве ўпрасілі — аўтарытэтны адказ спатрэбіўся. А я не тое што рэцэнзію напісаць, дачытаць гэты фаліянт (ледзь не ў шэсць аркушаў) не магу. Якімі вачамі?

Заўтра — на прыроду! Куды заўгодна. Толькі б неба больш! Ды яшчэ лапік травы. Ды яшчэ ручаінка. Лета ж на двары!

**6 чэрвеня**

Адносіны зношваюцца, як апратка, калі кожны з дваіх не робіць пастаянных намаганняў, каб іх аднаўляць.

**8 чэрвеня**

Учора назвала В. ваўчанём. I ён раптоўна пагадзіўся. Нават расказаў сёе-тое з дзетдомаўскага маленства. Барацьба за выжыванне... Гэта ён так назваў — вызначыў сваю жыццёвую пазіцыю. Можа, не за выжыванне? Хутчэй — шлях самасцвярджэння. Штосьці ў ім — ад мяне. Ад майго. Толькі змякчанага прыродаю — жаноцкасцю...

Не. Галоўная розніца — у іншым. Ніколі — ніколі! — не магла б я сцвярджаць сваё (самасцвярджацца) за кошт каго іншага. Не было такога. Не магло быць. Часцей (калі надаралася: лоб у лоб) я саступала. Нават не сутыкнуўшыся. I не з боязі разбіць лоб (было — разбівала аб сцяну!) — з боязі зламаць штосьці ў душы. Незваротна — зламаць.

Я — не была ваўчанём!

Дзіўна, што мне раптам спатрэбілася гэта сабе даказваць. Размова ўчарашняя падштурхнула? Хоць размова — проста працяг даўняга непакою майго. Я ж сама выклікала В. на гэтую размову. Відаць, іншае...

**15 чэрвеня**

Вершы, вершы, вершы! Як учадзеўшы. Бясконца шчаслівая! Бязмерна. Хоць бы не сурочыць...

**21 чэрвеня**

Свята заканчваецца... Выпісалася. Каб працягваць — патрэбен нейкі новы душэўны зрух. Стала адчуваць, што падобны ўздым — творчы «чад» — далёка не бяскрыўдны. Увесь час мяняецца сардэчны рытм. Часам навальваецца незразумелая вяласць — не дапамагае нават кава. Учора ў Ва-

шчанкаў доктар (даўні сябра дома) папярэдзіла наконт кавы. Наркотык! Але гэта ж я і раней ведала. Кепска, што паступовa доза расце. Буду стрымлівацца. Тым больш, што яна ўсё роўна не дапамагае.

Для работы трэба жыць самотніцаю — у цішыні. Цішыні не стае. Зачасцілі сябры. Праціўлюся як магу. Знікае — па часцінцы! па тканцы! — штосьці няўлоўнае. Нязначнае — і неабходнае. Без людзей — нельга, і з людзьмі вельмі часта — цяжка...

**24 чэрвеня**

Баюся — сябе. Зрухі адбываюцца непапраўныя. Быццам сцяна між магчымым і немагчымым робіцца ўсё танчэйшай. Каб жа я была ў адказе толькі за сябе!

Чакае паездка ў Свярдлоўск, на чытанні Маякоўскага. Трэба пісаць (адзін тыдзень на ўсё пра ўсё!) артыкул для «ЛіМа». І шкада збочыць са сцежкі паэзіі — і работа вымагае. Ніяк не пераадолею глыбокую ўнутраную нязгоду.

**25 чэрвеня**

Думала, што неяк абміну бездань, якую капала ў сабе сама. І нават не заўважыла, што лячу ў яе — упала! І сцяна адчаю — зверху, да самага неба. Ніводнае светлай плямінкі. Госпадзе, ды што ж гэта такое? Колькі ж можна прабіваць гэтую сцяну і ўзлятаць — падымацца над сабой, а потым так балюча разбівацца? Колькі можна трываць? Хочацца памерці...

Не, не! Нічога не здарылася. Нічога не змянілася. Усе змены — ува мне. Я не магу больш, не магу... Увесь час б'юся аб сцены: і ў сабе — сцены, і навокал, і ў кожным. Нічога — нікога жывога? А я так хачу жыць — піць жыццё — нагбом! І не магу бясконца разбівацца ў кроў, сама камянею...

Думкі спрабуюць уціхамірыць сэрца, але ж ціхамірнасць — не маё. Здавалася б, вершы ўсё высмоктваюць. А не ўсё... Адчай застаецца. І кожны раз я ўсё цяжэй перамагаю — шлях ад радасці да адчаю скарачаецца (і па дзённікавых запісах відаць). Баліць... Першы раз прыйшло адчуванне, што азначае — пісаць крывёю...

**28 чэрвеня**

Я зашмат патрабую ад жыцця. І ад сябе. Нагрузкі — непамерна высокія. Крыху раней: менш чым за два тыдні — амаль аркуш прозы, цяпер менш чым за тры — чатыры дзесяткі вершаў. Няхай не ўсе роўныя, гэта — многа. Пачало здаваць сэрца.

Але што рабіць, калі ў працы — усё жыццё? Толькі ў вершах — жыву!

**3 ліпеня**

Учора скончыла чарнавы варыянт артыкула «Сэрца з праўдай удвох...» Адзінае, што знайшла, — сваю інтанацыю. Цяжка — пра Маякоўскага: для мяне ён больш, чым паэт. Змалку. Кожны раз на нейкім новым узроўні — больш.

Рада (усё ж рада!), што ўзялася за гэты артыкул, за гэту работу. Магчыма, не так вынікам задаволена, як самім працэсам — на працягу цэлага тыдня. Жыла — Маякоўскім, піла сілу яго мужных і балючых радкоў. Многае пераасэнсоўвала, многае перачытвала, быццам упершыню. Працягваюць мучыць словы з аднаго яго выступлення: «Должно быть, слишком режущи стоны горбящихся ради куска хлеба, слишком остра картинка нужды, наматывающей жилы на фабричные станки только из необходимости есть, если каждого человека искусства впрягают в лямку тащащих труд на базары пользы...»

Мучаць, таму што, калі не «неабходнасць есці» (зараз жа — іншае), то што? Усё тыя ж «барыкады душ», як і ў Маякоўскага? Ці магло б быць — інакш?

**5 ліпеня**

Як гэта многа — глыток радасці! Няхай — беспрычыннай. Проста радасці. Ад таго, што дзень увесь ветрана-воблачны. Ад таго, што самыя розныя людзі ўсміхаліся насустрач. Ад таго, што некаму ад крупіны радасці — маёй! — пасвятлела.

А галоўнае: увесь час адчуванне — недзе блізка-блізка вершы. Хоць званілі, нагадвалі — да дваццаць чацвёртага трэба здаць рэцэнзію на «Веча славянскіх балад». Значыцца, трэба. Трэба, трэба! Ніколі, відаць, не вызваліцца з-пад улады гэтых вечных «трэба».

І ўсё ж добра, што я — запатрабаваная, што праца мая — патрэбная. Бываюць дні — сёння такі дзень! — калі здаецца, што магу — усё! Толькі б яшчэ крыху часу наперадзе... Толькі б зрэдку надаралася вось гэткая, як сёння, беспрычынная радасць...

Мажліва, калі б пачаць разлічваць, можна б вывесці прычыны. А я — не хачу. Навошта заўсёды дакопвацца да прычын? Навошта ўсё растлумачваць — сабе і іншым? Рэчаіснасць і ўяўленне... Між імі больш агульнага, чым здаецца звычайна.

**10 ліпеня**

«Нельга дазваляць сабе раскісаць», — сказаў Гаўрыла Харытонавіч учора. І я з ім пагадзілася. Пагаджаюся. Але і ўчора і сёння няма адказу на пытанне: хіба можна ўвесь час трымаць сябе ў ковах жалезнай волі?

Добрая была паездка. Выязны пленум Саюза мастакоў... Аграмадны кавалак Палесся ўбачылі — раней не знаёмы. Шмат уражанняў. Самыя моцныя з іх — ад сустрэч, ад кантактаў з людзьмі. Колькі іх, улюбёных у сваю справу па-сапраўднаму! Нашы (прадстаўнікі творчых суполак) часта выглядалі сярод іх штучна абыякавымі — з такім налётам прыдуманай меланхоліі ці паказной велічы... Сэрцам сваім чалавек вялікі! Гэтае маё перакананне становіцца толькі больш цвёрдым.

**14 ліпеня**

Калі ўся ў рабоце — пішацца! — то ўвесь час муляе думка, што жыццё мінае, абмінае мяне. А на колькі дзён запар вырваная з работы (паездка, сустрэчы з сябрамі, дом), то ўсё ўнутры пачынае смылець: няма, не застаецца часу для творчасці... Дзве страсці — жыць і пісаць! — і я паміж імі. Перамагае, канешне ж, слова... «Што воля для таго, хто смак яе не знаў?»

На службе ў рэдакцыі — шмат нервуюся. Не ўсё так, як трэба. А хочацца, каб усё. Ціснe сэрца, стала нават менеи курыць. Не тое, што боязна, — рана! Не паспела многае зрабіць. А шчасце... Што за гандлярскі падыход да жыцця? — як запомнілася падчас аднаго выступлення... Позна. Ды і не трэба, напэўна. Ёсць жа вершы! — не-не і вяртаюцца, прыносячы доўгае свята. Учора — былі.

**27 ліпеня**

З кнігі прозы рэдактар зняў «Дзённік жанчыны». Выгляд у яго пасля прачытання быў проста-такі спалоханы: як можна — так адкрыта? Быў супраць — катэгарычна. Не захацела нічога ўскладняць, зняла. Куцая выйдзе кніга, але барацьба — увесь час, без перапынку — стамляе.

Няўжо можна спрасціць літаратуру да звыклага пераліку нейкіх падзей, нейкіх рэплік, заведама вядомых думак? Я ўсё ніяк не магу даўмецца,

чаму не насцярожвае ўсю гэтую рэдактуру той хоць бы факт, што проза (сённяшняя) амаль што не чытаецца.

**19 жніўня**

Перачытала апошні запіс — стала крыху прыкра: самаўпэўненасці колькі! А мінаюць дні, тыдні — у мяне ні радка...

Нешта я раблю не так. Няправільна.Пачуцці адключаны. Зусім. Даўно. А раптам — надоўга? Назусім? Як — пісаць, як — выжыць? Надараецца вольная хвіліна, і я — у вакууме. Парываюцца повязі нават з сабой. З кім ні гавару — між намі сцяна, і самае сумнае, што нават не намагаюся яе зрушыць. Пагаджаюся з ёй. Часам лаўлю сябе на думцы: так нават зручней.

**1 верасня**

Свет не навокал — у табе... Гэта з аднаго з маіх вершаў. Дзіўна: толькі ў вершах пачуццё становіцца дакладным, дакладна вывераным — быццам недзе па-за свядомасцю вывераным. Увесь час шукаю хоць бы невялічкую апору ў жыцці — у сваіх нялёгкіх мітуслівых буднях, а калі раптам знаходжу, дык атрымліваецца, што апора — ува мне самой, у душы... А з сабой мне заўсёды (колькі сябе помню) было цяжка.

Усё яшчэ пад уражаннем учарашняга вечара, праведзенага ў Вашчанкаў: у іх — з імі — з ім — адно і адчуваю сябе паэтам, адно і адчуваю сябе таленавітаю. З якім даверам, з якой прагаю спасцігнуць мяне — мой унутраны свет — слухаюць яны мае радкі! Якая (пазбаўленая і знаку няшчырасці, ліслівасці) вера ў тое, што я магу — і пасмельваюся — гаварыць ад імя свайго сэрца і ад імя паэзіі! А я нават не магу сказаць ім, як я люблю іх, як я ўдзячна ім за любоў і веру.

Трэба нарэшце пазбаўляццв вечнай унутранай несабранасці — і знаходзіць сілу працаваць. Працаваць над галоўным — над сваім. Інакш не паспею, нічога не паспею...

**2 верасня**

Якая нечаканая развязка стаўшых звыклымі, напоўненых цёплым святлом разумення гаворак... Пакаранне шчырасцю... Ніколі не думала, што гэта такое жорсткае пакаранне.

За ўсё трэба плаціць — так, здаецца, кажуць нармальныя людзі. Я — ненармальная, але і я гэта знаю. Але ж не за душэўную шчодрасць, не за давер! — за іншае трэба плаціць... Ну, ды Бог з ім. Ноч перажыла, а далей відно будзе. Можа, калі не здрадзіць і жыццё, я калі-небудзь і навучуся жыць проста. Як усе. Усё ці нічога — гэта, звычайна, нічога...

**10 верасня**

Нічога не здараецца Усё ідзе, як ішло, як прадугледжана невядома кім, — як належыць. Гэта ўсё яшчэ выклікае глыбокі ўнутраны пратэст, але неяк вяла. Быццам водгуллем. Як ніколі, разумею тых, хто выбіраўся — выдзіраўся! — з заўсёднае звыкласці, шэрасці будняў: віно, сварка, скандал, справакаваны выпад супраць устаноўленых нормаў маралі — усё выкарыстоўвалася дзеля таго, каб парушыць спакой, каб разбіць вакуум. Спробы, у асноўным, марныя. Заўсёды знаходзіўся той, хто асудзіць. І той, хто пасмяецца. І той, хто выкажа абурэнне...

Я не раблю болей такіх спробаў. Можа таму, што не веру ў вынік. Ды і прыкладаў душэўнага спусташэння «бунтаўшчыкоў» — больш чым дастаткова. Хварэю іншым: занадта раздроблены час — не паспяваю засяродзіцца не тое што на задуме, на пэўнай думцы. Дробязі, дробязі, дробязі! Калі можна назваць дробязямі рэдакцыйныя клопаты, бясконцыя справы хатняй гас-

падыні. Але ж калі не галоўнае, не асноўнае — значыцца, дробязі. Як выслабаніцца — не ведаю. І пакутую.Часам здаецца: перастаю сябе разумець. «Я» — гэтаксама раздроблена на мноства асобных, вельмі не падобных адна на адну істот, якія не міріцца, якія ўвесь час спрачаюцца, і ў галасе нельга разабраць ніводнага слова. Гул. Гул ува мне... А я не ўмею яго ўлагодзіць, прыглушыць...

**26 верасня**

Вярнулася з Гродна, з шасцідзённай камандзіроўкі — усё яшчэ бачу дзесяткі, сотні скіраваных на мяне позіркаў, усё яшчэ хвалюе цішыня, што нібыта струменіла мой голас... Выступленні стамляюць, але гэта прыемная стома. Не проста абавязак выкананы, не проста зароблены пэўны ганарар — слова адгукнулася! Нібыта дадалося ўпэўненасці: многіх хвалюе тое ж, што і мяне, — яны не могуць выказаць, я — магу. Я павінна!

**29 верасня**

Не, нельга адступацца ад барацьбы! Ад барацьбы за свае прынцыпы, ад сцвярджэння сваёй пазіцыі — і ў слове, і ў выступленнях у самых розных аўдыторыях, і ў актыўнай грамадскай дзейнасці. Відаць, зарана пачала я прыслухоўвацца да сваёй стомы. Трэба пісаць (і крытыку!), трэба выступаць, трэба «нажываць ворагаў». Ведаю: няма ніводнага (нават сярод тых, каго не паважаю — не магу паважаць!) чалавека, каго я палічыла б ворагам хоць бы ў душы. Ёсць пісьменнікі, з чыёй пазіцыяй — жыццёвай і творчай — я не згодна. Ваяўніча не згодна. Але гэта зусім не азначае, што я адмаўляю ім у праве спавядаць, сцвярджаць сваё. Сцвярджаць — адкрыта, не за спінай, не ў кабінетах ці кулуарах, як сёння часцей за ўсё робіцца. Што гэта за пазіцыя, якую трэба ўтойваць? Што гэта за прынцыпы, якія баяцца святла?

Пад усім тым, што я пісала — і значна раней! — ці гаварыла з любой трыбуны, я падпісалася б і зараз. Падпісалася б рашуча, не прамарудзіўшы ні імгнення, хоць з некаторых слоў і меркаванняў ужо вырасла. Пісала і гаварыла — шчыра. Аб тым, у што веру. У што буду верыць да скону. Верыць і сцвярджаць сваю веру. І змагацца за яе.

Калі б яшчэ не адчуваць вечнай, балючай адзіноты! Ёсць з кім пасядзець за бутэлькай віна, ёсць з кім абмяняцца інфармацыяй, ёсць каму «излить» душу. Часам здаецца, што і разуменне пэўнае знаходжу. Але, калі ўзнікае патрэба ў падтрымцы — у падтрымцы словам ці справаю: адна... Не, не, грашу. Учора побач — наперадзе, засланяючы мяне! — устаў Ш. Ніколі не забуду гэтых імгненняў. Такое — перажывала ўпершыню...

**2 кастрычніка**

Калісьці пачынала верш «Над ракою» і кінула. Недзе нейкае слова сфальшывіла... Нечакана вярнулася і, не адыходзячы ад стала, напісала песню «Памяці Нямігі» (каля ста пяцідзесяці радкоў). Атрымалася. Мо таму, што неяк не азірнулася ніводнага разу на рэдактара ў сабе. Толькі песня, шчымлівая песня гучала ўвесь час недзе паблізу — крок назад у памяць... Гучала — і дапамагала мне знайсці свае словы. І вось... Не мінула і гадзіны, а сэрца зноў скавана нематою. Колькі ўжо гэта паўтараецца, а па-ранейшаму не магу разгадаць таямніцу падобнага спусташэння. Па-ранейшаму баюся нематы — сусветнае пустаты ў сабе...

І ўсё ж сёння адпачынак я заслужыла!

**4 кастрычніка**

Учора да ночы чытала навелу Марціна Вальзера «На полном скаку». Па-майстэрску! Ніводнага лішняга слова. Чатыры камерныя характары, і ва ўсіх адно — адзінота. Глыбокая душэўная адзінота, з якое няма выйсця.

Чытала, а ў памяці — па-за ёй! — увесь час трымцела: жыццё ва ўсіх аднолькавае... Абставіны — розныя, прамежкі часу і лапікі прасторы — розныя, паходжанне, самі грамадствы — розныя, а Жыццё — аднолькавае. Ва ўсіх. Таму што Жыццё ўключае (гэта і галоўнае!) і жыццё духоўнае — духоўны свет чалавека, яго пошук самога сябе ў аграмадным і ў большасці сваёй чужым свеце.

Чытала — і пакутавала: а я — ці змагу? Ці здолею? Што маіх герояў трымае, а значыцца — і мяне? Як пазбегнуць трывіяльнай развязкі і апісальніцтва? Якія прыкметы аднаўляемай мной рэчаіснасці — самыя яркія, самыя патрэбныя?

Вось, здаецца, закінула — даўно адклала сваю аповесць, а яна хвалюе. Нібыта пішацца — недзе глыбока ўва мне, у падсвядомасці. Не-не і ўсплываюць ненапісаныя карціны, не-не і пачынаюць гучаць галасы...

Усё часцей з тугой думаю пра тое, што марную час, што займаюся зусім не патрэбным мне — не асноўным! Што рукапісы не могуць чакаць так доўга. Што работа ўрыўкамі — гэта не работа. Што злачынства — падобнае стаўленне да сябе. Выйсця ж — не бачу, не знаходжу. Літаратура не дае заробку — і не павінна, магчыма, даваць. Але як — чым — жыць? Гнюсныя нейкія думкі... Уплыў Марціна Вальзера?

**6 кастрычніка**

Была ўчора ў выдавецтве. Як вынік: сёння не магу працаваць.Такое адчуванне, быццам дакранулася (душою!) да нечага бруднага. Дома доўга адмакала ў ванне, наіўна чакаючы нейкай палёгкі... А сёння — не магу працаваць. Хоць добра разумею: усе намаганні нашых «не-беларусаў» якраз і зводзяцца да гэтага — атруціць душу, адарваць ад работы, замарудзіць рост, рух наперад. Вялікі знаўца мовы — Вольскі-Зэйдэль! «Губы, губы... А па-беларуску лепей — вусны...» Чытала сёння рэцэнзію яго (станоўчую, а як жа!) і ўвесь час прыгадвала словы аднаго з мастакоў, які адмовіўся ад нашага грамадзянства і пагардліва крычаў сходу (мастакоўскай інтэлігенцыі!): «Калі б не мы, дык у Мінску дасюль бы каровы па праспекце гулялі!» Нікчэмнасці! Ва ўсе часы пралазілі туды, дзе пахла грашыма. Сёння — тое ж самае. Ды каб жа толькі грашыма задавольваліся! — ім і ўладу давай, ім лёс літаратуры, лёс мастацтва вырашаць трэба...

Часам з прыкрасцю думаю пра нашу бяззубасць, нашу ўсёдаравальнасць і няўменне супрацьстаяць іхняй злосці ці іхняй ліслівасці. Хоць, здавалася б, гэта так відочна: каго не могуць купіць, таго спрабуюць калі не знішчыць, то любой цаной адхіліць ад справы, ад уплыву на падзеі і рашэнні. Сябры папярэджваюць: у цябе магутныя ворагі! А трэба б, каб не проста папярэджвалі, а ўсталі побач... Значыцца — не сябры? Нават злосці няма, толькі прыкрасць.

**7 кастрычніка**

Хачу вярнуцца да аповесці. Думаю ўвесь час над тым, што ўсё-ткі — дасюль — не пазбегла пэўнай схемы. Не жывуць яшчэ мае героі асобным ад мяне, сваім жыццём. Можа, якраз таму, што я занадта выбудоўваю іх адносіны, іх успаміны, — я выбудоўваю, а не яны ўспамінаюць!

Наперадзе — тры вольныя дні. Хай бы гэта былі тры крокі наперад. Хоць невялікія.

**12 кастрычніка**

Сёння другі дзень работы пленума па паэзіі. Чакала больш сур'ёзнай гаворкі. Калі б не праведзеная «ЛіМам» дыскусія, пра што гаварылася б? Ніяк не могуць «праглынуць» маё выступленне. А сёння ж павінна выйсці «Літгазета» з новым артыкулам, і на пленуме першым возьме слова Р. Бара-

дулін... Своеасаблівую «рэкламу» ён мне ствarae. «Одиозной личности» — як выказаўся ўчора Балтакіс. Ну, ды Бог з ім!

Значна горш, што то адно, то другое адрывае ад работы, ад стала. Сходы, пасяджэнні, нумары часопіса, хатнія клопаты... Вырвацца б! Вырвацца... А куды? Як?

**13 кастрычніка**

Адшумеў пленум. Нечакана «ўзяў пад абарону» Сяргей Грахоўскі — нават заглыбіў тое, аб чым я пісала ў артыкуле... Увага, падтрымка старэйшых кранае (заўсёды кранала!), а я ж два дні запар адчувала падтрымку В. Віткі, і гэта лепшыя хвіліны на пленуме, калі я — побач з ім, з яго ласкавую ўвагаю, у цяпле яго разумення. Не аднойчы прыгадала Еўдакію Лось...

Штосьці губляецца. Штосьці значнае — чалавечае, чалавечнае — у адносінах паміж людзьмі.

Не, не! Усім, каму я змагу нечым дапамагчы, дапамагу. Набывае толькі той, хто аддае, — хто ўмее аддаваць!

**19 кастрычніка**

Абразлівыя ананімкі... Рву, не чытаючы. Цяжкая атмасфера на рабоце... Адчуваю ўсю марнасць сваіх намаганняў змяніць усё карэнным чынам, падняць матэрыялы на ўзровень вышэй. Адна. Віктар баіцца падтрымліваць адкрыта. Баіцца — за сябе. Рэдактар (такое адчуванне) думае, што можна ўсё змяніць, нічога не мяняючы.

Не люблю жорсткіх людзей. Не прымаю. І ўсё ж, не-не і павінна зазначаць: нельга быць добранькім. Добранькім за кошт дзяржавы. За кошт іншых людзей, якія «ўпрэжаны» ў той жа воз. Супрацьлеглае, а аднолькава непрымальнае...

Не на тое кладу сілы. Не на тое! Вар'яцею ад гэтага настойлівага, упартага адчування. І нічога не магу змяніць. І — нікога, хто падтрымаў бы. Падтрымаў па-сапраўднаму. У галоўным. Што ж гэта за доля такая: увесь час узвальваць на сябе непасільны груз і, выбіваючыся з сіл, цягнуць? Дзе браць сілу? Дзе шукаць апору?

**22 кастрычніка**

Інгеборг Бахман... Раней — чытала ўрыўкамі: адзін нейкі верш, адно апавяданне... Зусім выпадкова набыла невялікую кнігу яе выбранага, куды ўвайшлі і вершы, і проза. Уражанне — аграмаднае. Не тое, каб захапіла, каб хацелася выдыхнуць «О!», такога — не чытала. Ні ў кога раней не чытала. І справа не ў форме падачы матэрыялу. У чым? Уразіла, што нідзе не выпінаецца аўтарскае «я», і — заўсёды, на працягу ўсяе кнігі, — аўтар прысутнічае, за ёй — у ёй! — адчуваецца асоба. І якая асоба!

Раптам нечакана сцвердзілася ў думцы: самая інтымная, самая глыбокая лірыка — знешняе, вонкавае адмаўленне ад гэтых бясконцых «я», «ты», «люблю», «любы»... Калі «я» — глыбока, у падтэксце, магутным якраз гэтым заглыбленнем, прысутнасцю таямніцы, таемства! Адкрытасць — не агаленасць. Шчырасць — не сентыментальная споведзь. За ўсім павінна чытацца самае маё — самае значнае.

Разумела гэта і раней. А вось так моцна адчула — упершыню.

«Три дороги к озеру», «Синхронно», «О, эти счастливые глаза», «Проблемы, проблемы», «Лай»... Якая праўда пра жанчыну! Якая праўда жыцця! І нічога, ніводнай старонкі — за кошт апісальніцтва. Толькі ўнутраны свет, толькі ўнутранае (то яркае, то бляклае) святло. І ў гэтым святле ўсё — жыве, усё — дыхае, усё — прагне змен...

Думаю над сваёй прозай.

**26 кастрычніка**

Неяк вельмі цяжка, балюча ідуць вершы. Не тое, каб я высільвала іх... Удасканальваю, чышчу, а ў выніку ўсё роўна не задаволена. Здавалася б, добра (куды лепей!) ведаю, што хачу сказаць — што сказаць павінна, а думкі топчуцца сярод слоў. Чарнавікі сталі падобныя на пакрамсаныя баямі палі, дзе не проста знайсці штосьці жывое.

А проза — зноў чакае. Не хапае вызваленых ад працы і хатніх клопатаў гадзін. Наскокамі тут нічога не зробіш. Волі ж не бачу і наперадзе...

**31 кастрычніка**

Пад уражаннем паэтычнай падборкі В. Коўтун. Куды прапалі ўвесь яе рацыяналізм, уся яе сухасць? Ёсць проста бліскучыя ў сваёй прастаце радкі. І за ўсім — першапрычынай усяго — каханне...

Так, для паэта, які валодае паэтычнай тэхнікай, які вырас у асобу, пакахаць — найвялікі дар. Той адзіны дар, што робіць яго Паэтам, — падключаюцца ўсе сілы душы, словы выварочваюць такія глыбокія пласты свядомасці, пра якія творца не здагадваўся. Пацвярджэнні таму ёсць. І гэта — бліскучыя пацвярджэнні.

Зазначаю — з сумам... Магчыма, я не заслужыла гэткага дару.

**6 лістапада**

Перачытвала Куляшова. Нібыта наноў адкрыла ягонае: «Калі штурвал не слухае рукі, нялёгка кіравацца летуценнем...» Нялёгка — але можна? Нялёгка — але магчыма? Справа якраз у нялёгкасці...

**5 снежня**

Месяц прайшоў. Як адзін дзень. Спрабую прыгадаць, што запомнілася, — нічога асаблівага не прыгадваецца. Дзве камандзіроўкі, невялікі артыкул пра Куляшова, невядома адкуль узніклая драматычная карціна «У завулку часу». Карціна — без пачатку і канца (першапачатковая назва — «Цяжарная Муза»)...

Сябры гавораць, што кепска выглядаю. Стомленая. Незадаволеная. Часам проста загнаная. Выйсця ж — не бачу. Мажа, яго папросту няма. Нават на колькі гадзін (дзе ўжо дзён!) не магу вырвацца за звыклыя межы жыццёвага круга: то справа не дазваляе, то патоля... Стала заўважаць, што душа робіцца размякчанай, ледзь не сентыментальнай. Тое, што раней лёгка адкідвала простым узмахам рукі, цяпер мучыць, не адпускае, часта пераходзячы ў шчымлівае пачуццё віны. Перад блізкімі. Перад любым, кволым з выгляду... Перад цэлым светам!

Чытала артыкул Валеры Ліпневіча, у якім ён паспрабаваў адасобіць, выявіць самае характэрнае ў кожнай з нас (Жэня — я — Рая — Галя К.). Пра мяне: я не ўмею быць слабой. Між радкоў: таму і не знаходжу шчасця. Цікавае тлумачэнне. Штосьці ў ім ёсць... З адным не пагадзілася. Пра Галю ён піша: не баіцца быць самой сабой. З чаго вынікае, што астатнія (і я!) — не самі па сабе, а выдуманыя. Быццам можна сябе выдумаць! І сіла, і гордасць — даўно сталі натураю (калі адразу не былі!), змяніць што-небудзь немагчыма. Можна — зламаць. Змяніць — нельга. Зазначаю з сумам. Але і з цвёрдасцю.

Не ўмею быць слабой? Што ж, не ўмею. І галоўнае: н е х а ч у ! Мне не стае той сілы, якая ўва мне ёсць. Нават так.

**8 снежня**

Вечар у Вашчанкаў. Ды які там вечар? Дзве гадзіны — за чаем, размовамі, вершамі... А колькі далі гэтыя дзве гадзіны, гэтыя размовы! Дагэтуль

быццам пранізана дрогкімі ўспышкамі цягла. Духоўная роднасць, духоўная блізкасць... Нідзе не адчуваю я такога добрага ўплыву, нідзе. Як і кожны раз, вынесла з іх дому новую прагу сілы, новую прагу работы. «Ці разбудзяць думкі новы дзень?..», «Памяці Нямігі», «Майстры»... Гаўрыла Харытонавіч быў такі ўсхваляваны, якім я ніколі яго не бачыла. Можа, сапраўды знайшоўся новы паварот — угледзела (падсвядома!) новую вышыню? Тое, што трэба зрабіць іншы крок — у іншым напрамку! — зразумела я не сёння. Даўно. Але нават і прыблізна не ўяўляла, які крок, у які напрамку. Цяпер — разумею? Не ведаю. І ўсё ж...

Нацыянальная адметнасць, адчуванне крэўнай повязі — роднасці! — з народам, з яго гісторыяй, адчуванне свайго прадвызначэння — гэта ж не проста гістарычныя адмеціны на тым ці іншым творы. Гэта ж не проста паўтарэнне — закліananне! — адных і тых жа слоў, звернутых да свайго краю. Гэта штосьці вельмі глыбіннае — сапраўднае! — ува мне, што нялёгка вызначыць. І галоўнае: нялёгка выявіць. Нялёгка — і неабходна. Адзіна неабходна!

**16 снежня**

Была ў Маскве. У Святланы. Колькі прачытана вершаў! Забалоцкі, Карнілаў, Міхаіл Галодны, ранні Пракоф'еў (якога я зусім не ведала), Георгій Іванаў... Не з усім пагаджаешся, а якая паэзія! Уражана (не знаходжу больш моцнага слова) тым, што напісала за гэты час Святлана: лёс — стаў паэзіяй. Балючай, шчымлівай — сапраўднай!

Сустрэчы самыя розныя. Са знаёмстваў цікавыя — Еўтушэнка і Іна Кашэжава. Цікавыя — непазнаваннем. Не знешнім — больш глыбокім, псіхалагічным...

Працаваць па-ранейшаму не магу. І, відаць, не адно таму, што сотнітысячы спраў і клопатаў (так было заўсёды!). Спрабую неяк па-новаму «абмацваць» бачнае, знаёмае, вядомае. Каб не ўявіць — адчуць! — свет жывым, трапятлівым. Сваім.

Здавалася б, і творчым прастоем гэты час не назавеш (штосьці пісалася, ёсць некалькі падборак у друку), а душа смуткуе па хвілінах, днях — у полымі, у чадзе, днях, калі пануе натхненне.

**30 снежня**

Мінае — мінуў! — год восемдзесят трэці. Міжволі азіраешся: што было ў ім прыкметнага? Што? Пераехала ў новую кватэру. Перайшла на новую пасаду. Ледзь не закахалася — сам д'ябал падставіў ножку... Пэўныя падзеі. Хоць што яны могуць азначаць — для душы?

Распачала новую кнігу прозы (напісала каля аркуша). Гэта ўжо крыху больш. Напісала каля двух аркушаў вершаў (не ўсё тое, што хацелася б, але ёсць і сапраўднае). Гэта чамусьці мала радуе: да галоўнага, да таго, што раздзірала душу, руйнуючы ў ёй нават светлыя імгненні, не выйшла. Так... Сухія слёзы...

Жыву спадзяваннем на паездку ў Перадзелкіна, на месяц, у лютым. Даўно не была сам-насам з сабой. Апошнія колькі тыдняў апаганілі душу: было колькі сустрэч, шумных сустрэч, з людзьмі ад літаратуры — засталося толькі тужлівае пачуццё неразумення. Не разумею гэтыя вечныя спробы згуляць казырным каралём — не разумею, як можна жыць, не бываючы шчырым нават перад самім сабой, — не разумею пыхі бяздарнасці і барацьбы за месца функцыянера — не разумею гэтай страшнай душэўнай сытасці — не разумею, не зразумею! Вечары, юбілеі... так і цягне дадаць: паніхіды... Пагаварыць няма з кім. Сцяна! Вакол кожнага — сцяна, і часам не адна... Балюча думаю пра гэта ўжо доўгі час, думаю — для работы.

Хачу выйсці — выйду! — на тэму: с ц я н а, чалавек, які носіць за сабой сцяну...

*P. S.*

І ўсё ж год заканчваецца цудоўна. Гадзіну пабыла з Гаўрылам Харытонавічам (ён падарыў мне эскіз да майго партрэта), гаварылі, гаварылі, перабіваючы адно аднаго. Часу — колькі тых хвілін! — не хапала, а хацелася сказаць так многа...

Госпадзе! І чаго я скарджуся на лёс, калі выпадаюць такія хвіліны? І што — у параўнанні з імі ўсе вечары, юбілеі, пасяджэнні, на якіх я бываю ці не бываю?

Трэба — пісаць. Пісаць — на яго ўзроўні. Жыць — галоўным. Мне заплачана наперад...

## 2. ГОД 1984-ты

**2 студзеня**

Нацыянальная культура... Карані яе... Абавязак мастака ў кожны з часоў... Можна, пэўна, вывесці агульныя палажэнні, агульныя — для ўсіх. І ўсё ж кожны мастак — сам па сабе, сам у сабе вызначае межы разумення і адказнасці.

Я вяртаюся да гэтых пытанняў, таму што не вызначыла нічога для сябе? Падобна на тое. Хоць «нічога» — не тое слова. Вызначаюць жа не пэўны дзень, не пэўная мінута — жыццё. Жыццё! Хай сабе і незалежна ад мяне, — н е з а л е ж н а... Крычы ў цэлы белы свет, абчапляйся шыльдамі і адозвамі, гадуй, выпешчвай славу нацыяналіста — усё лухта. Ніводзін сапраўдны вялікі нацыянальны мастак не быў нацыяналістам: рамкі, межы — занадта вузкія, цесныя. Падоўжаныя ў сябе, у душу, яны забіваюць талент — задушваюць.

Не, не заявамі, не крыкамі сіла здабываецца. Не ўгору — над іншымі — мы расцём, а з сябе, з сябе ўчарашніх вырастаем — са зробленага, з перадуманага, з пражытага. З балюча пражытага!

Новы год уступіў у свае правы. І праводзіла (трыццатага!) стары год, і сустрэла (учора) новы — з Гаўрылам Харытонавічам. Радасна. І боязна за гэту радасць. І не ўмею адагнаць гэтую боязь. У душы — нейкі ўрачысты боль...

**7 студзеня**

Як мне няўтульна сярод «сваіх»: усе нібыта баяцца быць сур'ёзнымі, быць — паэтамі... А можа, і праўда: «Паэтаў так многа, што раптам відочна: паэтаў няма»? Кожны раз здзіўлена прыгадваю ўласныя радкі: у вершах — усё разумею раней. Быццам і напраўду не я гавару, а хтосьці — праз мяне!

Засумавала па сапраўднай рабоце, калі я — і чысты аркуш паперы. Хутчэй бы — Перадзелкіна!

**15 студзеня**

Вярнулася да напісаных даўно санетаў. Як звычайна: правіць не ўмею — перапісваю. Перапісваю з задавальненнем, спрабую заглыбіцца ў настрой. Ёсць і новыя задумы. З першай («Крыніца»-?) нібыта ўсё ясна, з другой («Годнасць»-?) — яшчэ трэба павалэндацца: сімволікай тут не абыдзешся. Прыйшоў час канчаткова акрэсліць свае творчыя пазіцыі. Ды і не толькі творчыя! Значыцца: паслабленняў быць не можа, нават у малым — на малое нельга марнаваць час, проста нельга. Мала часу. Замала.

Зноў перагледзела Жэніну кнігу «Пара любові і жалю». Таленавітая рука. А сэрца... Можа, я і памыляюся, ды занадта ўжо холадам, «рассудочностью» патыхае. Паэтычнай «рассудочностью», — калі ўсё апранаецца ў прыгожую паэтычную апратку, а ты, чытач, застаешся абыякавым. Прысвячэнні, прысвячэнні (часцей людзям далёка не блізкім), эпіграфы, імёны, выхапленыя з гісторыі... Ну, нельга ж сур'ёзна думаць, што такія розныя Паўлюк Багрым і Эміль Гаравец (спявак з эмігрантаў), Фрэдэрык Бартольдзі і Мэрылін Манро, Эн Сэкстан і Хэмінгуэй, Данута Бічэль-Загнетава і Сяргей (Сярго — у Жэні) Ясенін з Дункан, Максім Багдановіч і Ул. Маякоўскі, Леся Украінка і Пётр Ільіч Чайкоўскі, Аляксандр Блок і Міх. Лермантаў, Ян Скрыган і Пімен Панчанка, Вера Палтаран і Ніна Мацяш, Ул. Паўлаў і Тамара Аўсяннікава, Голуб, Лялько, Шчамялёў, зноў Ізадора — і гэта яшчэ не ўсе! — могуць быць музамі паэта. Бясконцыя спасылкі і спробы братання нават не здзіўляюць — стамляюць.

«Я знаю: свет багаты на любоў, бо толькі у разлюбленых — нянавісць» — гэта апошнія радкі кнігі. І справа нават не ў тым, што яны — недакладныя. Характэрныя не словы, а нота, на якой яны гучаць, — фальшывая нота. Мне здалося, што яна прагучала ў канцы так выразна, таму што і раней, неаднаразова, гучала...

Паспрабавала сказаць Жэні, яна — не зразумела, адказала: трэба было апусціць апошнюю страфу. І гэта трэба было зрабіць. Ды не адно гэта. Што ж, урэшце, яе справа. Хоча быць першай і вышэй за ўсіх — хай імкнецца.

**17 студзеня**

Знайшла ключ да сваёй «Крыніцы» — чую яе ўсю! Не бянтэжыць нават тое, што занадта выразна чытаецца сімволіка. Трэба пісаць, як ёсць, як на душы, як хвалюе, — гэта ведаю цяпер пэўна. Ці — ісці ўглыб, ці — ісці назад. Трэцяга шляху не бачу. Няма яго, трэцяга шляху...

Дзе браць час? Як пазбавіцца ад гэтых бясконцых малых і немалых спраў і клопатаў? Кінуць работу? Адчуваю: год-два наперадзе — самыя плённыя. Душа саспела...

**19 студзеня**

Учарашні сход... Выступленне на сходзе, як заўжды, вострае... Як вынік — сёння не магу скінуць напружанне і засяродзіцца. Думкі — вакол сказанага і пачутага.

І ўсё-ткі яшчэ раз пераканалася: нельга мець пазіцыі, калі не адстойваеш яе, калі не выказваеш яе прама і недвухсэнсоўна, на ўсіх узроўнях. А ў мяне пазіцыя ёсць, і гэта пазіцыя — шчырая, і таму не змагла ні адмаўчацца, ні прыкрыцца агульнымі словамі. Нічым іншым выступленне не было выклікана, тым больш, што ўзяць слова на сходзе яшчэ і абавязалі. Не змагла адмовіцца ад слова — ад сябе ж, ад пазіцыі сваёй не адмовішся! І ў думках нічога большага не трымала...

Не чакала, што словы так балюча сцебануць па Нілу Г. А ён яшчэ выйшаў і замест таго, каб грунтоўна, з вышыні свайго аўтарытэту і сваёй пасады выступіць, пачаў голаў попелам пасыпаць. Выгляд яго пасля сходу (пры начальстве ж усё!) быў такі разгублены, твар такі шэры, што аж сэрца кальнула. Ну, нельга ж так... Нельга сябе аднымі лізаблюдамі акружаць ды яшчэ і прыкрываць іх сваімі плячамі. На вяршынях (хай сабе і розная ў іх вышыня!) вецер больш адчуваецца. Ды і бездань бліжэй. Узышоў — спускацца цяжэй будзе... Цікава, ці падымаўся ён хоць на адну, хоць невысокую горную вяршыню? На сапраўдную вяршыню?

**6 лютага**

Колькі дзён запар — творчая гарачка. Прыйшло. Найшло. Ні работа, ні хатнія клопаты не перашкаджалі: усё, што — за творчасцю, адбывалася па-за свядомасцю. Гэта будзе кніга — кніга песень!

Пасля «Нямігі» напісаліся «Струмень-рака» і «Менеск». Распачала «Званы». Шмат добрых задумак. Адна з іх — перарабіць і паэму «Імёны маленства» (каторы раз!), гэты раз — пад агульную задуму кнігі.

Кніга песень... Можа атрымацца. Пакуль што атрымлівалася...

Кінула ўсё, узяла адпачынак і прыехала ў Перадзелкіна. Наперадзе — дваццаць шэсць дзён, калі буду сам-насам з паэзіяй. Хай Бог дае, як кажуць!

**19 лютага**

Два тыдні ў Доме творчасці. Першы даў добры плён — тры песні: «Свіцязь-возера», «Сон-трава», «Мёртвы груд» і «Званы» скончыла. Другі — усё паціху сышло з рэек: паездка ў Маскву, да Святланы, хандра... Усё, што напісалася, — «Гадзюка». Пачала новую песню — не ідзе. Чытаю...

**26 лютага**

Якой усё-ткі нечканай мукай абярнуўся, урэшце, мой прыезд у Перадзелкіна. Мне здавалася, што я ўсё пра сябе ведаю...

Учора цэлы дзень правалялася ў ложку. Лена перагортвала старонкі кнігі Сатора Турсуна «І снег сыдзе» (трэба было яму ўсё ж назваць «Снег сыдзе, зямля застанецца»). Моцная рука, мускулістая дакладная фраза. Добра ведае тое, пра што піша. Ды не-не і ўзгадвала адно вядомае выказванне: мастацтва дадзена нам для таго, каб уратаваць ад праўды. Пры ўсёй спрэчнасці выказвання, я не магу не пагадзіцца з ім. У мастацтва — свая праўда, яна абапіраецца на жыццёвую (і павінна абапірацца!), але толькі абапіраецца — не пераказвае, не паўтарае. А тут чытаеш: усё на месцы, характары акрэслены, дыялогі выверены, а... не пакідае дакука. Было, было, было! І потым: дзе — аўтар? Сімпатыі і антыпатыі яго вывесці, канешне, можна — я пра іншае. Пра светаўспрыманне, пра стыль, пра адметнасць... Таленавіты і вельмі ж ужо ўзорны вучань! Запытаецца — не змагу сказаць нічога іншага. Нічога большага.

А я... Ды дапамогуць мне час і доля мая! Дадому — і ў тлум работы — з галавою!

**27 лютага**

Як мала розняцца людзі па сваёй прыродзе! Гэткая прыродная сіла ўкладзена, што яна перамагае ўсё: розум, выхаванне, мараль... «Усе мы чалавекі», — як пісаў Іван Грозны ў адным з лістоў Курбскаму? Ці гэта ўсё ж бліжэй да жывёльнага ў чалавеку — адзін з яго самых магутных інстынктаў? Любоў — зусім іншае. Зусім! Супрацьлегла іншае. І калі яе выдумалі, то гэта самая вялікая прыдумка чалавецтва за ўсе часы яго існавання.

Банальныя, пэўна, разважанні. А думкі не адпускаюць: сутыкнулася ўчора з дзяўчынкаю, «совращенной» у гэтым доме, — зірнула на яе, і працяў боль... Так, не шкадаванне, не. Хоць пасля прыйшло і шкадаванне. У той момант — прачытаўшы на яе твары спалох за тое, што адбылося, — працяла вельмі вострае разуменне нашай поўнай падуладнасці прыродзе. Я — была ёю ў тое кароткае імгненне, гэтай дзяўчынаю, зламанай сілай, большай за яе. Большай за мяне. Большай за кожнага, кім бы ён ні быў на гэтай зямлі.

Ці не пратэст супраць гэтай сілы гнаў людзей у манастыры, рабіў самотнікамі і «святымі»? Ці не барацьба з гэтай сілаю — з агнём, які спапяляў знутры, — дала свету вялікія творы мастацтва, вялікія прыклады самаадрачэння?

Дзяўчына стала жанчынаю. Гэта так натуральна (калі адключыць сітуацыю). Здаецца, упершыню прыйшло адчуванне таго, які агонь спапяляў і спапяляе мяне...

**29 лютага**

Вось і мінула зіма. Абмінула мой трыццаць дзевяты год, скаламуціўшы душу і не прынёсшы ніякай радасці. Хоць што гэта я? А Песні? Песень жа, з напісанымі дома, цяпер дзевяць — амаль два аркушы паэзіі. Сапраўднай. Той, да якой так доўга ішла. Усё яшчэ іду...

Нечакана загучалі для мяне падрадкоўнікі (захапіла на ўсякі выпадак з дому) Ліі Стуруа, грузінкі. Хацела адмовіцца ад перакладу, а вось ужо ў блакноце беларускія «Жанчыны 1941» і «Балада»...

Работа! Зноў работа, жаданая ці нежаданая. Значыцца, аджываю. Жыву. І ўсе апоры — ува мне. Ува мне самой. А ўсе спробы зблізіцца са знешнім светам, знайсці ў ім разуменне і падтрымку, як заўсёды, завяршыліся паражэннем. І, відаць, быць інакш і не магло. Не можа. Я не ўмею — і не хачу! — быць слабой, і гэта ўспрымаецца як сіла. І апору шукаюць ува мне, знаходзячы ці не знаходзячы, падтрымку.

Паціху вяртаецца спакойная ўпэўненасць — нібыта ўвайшоў у берагі, нарэшце, боль і сэрца стала самых звычайных памераў. Сатана адступіўся ці інстынкт самазахавання спрацаваў? Не важна... Са мной засталася — і так будзе, што б ні здарылася! — работа. Словы — вернуцца, адагрэюцца — і вернуцца. Я веру...

**1 сакавіка**

Рада, што заўтра ад'язджаю.

Не ведаю, як гэты час адгукнецца ў маім лёсе далей, амаль шкадую, што прыехала. Амаль што...

**10 сакавіка**

Душыць штосьці знутры: туга — не туга, шэрань нейкая... Безвыходнасць. Звычайна я калі і не ведала межаў пустаты, што затаплівала, захліствала заўсёды нечакана, то ведала, што ўсё — часова, што ўсё — міне. Зараз іншае. Ліпкае. Неадчэпнае. Без глытка чыстага паветра. Без аніводнае спадзеўкі на вызваленне, на выратаванне.

Спрабавала харобрыцца, выклікаць у душы пратэст, абурэнне — не атрымліваецца. Халодным паглядам вычытвала карэктуру празаічнай кнігі, халодным сэрцам вывярала пераклады Г. Віеру — настойваюць, каб здала...

Знікла, знікае цікавасць да жыцця. Здаецца: усё ўжо зведана, усё пражыта, усё перабалела. Нават сустрэча з Вашчанкамі не прынесла палёгкі. Іскры разумення тухлі, не дасягаючы душы. Бездань? Адно не выклікае сумнення: паміж мной і кожным, да каго звяртаецца позірк, — бездань. Не ўяўная. Непераадольная ні для позірку, ні для душы. Сябры, сям'я... Раптам дагнала — праз колькі гадоў! — усведамленне: я — адна. Як у маленстве — адна! Таму што ніколі і не падпускала нікога да сябе бліжэй, чым на блізкасць...

Божа мой, што я гавару?!

**14 сакавіка**

Напісала ліст Святлане, паслала ёй артыкул Ліпневіча. Цікавы артыкул: крытык змог зразумець ува мне, у паэзіі, тое, што і сама я не заўсёды разумела. Каб з'явіўся артыкул гады два назад, пасля выхаду зборніка, пасля «Святочнага снегу», я на крылах бы лётала. А сёння... «Усё, што позна, — позна, хай спозніцца на міг...» Вершы заўсёды мяне апярэджваюць.

А Святлана... Нельга яе шкадаваць, нельга! Як і мяне. Гэта можа быць смяротным. Гэтага мы і чакаем, гэтаму і парадаваліся б, пракляўшы пасля... Словы дыктавала разуменне — таму гэта жорсткія словы. Я не ведаю, як, чым дапамагчы Святлане. І сабе. І ў гэтым справа. Пісала ёй — быццам пісала сабе.

**7 мая**

Якія мы ўсё-ткі залежныя ад прыроды. Ад яе сілы. Ад яе справядлівай дабрыні. Ад яе шчодрасці. Сонца — трава — лес — сонца! Мы — недзе між імі. Знайшоўшы — адчуўшы! — сваё месца, далучаешся да чагосьці велічнага, першаснага для сябе. Далучаешся міжволі, усведамляючы толькі цяпло сонечных промняў і пах зямлі — пах травы, прэлага леташняга лісця, першых клейкіх лісткоў, тонка-зялёнага павуціння голля — магутны пах зямлі, які пануе над усім.

**26 мая**

Тыдзень таму паклала на стол рэдактару заяву і з'ехала ў камандзіроўку. Каб супакоіцца, супакоіць балючыя думкі. Нічога ў выніку не атрымалася — з тымі ж думкамі вярнулася. Вольнае жыццё — гэта жыццё хатняй гаспадыні. З маім характарам? З маёй прагай жыць актыўна, жыць людзьмі і справай? Пасля ўсяго, што зроблена ў часопісе — для часопіса?

Рашэнне не знаходзіцца. І адно і другое кепска. Застацца без работы, аддаць часопіс? Не магу ўявіць, чым гэта абернецца... Працягваць працаваць, як раней, як змушана абставінамі (загнаная імі!)? Не хопіць сілы... Зрыў жа першы — адбыўся. Заява пададзена.

Пэўна, усё будзе залежаць ад маёй сустрэчы з рэдактарам. Што ж, пачакаю.

**6 ліпеня**

Здаецца, дні падоўгу топчуцца на адным месцы, а азірнешся — колькі тыдняў ужо мінула. І на працягу іх здарылася ні мала, ні многа — якраз гэтулькі, каб скласці пэўны прамежак жыцця. Пастулова перамагло ўсе астатнія адно шчаслівае пачуццё: я — жыву! Жывая! — і магу ўсміхацца, тужыць, без мэты блукаць між дрэў і думаць, што я шчаслівая, што ў мяне ёсць яшчэ шанец, што ёсць яшчэ час...

Лета падарыла мне паездку ў Казахстан, і нічым не змагу я аддзячыць, пэўна, яму. І лёсу свайму. Які быццам стаміўся ад маіх папрокаў і маленняў. Які адвярнуўся на колькі імгненняў, каб я змагла ступіць насустрач Сустрэчы. Аль... Прыдуманага каханага ў «Дзённіку...» я называла Лель... Вялікая самой сваёй неверагоднасцю рэальнасць! Разуменне — праз захапленне, злітнасць — праз цнатлівыя дотыкі рукі, радасць і боль — праз адчуванне разарванага сустрэчаю часу. На душу сышла жаданая ціхамірнасць. Баюся аднаго — яе зашмат для новага творчага ўздыму. Клічу вершы — і не хачу, упершыню не хачу, каб вершы засланілі, паглынулі згадкі. Клічу вершы...

**10 ліпеня**

Увесь час услухоўваюся ў цішыню ў сабе — такую глыбокую цішыню, што часам узнікае нават нейкі язычніцкі страх. Знешне нічога не змянілася (можа, толькі ўсміхаюся часцей), сустракаюся на рабоце і дома з тымі, з кім і раней, ранейшыя размовы і справы, ранейшыя тэлефонныя званкі і кнігі, — а ўва мне, глыбока ўва мне, адбываюцца (ці адбыліся) аграмаднейшыя змены. Ніколі, ніводнага разу не прымала я жыццё так спакойна і так радасна. Ніколі мне не было так спакойна і радасна з сабой (не важна — адна, сама я, ці сярод людзей). І гэта — вось гэта! — адгукаецца часам салодкім стра-

хам. Нібыта так не можа працягвацца доўга. Нібыта так менавіта расплачваецца са мной лёс...

Глупства, канешне! Апошні год быў той прыступкаю, якая адкрывала мяне, сённяшнюю, — ці мала перашкодаў і запонаў я пераадолела?! Год, два работы наперадзе — мая плата лёсу за падораны талент, за падоранае разуменне свайго наканавання. Галоўнае — не разменьвацца на дробязнае, не парушыць у сабе гэтай спакойнай упэўненасці. Г а л о ў н а е !

**21 ліпеня**

Гарачая хваля схлынула. «Брыдзе за ўспамінамі боль» — апошні радок «Незавершанага эцюда», усіх — сем... Бултыхаюся ў пустаце, спрабуючы давесці сэрцу, што сцяна сама па сабе не ўзнікае, што я не хачу і не буду яе выбудоўваць, што шлях можа павярнуць, куды схоча. Куды схоча — апроч назад...

Слухаю Ліста. Яго «Санату сі-мінор». Глушу сваё. І не магу пазбавіцца ад адчування, што і ў санаце — маё. Маё імкненне адштурхнуцца ад Зямлі, ад сябе і ўзняцца над днямі, над часам. Маё балючае жаданне апраўдацца за ўсё зямное, грахоўнае ў сабе. Мая прага гэтага зямнога, грахоўнага. Мая прага чысціні...

Музыка адгучыць і — слухаю сябе. Ціканне гадзінніка, як трывожны напамін пра час — пра міну, даўно, хоць і невядома кім, падкладзеную пад увесь мой спакой.

Вершы, астылыя, ужо амаль чужыя, адштурхоўваюць... Зноў і зноў — тупы боль у сэрцы...

**22 ліпеня**

Упершыню мяне, маю руку, мой розум скарысталі так адкрыта, так нахабна — артыкул, напісаны для «Литературки», апрацаваны (нават не аддзелам — вышэй) так, як спатрэбілася газеце. Першае, што хацела, і павінна была, зрабіць — зняць артыкул з нумара. Утрымаў адчай Галі Грыбоўскай (люблю яе), і яшчэ маланкавая думка: позна! З паласы маглі ўжо і не зняць (майго аўтарытэту папросту не хапіла б!), маё ж становішча стала б у такім выпадку яшчэ больш недарэчным: ні выніку, ні магчымасці супрацоўніцтва надалей...

Яшчэ адзін урок. І жорсткі ўрок! Замест артыкула — каркас, калі проста праглядваецца пазіцыя (хай сабе і мая!), замест стылёвай адметнасці — глыбока акцэнтаваная перакананасць... Д'ябал мяне не ўтрымаў! Адчаю няма. Толькі злосць. Злосць ад уласнага бяссілля, ад немагчымасці штосьці змяніць. Як я там запісвала? Шлях можа павярнуць, куды схоча. Куды схоча — апроч назад...

**26 ліпеня**

Памёр Караткевіч. Я не ведаю, ці быў ён шчаслівы, — ён быў хворы. Найперш, талентам сваім хворы — усё чэрпаў з душы: і радасць натхнення, і тугу незадаволенасці, і сілу для барацьбы. Сілы хапіла б! — не вытрымаў арганізм, гэтая кволая, крохкая абалонка вялікай сваімі памкненнямі душы. Яго вялікай душы.

Божа літасцівы, хіба гэта суцяшэнне, што ён быў і павек застанецца адным з тых, хто з'яўляецца сумленнем нацыі? Хіба гэта апраўданне таго, што ён жыў і памёр глыбока адзінокім — не пакінутым, але абыдзеным намі?

Ненавіджу ў сабе жанчыну! Ненавіджу, бо менавіта гэта заўсёды стаяла паміж мной і сяброўствам, паміж тым, што я магла даць, і тым, чаго ад мяне міжволі чакалі — і тым адштурхоўвалі. Колькі разоў хацела я пазваніць Уладзіміру, прыйсці, прыехаць, каб сказаць яму, як я люблю яго, як

ганаруся ім, прыйсці, каб у нечым дапамагчы, каб штосьці ўзяць на сябе! І кожны раз спыняла думка: што ён падумае? што падумаюць усе астатнія? Нікчэмная думка! Нікчэмная адно тым, што спрадвек прыкрывала кімсьці выдуманы маральны пастулат — своеасаблівую гульню. Самае ж гнюснае, што — гульню.

Усё адступіла. Усё — здаецца дробязным. Памёр Уладзімір Караткевіч.

**28 ліпеня**

Боль саступіў нейкай зацятай злосці. Злосці на хворы бездухоўнасцю час. Злосці на сябе, на сваё бяссілле перад часам і людзьмі. Штосьці ж ёсць, штосьці ж дадзена, а раблю — мала. Проста недаравальна мала. «А цяпер... Цяпер жывём з патрэбы то жыццю, то смерці дагаджаць». Гэта — і пра сябе. Найперш — пра сябе. Разуменне ніяк не стане той сілай, якая ўзломіць звыклы спакой, якая зрушыць думку — у глыбіні, у самым маім зрушыць. Ад таго і кволы, бездапаможны радок, ад таго і гэтыя бясконцыя прастоі, запоўненыя тугою невядома па чым.

Ну, умелі ж калісьці кахаць і апяваць каханне! Гадамі. Праз усё жыццё. Умелі ж бачыць у непрагляднай цемры агеньчык, святло, на якое выходзіў шлях! І не толькі бачыць, не толькі ісці на яго, але і іншых за сабой весці...

Злосць трымаецца. Я нават рада ёй. Бо стамілася блукаць сярод згадак, то пазнаючы, то не пазнаючы пражытыя некалі імгненні. Кожны дзень паглыбляе бездань, кожны дзень вымагае працы па аднаўленні моста ў тыя далёкія дні, калі я ўпершыню ў жыцці адчувала сябе шчаслівай. Урэшце я сама спалю гэты мост адчаем. Спалю, калі не будзе чым надбудоўваць...

Так, я рада злосці. Больш! — хацела б, каб яна ўскіпела, апёкшы, апаліўшы гэты затхлы спакой, які ўжо млосцю абзываецца ў страўніку. Не хачу здавацца. Не хачу адступіцца ад сябе ранейшай — іду да сябе той, якой буду заўтра. Буду!

**29 ліпеня**

Ніколі не была аматаркаю багемы. Цяпер — болей як ніколі. Жыву працаю — упэўненасцю ў тым, што раблю вартае штосьці. І ўчарашні вечар (цэлая хата сяброў) адгукаецца расчараваннем. Нават не расчараваннем — неразуменнем тых, каго, здавалася б, заўсёды разумела, і сябе — разгубленай перад сваім адкрытым непрыняццем гэтага вечара, гэтага застолля. Непрыняцце не знікае, расце. І гэта непрыемна.

Вечнае: ці прымаю чалавека — ці не прымаю. І тады — сцяна. Сцяна паміж намі, якую нічым не зрушыць...

Недаравальна зацягнула работу над артыкулам пра Вашчанку: шкада адступіцца ад вершаў, боязна ад таго, што не змагу іх потым вярнуць. Пакуль жа яны — засланяюць усё. Засланяюць часам нават згадкі. «Лёс — адбыўся. Цуд — не адбыўся...» Так? Не ведаю. Што ж тады святлом калыхаецца глыбока ўва мне, саграваючы ці закоўваючы ў холад незнаёма лёгкія словы? Што? Я абавязкова павінна гэта зразумець.

**30 ліпеня**

Не трэба мне нічога разумець. Нічога — з таго, што адбываецца ўва мне. Ведай я хоць адну малітву, прачытала б яе (на ўсякі выпадак!) за тое, каб не жадаць больш таго, што ёсць, што трэба толькі захаваць — пранесці праз усё жыццё. Добра пішацца. Сёння — паўтары старонкі пра Вашчанку. Знайшла, нарэшце, ключ. О, ужо гэтыя ключы! Пакуль не знойдзецца, нічога не магу асвятліць у душы, ніводнае думкі.

Магчыма, вечарам скончу артыкул. Скарыстала нават сёе-тое з дзённікавых запісаў. Там, дзе пра нацыянальную адметнасць. Хоць бы не

падалося каму ў «ЛіМе», што занадта востра разважаю. Ну, ды справа, урэшце, не ва ўспрыманні рэдактурай, а ў маёй упэўненасці, што сказала ўсё, што на гэты момант магла сказаць — мела сказаць. Занадта шмат азначае творчасць Вашчанкі, яго асоба, не адно ў творчым жыцці рэспублікі, а і ў маёй творчасці, і ў маім жыцці.

**2 жніўня**

Здаецца, ужо адчуваю, як пустата паціху запаўняе душу. Скончыўся запас голасу — ні радасці, ні пакуты не збудзіць. Той момант, калі б павінны ўмяшацца знешнія сілы... Але якія сілы? «Час, лёгка растваральны ў масе, адступіўся ж — вакол імгла...»

Той узровень адносін, які для мяне адзіна прымальны зараз, немагчымы для многіх, з кім даводзіцца мець справу, гутарыць. Таму, практычна, адмовілася ад усіх сустрэч і гаворак. Адна. Сама з сабой. А з сябе — усё вычарпала.

Збіралася на які дзень у Маскву. Перамовілася па тэлефоне з Галяй — кажа, не варта пакуль. Усе раз'язджаюцца, а ў калідорах рэдакцыі ўсё яшчэ стаіць тлум, выкліканы маім артыкулам. Ад званкоў зверху да калідорных інтрыг (раптам я чыё-небудзь месца хачу заняць!). Божа мой, калі мы перастанем дзяліць месца пад сонцам і навучымся слухаць адзін аднаго?

Здэцца, пустата душыць мяне, паціху запаўняючы душу. І чым больш я праціўлюся, тым больш грузну ў ёй. Чарговы прыліў змые ўсё, на чым спрабую трымацца...

**3 жніўня**

Мне ўсё цяжэй з людзьмі. Часам проста невыносна. Добра разумею, што ўсіх трэба прымаць такімі, якія ёсць (здаўна ж гэта сцвярджаю!), а не магу. Цяпер — не магу. Магу ўсё радзей. А як — адной?! Нават дома адчуваю сябе адчужанай, незразуметай і пакінутай, хоць дыктую адносіны ў сям'і я...

Рэдкае шчасце — духоўная роднасць, рэдкія хвіліны жыцця... Былі ж такія хвіліны, былі! Хворая ад таго, што, адчуўшы, адчуваючы такую пустату, такое глыбокае духоўнае адзіноцтва, як цяпер, нельга вярнуць, вымаліць у лёсу колькі такіх хвілін. Каб зглынуць балючы камяк у горле. Каб развінуць плечы і раз'ясніць думкі.

Праўда і тое, што ўсё радзей магу я зрабіць сустрэчны крок, — замыкаюся ў сабе, не пакідаючы нават невялікай шчыліны. Ні для кога не пакідаючы. Можа, таму ў вершах такая аголеная праўда пачуцця, сэрца... Усё — у сабе. Усё — словам! Інакш ужо не здолець. Работа паглынае ўсё — усю мяне, ні на што не застаецца ні часу, ні сілы.

**8 жніўня**

І ўсё-ткі — вершы! Няроўныя, след у след за маёй душою. Часам я фізічна адчуваю ўсю тую тоўшчу змроку і адчаю, праз якія яны прадзіраюцца. Змрок, адчай... Менавіта знешнія перашкоды. Бо ў душы ранейшая ціхамірнасць: глыбокая цішыня пануе ў ёй, глыбокая, як смутак. Здаецца, былое смуткуе па мне больш, чым я па ім... Нейкім дзесятым пачуццём адпіхваю згадкі, іх залітыя святлом астраўкі, што кружацца і кружацца вакол. А яны зноў вяртаюцца, складваючыся ў словы, у шчымлівыя радкі. Я павінна была б быць шчасліваю, а чамусьці не магу. Можа, проста не ўмею.

**10 жніўня**

«Утоли мою душу! (Нельзя, не коснувшись уст, утолить нашу душу!)...» Цвятаева. Яе палкае, нястрымнае ў слове парыванне — прарыванне! — да сябе. Да той сябе, якая ёсць, — гордай, дужай і — незразуметай... Не, пра не-

разуменне, незразуметасць я дарэмна... Усе разумелі, хто — побач. Шмат хто адчуваў, якая гэта — асоба, якая — душа. Справа ў іншым. У ненабліжэнні. У боязі — ці хутчэй, немагчымасці! — набліжэння, калі нават самы просты інстынкт самазахавання трымае воддаль. Калі трэба раз-пораз сціраць са скуры апёкі.

Не, не ў разуменні справа. Хіба цяжка, часам непераносна, ад таго, што цябе не разумеюць, што тваё — не разумеюць і не прымаюць? О т с т р а н я ю т с я! Дакладнае рускае слова. Адчуўшы гэта, марна чапляцца душой — праз слова, праз позірк, праз дотык. Марна. І вельмі балюча: неўразуметы страх, боль ад твайго набліжэння вяртаецца да цябе, б'е па табе ж. З гэтым ніяк не можаш пагадзіцца, і ўсё ж адступаеш на крок назад, ашчаджаючы сябра, блізкага чалавека, незнаёмца. Замыкаючы ў гэтым адступленні — у адзіноцтве! — сябе.

«Наталі маю душу!» — да каго звернуты вокліч? Да каханага? Да Бога?

О, гэта пустата, пустыня вакол! Нават самыя блізкія — за. За мяжою крыку. За рысаю магчымых зносін. Рэха твайго голасу зрэдку дакочваецца да людзей, трывожачы іх, — і тады ў тэлефоннай трубцы бадзёра-адчужана патрэсквае: «Трымайся! Будзь мужнай!» Быццам гэта не мужнасць — так жыць! Быццам трымае — мужнасць...

**15 жніўня**

Цэхавая прыналежнасць... Пачуццё цэхавай прыналежнасці... Падсвядома яно заўсёды прысутнічае, больш! — дыктуе паводзіны і ўчынкі, забараняючы ісці ў адносінах з іншымі далей нязгоды, далей непрымання. Валодзя Н. мае рацыю. Па шчырасці, ён здзівіў мяне ўчора: гэткай унутранай свабоды, раскаванасці — пры адсутнасці гульні, уласцівай яму, — раней у ім не было. Не заўважалася... Гаворку не сапсавала нават сяброўка, у якой мы былі ў гасцях.

Як мы ссумаваліся ўсе па такіх гаворках! — шчырых, зацікаўленых, добразычлівых, — пры ўсёй іх няроўнасці, усплёскавасці, нават нервознасці. Чыста прафесійныя праблемы, болькі, асцюкі... Іх не абмінеш, і не вырашыш сам з сабой. Кола равеснікаў, кола аднадумцаў — неабходная ўмова руху. Руху думкі. Руху пошуку. Руху слова...

І што б там ні гаварыла крытыка, што б ні сцвярджала, пакаленне наша паэтычнае склалася — і гэта цікавае паэтычнае пакаленне!

**19 жніўня**

Усё часцей застаюся сам-насам з музыкаю. Як сам-насам з сабой. Потым доўга балюча ўздрыгваюць кончыкі пальцаў, нібыта напружанне душы, павольна спадаючы, сцякае праз іх — па іх! — у прастору. Шостая сімфонія Шастаковіча... Спроба вырвацца з-пад прыгнёту дум, спроба, адпусціўшы душу, сачыць за яе палётам — за яе няўмелымі памкненнямі зліцца з вышынёю. Жаданая магчымасць — і немагчымасць! — адарвацца ад зямнога, ад самой сябе, ад свайго мінулага. Колькі шчымлівай тугі ў светлых, урачыстых гэтай светласцю, гуках!

Не магу вызваліцца з палону музыкі — ды і не хачу! Мне цяжка з людзьмі. І з сябрамі... Я не магу дзяліць, рваць на кавалкі душу — душа даўно ад мяне не залежыць. Адно то з тугой, то з зайздрасцю (!) нават, сачу за ёй, за яе няўмелымі памкненнямі зліцца з вышынёю: ні дапамагчы, ні перашкодзіць...

Што я магу? Сачыць. Спрабаваць занатаваць яе рухі. Спрабаваць прымаць і яе волю, і яе скаванасць. Рабіць сваімі і яе радасць, і яе пакуту. Магчыма, гэта і азначае — пісаць. І марна імкнуцца растлумачыць гэта. Тым больш — растлумачваць штодня. Сабе ці каму б там ні было.

**20 жніўня**

І ўсё ж, мастацтва нам дадзена, каб уратавацца ад праўды. Ад аголенасці праўды, яе балючай аголенасці. Хай гучыць музыка, хай гучаць фарбы і словы! Гэта — мова душы, мова нашае неўміручасці.

Каб не была я ўпэўнена ў тым, што б я зрабіла? Што — напісала? Таму і не прымаю шчымліва-балючае: каму гэта трэба? Мне, найперш. І кожнаму. Усім. Творчасць — любая! — вышэйшая праява асобы ў чалавеку. Хай будзе так вечна!

**25 жніўня**

Дзіўнае маўчанне вакол «Песень...» Нават калі дакладна прачытаныя — толькі дзіўныя (ледзь не баязлівыя) позіркі ў мой бок. Пэўна ж, мне не патрэбна ацэнка. Гэта той выпадак, калі я ведаю вартасць зробленага. І ўсё ж... Замаўчана апошняя кніга. Замаўчана паэма «Рагнеда». Пад тоўшчай гадоў — «Мы родам з вайны». Маўчанне — вакол песень... Не тое што азлабляюся супраць «власть имущих» геніяльных «хлопчыкаў і мужоў» — адчужаюся: бездань паміж мною і літаратурным асяроддзем паглыбляецца і запоўнена балючым сумам.

Што мне не могуць даравацъ? Непадобнасць ні на аднаго «настаўніка»? Няўрымслівасць характару? Непадкупнасць? Розум, які, на думку большасці, не патрэбен жанчыне і «нават шкодзіць»? Што?

Пытаюся, нібыта, зразумей я гэта, я зрабіла б крок — насустрач, крок — ад сябе.

Ды і не гэта найбольш хвалюе. Літаратурнае асяроддзе — пэўная ўмоўнасць. І не барацьба ідзе ў ім (як наіўна думае Рая) — о, калі б барацьба! — а гульня ў паддаўкі: аглушаць — і схаваюцца за спінаю натоўпу, балюча штурхануць — і радасна ўсміхаюцца насустрач... Апроч гідлівасці, нічога гэта гульня ў мяне не выклікае. Я — не паварочваюся на штуршкі і на ўдары. Покуль хопіць сілы — не павярнуся.

Хвалюе — відочная марнасць намаганняў: мова — працягвае вымiраць, паэзія — не знаходзіць водгуку, духоўнасць — губляе свой статус... Гэтага хапіла б на некалькі стагоддзяў — падступайся і шчыруй! Дык не. Усё дзеляць, дзеляць дзялянкі, здрабняючы не адно сваю душу, а і самую справу, што павінна быць для кожнага святой.

Пэўна ж, і я раблю не ўсё, што магла б, што павінна. Але калі знаю, што магу нешта зрабіць, калі знаю, як зрабіць, — раблю. Імкнуся... Нават завастраю ўвагу, рэакцыю тых, хто пачуе, прачытае, — толькі б хоць неяк адгукнулася! Толькі б хоць неяк адрэагавалі...

Вакол жа — маўчанне. Можа, не так гавару? Не так пішу?

**29 жніўня**

Знешні рад — любы! — заўсёды застаецца чужым (ці я — яму чужая?): я то балюча разбіваюся аб абставіны, то лёгка абмінаю іх. І — ніколі! — не спрабую падпарадкаваць іх сваёй волі, паставіць сабе на службу. Усё, што тычыцца практычнай дзейнасці, практычных крокаў, — перастае мяне цікавіць раней, чым я зраблю першы крок. Тут бы я прыняла чужую волю — ды няма гэтай чужой волі, няма апоры. Ні ў жыцці. Ні ў каханні.

Я ўжо гатова прызнаць: жыццё заўсёды будзе выходзіць пераможцам...

**31 жніўня**

Вельмі па-рознаму ў розных выпадках стаўлюся да жанчын. Ад захаплення да нянавісці ўсяго «бабскага» ў нас — прагал немалы. І ўсё ж, ад прыняцця да непрыняцця — часам нават не крок, а рух адзін.

Вечнае высвятленне адносін, вечная рэўнасць да чужога поспеху, да чужога шчасця, да чужога дабрабыту... Адхрышчваюся ад гэтага ўсяго, спра-

бую пераканаць сваіх «сясцёр» у марнасці, у нікчэмнасці падобных хваляванняў і высвятленняў — амаль не дапамагае. Можа, і я да канца гэтага не пазбавілася, ды не магу і не хачу я быць уцягнутай у кола гэткіх сустрэч і гэткіх размоў. Тады — ніякіх не трэба. Ні сустрэч. Ні гаворак.

Шкада, што нельга адгарадзіцца ад жыцця хоць бы на нейкі час: міжволі сутыкаешся з людзьмі, мусіш нешта казаць у адказ на няхітрыя прызнанні, міжволі глытаеш зусім непатрэбную інфармацыю пра зносіны і адносіны не цікавых табе знаёмцаў альбо незнаёмцаў. Ды шкадаваннем тут не дапаможаш. А абарваць усе повязі з жыццём, з людзьмі не магу. Не стае пакуль што ні сілы, ні адвагі.

**4 верасня**.

Слухала Другі канцэрт для фартэпіяна з аркестрам Сяргея Рахманінава. Якая страсная музыка! Зноў адчуваю, што словы бяссільныя перад гэткай стыхіяй пачуцця, — занадта яны вывераныя. Ледзь пачынаеш згушчаць іх паток, іх рух, як адразу ж з усіх бакоў сіпенне: незразумела... ускладнёна... зноў зашыфроўвае... Ну, нельга ж са стагоддзя ў стагоддзе пераносіць некранутымі нават самыя лепшыя ўзоры паэзіі! Словы — тыя ж, але пачуцці — іншыя. Духоўны вопыт іншы!

І справа тут не ў часе, не ў чыіхсьці патрабаваннях, не ў кімсьці збоку. У нас саміх. Ува мне. Баюся я выпусціць усіх дэманаў з душы, загадзя рэакцыю крытыкі, чытачоў — хай сабе і падсвядома, але ўлічваю. Мушу лічыцца, і тым здраджваю — у галоўным — сабе. Ведаю, як — правільна, і міжволі падганяю ўсё — думкі, словы, канцэпцыі — пад гэтае «правільна». І гэта, па самым высокім рахунку — не мастацтва.

Занадта жорстка суджу? Можа, і занадта. Ды што ж зноў і зноў, бунтуючы супраць правіл, законаў прыгожага пісьменства, не прымаючы іх, — скараюся ім? Зноў і зноў скараюся? Не прапанаваўшы — не сцвердзіўшы!— нічога свайго, ісцінна свайго. А ў мастацтве — у паэзіі — важна якраз гэта. Адно толькі гэта.

Нават вывераныя, застылыя словы могуць перадаць страсць, адчай, імкненне — калі надзяляць іх уласцівасцямі душы. Як? Але ж спрадвек — кожны сам! — шукае адказ на гэтае «як». І ў чый лёс ні зазірні, чый вопыт ні вывучай, адказ — толькі ў табе! Калі ёсць ён, адказ...

Расце нязгода з сабой. Што я хачу пачуць, слухаючы музыку?

**7 верасня**

«Айцец Сергій» Талстога. За Сергіем — праз яго — Талстой. Магутнае імкненне да волі, патрэбнай — неабходнай! — духу, душы. Не з бліжнім сваім змагаецца — не са спакусамі нават — з самім Госпадам Богам. З Богам — над усімі, і з Богам — у сабе.

Сіла сумнення такая магутная, што перамагае самае, здавалася б, неабвержнае. І сіла гэтая — ад шчырасці.

Колькі разоў перачытвала Талстога, упершыню — разуменне, што ён не проста знаходзіў (ствараў!) вобразы, лёсы, ён знаходзіў тыя вобразы, праз якія выяўляў сваё — сябе. Не палохаючыся нават самага грахоўнага ў сабе (значыцца, і ў іншых!), самага балючага. Не прыхарошваючы ніводнае сумненне, не зажыўляючы ніводнае болькі. «Навошта — я? Што — я?» — вось тое галоўнае, што спрабуе ўразумець кожны (кожны!) герой Талстога, што хоча ўразумець ён сам.

«Навошта — я? Што — я?» — агульнае для кожнага «я», выяўленае ва ўсіх нас па-рознаму, з рознай сілаю. Чым большая бездань паміж мной і светам, мной і векам, тым больш глыбока пройдзе зрэз, тым больш балюча закране ён самае маё? Не ведаю. Пакутна шукаю адказ. Часам, здаецца, і намацваю якуюсьці нітачку, жывінку, — і зноў губляю...

**29 верасня**

Аповесць рухаецца павольна. Другі дзень адпачываю — чытаю. Хачу, каб пацягнула да паперы — да слоў. Чытаю, дакладней, перачытваю публіцыстыку Хемінгуэя.

«Для сур'ёзнага аўтара адзінымі сапернікамі з'яўляюцца тыя пісьменнікі мінулага, якіх ён прызнае...» Думаю над гэтымі яго словамі. З гэтых слоў сыходзіць і сяброўка, якая, як цвікі, убівае ў мяне свае парады, практычна не чытаючы, не ўчытаўшыся ў тое, што я пішу. Новае, па-новаму... Бясспрэчна, гэта і ёсць задача. Але ж паставіць яе, гэту задачу, ведаць яе — не азначае вырашыць.

Тое, што на пачатку работы над кнігаю здавалася знаходкай — знойдзенай формаю, нават пэўнай стылёвай азнакаю, сёння здаецца занадта простым, нават спрошчаным вырашэннем: не паўстае за сказаным панарама жыцця, панарама часу. Магчыма, у аповесці і не можа «прайсці» панарама — жанр скоўвае! — ды ад думкі, што трэба капаць глыбей і знайсці іншыя выяўленчыя сродкі, вызваліцца ўжо не магу. «Адно на ўсіх жыццё» — назва ёмістая, але таму яна і абавязвае...

**20 кастрычніка**

Аповесць набліжаецца да адзнакі дзесяць аркушаў... Аркуш, два — і можна будзе зірнуць на выбудаваную карціну. Адчуваецца, што стамілася. Не хочацца перапыняцца, і ўсё-ткі вымушана: не хапае дыхання, пачынаю задыхацца. Трэба зрабіць колькі глыткоў — глынуць чыстага паветра і волі.

**22 кастрычніка**

Музыка займае ўсё больш месца ў маім жыцці — тым жыцці, якое складаюць дні адпачынку. Часам нават дзень пачынаю: стаўлю пласцінку з запісам Пятага канцэрта Бетховена — душа настройваецца на ўзвышанае, духоўнае...

Дзіўна: пішу, апісваю, здавалася б, вельмі жыццёвыя карціны, дзе нават само слова «духоўнае» прагучала б фальшыва, а настройка — проста-такі неабходная. Кожную вольную хвіліну аддаю музыцы, музыка дапамагае адолець стому, стомленасць ад слоў, слоў, слоў... Яна — неабходная ўмова работы, надае ёй нейкі іншы сэнс. Больш выразны, ці што...

**12 лістапада**

«Хрысціянская мараль, — запісваў Элюар у «Старых думках наноў», — з якой часта (варта ў гэтым, да нашага сораму і адчаю, прызнацца) спрэчка далёка не завершана, з'яўляецца галерай. Супраць яе паўстаюць усе запатрабаванні цела, надзеленага ўяўленнем. Колькі яшчэ спатрэбіцца гарлапаніць, шалець, стагнаць, перш чым творы любові зноў стануць творамі лёгкасці, свабоды?»

Ці стануць?

Шмат чаго перачытала, шмат перадумала, працуючы над артыкулам пра паэзію Валодзі Н. Даўно хацела пра яго напісаць, а напісала, перачытала — зноў роздум... Роздум над кнігамі, а не крытычны разбор напісанага... Не перастаю здзіўляцца, калі пра мяне гавораць як пра крытыка — няма ў мяне крытычнай стрункі. Усё напісанае (кніга была б ладная, аркушаў дванаццаць) — гэта менавіта думкі з нагоды, роздум над прачытаным. Разбіраць напісанае — кім бы там ні было! — мне нецікава. І, хутчэй за ўсё, — нікому не патрэбна.

А мараль — што ж? Праўда тады праўда, калі — уся. А як сказаць усё? Якімі словамі? Таму і паставіла пытальнік, працытаваўшы Элюара. Ці стануць?

**24 лістапада**

Некалькі дзён, як вольная ад аповесці. Паставіла кропку. Работы над ёй — яшчэ, магчыма, больш, чым зроблена: зроблена ж «прапіска» сюжэта. Адно гэта. Ды і тут не да канца пазбавілася сумненняў. Замкнула кам-

пазіцыю адными суткамі, практычна, і ў іх, праз іх — ледзь не чвэрць стагоддзя. У іх — праз іх — станаўленне герояў. Пачала перачытваць і адклала рукапіс. Няхай адляжыцца. За гэты час да нечага прыйду — магчыма, змагу зірнуць на твор па-іншаму, па-новаму, усвядоміць, што — напісала.

**25 лістапада**

Усё-ткі не наблізілася ў прозе да самага свайго. У напісанай аповесці — толькі маленькая частачка адной праблемы: чалавечае «я» ў судакрананні з «ты» і з іншымі. Нібыта і трагічныя што пачатак, што канец, а трагедыі не атрымалася. Разважаю: чаму? Таму што ў жыцці — у звычайным жыцці — нават вялікае гора не ўспрымаецца трагічна, як трагедыя. У пераважнай большасці выпадкаў гэта так і ёсць... Ці таму, што не знайшла патрэбны зрэз, патрэбную афарбоўку?

Хоць не. Урэшце, я і не збіралася пісаць трагедыю. Урэшце, для мяне (у гэтай аповесці) самае трагічнае не смерць: мае героі маглі загінуць яшчэ ў час вайны! Самае трагічнае: кожны з іх пакутна разважае, дзеля чаго ён жыве — пражыў і, па сутнасці, не ўсведамляе, дзеля чаго. А кожны ж з іх жыве далёка не бязмэтна, далёка не бяздзейсна: Ніна, адгукаючыся на чужы боль, спрабуе яго аблегчыць і амаль заўсёды аблегчвае, яна — нянечка, у значэнні — нянька. У лепшым значэнні гэтага слова. Павэлак жыве дзеля Ніны, якую пакахаў, якую ўсё сваё жыццё (у аповесці) ратуе для ж ы ц ц я — гэта своеасаблівы душэўны подзвіг. Забівае яго не Нініна адчужанасць, як можа, на першы погляд, уявіцца, а — усведамленне сваёй віны перад мінулым: каханне да Ніны засланіла ад яго не толькі Сцяпана, якому ён пажадаў смерці, але і Фросю, Фросіна каханне, Фросіну смерць. Павэлак апраўдвае сябе чыста вонкава, адным краем свядомасці, — з гэткім грузам віны жыць ён не можа.

Не ведаю, ці апраўданы той кароткі прамежак, які я бяру (адны суткі) чыста псіхалагічна, па характарах герояў — канец аповесці апраўданы. У той дзень, у той момант, калі Нініна душа прачынаецца для жыцця, душа Павэлка, быццам пераліўшы сваю сілу ў Нініну душу, памірае, гіне. Гэта — псіхалагічна апраўдана.

Перш чым падступлюся ў думках да наступнай працы, трэба зрабіць крок — да сябе. Да глыбінна свайго. Пра што я — не магу не сказаць.

У аповесці «Жыццё ва ўсіх аднолькавае» — зноў вяртаюся да яе! — унутраная работа яшчэ не завершана: мала разважанняў пра жыццё, пра час. Ёсць, хоць і запаволенае, дзеянне, ёсць малюнкі, ёсць гутаркі, а вось развагі — філасофіі — мала. Не ведаю, ці так ужо гэта кепска, але чамусьці непакоіць...

Адляжыцца рукапіс — перагледжу яго менавіта з гэтага пункту гледжання: матэрыял аповесці дае падобную мажлівасць.

**26 лістапада**

Слухалі ўчора эстонскі ансамбль старажытнай музыкі пад кіраўніцтвам Андрэса Мустанена. У праграме — творы Вівальдзі, Баккарыні. Слухала з рэдкай асалодаю: умелі старыя майстры перадаваць харaство жыцця, чалавека і яго пачуццяў праз гармонію гукаў — у гармоніі з Сусветам. Думаю, яны верылі, што чалавек заслугоўвае вечнасці, што душа яго павінна ачышчацца ад усяго цёмнага і балючага ў ёй, каб наблізіцца да неба. Да неба не ў значэнні «раю», а ў значэнні — вышыні, духоўнага ўздыму, духоўнага прасвятлення. Таму столькі светлай радасці ў адных, і столькі імклівай сілы пераадолення і ўзлёту — у другіх.

Думаю, нам, нашаму часу не хапае і гэтай веры, і гэтага імкнення да гармоніі, да гарманічнага спалучэння будзённай працы і святочнай мары, памкнення ачышчацца ад усяго цёмнага і балючага ў душы, каб наблізіцца да неба. Чалавек капаецца ў дарах і смецці прагрэсу — і літаратура, і мастацт-

ва калупаюцца ў дробных, будзённых, жабрацкіх, калі мецьна ўвазе духоўнасць, клопатах і памкненнях чалавека. Не таму, што смецця ў наш час больш, чым у любы іншы, не. Смецця заўжды хапала. Хапала і тых, хто ў ім капаўся. Але раней — класікі — нават паказваючы т а к о г а чалавека, верылі — і ўсіх прымушалі верыць! — у іншае прадвызначэнне яго, чалавека вось гэтага, вось гэткага.

А мы сёння... Страсці паступова выцеснілі душэўную муку, роздум. Знешнія атрыбуты сучаснасці выцеснілі страсць... Вось і капаемся ў быце, у побыце, не верачы ў самую вечнасць, не тое што ў чалавека, вартага вечнасці.

Горкія разважанні. Хай сабе і не перакананні — сумненні (замест кропак можна паставіць пытальнікі), але гэта горкія сумненні. Той, хто бярэцца за пяро або за пэндзаль, павінен бачыць далей, чым за крок ад сябе, дзе якраз і знаходзіцца кучка дароў (або смецця) прагрэсу. Неабвержная выснова!

А крышачку адступіць ад гэтых маіх разважанняў — і зноў гучыць музыка. Скрыпка і віяланчэль — два балючыя галасы душы...

**2 снежня**

Прастуда ўсё-ткі перамагла мяне, маю волю. Другі дзень у пасцелі: ватнае цела, ватныя думкі, цяжкая, як налітая свінцом, галава.

Спрабавала прачытаць і прачытала (заўтра трэба вярнуць кнігу) раман-казку Анатоля Кіма «Белка». Яна не ўразіла так, як чакалася, — мажліва, у такім стане не варта было чытаць. Але іншых дзён у мяне няма — чытала. Знайшла шмат сугучнага свайму — сваім збалелым думкам аб недасканаласці свету і чалавека і той бездухоўнасці, якая пагражала і ўсё яшчэ пагражае нам. «Мы» — самае непераканаўчае ў рамане Кіма...

Чаму? Ён здолеў разгледзець свайго сучасніка. Разгледзець і паказаць. І казачнага — у кнізе — анічога, апроч самога прыёму. Удала выбраны прыём, удала выбраная і туга нацягнутая канва сюжэту далі яму магчымасць стварыць хай сабе і нешырокую, але панараму сучаснага жыцця, сучаснага свету. «Мы», у якое пісьменнік укладвае сваю веру ў будучыню, у новага чалавека — занадта абстрактнае на фоне выразна, па-майстэрску выпісаных жыццёвых карцін. Абстракцыя не можа перамагчы рэальнасць. Ні ў жыцці, ні ў мастацтве.

А разважанні ёсць смелыя. Цікавыя. Страшныя.

«Ты не смог приспособиться к человеческой жизни... поэтому ты подошел вплотную к краю бездны, осталось только свалиться туда. Но есть обратный ход, — в горе, отчаянии и ужасе своем человек не раз пользовался им... Это решимость Каина, которому дольше жить, чем Авелю. Но не обязательно убивать своего брата, достаточно просто убить человека. И не обязательно другого — а хотя бы человека в самом себе, отречься, отказаться, уничтожить все то, что потихоньку преображало тебя из неразумного животного в духовное существо...»

«Тиран — это прежде всего обыватель, правда, весьма крупный и злобный по сравнению с остальными...»

«Грустя о несбыточном совершенстве, надо стойко и неустанно работать для накопления всеобщей энергии добра».

Апошняя думка, якая завяршае кнігу, супрацьпастаўлена дзвюм іншым, на якіх пабудавана ўся кніга, таму — непераканаўчая. Яна нібыта сама па сабе. Для таго, каб прагучала хоць адна аптымістычная нота.

А ўвогуле, найбольш уражвае тое, што Кім знайшоў форму, якая лунае ў паветры, пра што неаднойчы задумваўся кожны, хто не хоча захлынуцца ў патоку жыцця.

**3 снежня**

Зварот да гісторыі, зварот да мінулай вайны... Мне думаецца, гэта не выпадкова — для кожнага. І ў літаратуры, і ў мастацтве. Большая частка

інтэлігенцыі сёння прыняла ўзровень абываценя — на ім, на гэтым узроўні, жыве і працуе. Тыя ж, хто не прынялі, не прымаюць — і спрабуюць выкарасакацца (не ўзляцець!), у пошуку духоўнай апоры звяртаюцца да мінулага. Гэта зразумела. Гэта апраўдана. Гэта, у нейкай ступені, — выйсце...

І ўсё ж... І ўсё ж, ёсць і аграмаднейшае сумненне: хто ў такім разе павінен сказаць пра н а ш час? Ці не ўцёкі гэта ад сучаснасці, ад свайго часу — не жаданне гаварыць з ім і аб ім? Як, па чым будуць меркаваць пра нас нашчадкі?

Балючыя пытанні. Яны ўвесь час вяртаюцца. Яны не могуць не трывожыць. Адказу ж пакуль што не знаходжу.

Не проста пэўны прамежак працы, не проста пэўная мяжа паміж тым, што разумееш, і тым, што можаш, а — бездань. Не толькі мужнасці, а і сілы павінна хапіць, каб ступіць — і не ўпасці, а ўзляцець. Мужнасці таленту. Сілы таленту.... О, каб разуменне магло абярнуцца тым рашаючым крокам! Няхай сабе і апошнім, але рашаючым...

**4 снежня**

Спрабую пераадолець хваробу, пераадолець змогу і як не пісаць, дык хоць разважаць. Перагледзела, перачытала кнігу пра Бурдзеля. Знайшла своеасаблівы пачатак рамана Кіма «Белка» — скульптуру «Кентаўр паміраe»... А вось і думкі, якія выклікала гэта скульптура ў мастацтвазнаўцаў: «Барацьба двух пачаткаў, існуючых у чалавеку, ярка выяўлена тут сродкамі пластыкі: нібыта не вытрымаўшы гэтай вечнай барацьбы, кентаўр гіне». «Ці не ўяўляўся Бурдзель самому сабе гэтаксама кентаўрам, які паміраe апошнім рыцарам пластыкі? Калі чалавецтва перастане пакланяцца прыгожаму, яно знікне, стаўшы непатрэбным, як зніклі кентаўры, таму што ўжо ніхто не хацеў верыць у іх. Гэта думка — як водгук на роздум Анатоля Франса ў «злачынстве Сільвестра Банара», дзе ён піша пра феяў — увасабленні паэзіі, якія з н і к а ю ц ь , калі ў іх не вераць».

Знікаюць, калі ў іх не вераць... Як гэта дакладна пра мастацтва! Апошняя думка рамана непераканаўчая менавіта таму, што Анатоль Кім не верыць у паратунак — у сваю абстрактную «ўсеагульную энергію дабра». Гэта думка — нават не кволы безжыццёвы парастак сярод руінаў чалавечых лёсаў, гэты кволы парастак — намаляваны. Штучны. Заведама мёртвы.

Думаю аб гэтым, бо і ў маёй аповесці — усё тая ж барацьба двух пачаткаў у чалавеку, усё тая ж вечная барацьба чалавечага, адухоўленага яго мараю, і жывёльнага, дужага яго інстынктамі. І не кожны можа ўстаяць у гэтай барацьбе... Магчыма, і не трэба тэарэтызаваць з прычыны гэтага на старонках самой аповесці (пакуль што я гэтага не рабіла!), але нейкія дадатковыя, больш выразныя акцэнты, відаць, зрабіць варта.

**5 снежня**

Працую, наколькі дазваляе здароўе, над артыкулам пра Святлану Гарбунову, маладога скульптара, — пагадзілася напісаць пра яе для «ЛіМа», бо ў ёй тая ж апантанасць, тое ж памкненне выказацца, што і ў мяне. Энергіі — нават больш...

Так, першае, што прывабіла, — апантанасць, энергія таленту. Невядомая трывога (толькі сёння раптам зразумела гэта) за яе далейшы шлях. Ці таму, што ў яе планах бліжэйшых не ўбачыла нечага, вартага ўжо зробленага (помнік Сымону Буднаму), ці таму, што працуе яна зараз над другараднымі заказнымі работамі... Крыўдна будзе, калі гэткая сілішча таленту і характару размяняецца на дробязі, на другараднае.

Я і зразумела, відаць, таму што міжволі пачала думаць пра гэта ў артыкуле, у працэсе пісання, аднаўляючы ў памяці майстэрню, нашы гаворкі. Ды і пе-

рагартаныя напярэдадні альбомы, кнігі (Канёнкаў — Радэн — Бурдзель) пра мастакоў, якія ў розныя прамежкі яе жыцця былі кумірамі, дапамаглі ўбачыць Святлану, яе работу, больш выразна — і як бы збоку, з пэўнай адлегласці.

Звышзадача... Яна неабходная мастаку штодня. Штоміг. Нават калі для таго, каб падступіцца да яе, да яе вырашэння, спатрэбяцца месяцы, гады... Адчуваю гэта вельмі востра. Да болю ў сэрцы. Ведаю: ніякія клопаты, ніякая будзённая і надзённая работа не стануць апраўданнем у выпадку паражэння. А яна ж яшчэ ледзь акрэсленая, мая звышзадача, — не бачу яе «твару», не ведаю яе жанру, не ўяўляю яе памеру. Адно: я павінна сказаць пра свой час, знайсці мастацкі вобраз свайго часу! Як? Трэба шукаць.

А гэта ж — гэту трывогу! — можна аднесці і да Святланы: штосьці я ў ёй абудзіла сваёй настойлівасцю ў гаворцы, сваімі пытаннямі (яна не ведае, што гэта былі пытанні — сабе) — нам, кожнай паасобку, выблытвацца з гэтых пытанняў, каб ісці. Каб ісці — сваім шляхам. Кожнай — сваім шляхам. Да сваёй звышзадачы.

**11 снежня**

«Пачуцці быццам саступаюць заваёвам розуму. На жаль, людзі ўсё больш звыкаюцца з думкаю, што гэтыя адкрыцці — штосьці рашаючае для будучыні чалавецтва, быццам не разумеючы небяспекі, якую іх прымяненне можа таіць у сабе. Гаворка нават не пра наступствы атамнай вайны, не пра разбурэнне навакольнага асяроддзя ці нявечнасці прыродных рэсурсаў. Гаворка пра не меней страшнае — пагрозу абесчалавечвання чалавека, абязлічванне асобы. Там, дзе сучасная цывілізацыя становіцца ўсё больш утылітарнай і прагматычнай, яна прыглушае і нават прыгнятае эмацыянальныя памкненні, уніфіцыруе чалавечыя характары».

Аб гэтым — у кнігах Паўла Вежынава. Аб гэтым — у Мікалая Федарэнкі, у ягоным эсэ пра пісьменніка. Мо выказана занадта проста. Выпісала, таму што гэта мая трывога. Больш! — заўсёдны страх мой, які не магу апісаць, і апісваю — пішу заўжды, з самых першых радкоў. Усё, што раблю, што пішу (у паэзіі, прозе, крытыцы), — спроба сцвердзіць пачуццё, пачуцці, іх сілу, іх — у кожным выпадку — непаўторнасць, іх эмацыянальную ўладу над розумам, над думкамі.

Гэта страшна (колькі такіх людзей я ведаю!), калі пачуцці ў чалавеку адміраюць. І не таму ж, што жыццё хіліцца да свайго канца, да свайго завяршэння, — зусім не! Пачуцці адміраюць, бо ў іх няма патрэбы. Няма патрэбы?! Проста мароз па скуры... Тады — гэта мёртвы чалавек! Як можа хтосьці гэтага не разумець, не бачыць?

Часам міжволі пачынаю думаць, што маральнае (нравственное) развіццё чалавека ідзе па нейкім адным, агульным для ўсяго чалавецтва, шляху і — не да духоўнай дасканаласці, а да бездухоўнасці. Свят, свят, свят! — як кажуць. У гэтым — хачу памыліцца:нават думкі падобныя невыносныя. Гэта задужа страшна.

**23 снежня**

«ЛіМ» надрукаваў новае апавяданне Валодзі Арлова «Місія папскага нунцыя» . Які празаік расце! Ды чаго там! Ёсць. Ужо ёсць. Менавіта ўчуўшы ў ім сілу, дамагаўся Ч. таго, каб яго выключылі са спісу ўдзельнікаў усесаюзнай нарады. Выключылі. А ён —малайчына! — яшчэ больш упарта працуе, працуе на больш высокім узроўні, чым тыя, што яго выключалі. Рада за яго. Колькі там магла я яму дапамагчы? Дзве-тры публікацыі, два-тры добрыя выказванні дома і ў Маскве... Добра, што ён ідзе так настойліва, такім шырокім крокам. Не зважаючы на зласліўцаў і іх косыя пагляды, не прымаючы за паражэнне тое, што — па сутнасці — перамога.

Думаю над прыродаю яго таленту, які чымсьці — чымсьці няўлоўным— нагадвае талент Караткевіча. Не, не! Яны розныя. Вельмі. Адно ў іх падобнае — тое, што абодва вырошчвалі свае задумы не проста на ўзаранай глебе — на вельмі глыбока ўзаранай. Так глыбока, што бачныя карані роду нашага, дужыя, магутныя.

За такой прозай — не нейкія там уражанні, асабістыя перажыванні, а аграмаднейшая праца, тамы і тамы чалавечай гісторыі, гісторыі зямлі нашае. Такое — не высмакчаш з пальца, хоць бы і таго пальца, на якім паблісквае пярсцёнак улады і ўдачы. Хай яму Бог дае, як кажуць!

**26 снежня**

Маленькая радасць напрыканцы года ўсё-ткі надарылася: сярод гучных імёнаў лаўрэатаў «Литературной газеты» гэтага года — і маё імя. Учора, калі пазванілі і сказалі, была шчыра рада. А сёння... Сёння ўсё крыху скранулася. Не, нічога не змянілася. Я рада, рада! Толькі быццам асвятленне памянялася: учора святло было яркім, амаль святочным, а сёння — роўна свеціць прыкрытая белым шкляным абажурам лямпачка, звычайная лямпачка, якая асвятляе мой рабочы стол. Наперадзе — не новыя знакі прызнання або ўвагі, наперадзе — праца. Горы работы!

**27 снежня**

«Прага ўдачы... Бязлітасны гон!» — як гэта дакладна пра кожнага з нас, пра кожны дзень гісторыі чалавецтва... Радкі, напісаныя калісьці пасля паездкі ў казахстанскія стэпы, сталі пачаткам новай песні «Гон». Мо таму, што ведаю — бачу! — усю песню, не магу пісаць. Словы «буксуюць», ніяк не выберуся з другой часткі. І — кожны раз адступаюся, адыходжу ўбок. Займаюся іншым...

Клопатаў хапае! Віншаванні. Закупкі. Тэлефонныя званкі. Сустрэчы... Усё нібыта і неабходнае ў гэтыя перадНавагоднія дні, а ўсё ж неадступна мучыць: час — ідзе...

Год — заканчваецца. Калі падводзіць рахунак, то не скажаш, што я пражыла яго марна, гэты год. Усе мае песні датуюцца гэтым годам. Напісалася некалькі дзесяткаў вершаў. Аповесць. Некалькі вялікіх і невялікіх артыкулаў. Не ўсё ўбачыла свет сёлета, ды яно, натуральна, пяройдзе ў наступны год, і яшчэ ў наступны. Гэта — зроблена, думаць трэба пра іншае.

Галоўны клопат — завяршыць «Кнігу песень». Завяршыць так, як марылася, як бачылася. Каб пасля не ўзнікла шкадавання, што магла — і не зрабіла, не ўсё зрабіла... Нічога нельга адкладваць: занадта хутка бяжыць час, зрэдчас заўважаю ўжо, як менее сілы і імпэту. Страты яшчэ ледзь заўважныя, і ўсё ж... І ўсё ж, задумы чакаць мяне не будуць — іх трэба здзяйсняць сёння, пакуль ёсць сіла, пакуль ёсць упэўненасць, што гэта — маё, і толькі маё!

*Працяг будзе.*







Наталля КУЗЬМІЧ

# СВОЙ СВЕТ — СВОЙ СТЫЛЬ

## *(Проза Яна Скрыгана)*



Мастацкая проза Яна Скрыгана, вядомага майстра беларускай літаратуры, глыбока аўтабіяграфічная. Яна складзена з трывог і радасцей, горычы і надзей, зазнаных ім за сваё доўгае драматычнае жыццё і ў той жа час светлае і ўзнёслае. Зусім не выпадкова, што эпіграфам да аповесці «Кругі», свайго галоўнага твора, ён узяў выслоўе Максіма Танка «Біяграфія ў песні маёй і ў мяне — адна». Гэтым дэкларуецца не толькі аднолькавасць філасофска-эстэтычных пазіцый са слынным паэтам; апрача ўсяго, тут блізкасць поглядаў на прыроду мастацкай творчасці, яе лучнасць з жыццём, з асабістым лёсам. У рэшце рэшт гэта стаўленне да жыццёвых рэалій, спазнаных на ўласным вопыце і прапушчаных праз сэрца, як да крыніцы духоўных і маральна-этычных праблем, што даследуюцца пісьменнікам у мастацкіх вобразах.

Адна з яркіх адметнасцей прозы Яна Скрыгана сапраўды ў тым, што песню сваю ён паяднаў з лёсам. Таму яна і вылучаецца сваім голасам або, строга кажучы, стылем, у якім асаблівая праекцыя эстэтычных ацэнак на жыццёвы матэрыял, на яго мастацкую падачу і асэнсаванне. У аповесці «Кругі» стылёвая стыхія пісьменніка выяўляецца ва ўсёй паўнаце, у ёй адзінства элементаў вобразнай сістэмы, за якім непарыўнасць працэсу асваення рэчаіснасці ў слове.

У аповесці «Кругі» выразна акрэсліваецца цэласнае бачанне і разуменне аўтарам чалавека і пошуку ім свайго месца ў свеце ва ўсіх складанасцях і супярэчнасцях. Менавіта цэласнасць мастацкага аналізу біяграфіі, дзе рэальны факт і вымысел у цесным перапляценні і повязі, з'яўляецца субстанцыяй, на якой высноўваецца ўсё астатняе: і сюжэт, і кампазіцыя, і выбар выяўленчых сродкаў. Адназначна тое, што мастацкая інструментоўка другасная па сваім значэнні, яна як бы толькі канчаткова афармляе тое, што ўжо адчулася і асэнсавалася, — адным словам, дае выхад на кантакт з чытачом.

---

*__Кузьміч Наталля Васільеўна__ нарадзілася ў г/п Воранава Гродзенскай вобласці ў 1975 годзе.*

*Скончыла БДУ. Кандыдат філалагічных навук. Выступае з крытычнымі і літаратуразнаўчымі артыкуламі. Друкавалася ў часопісах «Першацвет», «Маладосць», «Полымя» і тыднёвіку «ЛіМ». Выкладае на факультэце журналістыкі БДУ.*

Індывідуальны стыль Яна Скрыгана фарміраваўся разам з творчым сталеннем, складваўся ў няпростых варунках тагачаснага (20-я г. XX ст.) літаратурнага бытавання, дзе былі класічныя традыцыі і наватарства, не зусім апраўданая зухаватасць і рызыка, нясмелае вучнёўства і пераймальнасць, — карацей кажучы, гарачыя баталіі на літаратурнай ніве.

Трэба ўзгадаць, шукаючы вытокі стылю Яна Скрыгана, выказванне самога пісьменніка. Ён неаднойчы падкрэсліваў, у тым ліку і ў аповесці «Кругі», што ў ранні перыяд творчасці, захоплены агульнай ідэяй, якая зводзілася да таго, што трэба будаваць новае мастацтва ў адпаведнасці з духам сацыялістычнай рэвалюцыі, карыстаўся не сваім стылем. Яму больш да душы былі спакойны аналітычны роздум Якуба Коласа і сацыяльная завостранасць лірыкі Янкі Купалы, тым не менш мусіў эксперыментаваць: замест усебаковага вывучэння псіхалогіі героя, яго сацыяльна-духоўных матывацый пісаў крыклíва, з пафасам, сек фразы, настабурчваў сказы. Адбіваўся ўплыў павеваў, што сыходзілі ад маладнякоўцаў, ад некаторых расейскіх пісьменнікаў, гэтых літаратурных задзірак, якія хацелі спіхнуць класічнае мастацтва з карабля сучаснасці. Прыклад таму — апавяданне «Шорсткая дарога», якое пісьменнік у сталыя гады ацэньваў як даніну стылёвай модзе свайго часу.

У творы трагедыя, што абрынулася на народ у часіну першай імперыялістычнай вайны, увасоблена ў вобразе вясковага чалавека, які для паратунку ад акупантаў мусіў адпраўляцца ў далёкі шлях разам з сям'ёй на возе, дзе сабраны няхітры хатні скарб.

Дарога цяжкая і складаная. Яна нясе з сабой выпрабаванні і смерць. Чалавеку давялося пахаваць жонку і дзяцей, апошнім — шасцігадовага сына. Прадаў коніка, каб мець хоць які кавалак хлеба. Ужо і сіл не стае. А ён ідзе. Упарта і настойліва, хаця дакладна і не ведае, куды і дзеля чаго.

Фразы ў апавяданні кароткія і задзірыстыя, сказы — сечаныя, часам — у адно слова. Звычайна гэта дзеясловы. Бывае, іх некалькі, адзін за адным. Як гэта: «Ідуць. Паганяюць. Хістаюцца...» Тут вырашаецца стылёвая задача — стварыць дынаміку ў сюжэтнай дзеі, перадаць імклівасць часу і трагічны душэўны стан людзей, выгнаных бядой у невядомы шлях, поўны непрадказальнасці.

Дарэчы, у апавяданні няма апісання знешнасці героя. Які ён? Відаць, гэта для аўтара няважна. Абстрактны вобраз гора, з якім дужаецца чалавек, выгнаны вайной з дому, — вось што на першым плане. І дарога — цяжкая, бясконцая. Як знак гэтай барацьбы. І бессэнсоўная, як людская трагедыя. Але трэба ісці, каб не спынілася жыццё.

У апавяданні ў стылёвым плане шмат чаго ад пераймальніцтва. У таго ж, напрыклад, расейскага пісьменніка Арцёма Вясёлага. Згадаем яго выбраныя творы, выпушчаныя ў выдавецтве «Правда» (Масква, 1990). У прыватнасці, апавяданні «У дарозе», «Мацней за смерць», «Нургалья», «Асенняе» і інш. Тая ж кароткая фраза, насычаная эмоцыямі, напружанасць у сюжэтнай дзеі, што сцята крывавымі вузламі чалавечай бяды, тая ж няпэўнасць у развязцы. Героі часцей не выдзяляюцца канкрэтнымі рысамі, нейкімі індывідуальнымі прыкметамі; звычайна яны нясуць у сабе абагулены вобраз, за якім угадваюцца людзі, што змагаюцца за новае жыццё, выступаюць супраць сацыяльнай несправядлівасці і зла. Гераічнае, аднак, прызямляецца трагедыяй будзённасці, чым міжволі выдаецца пэўная надуманасць усёй мастацкай канструкцыі.

Ужо тады малады пісьменнік адчуваў: гэта не тое, што вынес з твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, якія сваім роздумам і глыбокім псіхалагізмам былі бліжэй да яго душы, чым штучная гераіза-

цыя, якая рабіла персанажы безаблічнымі, адарванымі ад зямных каранёў, хаця ў пэўнай меры прываблівымі знешне. Высокае, як падказвала творчая інтуіцыя, трэба шукаць у душэўным харастве людзей, іх натуральным штодзённым жыцці, у стаўленні да сябе, да жыцця як вышэйшай каштоўнасці.

Зазначу, што апавяданне «Шорсткая дарога» адкрывае першы мастацкі круг аповесці, які супадае ў біяграфіі з самымі раннімі гадамі дзяцінства, калі спасцігаліся асновы жыцця, калі фарміравалася юная асоба; у творчым плане абуджалася цяга да мастацкага слова праз чытанне літаратуры. Назва круга «Парог». У гэтай назве метафара не толькі дзеля мастацкай вытанчанасці. Вобразна кажучы, парог тут як прыступка, з якой пачынаецца вялікая дарога ў жыццё і творчасць. Дарога шорсткая, няроўная, з бедамі і радасцямі. Пазнаваўся свет вакол і людзі, што жылі побач, адкрываліся першыя таямніцы зямнога існавання. Многае было загадкавым, клікала да кнігі і роздуму.

У першым крузе (раздзеле), як і ў астатніх, — а іх усяго пяць — арганічная еднасць біяграфічнага і творчага, і ў асобных частках, асабліва ў апавяданнях, цяжка падзяліць іх хоць бы ўмоўнай мяжой. І гэта стварае непаўторны стылёвы каларыт, замешаны на фактах жыцця і мастацкім уяўленні. Асабістае, што перажылося і адклалася ў сховах памяці, становіцца мастацкім, якое ў сваю чаргу праецыруецца на канкрэтны жыццёвы матэрыял, ствараючы яму непаўторную акрасу і сэнс. Невыпадкова, што ўсе пяць кругоў (раздзелаў) маюць практычна аднолькавую архітэктоніку: спакойная плынь успамінаў, заснаваных на біяграфічнай дакладнасці, непрыкметна перацякае ў мастацкі твор. Напрыклад, успаміны пра сям'ю — бацьку і маці, сясцёр і братоў, іншых сваякоў, з якімі сутыкаўся ў маленстве і юнацтве, афарбаваны дзіцячай шчырасцю; у той жа час яны пазначаны мудрасцю пражытага; гэта мудрасць дае ўспамінам шчымлівасумнае гучанне, у якім — водгулле здабыткаў і страт, нязбытных мар і спадзяванняў.

Такім чынам, з парога аўтар — а гэта і сам герой — ступае на дарогу жыцця, каб пазнаваць людзей, з якімі яно яго зводзіць. Першая згадка — пра тое, як бацька, калі ў сям'і зноў нарадзіўся хлопчык, г. зн. ён, Ян, па парадзе людзей, раніцай выходзіць на дарогу, каб першага чалавека, які трапіцца, узяць за хроснага бацьку. Ім аказаўся пукаўскі пан Ёдка. І гэты сын выжыў. Бацьку на радасць, бо яму не шанцавала на сыноў: выжывалі толькі дочкі.

З гэтай згадкі ў аповесці кожны наступны круг (раздзел) — гэта дарога ў вялікі свет пазнання чалавека і асабістых трывог, радасцей і надзей. Дарога ў жыццё і мастацкую творчасць.

Аб'ёмна — у часе і прасторы — падае Ян Скрыган сацыяльны асяродак, у якім складваліся яго погляды і разуменне жыцця. Перадусім гэта сям'я і яе маральна-бытавы ўклад, тыя духоўныя каштоўнасці, што жывілі адносіны ў ёй. Бацька, бедны селянін, увесь час марыў даць сям'і — у ёй нарадзілася адзінаццаць дзяцей, з якіх выжылі не ўсе — больш-менш прыстойны дастатак. Спосаб адзін — праца на зямлі! Ён узяў у банку на сваю рызыку немалую пазыку, на якую купіў няўдобіцу — а гэта балота і пяскі, парослыя кустоўем (так было танней) — са спадзяваннем, што сваім мазалём належна абробіць, давядзе да ладу і будзе мець кавалак хлеба.

На раннім часе творчасці Яна Скрыгана ў стылёвай палітры першага круга аповесці даволі выразныя элементы рамантызму. Карэнні іх глыбока шукаць не даводзіцца. Па-першае — уплыў творчага асяродку аб'яднання «Маладняк», па-другое — перайманьнасць, якая сыходзіла ад недахопу мас-

тацкага вопыту, ведання жыцця, яго сапраўдных духоўных каштоўнасцей; герой часцей успрымаецца і падаецца абстрактна, у незразумелых парываннях душы, авеяны высокімі, але няпэўнымі мэтамі.

У падобным ключы прачытваецца апавяданне «Таіса». Тут аўтар і апавядальнік у адной асобе. Яго споведзь аб каханні з многімі хітраспекцыямі шчырая і ўсхваляваная, пачуццё моцнае і гарачае. Але раптам дарогу пераходзіць паручнік Гжэцкі, які прыехаў да мясцовага пана. Таіса як бы сутыкае іх. Для Петруся, героя апавядання, рушыцца не толькі каханне; ён, палонены жаўнерамі Гжэцкага, змушана становіцца палюбоўнікам Таісы, знясілены катаваннямі на допытах, у крытычныя моманты свайго жыцця пакутліва разважае над такімі паняццямі, як дабрыня, прыстойнасць, сумленнасць. Ён спасцігае вялікія ўрокі жыцця ў агульным змаганні не толькі за асабістае, бо знаходзіцца ў шэрагах партызан, якія гатовыя ахвяраваць сабою дзеля свабоды народа.

У апавяданні ёсць і высокі пафас, які падаграе аптымізм Петруся, і зухаватасць фразы, і нечаканыя павароты сюжэтнай дзеі, і ўзнёсласць, якая, аднак, не прыцішваецца асабістай трагедыяй хлопца; ёсць праявы мастацкай умоўнасці, што заўважаецца ў яго снах, у адступленнях і ўспамінах...

Толькі пошукам свайго голасу можна вытлумачыць і стылёвыя рашэнні ў апавяданні «Пры вогнішчы» з таго ж першага круга. Трэба падкрэсліць, што яно ідзе адразу за апавяданнем «Шорсткая дарога». Такое суседства мае сваю логіку. Логіку развіцця і паглыблення таго лепшага, што ўжо азначылася. Тут падобныя падыходы да выяўлення светабачання больш разнастайныя, яны блізкія пісьменніку.

Аўтара, відавочна, не задавальняла штучная экспрэсіўнасць, ненатуральная пафаснаць і безаблічнасць персанажаў у апавяданні «Шорсткая дарога». Як, дарэчы, і ў «Таісе». Усё гэта стаяла далёка ад канкрэтных жыццёвых рэалій, ад глыбінных вытокаў жыцця, дзе, як разумеў пісьменнік, бруіла жывая крыніца мастацкіх вобразаў.

У аснове апавядання «Пры вогнішчы» — выпадковая сустрэча адвячоркам аўтара з дзядулем, які ехаў некуды на возе. У лузе яны начуюць пад зорным небам на пахкай летняй траве. Успаміны старога пра сваё жыццё складаюць сюжэтную дзею. У ёй яшчэ часам праглядваюцца адценні таго ж рамантызму; у той жа час нельга не заўважыць моцны струмень фальклору, праз які аўтар хоча вырвацца са штучнай ідэалізацыі, каб далучыцца да стыхіі народнага жыцця, найперш яго сацыяльна-побытавых пластоў. Няхай сабе і ў далёкім мінулым. Фальклорныя матывы гучаць у згадках старога пра братоў Зарубчыкаў, пра панскае паляванне, пра маладую паненку, што моцна закахалася ў парабка, — усё гэта складае мастацкую тканіну твора, яго стылёвую адметнасць. У апавяданні няма лішняй квяцістасці фразы, больш сацыяльна-бытавых падрабязнасцей, праз якія псіхалагічна матывуюцца паводзіны персанажаў.

Крок за крокам пісьменнік як бы набліжаўся да самога сябе, г. зн. ад факта жыцця — праз яго вобразна-філасофскае асэнсаванне — ішоў да разгорнутых карцін, у цэнтры якіх — чалавек, яго трывогі, боль і надзеі. Дарэчы, у тых жа апавяданнях «Шорсткая дарога», «Пры вогнішчы», «Таіса» герой — хоць яшчэ і абстрактны, у шмат чым ідэалізаваны і адначасна заземлены — сагрэты аўтарскай прыхільнасцю і сімпатыямі. Так паступова акрэслівалася сарцавіна стылю, якая, аднак, не дэкларавалася, не выстаўлялася на паказ (перадаецца ў падрабязнасцях, дэталях, характарыстыках, аўтарскай інтанацыі і інш.), — гэта чалавекалюбства, гуманістычная скіраванасць творчасці Яна Скрыгана, што грунтуецца на яго светабачанні і разуменні жыццёвых каштоўнасцей.

У першым раздзеле ёсць апавяданне «След гумовых шын», якое, на мой погляд, напісана менавіта ў такім стылёвым ракурсе. Аўтар падае жывыя вобразы людзей, якіх ведаў асабіста. Больш таго — праз рэальны факт, аплоднены вымыслам, выводзіць іх запамінальна, надзяляе адметнымі рысамі. Тут выразна пазначаны абрысы канфлікту, што адназначна пацвярджае: аўтар шукае магчымасці для выяўлення персанажаў у дзеяннях, у адстойванні сваіх інтарэсаў і мэт. Хай сабе маштаб канфлікту невялікі — сутыкнуліся панна Кася, настаўніца польскай мовы, і вучань беларускай гімназіі Міхаль Пісарык, які не разумеў, чаму Польшча павінна быць яму айчынай, — але тут высвеціліся два адвечныя ворагі, што абавязкова раскрываюць сябе, — дабро і зло. Настаўніца, што здавалася вучням мілай і прыгожай, як бы здымае з сябе маску, зробленую з салодкіх слоў і ўсмешак. Сацыяльна-духоўная сутнасць панны Касі, калі яна крычыць на Міхаля, абзываючы яго і іншых вучняў бандытамі і бальшавіцкімі вырадкамі, адкрываецца нечакана, тым больш уразліва і рэзка. Ілюзіі вучняў, што пасеяла настаўніца знешнімі сваімі манерамі, знікаюць — гімназісты па-іншаму ўжо ацэньваюць і сябе, і сваю настаўніцу, і ў пэўнай меры цану чалавечай годнасці.

На вачах збянтэжаных гімназістаў настаўніца з дырэктарам, які абяцаў заўсёды абараняць іх, падыходзіць да фаэтона, каб ехаць дадому. Аўтар піша: «Кабыліца нецярпліва рванула з месца, і на жвіры астаўся след тонкіх гумовых шын». След застаўся і ў душах юных гімназістаў — глыбокі і балючы, але, як можна зразумець, адначасова і гаючы, бо прымусіў сур'ёзна задумацца над сапраўднай цаной чалавечых слоў і ўчынкаў.

Можна выдзеліць у такім жа стылёвым шэрагу і апавяданне «Дно душы». Аўтар сцвярджае думку аб чароўнай сіле мастацкага слова, што мае вялікую ўладу над чалавечымі думкамі і парываннямі. Бацька слухае з вуснаў сына, які захапіўся чытаннем кніг, верш Янкі Купалы «Мужык», і ён, просты селянін, зведвае глыбокае хваляванне, бо ў паэтычных радках яму расхінулася вялікая праўда аб сацыяльнай несправядлівасці, праўда яго асабістага лёсу. От што можа мастацкае слова! Праз яго бацька далучаецца да чужога гора, лепей усведамляе сваё і сябе самога.

З аналізу апавяданняў першага круга «Парог» — тут трэба яшчэ ўзгадаць і такія, як «Два немцы», «У Кірылы на хутары», — вынікае, што свой стыль пісьменнік намацвае ўпарта і настойліва. Пра што пісаць — пытання не было. Часцей горыч і даволі рэдка ўдачы і радасць зазнаў з маленства ў вялікай сялянскай сям'і. Таму пільна ўглядаўся ў людзей, што сустракаліся на жыццёвай дарозе, перабіраў у памяці свой вопыт, адсейваў у ім тое, што неяк зачапіла ўласны лёс, каб даць усяму гэтаму мастацкае асэнсаванне. У выніку паступова пераадольваліся не ўласцівыя светабачанню элементы рамантызму, якія збівалі на дэкларатыўнасць і адцягненасць вобразаў, іх эстэтычную цьмянасць, асвойваліся фальклорныя матывы, што набліжалі да маральнага і сацыяльна-бытавога доследу народа; пісьменнік у сваёй практыцы ўсё больш схіляўся да таго, што ў кожным творы ў цэнтр трэба ставіць простага чалавека, каб высвеціць закуткі яго душы, праз яе боль, трывогу і надзею абудзіць роздум над лёсамі людскімі, над трагедыяй і шчасцем нашага зямнога бытавання. Ад чалавека і праз чалавека, з любасцю да яго спасцігаць таямніцы гэтага свету з усімі яго малымі і вялікімі людскімі клопатамі і праблемамі — гэтак усталёўваў свой маральна-эстэтычны ідэал пісьменнік. У яго святле і пошукі ў стылёвым накірунку — лепей паказаць духоўнае хараство людзей, у якім увесь сэнс і праўда нашага жыцця.

У мастацкую тканіну ўводзяцца падрабязнасці побыту, сацыяльнага асяродку і інш. («Два немцы», «У Кірылы на хутары»), апісанні пейзажу,

знешнасці персанажаў набываюць стрыманасць і лаканізм («У Кірылы на хутары», «След гумовых шын»); партрэтныя характарыстыкі ўдакладняюцца выразнай дэталізацыяй («Дно душы»), шчымліва-лірычная танальнасць стасуецца з унутраным настроем, — увогуле, сцвярджаліся відавочныя прыкметы стылёвага малюнка, дзе ўсе элементы — ад выпадковага выслоўя пэўнага персанажа да пейзажных фарбаў — у адзінай сістэме вобразнага ладу твора.

У другім крузе пад назвай «Світанак» стыль набываў устойлівасць на аснове таго ж эстэтычнага прынцыпу — паказаць чалавека з любасцю да яго, дакладнымі выяўленчымі сродкамі і прыёмамі. Світанак — гэта метафара, своеасаблівае далучэнне пісьменніка да сапраўдных скарбаў літаратуры, а таксама — самастойныя творчыя крокі да таямніц майстэрства, пачатак моцнага сяброўства з калегамі па пяры. Тут тая ж кампазіцыя раздзела, што і першага, — у плынь успамінаў пра літаратурныя і жыццёвыя будні ўключаюцца апавяданні.

З усёй відавочнасцю выяўляецца, што энергія стылю жывіцца маральна-эстэтычным ідэалам. Яркі ўзор — апавяданне «Смага». Тут стылёвая палітра насычана адступленнямі і ўспамінамі, у якіх адценні публіцыстычнасці і лёгкага рамантызму, калі пісьменнік разважае над мінулым Бацькаўшчыны, узяўшы сабе ў памочнікі памяць. Крыніца тая ж — любасць да чалавека з усімі яго болямі, трывогамі і надзеямі. У вялікім горадзе, дзе шум мітусня, дзе адчуваеш сябе маленькай шрубкай жалезнага механізма, аўтар заўважае старога. На спіне ён нёс дзіцё. Як высветлілася, сам з Аршаншчыны, прывёз унучку ў бальніцу, бо яна хворая.

Выпадковая сустрэча з дзедам у марозны дзень на вуліцы ў Мінску выклікала асацыяцыі. Пісьменнік успамінае сваю вёску, тутэйшых дзядоў, што па вясне курацьлюлькі на ўгрэвах на прызбах. Абагулены іх лёс, які трэба яму, пісьменніку, прачытаць, каб пазнаць і перадаць у запамінальных вобразах мудрасць жыцця, — гэта гісторыя роднай зямлі, яе радасць і беды.

І яшчэ адна сустрэча ў апавяданні, што ўразіла аўтара. Ішоў ён восенню ля роднай вёскі Труханавічы. Добра было пачуваць сябе на прасторы палёў пасля даўкага горада.

Здалёк паказаўся чалавек за плугам — ён араў. Конь выпінаўся з усёй сілы. Калі сустрэліся — давялося дзівіцца ўзросту чалавека.

Пасля размовы дзед зноў узяўся за плужок, які затузаўся ў яго старэчых руках, шоргаючы па каменнях. Чалавек, выпетраны, стомлены, нямоглы, упарта араў, ён дбаў пра сяўбу, пра заўтрашні хлеб, — ён у старэчым узросце думаў пра будучае жыццё...

У апавяданні роздум, успаміны, пейзажныя замалёўкі, бытавыя падрабязнасці, — усё гэта ў складаным, але лагічным перапляценні, злучана ў пэўных сувязях і адносінах у мастацкай прасторы. У выніку ўтвараецца стылёвы малюнак, які ажыўлены, як кажуць, чалавечым матэрыялам, што адкрывае жыццё ў нечаканых праявах і вымярэннях.

У раздзеле — успаміны пра пісьменнікаў, а гэта і дакумент, што сведчыць пра сваю эпоху, і адначасова зграбна-вытанчаная лірычная проза, якая чытаецца з непадробнай цікавасцю. Напрыклад, эсэ «Госці з Мінска». Тут — лёгкая і нязмушаная манера пісьма, якая ўражвае сваёй дакладнасцю ў дэталях, што перадаюць унутраны стан і духоўнае багацце, — партрэтная характарыстыка Кузьмы Чорнага. Верыш, што кожная рысачка і штрышок непрыдуманыя. І як ён слухае, і як гаворыць, і як маўчыць, і як думае — усё гэта надзіва пластычна і псіхалагічна тонка, з мерай такту і праўдзіва. Аўтар піша: «...Ён сядзеў, адкінуўшы галаву назад і раскінуўшы рукі, як бы проста адпачываў. Ён, здаецца, нават не глядзеў, як ходзіць па

пакоі Шукайла... Нічога нельга было разабраць на твары ў Чорнага: думаў ён ці папраўдзе адпачываў, падабаецца яму гэта ці не. Поўны спакой у вачах, у чутачку адстаўленай ніжняй губе, у круглаватым падбародку. І ўсё ж такі па нечым другім, невядомым, не распазнаным, было відаць, што ён слухае».

І калі аўтар сцвярджае, што ён усё-такі ў літаратурных спрэчках больш прыслухоўваўся да Чорнага, то яму верыш: гэта перадаецца ў нейкіх няўлоўных, але такіх пераканаўчых штрыхах партрэтнай характарыстыкі.

Хвалюе і выклікае роздум успамін «Ранішнія росы» пра Міхася Зарэцкага. У аснове — згадка пра творчую паездку па лініі Саюза пісьменнікаў на электразавод у Маскву. Быццам усё было бегла, у мітусні. Толькі калі вярталіся назад, то, сеўшы ў цягнік, больш грунтоўна пагутарылі пры пляшцы віна ў вагоне-рэстаране. Тут і адкрыўся Міхась Зарэцкі ва ўсёй сваёй нязмушанасці і непасрэднасці.

Аўтар знайшоў патрэбныя штрыхі і дэталі, душэўны такт, каб асцярожна прыадчыніць нам заслону над таемнасцю таленту. У стылёвай палітры толькі тое, што служыць гэтаму. Партрэтная характарыстыка настройвае на добрае ўспрыманне, хаця ў ёй відаць унутраны неспакой і парыванні: «Стрыманасць і непасрэднасць як бы вечна ваююць у ім. Ваюе і другое: то халодны, то цёплы тон шэрых вачэй, то строгія, рэзкія лініі поўных губ, то мяккая і даверлівая ўсмешка на іх».

Знаёміліся з заводам доўга. Дзівіла найперш дасканалая тэхніка, якой кіраваў чалавек. А ў першым цэху ўвагу Зарэцкага прыцягнула адна жанчына. У ёй было нешта стомленае, зняверанае і разам з тым прывабнае. Вось Зарэцкі і лічыў за свой абавязак штодня пабыць з ёй нейкую часіну.

Калі сядзелі ў вагоне-рэстаране за чаркай, ён падзяліўся сваімі думкамі. Аказваецца, яму ўсе дні на заводзе было хораша. Ён абрадаваўся сустрэчы з той жанчынай. Ёсць ужо з гэтай нагоды і задума напісаць кнігу, ад якой у людзей было б светла на душы. Але, паразважаўшы, тут жа папраравіў сябе: маўляў, не існуе чыстага хараства, чыстай радасці, чыстай чысціні. А ёсць жыццё, якое тым харошае і дарагое, што можна радавацца і плакаць, любіць і ненавідзець...

Так разважаў Міхась Зарэцкі. Яго погляды на мастацкую творчасць, яе жыццёвую праўду, на звычайныя праблемы, з якімі мы сутыкаемся штодня, — усё гэта ў стрымана-лірычнай танальнасці, з адценнем любавання і гонару за такое таварышаванне, якое ўзбагачае мудрасцю і дадае ахвоты жыць і пісаць.

Усе згадкі ў раздзеле «Світанак» — і пра Цішку Гартнага, і пра Сяргея Фаміна, і пра бягучыя літаратурныя клопаты — пададзеныя з цеплынёй у сэрцы да тых, з кім звяла літаратура на жыццёвых скрыжаваннях.

Ёмісты — па багацці фактаў, іх драматычнай афарбоўцы і гучанні — і ў той жа час высокі — па ўзлёце творчых задум і іх рэалізацыі — трэці круг пад назвай «Трывогі». У ім змясціўся перыяд, калі Ян Скрыган не займаўся літаратурай з пэўных прычын — давялося жыць у Эстоніі, Узбекістане, Сібіры. Тут быў сведкам трагічнага і гераічнага, сумленнага і подлага, што ў той ці іншай меры спрычынілася да яго. А ў сэрцы і памяці адкладваліся згадкі пра людзей і падзеі, што сталі асновай літаратурных твораў. Ад іх вее праўдай жыцця, асэнсаванай па-філасофску і ўзятай у мастацкія формы. Зноў той жа сінтэз біяграфічнага і творчага, які надае прозе асаблівую акрасу.

Перад намі і дакументальная рэч («Конны двор»), і ўспаміны пра пісьменнікаў, з якімі так ці інакш давялося дружбаваць («Няспраўджанае калегаванне», «Біяграфія», «Каляровы аловак»), і чыста мастацкія творы,

у аснове якіх нейкая зачэпка з біяграфіі. Тут, як і раней, на цікавасці да чалавека, яго ўнутранага свету грунтуецца стыль, у яго палітры — найбольш мэтазгодны ў канкрэтным выпадку набор выяўленчых сродкаў.

Псіхагалічна тонкія назіранні, дзе і дэталь, і падрабязнасць, што стасуюцца з агульнай танальнасцю, у апавяданні «Конны двор». Яно пабудавана на дакументальнай аснове, але, чытаючы твор, забываеш, што тут дзейнічаюць канкрэтныя людзі, з якімі аўтар дзяліў нягоды і скупыя радасці ў далёкім сібірскім калгасе. Асабліва яркія партрэтныя характарыстыкі. За імі — людзі з іх думкамі і марамі, самымі таемнымі спадзяваннямі, якія месцяцца недзе на дне душы. Вось як распавядаецца пра свайго сябра Аляксея Півавара: «...Быў дабёр што з постаці, што з твару, увесь шырокі, круглы, з вузенькімі шчылінкамі воч і надзіва ціхім, нясмелым голасам». Яго, Аляксея, упадабала Паліна, тутэйшая жанчына, пра якую сказана адмыслова: «...Яшчэ яркай, але стомленай, нейкай задуменнай красы, салдатка, муж якой не вярнуўся з вайны».

У такіх характарыстыках — і ўхвала, і любаванне. Чалавек як бы з нейкага дзівоснага матэрыялу, што высвечвае яго знутры, з глыбінь душы, у якой заўсёды жыве спадзяванне на дабро.

Не менш трапныя на прыкметы, колеры і адценні пейзажныя замалёўкі. Іх небагата, у той меры, што абумоўлена мастацкай задачай. Фарбы кладуцца шчыльна, але ў іх прастор для сузірання і думання. У пачатку апавядання ёсць такія радкі: «І мы ўдосталь папрацавалі: на сенажацях, калі пачыналі работу нацямку і лажыліся з зорамі тут жа ў копах, у душныя, шалёныя іх пахошчы; на полі, калі дзень, пранёсшыся як адно імгненне, заставаўся ў памяці маўклівай сінечай зжатых прастораў, шорсткім, сухім бляскам іржэўніку з уціснутымі на ім слядамі грузавікоў...» Здаецца, разам з аўтарам начуеш пад зорамі на летнім лузе.

У апавяданні няшмат дзейных асоб. Брыгадзір Сяргей Чаркашын, старшыня Гавін, заатэхнік і сябра Аляксей, з якім даглядаў зімой калгасных коней, — усе яны пададзены ў канкрэтных абставінах. Фон, на якім выпісаны іх характары, — гэта дэталі і падрабязнасці; праз гэта даводзіцца іх прычыненасць да лёсу аўтара і Аляксея, калі ўначы з-за іх недагляду забіўся ў жолабе конь Бутон. Хоць і цяжкі быў час, але ўсё-такі старшыня Гавін і брыгадзір Чаркашын зрабілі па-людску: склалі акт аб гібелі Бутона, дзе ўказалі нейкую зусім іншую прычыну...

У трэцім крузе апавяданні з паглыбленымі канфліктамі, дзе сутыкаюцца розныя погляды, у герояў — лёсы на зломе. Стылёвы малюнак ачышчаецца ад другарадных момантаў, персанажы выяўляюць сябе ва ўсёй паўнаце і завостранасці дзеянняў і ўчынкаў. Напрыклад, у апавяданні «Над гаем кружылі буслы». Тут двое — Антоля і Ігнат. Яны быццам выпадкова сустрэліся на дарозе, калі Ігнат вяртаецца дахаты з горада, куды ездзіў па пакупкі. Але не — усё-такі Антоля пільнавала яго, каб яшчэ раз паспрабаваць выпрасіць дараванне за свой злачынны ўчынак: яна на другі дзень, як яго забралі ў ссылку, выйшла замуж. Цяпер жа вось засталася адна з бедамі і адчаем.

Між імі завязваецца размова. Яна з тугіх вузлоў і нерваў. Антоля шукае вяртання назад, быццам нічога страшнага не адбылося. Ігнат, які цяпер жыве з Янінай, не дапускае нават думкі, каб дараваць, — дарогі ў мінулае ўжо няма. У ацэнках Ігната цвёрдыя прынцыпы, але ж у адносінах між людзьмі заўсёды ёсць і суб'ектыўнае, і ўмоўнае, — такое наша жыццё. У канцы апавядання нечакана і нязмушана ўсё паблытала адна дэталь: Антоля са слязамі ў вачах адвярнулася ад Ігната, стаўшы зусім блізка ад яго плячыма. Далей: «Яна была намнога ніжэй за яго. Зверху ён бачыў яе каштанавыя валасы...

Прайшоўся па выразе плацця, убачыў грудзі, раздзеленыя цёмнай лагчынкай у цесным станіку, і пачуў, як у скронях пачала шумець кроў...»

Далей — дэталь, якая пакідае нам толькі здагадку. Ігнат ужо не мог скрануць веласіпед, бо Антоля блізка стаяла пры ім. Сцяблінка мятліцы, што была ў яе руках, раптам упала на дол. Аднекуль у небе праплылі два буслы, яны пачалі кружыць над дубовым гаем...

О жыццё, якія ў цябе неспазнаныя таямніцы і непрадказальнасць!

Той жа драматызм, выведзены дакладным стылёвым малюнкам, у апавяданні «Наталля». Чалавек памыляецца, але знаходзіць у сабе сілы, каб паправіць сябе і не прапусціць сваё шчасце.

У чацвёртым крузе «Спасціжэнне» свой мастацка-філасофскі ключ, які выводзіць творчасць Яна Скрыгана на новую ступень сталасці і майстэрства. Стылёвы малюнак тут зусім празрысты, у герояў дакладна і праўдзіва ўсё — ад жэста да канкрэтнага слова ў дыялогу.

Як і папярэднія, чацвёрты раздзел мае тую ж будову. Тут і пра таямніцы пісьменніцкага майстэрства, і накіды партрэтаў слынных літаратараў, дзе шмат невядомых, але цікавых падрабязнасцей. Скажам, пра Івана Мележа, Міхася Лынькова, Петруся Броўку, — усё гэта дае нам магчымасць па-новаму глянуць на класікаў, лепей зразумець іх і як творцаў, і як людзей, у якіх свае клопаты і праблемы. Асабліва мяккія і цёплыя апісанні таварышавання з Іванам Мележам: пра шчырыя размовы пра літаратуру, прыхільнасці і манеру пісьма, пра побытавыя звычкі і проста чалавечыя слабасці... Ён адкрываецца як працавіты майстар слова, добры і спагадлівы калега, што ўмеў цаніць адносіны з блізкімі па поглядах людзьмі.

У апавяданнях звычайна адзін нейкі жыццёвы выпадак, няма зацягнутых пейзажных замалёвак або партрэтных апісанняў. Штрыхі і рысачкі рэзкія і пукатыя, дэталі канкрэтныя, кожная нясе максімальную псіхалагічную нагрузку. Персанажаў адзін або два. Напрыклад, у апавяданнях «Слепата», «Запрашэнне да танцаў», «Цнота», «Ноч», «У старым доме». У іх кароткі сюжэт, дынамічная дзея, нечаканая развязка. Адным словам, майстэрства даведзена да філіграннай вытанчанасці.

Асобна — па сваім аб'ёме і, як здаецца, па блізкасці духу аўтара — стаіць у чацвёртым крузе апавяданне «Месячная ноч». У ім больш-менш разгорнуты сюжэт. Герояў — двое. У вёсцы, куды прыехалі геадэзісты на сезонныя работы, сустрэліся яны — Вольга, мясцовая ўдава, муж якой, зух і няўдаліца, недзе падаўся па лёгкі хлеб, і Уладзімір, якога яна часова ўзяла да сябе на кватэру. У кожнага — складаны лёс, свае горкія вузлы ў ім.

Неўпрыкмет для сябе Волька стала заўважаць, што яна ўсё больш клапатліва адносіцца да кватаранта. І ён дапамагаў ёй па гаспадарцы. Быццам нейкі сонечны масток, выснаваны з невытлумачальных пачуццяў, перакінуўся між імі. Аўтар асцярожна вядзе іх па тонкай далікатнай мяжы, за якой, калі не праявіць такту і стрыманасці, — непрадказальнасць у адносінах. Яны і перажываюць, і саромеюцца саміх сябе, каб не спалохаць тое, што ўжо выспела ў сэрцы і тачыла яго.

Вось і апошняя ноч перад яго ад'ездам на новае месца работы. Волька не можа заснуць. Розныя думкі ў галаве. І пра яго таксама. А ён глядзіць у акно, за якім гуляе ў небе месяц...

Аўтар не дае развязкі. Ён пакідае нам прастору для роздуму і здагадак. Ці апошняй будзе гэтая ноч для двух сэрцаў, што так нечакана сустрэліся на жыццёвым шляху? Яны і самі адказаць не могуць. У тым, відаць, і мілата, і тайна мастацкага слова, што яно дае надзею і пакідае нам загадку.

Мастацкая творчасць заўсёды была і застанецца таямніцай. Інакш яна страціць сэнс і прыцягальнасць. Можна толькі бясконца падбіраць да яе

ключы, але ніколі не ўдасца знайсці іх. Невыпадкова, што апошні, пяты круг, пад назвай «Даткненне» пра літаратуру і майстэрства пісьменніцкай працы. Аўтар як бы запрашае нас зазірнуць у яго творчую майстэрню. Але ён не гарантуе, што ўсё ў яго правільна, тым больш, што мы далучымся да нейкай таемнасці слова, спазнаем яго чары. Інтэрв'ю і роздум, адказы на пытанні карэспандэнта і згадкі пра свой вопыт дапамагаюць нам менавіта на кароткі момант стаць саўдзельнікам пісьменніка ў яго працы над словам. Ян Скрыган разважае над мовай апавядання, над асаблівасцямі яго жанру, над стылем прозы, выказваючы цікавыя думкі. Але гэта ўсяго даткненне, як азначана ў назве круга, да таямніцы літаратуры. Значыць, толькі на нейкі няўлоўны момант ён, майстра, набліжаецца разам з намі да вялікай і святой загадкі, каб адчуць яе незвычайны цуд, што, як тая жарт-птушка, зноў і зноў знікае за далёкім гарызонтам...

Як відаць, індывідуальны стыль пісьменніка не зводзіцца да механічнай сумы выяўленчых сродкаў і прыёмаў. Стыль — у больш сутнасным; гэта найперш светабачанне пісьменніка, выбар духоўна-эстэтычных каштоўнасцей, іх інтэрпрэтацыя ў дастасаванні да канкрэтных герояў.

У аповесці «Кругі» прасочваецца эвалюцыя стылю Яна Скрыгана. Напрыклад, ён удала пераадолеў рамантычнае ўспрыманне рэчаіснасці, бо жыццёвыя рэаліі не суадносіліся з ім. Яны былі суровымі і падчас несправядлівымі да яго, і гэта пісьменнік моцна зведаў на сабе, на лёсе сваёй сям'і.

Трэба зазначыць, што своеасаблівы антагенез стылю ў аповесці «Кругі» мае свае прычыны і логіку. Галоўнае ў тым, што ён развіваўся ў рэчышчы ўсёй беларускай літаратуры. У палітры стылю Яна Скрыгана — філасофскі роздум, лірычныя адступленні і рэтраспекцыі, партрэтныя характарыстыкі і пейзажныя замалёўкі, сацыяльна-побытавыя падрабязнасці, тонкае чуццё меры ў экспрэсіі і танальнасці слова, — усё багацце выяўленчых сродкаў і прыёмаў, аб'яднаных у мастацкай прасторы канкрэтнага твора ў вобразную сістэму. У цэнтры яе — чалавек з яго вялікімі і малымі трывогамі, радасцямі і болем, з надзеяй знайсці шчасце на гэтай зямлі.

У прозе Яна Скрыгана празрыста, светла і прасторна. Адчуванне такое, быццам нішто ў ёй не муляе і не ціснe, нішто не замінае яе лёгкай і вольнай плыні, — высноўваецца натуральна, без бачных высілкаў, быццам цячэ ручаіна: калі глядзіш з берага, то не думаеш пра вытокі, — проста любуешся непаўторным зямным хараством.







Яўген ГАРАДНІЦКІ

# МОВА ВОБРАЗАЎ І ЛІРЫЧНАЯ ПЛЫНЬ

*(да 100-годдзя паэта Уладзіміра Хадыкі)*



Уладзімір Хадыка — лірык, у творчай практыцы якога вельмі вялікае значэнне мае вобразнасць, метафарычная, сэнсава сканцэнтраваная і эмацыянальна выразная, ёмістая сіла і моц паэтычнага слова.

Ёсць у Хадыкі пэўным чынам *аблюбаваныя*, з асаблівай увагай і пашанотай *выпешчаныя* ім словы, якія, мабыць, з большай за іншыя лёгкасцю, падхопнасцю кладуцца ў тканку паэтычнага вобраза, выяўляюцца як *свае* ў розных кантэкстах. Не, на маю думку, гэта не тыя, *агульныя* для многіх песняроў узварушлівай эпохі знакавыя словы накштал *буры* або *пажару*. Хоць *такія* таксама не чужыя для хадыкаўскага лексікону. Згадаем:

Журбой і радасцю абуран,
Іду я торам. Ў струнах мар
Дрыжыць акорд вясенняй буры
І у вачах зямлі пажар.

Метафарычна-сімвалічныя *пажары* і *буры* ў дадзеным выпадку ў большай ступені, мабыць, з'яўляюцца сведчаннем прыналежнасці да пэўнай мастацкай эпохі, чым праявай індывідуальнага паэтычнага стылю. А вось слова *тор* — яно менавіта з блізкіх паэту, душэўна абжытых ім моўных пластоў. Яно ў цытаваным вершы ўжываецца двойчы. На пачатку твора мы таксама сустракаем паэта на яго жыццёвым і творчым *торы,* ідучым у свет з мэтай «адбіць у вершах» новую рэчаіснасць, «вялікі сонечны прастор». І заўважце, як сціпла, неяк па-сялянску надзейна і немітусліва, кіруецца паэт у дарогу для дасягнення такой велізарнейшай мэты.

Сагнуўшы дужкаю кіёчак,
Іду. Як нітка зрэб'я, тор.

---

***Яўген Гарадніцкі*** *нарадзіўся ў 1951 годзе ў мястэчку Ракаў на Мiншчыне. Скончыў філфак БДУ. З 1978 года працуе ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай Акадэміі навук. Старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат філалагічных навук. У 2003 годзе скончыў дактарантуру пры Інстытуце літаратуры.*

*Аўтар многіх манаграфій і артыкулаў па тэорыі і гісторыі беларускай літаратуры, літаратурна-крытычных публікацый.*

Як гэта проста, па-хатняму сказана, з якой натуральнасцю і самадастатковасцю! Якое ў гэтым чуецца трывалае пачуццё з'яднанасці з родным (тым, што носіш у сабе на генетычным узроўні).

*Тор*, а яшчэ *троп* — гэтымі свойскімі словамі пазначаецца ў Хадыкі ключавое, канцэптуальнае для ўсёй беларускай літаратуры паняцце *дарогі, шляху*, перадаецца адчуванне зрушанасці, дынамізму, звернутасці ў свет.

«Па вясновым торам / Травянеюць гоні» — скажа паэт у іншым вершы. І тут гэтая цененькая суравая ніткачка *тору* раскручваецца, каб развінуцца ў прасторавую абсяжнасць яснеючай перад маладым паэтам далі.

Гэтае з роднай моўнай спадчыны захаванае, ля родных аселіц сустрэтае слова, з яго сематычнай шматмернасцю і глыбінёй, аўтар пазней скарыстае і ў дачыненні да таго новага і нязнанага, што знаходзілася дзесьці там, за далямі маленства, за родным светам вясковых хат. «Цярэбіць тор густым абводам лесу / Рэвалюцыйная рука».

Паэт спадзяваўся, што гэтыя два светы — традыцыйны і заснаваны на рэвалюцыйнай ломцы — можна без асаблівых маральных страт спалучыць у адзіным паэтычным адчуванні. Верыў у тое, што можна знайсці *агульныя* для іх абодвух словы, азначэнні.

Родны свет, паэтычна адчуты, вобразна ўвасоблены, несумненна, дае аб сабе знаць, можа нават па-за воляй самога аўтара, там, дзе гаворка вядзецца *на новы лад*. Вось верш Хадыкі, прысвечаны XII з'езду КП(б)Б. Трэба сказаць, што такога кшталту твор вымагаў асаблівага падыходу, асаблівай адказнасці ў расстаноўцы ідэалагічна выверанаых акцэнтаў. Можна лічыць такі тып твора наогул асобнай жанравай разнавіднасцю ў тагачаснай літаратуры.

Ужо ў самой назве верша Хадыкі з партыйным прысвячэннем сутыкаюцца ўяўленні з розных быццёвых сфер, якія нібы і пагаджаюцца паміж сабой, і адначасна пярэчаць: «Сталёвыя фальбоны». Цалкам сугучны пафасу эпохі эпітэт, які ў якасці найбольш распаўсюджанай яе вобразнай характарыстыкі сустрэнем, мабыць, у большасці тагачасных паэтаў, раптам адносіцца да зусім не рэвалюцыйна-пафаснага, а хутчэй, наадварот, вельмі хатняга, якогасьці *лагоднага* слова.

Пачатак верша, як і належыць такім творам, вытрыманы ў духу строгіх, сапраўды сталёвых рытмаў эпохі. І лексіка таксама адпаведная:

Ў калёсах рытмічныя рухі,
Наўпроці — бетонны прахон…

Аднак у гэтую *бетонную манатоннасць* тут жа ўплятаецца больш гнуткі і шматзначны матыў:

Не згіне ў вятрах завірухі
Музычнасць сталёвых фальбон.

Вобраз *чыгункі* быў у тыя гады сімвалам эпохі, адзнакай яе дынамізму. Няма сумнення ў тым, што Хадыка, як і ягоныя таварышы па пяры, з уздымам вітаў надыход новай эры, шчыра прагнуў далучыцца да яе стваральных памкненняў. І, аднак жа, як паэт, што тонка адчуваў гармонію свету, ён не мог пакінуць у баку свае эстэтычныя прыярытэты.

«Мелодый знадворку не кінуць…» — быццам паміж іншым заўважае ён у гэтым вершы. Як бы паэт ні імкнуўся аддаць даніну рыторыцы (а гэтага патрабаваў жанр твора), усё адно прабівалася ў верш жывое, прачулае, эстэтычна маркіраванае слова. Тое слова, за якім стаяў хоць невялікі пакуль што, але важкі жыццёвы вопыт, адчувалася сувязь са светам, які даў паэту жыццё і надзеі. «Прозалаць стром», «смарагдавы плён» — у гэтых метафарах, такіх нестасоўных да верша-прысвячэння партыйнаму з'езду, сказвалася паэтычная натура, прытым натура цвёрдая, устойлівая, верная самой са-

бе. Няхай у стылёвым плане падобная вобразнасць і не вызначалася асаблівай арыгінальнасцю, аднак у дадзеным выпадку яна выконвала сваю адметную функцыю. Яна выступала як знак інакшасці, як сцверджанне неабходнасці цэласнага падыходу да жыццёвых з'яў, абавязковага ўлічвання і эстэтычнага боку рэчаіснасці.

У вершы «Сталёвыя фальбоны» сыходзяцца дзве рэальнасці, дыялог паміж якімі, на думку аўтара, жыццёва неабходны. І калі адна з іх можа ўспрымацца як *натура, што адыходзіць*, гэта не азначае, быццам ёй выносіцца канчатковы прысуд. Не толькі ў рэальным жыцці, але і ў мастацтве патрэбна дзеля паўнавартаснага развіцця наяўнасць рознаполюсна скіраваных сіл. Толькі ў такім выпадку ўзнікае напружанасць паэтычнага прамаўлення, сапраўдная важкасць мастацкага выяўлення. Думаецца, што Хадыка заўсёды інтуітыўна адчуваў гэтую заканамернасць існавання мастацтва.

«Сталёвым фальбонам» машыннай эры супрацьпастаўляецца ў Хадыкі «плач быльнягу», што згадвае «аб вольнасці дзікай». Здзічэласць і смутак, што знаходзяцца на супрацьлеглым баку (або наводдаль) прагрэсу, які актыўна наступае, не пазначаны ў цэлым выразнай негатыўнасцю. Яны хутчэй выклікаюць жаль, успрымаюцца як аб'екты, што спазнаюць на сабе нацiск. «Абводам жалезнай далоні / Закованы смутак кустоў…» — гэта напісана задоўга да разгортвання меліярацыі, тады такой праблемы як экалагічная яшчэ не існавала. І тым не менш у гэтым смутку не толькі развітанне з тым, што адступае перад новым ладам жыцця, але і выяўленне быццёвай і эстэтычнай вартасці спрадвечнага светаўпарадкавання. Адкідаць рашуча і бяздумна ўсё тое, што валодае такой вартасцю, з чым зжылася душа, што асвятляе шлях наперад, паэт не жадае.

Усмешкаю шэранькай хаты
Падмурак прасветлены наш.

Ці ж не маніфестацыя гэта цэлай эстэтычнай і ідэйнай праграмы, той праграмы, у адпаведнасці з якой і будзе праходзіць духоўнае і мастацкае развіццё ўсёй беларускай літаратуры ў XX стагоддзі! У іншым вершы («Табе я сёння не скажу») паэт яшчэ раз падкрэсліць сваю прыналежнасць да гэтай нацыянальна-мастацкай традыцыі, на гэты раз яшчэ больш адкрыта асабова: «Малюся шчыра, паўшы ніц, / Ў адплыў на шэранькую хату». Матыў *малення*, купалаўскі матыў, напрыканцы дваццатых гадоў не надта каб упісваўся ў ідэалагічную парадыгму часу. Хутчэй, наадварот, патрэбна было мець унутраную духоўную незалежнасць, каб карыстацца падобнымі словамі.

З купалаўскай паэзіяй Хадыку ўвогуле звязвала многае. Характар вобразнасці, рытмічная шматстайнасць, поліфанічнасць гучання верша, цяга да самавітага, узнятага з самых глыбіняў народных, слова — па многіх гэтых лініях ішло наследаванне і развіццё купалаўскіх традыцый. Мабыць, як ніхто іншы з яго равеснікаў, Хадыка быў блізкі да купалаўскага тыпу верша, да купалаўскай паэтыкі. Нездарма і Янка Купала вылучаў яго з шэрага іншых паэтаў. А самае галоўнае, што ўзята маладым паэтам у класіка, — гэта адданасць народным духоўным і культурным традыцыям, адносіны да мастацтва як да найвышэйшай вартасці, апірышча ў духоўных і эстэтычных пошуках на грунт народнага жыцця.

Той жа самы верш, у якім Хадыка малітоўна схіляўся «ў адплыў» перад простай вясковай хатаю (а такое шанаванне сціплай хаткі беларуса гэта, сапраўды, даўняя і трывалая беларуская маральна-эстэтычная традыцыя, выразна прыкметная пачынаючы яшчэ з XIX стагоддзя), у чымсьці блізкі да купалаўскага «Сыходзіш, вёска, з яснай явы…» Вершы гэтыя напісаны абодвума аўтарамі ў адным і тым 1929 годзе, у той час, калі беларуская вёска зазнала вельмі крутыя змены і нялёгкія выпрабаванні. Пра купалаўскі верш

напісана ўжо багата. Гэты глыбокі падтэкстам, з завітымі ў адзін вузел мажорнымі і мінорнымі адчуваннямі, твор сапраўды варты вельмі ўважлівага ўчытвання. Аднак і верш Хадыкі таксама (хоць, можа, ён і не нагэтулькі, як купалаўскі, маштабна разгорнуты) выклікае на роздум пра нялёгкую дылему, перад якой быў пастаўлены мастак у першай палове XX стагоддзя, у няпросты час, калі ўсё зрушвалася са свайго спрадвечнага месца, перабудоўвалася, ламалася, будавалася, імкнулася наперад.

Развітанне з мінулым, погляд «у адплыў» усяму таму, што адыходзячы, застаецца, вядома, цяжкая справа. У вершы Хадыкі «Табе я сёння не скажу» дэкларавалася гатоўнасць прыняць новыя абставіны жыцця, змяніцца самому ў змененым асяроддзі. *Памкненні эпохі* — жаданне арганізаваць па-новаму сацыяльныя ўзаемаадносіны, далучыцца да навукова-тэхнічнага прагрэсу, наладзіць новы побыт — ішлі поруч з *настроямі эпохі*, якія выліваліся ў разасабліванне асобы, падпарадкаванасць чалавека агульнай ідэі. Трактар на палетку — гэта, вядома, някепска, але сістэма выбудоўвалася так, што той *трактар* суадносіўся нейкім чынам з неабходнасцю адмаўлення ад звыклых чалавечых пачуццяў і прыхільнасцей. Гэта і была галоўная пагроза: рэчаіснасць засланяла сабой духоўнасць, факт імкнуўся адмовіць душу. І таму згода паэта прымаць новыя *правілы* жыцця несла ў сабе адчувальную гаркоту.

На нашым ўскружаным вяку
Бывала шмат славутых фактаў...
Я смутак ў сэрцы пасяку,
А бацька сядзе мой на трактар.

Я кіну спеўную іржу,
А бацька мой — рыззё старое...

Паказальным з'яўляецца ўжо само супастаўленне, пастаноўка побач матэрыяльнага і духоўнага ў такім кантэксце. Нібыта, сапраўды, смутак, жаль, тугу або радасць можна так вось пасекчы, панішчыць, «як старое рыззё». І ў выразе «спеўная іржа», вядома, больш горкай іроніі, чым сапраўднага адмаўлення значымасці мастацкага выражэння. На тое, што не ўсё патрэбна ўспрымаць адназначна ў паэтавым прызнанні, паказвае і спецыяльнае падкрэсліванне ім, што ў яго «прыкрасці няма і злосці ў сэрцы — ні на кога». Тут варта, думаецца, ісці акурат ад адваротнага. Ва ўсякім разе дзеля чагосьці аўтару спатрэбілася гэтае спецыяльнае акцэнтаванне сваёй бесстароннасці.

Чамусьці і ў вершы «Пад клёнамі» таго ж 1929 года, дзе паўнагучна гучыць рыторыка ўхвалення і прыняцця, не-не ды і прамільгне матыў журбы і стомленасці, у дадзеным выпадку вытлумачваемы разыходжаннямі з каханай. Не так проста аказвалася расстацца са смуткам.

Наогул жа элегічнасць, мабыць, у большай ступені была характэрна для Хадыкі як паэта, чым бадзёранькая маладнякоўская бясхмарнасць, што часта межавала з бяздумнасцю. Элегічнасць патрабуе думкі, яна бліжэй да філасофскага спаціжэння жыцця.

У мастацкай сістэме Хадыкі, нягледзячы на абавязковыя дэкларацыі, цалкам натуральным выглядаў такі жанр, як *элегія*. Жанр наогул не надта характэрны для паэзіі 20-х гадоў з яе мажорнымі, рэвалюцыйна-бадзёрымі настроямі.

Элегічнасць заяўляе пра сябе ў назве аднаго з вершаў — «Скрыпіць туга» (1926). Элегічны, прасякнуты незразумелай і самому аўтару жальбой, і ўвесь лад гэтага твора. Адкуль, з чаго гэтая суцішана-засяроджаная, пранізлівая туга? Паэта не адпускае вёска. Вёска, што застаецца сам-насам з восенню, з яе агаленымі прасторамі, з яе глушынёй і пустэчай. Мажорныя рытмы дзесьці далёка адгэтуль, там, дзе адбываюцца нейкія змены, дзе ўсё

бурліць і бурапеніць. Тут жа ўсё такое звычайнае, свойскае, дарагое і блізкае. І разам з тым — адчужанае ў сваёй знерухомеласці і пакінутасці. Мы бачым і адчуваем разам з паэтам гэтую адвечную наканаванасць, бачым выяўна, яскрава, як на грушы «ліст пажоўклы трупціць у галлі», услухоўваемся ў тое, як «з вятром нячутна павуцінай гамоніць плот». Паэтычнае, метафарычна-вобразнае зліваецца ў гэтым элегічным вершы Хадыкі з празаічна-рэалістычным, будзённым у агульнай перспектыве чалавечага быццяперажывання. Пільным зрокам мастака ўмомант схопліваецца дэталь-падрабязнасць і падаецца ў эстэтычна аформленым выглядзе праз уражвальны, запамінальны метафарычны вобраз. Мы пазнаём асяроддзе, абставіны ўсамотненага жыцця, чытаючы, да прыкладу, аб тым, як у вясковым садку пад восеньскай непагодай «абсеў шкілет агрэсту». А побач з гэтым — грунтоўны аповед пра тое ж вясковае быццё, але на мове, якая магла б прыдацца і для эпічна-паўнаважкай, рэалістычна-заглыбленай прозы:

Не песніць вулка вёскі ў вечар, —
Хаця б папалася з людзей адна душа,
Калі ж хто выйдзе — голаў ў плечы
І — шырай шаг...

Восень, сцюдзёнасць, непрытульнасць... Адчуванне псіхалагічна дакладнае, адпаведнае сітуацыі. Паэзія Хадыкі здольная да ўзнаўлення і такога, разгорнутага, скіраванага ў шырокі свет, погляду. У працытаваным вышэй фрагменце, дарэчы, адчуваецца вольнае дыханне блокаўскага радка, лірэпічнай стыхіі ягоных «Дванаццаці». Так сыходзяцца, перагукваюцца ў мастацкім прасторы і часе ўзрошчаныя ў розных варунках, ды абвеяныя адным ветрам рэвалюцыйнага ўзрушэння паэтычныя візіі свету. Хоць у вершы Хадыкі вуліца не сталічна-піцерская, а самая што ні на ёсць глухая вясковая. На такой можна перастрэць, мабыць, і чорнаўскіх або мележаўскіх герояў.

Ёсць у Хадыкі верш «Гарманіст», дзе зусім іншая вясковая вуліца, хоць паказаная прыкладна ў тую ж восеньскую пару. Таму што ўсё тут прасякнута інакшым настроем, вытрымана ў светлых танах.

Палае змрок.
Асенні свіст
Налёг на хілкія задворкі...
Ідзе вясковы гарманіст,
Ідзе з сябрамі на вячоркі.

І змрок тут нават палае, і ў свісце, завыванні ветру чуецца бадзёрасць. Праўда, вячоркі, на якія кіруюцца зухі-хлопцы, па волі аўтара ператвараюцца, па сутнасці, у паседжанне ячэйкі. Аднак жа і калектыўнае чытанне газеты, і трапныя выслоўі наконт міжнароднага становішча ствараюць у вершы атмасферу натуральна ўвасобленага, дакладна-рэалістычна перададзенага *жывога* жыцця. Чытаючы падобныя, сюжэтна разгорнутыя, вершы Хадыкі, не можаш пазбыцца думкі, што з трагічна абарваным жыццём застаўся нерэалізаваным, апрача ўсяго іншага, эпічны патэнцыял паэта. Паэтычны эпас або ліра-эпас, які мог стварыць Хадыка (а ў яго, лірыка па прыродзе свайго таленту, былі дастатковыя падставы, каб выявіцца і ў буйной эпічнай форме) застаўся там, у *пазачассі*. Пра яго схільнасць да эпічнага ладу пісьма сведчыць таксама цыклічнасць ягоных вершаў, такая ўласцівасць лірычных твораў, якая выяўляецца ў імкненні да сцяжэння ў больш ёмістае структурнае адзінства.

Нерэалізаванае, недаказанае да канца паэтам, так ці інакш было пазней увасоблена іншымі аўтарамі, тымі, якія жылі і працавалі ў другой палове стагоддзя. Вядома, Хадыка напісаў бы па-свойму, з уласцівымі толькі яму інтанацыяй, засяроджанасцю, раскрытасцю перад светам. Аднак нейкія асобныя рысы, прыкметы яго творчага почырку, стылю ўгадваюцца ўсё-такі ў творах



*Уладзімір Хадыка (стаіць апошні справа) сярод сяброў-пісьменнікаў.*

яго наступнікаў. Напрыклад, яснасць і празрыстасць стылёвага выражэння, псіхалагічная заглыбленасць вобразаў, несумненна, прываблівалі Міхася Стральцова і пэўным чынам адбіліся на яго паэтычнай творчасці. Нездарма, думаецца, Стральцоў звярнуўся і да асэнсавання творчага даробку паэта-папярэдніка як крытык, адзначаючы пры гэтым найперш блізкія яму самому ўласцівасці паэзіі Хадыкі, у прыватнасці адсутнасць у ягоных творах «эмацыянальна-мастацкай безадноснасці», якая, на думку крытыка, была ў вялікай ступені характэрна для паэтаў-маладнякоўцаў.

Адчуванне экзістэнцыі асобы як своеасаблівага лірычнага дзейства, якое разгортваецца ва ўмовах насычэння рэчаіснасці элементамі святочнасці, яе міфалагічнай трансфармацыі, што выяўляецца, да прыкладу, у вершы Хадыкі «Ах, якія вятры! Каляровасць ракіт…», у наш час характэрна для паэзіі Леаніда Дранько-Майсюка. Але і ў самім гэтым вершы Хадыкі прыкметныя адзнакі ўплыву купалаўскай паэтыкі і вобразнасці. Такі чынам і ажыццяўляецца пераемнасць мастацкіх традыцый, што забяспечвае несупыннае развіццё нацыянальнага слоўнага мастацтва.

Можна і патрэбна гаварыць пра пэўную дыстанцыяванасць Хадыкі ад маладнякоўскай паэтыкі і маладнякоўскага пафасу. Даследчыкі, якія пісалі пра ягоную творчасць, адзначалі, што напачатку для маладога паэта была характэрна мова вобразаў маладнякоўскага *гатунку*, але неўзабаве ён набыў сваю ўласную *мову*, вершы яго даволі хутка пазбавіліся ад «бурапены». Натуральна, што юны паэт-пачатковец, які ў 22 гады выдаў сваю першую кнігу, не мог не паддацца зусім уплыву маладнякоўскіх вобразаў, а ў яшчэ большай ступені таго ўздымнага светаадчування, якое абвяшчала надыход новай эпохі.

Зрэшты, было б нацяжкай гаварыць, што ў пазнейшыя, больш мастацка *сталыя* гады мова паэта вызначалася празмернай строгасцю і ўнармаванасцю. Сваім пошукавым, наватарскім духам яна не ўступала, а можа быць, у чымсьці і пераўзыходзіла традыцыйную маладнякоўскую словатворчасць. *Самавітае* слова Хадыкі, якое знакава вылучаецца ў кантэксце, сапраўды, значна адрозніваецца ад маладнякоўскай фразеалогіі. Наватворы, характэр-

ныя для агульнага маладнякоўскага стылю, вызначаюцца не столькі сваёй лексіка-семантычнай арыгінальнасцю, як новым падыходам да стуктурнага спалучэння асобных слоў, іх зрошчвання ў метафарычна-вобразныя ўтварэнні. Аднак, як і кожны прыём, такі падыход, напачатку ўражвальны сваёй незвычайнасцю, навізной, не мог з цягам часу не ператварыцца ў пэўны штамп, абавязковую адзнаку стылю.

Словатворчасць Хадыкі адметная іншым. Хадыка прыхільнік не таго слова, якое служыць толькі эмблемай пэўнай эмацыянальнай настроенасці або жыццёвай пазіцыі. Ягонае слова мае самадастатковую эстэтычную значымасць, яно прываблівае якімсьці патаемным, дарэшты не раскрывальным сэнсам, сваім каларытам, поліфанічнасцю гучання.

Напярэймы ночы выйду я
Выканаць падзел…
Вочы з робленаю крыўдаю
Плаваюць ў вадзе.

Дражніць сэрца вострым лоскатам
Канцавоссе сноў…
Гляну ў зелень — наша вёска там
Выплыла ізноў.

Гэта верш Хадыкі, напісаны ім у тым самым 1928 годзе, што і «Гарманіст». Але якая ўражвальная розніца ў спосабе мастацкага выражэння, перадачы рэалій сапраўднасці і момантаў душэўнага жыцця. Для Хадыкі якраз гэта характэрна: у яго ўсё побач, натуральна спалучана аўтарскай асабовасцю — і прадметнае ўвасабленне, і пачуццёвае выражэнне, і асацыятыўна-ўскладненая вобразнасць. Вершы розныя па сваім складзе і светаадчуванні, выяўленым у іх, але ўсё-такі няма адчування, што яны напісаны рознымі аўтарамі.

Рыгор Бярозкін, які ўважліва перачытваў вершы Хадыкі на пачатку 70-х, адзначаў як станоўчы момант у развіцці паэта тое, што ён праз адносна нядоўгі прамежак часу адышоў ад маладнякоўскай паэтыкі, ад маладнякоўскага спосабу моўна-вобразнага выражэння. Мяжой, за якой адчыняліся новыя для паэта творчыя гарызонты, на думку крытыка, быў зборнік «Суніцы», выдадзены ў 1926 годзе, які яшчэ быў «тыпова маладнякоўскай кніжкай». Пасля ж паэту, як мяркуе Бярозкін, становіцца бліжэйшым «раздумлівае, скупое, дакладнае слова, якое перадае канкрэтнае ўражанне ці падзею». У гэтым ёсць слушнасць, але частковая. Слова магло быць у Хадыкі празрыстым і дакладным, яно і было вельмі часта такім. Такое слова перадавала, узнаўляла рэальна адчутае і непасрэдна выяўнае. Але побач з ім паўставала іншае слова, якое не раскрывала цалкам сваёй семантычнай і метафарычнай глыбіні, якое захоўвала пэўную сэнсавую непрацінальнасць.

Прыкладаў менавіта такой паэтычнай мовы можна прывесці багата, прытым у перыяд пасля выхаду зборніка «Суніцы» падобнай лексікі стала нават больш: «хаты і *жораст* палёў», «хмелем *сукрыстых* палос», «мінулых сцежак прайсці *дэсань*», «мой край, *да безвачы* любімы», «пясочны *заварат*, як першатвор», «вятры *базырлівыя* рвуць», «і смерць у іклах ляскае на жудасць *здалягосць*», «ўтаптаць пад *выскідзь* сухадрэвін», «дзе ў славе *ныдвіў* госцем частым», «ад часоў, калі *высцігі* рэк», «хапае, як сляпень, як *здрок*», «згубіў свой дапатопны *пэнт*» і г.д.

Такія слоўныя формулы не ўкладваюцца, вядома, у схему зразумеласці і адназначнасці ўспрымання, для сучаснага чытача яны яшчэ больш падаюцца загадкавымі і аддаленымі ад цяперашняга моўнага кантэксту. Але ў той жа час яны, можа, у большай ступені, чым для чытачоў міжваеннай пары, адкрываюцца сёння сваім паэтычным зместам. Гэтая неспазнанасць, нявычарпанасць сэнсу, які затойваецца дзесьці ў глыбінях гукавой формы, і з'яўляецца

якраз увасабленнем сутнасці і адметнасці светабачання паэта. Для сучаснага чытача, для якога застаецца актуальным і істотным паэтычны вопыт Хадыкі, не з'яўляецца сёння галоўным пытанне пра генезіс паэтавага *самавітага* слова. Ці гэта штучна створанае слова, аўтарскі неалагізм, ці ўзятае з глыбіняў народнай практычна-моўнай памяці — усё адно яно выконвае прызначаную яму місію, служыць выяўленню глыбінных пластоў свядомасці паэта-лірыка. У шэрагу выпадкаў нават цяжка практычна адмежаваць народны лад слова ад аўтарскага. Народ-словатворца і паэт-словатворца нібы аб'ядноўваюць супольна намаганні ў адзіным творчым акце. Гэта традыцыя зноў жа купалаўская. Менавіта ад Янкі Купалы сыходзіць тэндэнцыя надаваць паэтычнаму слову дадатковыя сэнсы, звязваць яго сэнсавую перспектыву і вобразную цэласнасць з выразнасцю яго гукавога афармлення.

Яшчэ адна традыцыя, якая заўсёды спадарожнічала беларускай паэзіі, якая надзвычай актуальная і сёння, выявілася даволі выразна ў творах Хадыкі. Гэта імкненне паэта да асэнсавання ўласнай творчасці, спробы праз самарэфлексію дайсці да разумення прыроды мастацтва, яго ўнутраных стымулаў і прадвызначэнняў. Хадыка імкнецца такім чынам устойлівей угрунтавацца на ўласнай творчай сцяжыне, вызначыць для сябе мастацкія і духоўныя прыярытэты, спраўдзіць свае эстэтычныя ідэалы. Часта гэта адбываецца ў размове-дыскусіі з уяўляемым апанентам, з адрасатам, які застаецца без канкрэтных прыкмет. Так, у вершы «Каму, як не табе, паслухаць…» паэт робіць такі закід свайму віртуальнаму суразмоўцу: «Ты лірыкі маёй не любіш / За рэбус і за фарбаў тло…» Значыць, ён цалкам усведамляў свой асобны, спецыфічны шлях у літаратуры свайго часу, разумеў, што вобразы ягоных вершаў могуць успрымацца як своеасаблівы код, які не кожны здолее расчытаць. І тым не менш не сумняваўся ў *патрэбнасці* такога шляху, калі пісаў аб тым, як ён куе «профіль цьмянага радка». У гэтым парадаксальным вобразе — увесь Хадыка! Выкоўваць профіль радка — сказана моцна, важка. Сапраўды чаканны вобраз. Аднак жа радок, які чаканіцца, выбіваецца, здаецца, на вякі, аказваецца раптам… цьмяным!

Цьмяны радок ці радок, які мог здавацца цьмяным, быў вельмі істотным для паэта, паколькі быў камертонам яго духоўнай і эстэтычнай незалежнасці, самастойнасці як мастака. Тым больш, што цьмянасць гэтая была зусім іншая, чым абстрактная і няпэўная, невыразная рыторыка многіх паэтаў яго пакалення.

Хадыкаўскі вобраз мог быць і надзвычай выразны, пластычны. Наогул шырокі дыяпазон творчых магчымасцей быў у гэтага таленавітага паэта. Вось, да прыкладу, які пластычна-манументальны вобраз узнікае ў адным з вершаў, дзе разгортваецца інтымная тэма (якая вырашаецца ў Хадыкі таксама адметна):

І мармур бялюткі пляча
Цьмянеў, як чужы і не любы...

Паэтычны вобраз Хадыкі можа набываць рысы гратэску («У золаце вячэрняга агню / Я тым адрознены, што падышоў да форткі, / Суцішна глянуўшы у шчэлепы каню, / У крамныя адзеты порткі»), можа вызначацца і ўзвышанай строгасцю, калі гаворка датычыцца важнейшых быццёвых катэгорый, як у радках пра тое, што «суровай ніткаю прашыты старонкі смерці і быцця».

Экспрэсіўнасцю, каляровай каларыстыкай і адначасна пластычнай выяўнасцю вызначаецца вобразнасць цыкла вершаў «За строем дат і рубрык»:

Вярбы старой тарчаць сукі, як рэбры,
Адбітыя ў люстраным шкле ракі, —
Там вільгаць п'е галля шчарбаты рот,
Там мые дзень свой залаты жывот.

Тут немагчыма не ўспомніць паэзію Уладзіміра Караткевіча з яе буянай шматфарбнасцю, пластыкай і экспрэсіяй. Аднак не толькі яго як прадаўжальніка пэўных патэнцый, закладзеных у хадыкавым творы, можна згадаць, чытаючы гэты цыкл. Ва ўрачыста-пафаснай і адначасна засяроджана-роздумнай інтанацыі верша, у матывах бясконцай плыні, што злучае вытокі з далячынямі («Няхай гурчыць крутой ракі струмень — / Бярэ ён даль нячутнымі нагамі…), размовы з часам («Мой дбайны век шляхам вядзе дазор…»), звароту да свайго радка («І дбайна рэй вядзі за крокам крок…») прадугадваецца паэзія сталага Аркадзя Куляшова.

У гэтым жа цыкле Хадыкам прамоўлены прарочыя словы:

Каравыя жыць будуць нашы строфы
Ў крышталях дум, што новы дасць паэт.

Сказана, вядома ж, задужа сціпла, што датычыцца эстэтычнай самахарактарыстыкі сваёй творчасці і ўсяго пакалення, аднак слушна па сутнасці. Жывое развіццё паэзіі не перарвалася, нягледзячы на не заўсёды спрыяльныя ўмовы. Таму што і паэзія Уладзіміра Хадыкі, і іншых паэтаў яго пакалення была і застаецца жывой з'явай.

Па-іншаму з часам могуць прачытвацца паэтычныя вобразы, інакш трактавацца ў гістарычнай перспектыве асобныя думкі і высновы паэта, аднак заўсёды, калі гэта сапраўдная паэзія, яна захоўвае ў аснове сваёй істотнасць асобы творцы, характэрнасць яго паэтычнага голасу. У самім тэмбры гучання, энергічнай напорыстасці рытму, уласцівых вершу Хадыкі, зберагаецца яго паэтычная душа. І гэты жывы голас паэта, які ў стане данесці да нас радкі ягоных твораў, і ёсць самае галоўнае з таго, што можа быць успрынята ў любы час, які захавае ў сабе магчымасць такога ўспрымання. Бо ў ім, у гэтым голасе, жывыя вібрацыі здзейсненай эпохі, яе смутак, надзея і радасць. Варта толькі чуйна прыслухацца — і ты апынешся *там*, дзе павеў ветру не адрозны ад лёгкага дыхання верша.

Вецер лётае, вецер гойсае,
Вецер ўвечары будзіць быль...
Мая дзіўная бегла босая,
Бегла босая на кадрыль.

Плот і весніцы. Хаты сонныя.
Ў небе досвіткі. Ў сэрцы рань...

Пільней учытваючыся ў мову вобразаў таленавітага паэта пары сталення новай беларускай паэзіі, услухоўваючыся ў мелодыку яго лірычнай плыні, што не зліваецца з іншымі, хоць у многім і суладная ім, сучасны чытач здолее адчуць і каларыт эпохі, і непаўторнасць творчай індывідуальнасці Уладзіміра Хадыкі, і значнасць эстэтычнага вопыту, назапашанага нашай літаратурай на яе няпростым гістарычным шляху.



**Алена МІМРЫК**

# НАСТАЎНІК І СЯБАР ДЗЯТВЫ

*(да юбілею Алеся Пальчэўскага)*

Кожны чалавек крочыць сваімі жыццёвымі сцежкамі. І чым далей будзе адыходзіць ад сваёй першай сцежкі, тым больш іх будзе: вузкіх і шырокіх, кароткіх і доўгіх, крутых і гладкіх. Ад таго, якую чалавек выбярэ, будзе многае залежаць у набыцці ўласнага вопыту, без якога жыццё — не жыццё.

Калі ў чалавека адбываецца нешта важнае, і гэта адклалася ў памяці вузельчыкам, і калі такіх вузельчыкаў усё большае, тады ўзнаўляецца ўсё, што сустракалася на пройдзеным шляху. Адно больш прыкметна, другое — менш.

Гэтыя мудрыя разважанні я пачула ад Алеся Восіпавіча Пальчэўскага ў дзень яго сямідзесяцігоддзя. Успамінаюцца яны і цяпер, праз шмат гадоў. Ён быў вельмі расчулены, сядзеў за сталом, пазіраючы яснымі блакітнымі вачыма на нас, сваіх гасцей, якія прыйшлі павіншаваць яго з юбілеем. Ён рыхтаваўся, бо ведаў: за пачастункам трэба будзе нешта расказваць нам з перажытага — так вядзецца — расказваць коратка, бо нельга стамляць гасцей. З глыбіні яго памяці выплывала прамінулае, бачанае, чутае...

Да маленькіх драбніц паўставалі перада мною падзеі яго далёкага маленства. Слухала ўважліва, стаіўшы дыханне, не адводзячы позірку ад гэтага дарагога мне чалавека, майго настаўніка. Каб не ён, можа б, я не дасягнула таго, што маю зараз. Ён і яго жонка Тамара Рыгораўна Цулукідзе апякалі мяне з дня нашага знаёмства як сваю дачку. Гэты клопат я адчувала амаль кожны дзень.

Алесь Восіпавіч Пальчэўскі — дзівосны, вялікай душы чалавек, для якога вернасць, шчодрасць і велікадушнасць былі такой жа натуральнай патрэбаю, як паветра. Бадай, я не ведала чалавека больш непахіснага ў сваіх творчых і маральных перакананнях і ў той жа час такога ранімага. Жаданне ствараць, увасабляць задуманае, заваёўваць невядомае, радавацца аднадумцам, няўхільна рухацца да новых адкрыццяў — гэта было прызначана яму самім лёсам.

Пісьменнік добра ведаў вясковае жыццё, людзей, быў улюбёны ў прыгажосць роднага краю. Асабліва сардэчна і шчыра маляваў ён вобразы настаўнікаў і школьнікаў, глыбока і праўдзіва апісваў усё новае, што нараджала наша рэчаіснасць.

---

*Мімрык Алена Міхайлаўна нарадзілася ў Мінску ў 1927 годзе. Вучылася ў кансерваторыі. Мае дыплом бухгалтара. Працавала на «Беларусьфільме», у газеце «Чырвоная змена» і часопісе «Бярозка». Выдала пяць арыгінальных кніжак для дзяцей. Перакладала з украінскай і чэшскай моваў.*

*Цяпер — на пенсіі. Жыве ў Мінску.*



*Алесь Пальчэўскі з Аленай Мімрык у рэдакцыі «Бярозкі».*

Дабро і зло, праўду і ману. Хараство і маральнае пачварства. Колькі існуе чалавецтва, столькі ж часу вядзецца і непрымірымая барацьба між людзьмі. У аповесцях і апавяданнях Алеся Восіпавіча Пальчэўскага гэта шчырая, адкрытая і няўступлівая барацьба ўвасоблена ў вобразах яскравых і ўразлівых, што западаюць у душу з першага прачытання.

Героі яго твораў увесь час у трывозе за іншых, заўсёды спяшаюцца камусьці на выручку. Гэтую трывогу дзяцей падзяляюць з імі і дарослыя, перадаючы меншым асновы свайго вынашанага за гады вопыту.

Нарадзіўся Алесь Восіпавіч Пальчэўскі ў студзені 1905 года ў вёсцы Прусінава на Уздзеншчыне. Быў адзінаццатым дзіцем у беднай сялянскай сям'і, якая змушана была працаваць ад цямна да цямна.

Малы Алеська больш хіліўся да маці, шкадаваў яе за працавітасць: трэба было і сям'ю накарміць, абмыць і абшыць, парадак весці ў хаце і за яе сценамі, і дачок навучыць гэтаму майстэрству.

Малыя любілі сядзець каля маці, назіраць, як яна латае бялізну ці шые новую. Але больш за ўсё любілі слухаць казкі альбо праўдзівыя здарэнні. Сцішыўшыся, слухалі і чакалі, што будзе далей.

А тата з чатырнаццацігадовым Уладзікам яшчэ на досвітку выпраўляліся ў заробкі: вазілі з лесу бярвенне да Нёмана. Увесну плытнікі павязвалі іх і ганялі плыты аж у Коўна. Вярнуўшыся, расказвалі пра дзівосны горад з вялікімі люстранымі вітрынамі.

— Каб не гэтыя заробкі, сядзець бы нам, дзеці, без хлеба ды без газы, а можа, і без солі. З такою сям'ёю на шматочку нашай зямлі не вельмі разжывешся ды вывучыш вас, — са скрухай у голасе казаў тата.

Алеську пашанцавала з вучобай. Калі ў вёсцы адкрылі пачатковую школу, ён скончыў яе, маючы добрыя адзнакі. Потым паступіў у вышэйшае пачатковае вучылішча ў Новым Свержні. Папрацаваў у вёсцы культармейцам. А калі стаў селькорам, адчуў, што трэба вучыцца далей. Узяўшы самаробны куфэрак з небагатай маёмасцю, дваццацігадовы юнак паехаў паступаць на рабфак БДУ. На развітанне тата сказаў яму:

— Перад табою, сынок, шырокая дарога ў свет. Ідзі па ёй, ды ніколі не забывайся, што ты чалавек.

І паехаў Алесь у той сонечны дзень позняга лета шукаць між тысяч людскіх дарог і сцежак сваю ўласную. Татава парада запала ў яго сэрца. Яна стала для яго запаветам, з якім ён пратупаў нямала пуцявін.

Дзень, калі ён выйшаў за бацькоўскі парог у пошуках свайго месца ў жыцці, быў пачаткам здзяйснення яго юнацкіх кроз і летуценняў. Ён ехаў вучыцца на настаўніка, каб пазней стаць барацьбітом з адвечнай цемрай працавітых людзей. Сярод іх ён вырас, іх лёс быў яму блізкі.

У 1931 годзе Алесь Пальчэўскі скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ. Але настаўнікам працаваць не давялося — ён быў накіраваны на газетна-выдавецкую работу. Крыху пазней яго прызначылі адказным сакратаром дзіцячага часопіса «Іскры Ільіча» (будучы часопіс «Бярозка»).

Літаратурную дзейнасць Алесь Восіпавіч пачаў у 1925 годзе. Яго пяру належаць зборнікі апавяданняў «Родныя берагі», «Разбітае люстэрка», «Жнівеньская раніца», «Мора на камені», «Ноч на вахце». Ён любіў дзяцей і перш за ўсё пісаў для іх, разумеў псіхалогію дзіцячай душы, адносіўся да дзяцей з даверам. Вялікай папулярнасцю сярод іх карысталіся аповесці «Ты не адзін», «Данеўцы — нашы знаёмыя», «Тайна аднаго звяна», «Сцежкі».

Вучні старэйшых класаў і сёння з захапленнем чытаюць апавяданні і аповесці, у якіх пісьменнік раскрывае прыгажосць і багацце роднай прыроды, вучыць ставіцца да яе з павагай. Ён любіў родныя палеткі, не раз пераходжаныя ім, таму мілыя і дарагія сэрцу.

Алесь Восіпавіч любіў таксама блукаць па лясных сцяжынах, прадзірацца праз непралазныя гушчары, буралом і зараснікі да знаёмай паляны сярод прыгажунь бяроз і меднастволых соснаў. Тут ён адпачываў. Тут пад шэпт лістоты прыходзілі ў галаву розныя думкі, нараджаліся новыя сюжэты для будучых твораў.

Праблема шчасця заўсёды хвалявала пісьменніка. Сумленны, праўдзівы, зычлівы, ён быў непрымірымы да ўсяго, што перашкаджала жыццю. Ён шукаў высакародныя вобразы і гэтым стараўся выхоўваць сумленнага чалавека. Сваёй нястомнай працай Алесь Восіпавіч сцвярджаў чалавечнасць. Сэрца яго ўвабрала ў сябе прасторы роднай зямлі і яе прыгажосць. Ён настаўляў чытачоў жыць так, каб і кожны гарэў актыўным тварэннем дабра для іншых. Ён асабіста падтрымліваў у нялёгкую часіну многіх нават маловядомых яму людзей. За свае сродкі ўпарадкаваў у роднай вёсцы могілкі і дарогу, у сваёй кватэры прапісаў маладога пісьменніка Генрыха Далідовіча, апякаў пісьменніцу Клаўдзію Каліну і мяне.

Сустрэліся мы з Алесем Восіпавічам у «Бярозцы», калі ён прынёс у рэдакцыю сваё апавяданне. Я адразу адчула, які гэта цудоўны чалавек. Пры знаёмстве са мною ён папрасіў расказаць пра сябе. Я крыху сумелася, але, убачыўшы яго цёплы позірк, лагодную ўсмешку, пачала апавядаць. У пачатку вайны пры налёце фашысцкіх бамбардзіроўшчыкаў на Мінск загінулі мае родныя: маці, сястра, бабуля, дзядзька. А я, параненая, здолела выскачыць з палаючай хаты і нават выратаваць малую сястрычку, якую потым выхоўвала.

Убачыўшы слёзы на маіх вачах, Алесь Восіпавіч папрасіў прабачэння, што расхваляваў мяне. І надалей ён пры мне ніколі не ўспамінаў вайну, шкадаваў мяне за спакутаванае і скалечанае маленства. Я была ўдзячная гэтаму простаму, спагадліваму чалавеку за разуменне. Ад яго веяла цеплынёй.

Неяк, ідучы з Дома літаратараў, непадалёк ад якога мы жывём, ён зайшоў да нас і калі пачуў, як мая малодшая дачка Анюта адмаўляецца нешта зрабіць, пасадзіў яе на калені і параіў: «Ніколі не кажы: не, не буду, не хачу! Забудзь адмоўе «не». Яно прыніжае чалавека. А кажы: так, буду, хачу! І цябе ўсе будуць любіць, вось паглядзіш».

Хіба можна забыць гэтыя словы Алеся Восіпавіча! Ён ставіўся да мяне і маёй сям'і як бацька: не толькі павучаў, а тады-сяды і ўшчуваў. Аднак мы ніколі не крыўдавалі на яго, бо ведалі, што ён чалавек высокай культуры, хоць і бываў часам крышку іранічны, але заўсёды зычлівы. Мы адказвалі яму гарачай прыхільнасцю і глыбокай павагай.

Сустракаліся мы з Алесем Восіпавічам амаль кожны дзень на працы, калі я прыходзіла ў «Вясёлку» ці калі ён заходзіў да нас у «Бярозку». Нам было пра што пагаварыць, падзяліцца сваімі думкамі, уражаннямі пра той ці іншы твор. Мы і ў працы дапамагалі адно аднаму. Мне было прыемна, што Алесь Восіпавіч заўсёды спакойна прымаў мае заўвагі. Памятаю, я чытала арыгінал апавядання пра футбол. Алесь Восіпавіч і Цімох Васільевіч Вітка, вядома ж, глыбока не разбіраліся ва ўсіх тонкасцях гэтай гульні і не заўважылі недакладнасцей аўтара — ён пераблытаў ролю паўабаронцы з роллю нападаючага. І наогул, у апавяданні было некалькі недарэчных момантаў. А я, маючы мужа майстра спорту СССР па футболе, заслужанага трэнера Беларусі, была заўзятай балельшчыцай, вельмі цікавілася гэтай гульнёй, як і хакеем, біятлонам, гандболам. Не прапускала ніводнага матча. Вітка і Пальчэўскі падзякавалі мне за пільнасць.

Бачачы мае праўкі, веданне вёрсткі, шрыфтоў, уменне падлічыць тэкст, Алесь Восіпавіч параіў галоўнаму рэдактару «Бярозкі» Кастусю Кірэенку перавесці мяне на гэтую пасаду. Праз некаторы час мяне зацвердзілі адказным сакратаром дзіцячага часопіса «Бярозка», дзе я папрацавала трыццаць два гады.

Спачатку працаваць было складана, ды ва ўсім стараўся мне дапамагчы Алесь Восіпавіч. Ён быццам узяў шэфства нада мною, за што я была ўдзячна. Але для самастойнай творчасці я была яшчэ «зялёнай». Усё далейшае залежала ад маёй працаздольнасці. А пакуль што я была непрыкметнай часцінкай, нічым не старалася вызначыцца на агульным фоне. Жыццё яшчэ не ўмудрыла мяне, не навучыла пранікаць у сутнасць з'яў. Але я старалася выхоўваць у хлопчыкаў і дзяўчынак пачуццё любові да роднай зямлі, быць вернымі змагарамі за праўду, шчасце людзей. На ўсё жыццё запомніліся мне словы Алеся Восіпавіча: «Любі свой край усёй душою, усім сэрцам, як і належыць чалавеку. Бо толькі зверу абыякава, каму належыць лес, у якім ён жыве...»

Праўду кажуць, што шчаслівыя людзі на свеце — закаханыя. Вось такім закаханым у Тамару Рыгораўну Цулукідзе быў Алесь Восіпавіч. Ён ніколі не хаваў пяшчоты да яе, заўсёды любаваўся ёю. Тамара Рыгораўна — пісьменніца, заслужаная артыстка Грузіі, у свой час сыграла шмат роляў у Тбіліскім тэатры імя Руставелі. А сустрэліся яны ў высылцы на Поўначы, куды іх закінуў лёс. І ў шматлікім змаганні з жыццёвымі нягодамі яна стала яму вернай сяброўкай. У гады ліхалецця Тамара Рыгораўна займалася любой работай, самай цяжкай, чарнавой, але што б ні рабіла, старалася працаваць з поўнай аддачай, быццам ад гэтага залежала нешта важнае.

Алесь Восіпавіч здзіўляўся, чаму на нашай зямлі, пад такім ціхамірным блакітным небам і жыватворным сонцам, сярод людзей, надзеленых розумам, здольнасцю мысліць і адчуваць, стала магчымым тое, што давялося ім убачыць і перажыць.

У лагерах і высылцы ім сустракаліся цудоўныя людзі. Алесь Восіпавіч і Тамара Рыгораўна дзівіліся іхняй моцы, духоўнай цярплівасці і чалавечнасці, справядлівасці і нястомнаму парыву тварыць дабро, верыць у лепшае жыццё, дапамагаць сваім сабратам па няшчасці, падтрымліваць іх чым толькі можна. І гэта цудоўна, што ёсць яшчэ на свеце дружба, светлая праца дзеля радасці людзей, і самае галоўнае — маладосць сэрца.

У высылцы Алесь Восіпавіч і Тамара Рыгораўна пасяліліся ў старой хаціне. Суседзі казалі, што ёй не менш як сто гадоў. І сапраўды, яна была зрублена так, як будавалі хаты яшчэ ў мінулым стагоддзі, сякерай. Знадворку — зусім разваліна. А ўсярэдзіне — акуратна і прыгожа аздоблена, яны самі адрамантавалі яе. Калі сябры-таварышы прыходзілі да іх, захапляліся выдумкай Алеся Восіпавіча і Тамары Рыгораўны: «Як хораша ў вас! Як утульна!»

Жылі яны дружна, стараліся аблегчыць жыццё адно аднаму. Алесь Восіпавіч хадзіў на работу ў брыгаду цесляроў, а Тамара Рыгораўна гаспадарыла ў хаце і на агародзе. І як бы ён ні быў стомлены, заўсёды ўваходзіў у хату з песняй і жартам на вуснах. Як бы ні гняло яго жыццё, ён усё роўна заставаўся пісьменнікам. Часта заседжваўся за сталом да раніцы.

Некалькі разоў я была з Алесем Восіпавічам і Тамарай Рыгораўнай у Прусінаве. Аднойчы, прыехаўшы туды і адпачыўшы з дарогі, Алесь Восіпавіч прапанаваў: «Давайце, жанчынкі, сходзім на прыроду». Ён заўсёды мовіў: «Схадзіць на прыроду».

Хто ж ад гэтага адмовіцца?! І мы, узяўшы з сабою пасцілку, кіруем да Нёмана, які цячэ недалёка ад вёскі. Перад намі распасціраецца шырачэзны луг з волатамі дубамі. Ідзём берагам Нёмана, любуемся беласнежнымі з жоўтым вочкам рамонкамі, а каля ног быццам звіняць блакітныя званочкі.

Расчуленыя прыгажосцю наваколля, мы прыселі на сонечнай паляне на толькі што скошаным духмяным сене і, як зачараваныя, удыхалі свежае паветра, ад якога аж кружылася галава. Тады перайшлі ў цень разгалістага дуба. Прымасціліся каля яго ствала і, успомніўшы песню пра Нёман, пачалі спяваць: «Ой, Нёман, ой, бацька наш Нёман...» Голас Алеся Восіпавіча станавіўся больш упэўнены. І вось ужо выразна льецца прыгожая мелодыя, афарбаваная сапраўдным, душэўным пачуццём. Нясецца песня аб магутнай, нястрымнай рацэ, што заўсёды служыла жыватворнай крыніцай для бессмяротных змагароў за свабоду.

Алесь Восіпавіч папрасіў мяне праспяваць венгерскую народную песню «Адлятаюць жураўлі». Гэтая песня з сумнай мелодыяй кранала яго душу. Спяваючы, я пазірала на Алеся Восіпавіча і, калі ўбачыла, як ён хвалюецца, падумала: «Відаць, нешта ўспомніў. Што ж, у кожнага свая памяць».

Уранні я выйшла на двор і, прымасціўшыся на лавачцы непадалёк ад разгалістай бярозы, сумелася ад неспадзеўкі, убачыўшы шпакоў, якія лёталі да прымацаванай на суку шпакоўні. Адтуль чуўся піск птушанят. Шпак улазіў у акенца, карміў іх і адлятаў. Раптам з круглага акенца вываліўся шпачок і паляцеў уніз.

«Дзе ж ён?» — захвалявалася я і памкнулася да бярозы. Убачыўшы птушаня ў траве, пашкадавала яго, злавіла і панесла ў хату.

— Ой, дзе вы ўзялі яго?! — усклікнула Тамара Рыгораўна.

— Пад бярозай знайшла. Вываліўся са шпакоўні.

— Трэба пакласці яго назад, — прамовіў Алесь Восіпавіч. — Хадземце.

Ён узяў у сенцах драбіны, і мы пайшлі на агарод. Алесь Восіпавіч прыставіў драбіны да ствала бярозы і пачаў памалу падбірацца да шпакоўні. Не паспеў паднесці птушаня да акенца, як на яго наляцела шпачыха, і Алесь Восіпавіч ледзь не зваліўся долу. Але ўсё абышлося.

— Вось вам сюжэт для апавядання. Апішыце, што ўбачылі, — параіў мне ён.

Я напісала. Але крыху інакш: пра шпакоў і вераб'ёў. Алесю Восіпавічу і Цімоху Васільевічу апавяданне спадабалася.

Неяк Алесь Восіпавіч і Тамара Рыгораўна паклікалі мяне ў госці. Яны любілі прывячаць сваіх добрых сяброў. І заўсёды Тамара Рыгораўна частавала нас грузінскімі стравамі і печывам. А яе сацыві і слоеныя піражкі з мя-

сам не забываюцца да гэтай пары, як і лобіо. Тут, за сяброўскай бяседаю, вяліся гарачыя спрэчкі, гучалі песні. Хораша спявала Эдзі Агняцвет. Раней я не чула яе спеваў і нават не ведала, што ў яе цудоўнае каларатурнае сапрана. Заслухаешся! А калі прыйшлі Сяргей Грахоўскі, Уладзімір Мяжэвіч і Васіль Хомчанка, стала зусім шумна, чуліся жарты, смех. У гэты момант прыемна было назіраць за Алесем Восіпавічам. Вочы яго свяціліся радасцю. Цудоўная кампанія.

Неўзабаве вялікія аматары шахмат Уладзімір Мяжэвіч і Васіль Хомчанка селі за шахматную дошку. Гуляць у шахматы — таксама мастацтва. У гэтай гульні ёсць свая прыгажосць. У пакоі стаяла ціша. Мяжэвіч засяроджана думаў і толькі пераводзіў рукі: то абхопліваў імі высокі лоб, то апускаў іх уніз. А Хомчанка часам пазіраў на столь. Па ўсім было відаць, што іх абодвух захапляла барацьба. Яны і за сталом працягвалі абмяркоўваць розныя камбінацыі, пакуль Алесь Восіпавіч не спыніў іх, убачыўшы ў дзвярах Васіля Вітку, які крыху запазніўся.

Такія сустрэчы прыносілі мне вялікую радасць, пакінулі ў жыцці значны след. Іх ніколі не забыць, як не забыць дарагога майго настаўніка Алеся Восіпавіча Пальчэўскага, дзівоснага чалавека, які знаходзіў для кожнага добрае, суцяшальнае слова. Я і мая сям'я маліліся на яго і Тамару Рыгораўну.

Усё ж цяжкая хвароба падсцерагла яго, змусіла легчы ў бальніцу. Канечне ж, «вінаваты» ў гэтым шматгадовыя змаганні з жыццёвымі нягодамі.

Я амаль кожны дзень наведвала Алеся Восіпавіча ў бальніцы. Ён ляжаў у адной палаце з пісьменнікам Янам Скрыганом. У абодвух быў інсульт. Алесь Восіпавіч не мог размаўляць. Цяжка было глядзець на яго пакуты. Узіраецца ў цябе сумнымі вачыма, быццам хоча нешта сказаць, ды не можа. Але мы з Тамарай Рыгораўнай крыху разумелі яго і калі рабілі, што яму патрэбна, ён у знак згоды заплюшчваў вочы.

Пагас агеньчык яго высокай і светлай духоўнасці, шчырасці, што заўжды вабіў да сябе. Памёр ён красавіцкай парою на парозе свайго 75-годдзя. Хавалі Алеся Восіпавіча на радзіме, у вёсцы Прусінава. Шматлікай працэсіяй вяскоўцаў, родных і блізкіх разам з пісьменнікамі праводзілі яго ў апошні шлях. Усе аддавалі даніну павагі і любові мудраму і душэўнаму чалавеку.

У мяне на пісьмовым стале стаіць скульптура вялікага рускага спевака Фёдара Шаляпіна. Калі Алесь Восіпавіч дарыў мне яе на дзень нараджэння, ці то іранічна, ці то сур'ёзна сказаў: «Няхай гэтая скульптура нагадвае вам пра мяне. Усе кажуць, што мы з Шаляпіным вельмі падобныя».

Калі я гляджу на яе, думкі мае пераносяцца праз усё жыццё і спыняюцца ў Прусінаве, дзе побач з магіламі бацькоў на высокай наднёманскай кручы знайшоў сваё вечнае супакаенне Алесь Восіпавіч Пальчэўскі. Ён пакінуў нам багатую спадчыну. Памяць пра яго ўвесь час саграває маё сэрца, як і сэрцы ўсіх, хто меў гонар ведаць яго і працаваць з ім. Імя яго было і будзе значным для нашай літаратуры.







**Міхась КЕНЬКА**

# ПАЭЗІЯ НА ВЕЧНЫМ ШЛЯХУ




Мінск, «Мастацкая літаратура», 2004

Што шукае чытач у вершах, з якой мэтай разгортвае ён зборнік паэзіі невядомага ці вядомага яму аўтара? Мабыць, перш за ўсё ён шукае нешта такое, што «кладзецца на душу», адпавядае ўласным думкам, пачуццям, настрою, выклікае суперажыванне, прымаецца сэрцам. Чытаючы твор за творам у зборніку Алеся Бадака «Маланкавы посах», знаходзіш такія вершы, а часам асобныя радкі, якія сапраўды «прымяраеш» да сябе, успамінаеш, што і сам перажываў ці адчуваў падобнае, але, на жаль, не будучы паэтам, не выказаў у вобразным слове. Вось, здаецца, і самому сніліся...

Такія сны, што хочацца застацца
І жыць у іх без гора і нуды.

А хіба не перажывалася нешта такое позняй восенню, калі...

Лісце апалае ў садзе згарае
Дым неахвотна ўздымаецца ўгору —
Нібы на неба душа адлятае,
Поўная горкага смутку і гора.

Падзяляеш і невясёлую выснову, заснаваную на вопыце пражытых год:

Тое, што не збудзецца,
Для нас
Даражэй, чым тое, што збылося.

Хочацца паўтараць услед за аўтарам і такія радкі:

Плывуць мае вёсны,
што воблакам сталі,
У сінюю далеч,
у шлях незваротны.

---

***Кенька Міхаіл Паўлавіч.** Літаратуразнаўца, крытык, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры тэорыі літаратуры філфака БДУ. Нарадзіўся 8 лютага 1947 г. у вёсцы Верацеі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут (1969), аспірантуру пры Інстытуце літаратуры Акадэміі навук БССР (1976). Працаваў настаўнікам, журналістам, выдавецкім работнікам. У сваіх навуковых працах піша аб праблемах мастацкага перакладу, сучаснай прозе і паэзіі. Перакладае з польскай, рускай, чэшскай, украінскай моў.*

Гартаеш старонкі і знаходзіш прыкметы нашага быту, таксама знаёмыя па ўласных уражаннях і назіраннях, а таму па-свойму дарагія. І падзяляеш настроі вершаў «Роздум каля тэлевізара», «Суседка», «Люстэрка», І таксама нешта з таго, што некалі ўбачылася, з прыемнасцю знаходзіш перанесеным у паэзію. Вось прачытаў верш «У навальніцу» і ўспомніў, што сёлета ўлетку сапраўды чуў, як на ўдары грому ноччу адгукалася ахоўная сігналізацыя прыпаркаваных на дварышчы легкавушак. Тады падумалася: гэта варта таго, каб недзе нехта апісаў. Аказалася, ужо апісана, апаэтызавана:

Машыны баяцца грымотаў.
Такія яны дзівакі.
Стаяць ля пад'ездаў і мокнуць,
То зноў заскуголяць, то змоўкнуць,
Як кінутыя шчанюкі.

Учытваючыся ў паэтычныя радкі, неўпрыкмет пачынаеш спасцігаць унутраны свет паэта, і самому становіцца дарагім тое, што ўявіў ужо не ў сваім, а ў ягоным успрыманні. І тады пасяляюцца ў душы, становяцца такімі блізкімі персанажы ягоных твораў: павучок з пакалечанай ножкай, зладзеяваты Дамавік, мураш, які патрапіў з лесу ў гарадскую кватэру, і тая адзінокая жанчына, што

... жыве чаканнем,
Нібы пасланы ліст
Да запатрабавання.

Застаюцца ў памяці і многія вобразы, якія ўзнімаюцца да сімвалаў. Гэта і цвік, «збіты — не забіты», і «саржавелае кола Зямлі», і асеннія лісткі, якія нібы ператварыліся ў птушак і лятаюць над зямлёй, і хата, якая «бабулькай на узмежку / глядзіць нам панура / услед».

Кожны паэт міжволі імкнецца быць арыгінальным не толькі ў змесце, але і ў форме сваіх вершаў. У апошняе дзесяцігоддзе з'явілася многа жадаючых выказвацца ўскладнёна, зашыфравана настолькі, што ключ да таго шыфру мае толькі сам аўтар, а чытачу нельга ні падабраць свой, ні падрабіць аўтарскі. Але можна і ў звыклых формах быць арыгінальным. Можна так своеасабліва ўбачыць звыклае, што яно будзе ўражваць, урэзвацца ў памяць, абуджаць асацыяцыі і выклікаць моцны эмацыянальны водгук. Вось паэту ў перакрыжаванні мерыдыянаў і паралеляў на геаграфічнай карце ўбачыліся краты, што нібы скоўваюць волю ўсяго чалавецтва (верш «Пад канец тысячагоддзя»). Вось непаўторна свежа створаная праз арыгінальны погляд замалёўка, якая выклікае цёплую ўсмешку, радуючы сваёй знаёмасцю:

Мулка на цені сваім пастушку.
Жмурыць блакітныя вочы і сумна
Ў неба глядзіць і чакае, пакуль
Воблака
сонца ў кішэню схавае.

Паэту падуладны не толькі зрокавыя асацыяцыі, але і тонкія адценні пачуццяў, уменне непаўторна перадаць нябачныя псіхалагічныя жэсты, душэўныя перажыванні. Так, апісваючы адчуванні пры сустрэчы выпускнікоў з былымі настаўнікамі пасля выпуску, ён заўважае, што пры гэтым узнікае ніякаватасць, разгубленасць перад тым, як цяпер паводзіць сябе з імі. Вось як гэта выказана:

А стрэнемся — лета з восенню —
Не знаем, пра што гаварыць.
І вучымся новым адносінам,
Нібыта аслеплы — хадзіць.

Асабліва далікатна выказваюцца ў вершах Алеся Бадака пачуцці ў яго лірыцы кахання, настолькі, што не выпадае нешта аналізаваць у іх, хочацца толькі назваць лепшыя: «Таемны сад», «Ты аддаляешся...», «Зорка», «Пасля вечнасці», «Запаветныя словы», і асабліва — «Падаюць зоры», які стаў песняй і набыў ужо шырокую вядомасць, палюбіўся.

Алесь Бадак не застаецца ў свеце толькі абсалютна зразумелых, прасветленых вобразных сродкаў, даходлівага зместу, ёсць у яго вершы, якія маюць ускладнёную метафарычнасць, разгорнуты ў цэлыя фантасмагарычныя карціны, падсвечаны міфалогіяй. Гэта творы, у якіх аўтар задумваецца над складанымі праблемамі чалавечага быцця. Тут у першую чаргу згадваюцца яго паэмы: «Эміграцыя», «Ра», «Цень». У кожнай з іх паэт пераносіцца ў своеасаблівы віртуальны свет, судакранаецца з незямным, уяўным, фантастычным. У паэме «Эміграцыя» лірычны герой трапляе праз «чужы парог» у свет ідэальнага кахання, які нагадвае «чуждый край незнакомого счастья» з паэмы Аляксандра Блока «Салаў'іны сад», і гэтая асацыяцыя падмацоўваецца тым, што і тут свет ідэальнага шчасця ў каханні аказаўся чужым, успрымаўся як духоўная эміграцыя, як здрада паэзіі, а «таемны сад» са свайго верша з такой назвай, сад свайго кахання, хай сабе і таксама мройлівы, але намнога даражэйшы, бо ён — зямны.

«Ра» — паэма, у якой паэту спатрэбіўся зварот да экзатычнага прадстаўніка егіпецкай міфалогіі, «бога сонца і бясчасся», каб з яго дапамогай знайсці сваё разуменне Радзімы, убачыць яе здалёк. Егіпецкі бог праводзіць лірычнага героя праз вякі, каб ён выбраў час, у якім яму хацелася б жыць. Але ён не захацеў жыць у чужым яму свеце, у мройлівых мінулых часах, і пасля ўсіх прыгод прыйшоў да высновы:

Шлях да Айчыны адусюль кароткі,
Калі твая Айчына не міраж.

У паэме «Цень» паэт на станцыі «Хоць куды» сядае ў фантастычны цягнік, які мчыць у нейкай невымернай прасторы да станцыі «Край свету». Але цягнік таксама не спраўджвае надзей паэта ўбачыць Айчыну здалёк, і ён у трэці раз вяртаецца са свету мрояў у родны кут. І ўсё ж кожны раз гэтыя вандроўкі ўзбагачаюць лірычнага героя разуменнем сваёй душы. Але яму яшчэ нечага не стае, і ў занатаваным «На палях паэмы «Цень» нездарма зазначаецца:

Яшчэ
Убачыць можна ўсіх
Адтуль, з далёкага былога.
Хто ёсць, каго няма ў жывых,
Усіх —
Апроч сябе самога.

І ўслед за гэтым у зборніку змешчана ў асобным раздзеле «Пурпуровае сонца» нізка перакладаў, па адным з вершаў паэтаў розных часоў і народаў. Адразу ж пачынаеш думаць: чаму выбраны менавіта гэтыя творы, што прывабіла паэта ў іх, што падалося сугучным ягонаму паэтычнаму светаўспрыманню, чаго ён яшчэ шукае і што знайшоў? Заўважаеш: усе перакладзеныя вершы — пра каханне, у кожным замежных паэтаў хвалююць тонкія адценні пачуцця, пытанні ўзаемадносін закаханых, разумення таго, «што на сэрцы тумніцца» (А. Блок), чаму свет кахання — «сумны рай» (Т. Шаўчэнка), чаму ён «закружыць галаў водарам гарачым» (У. Шэкспір) настолькі, што аж нават сонца становіцца пурпуровым, калі яно «такім яшчэ ніколі не было» (Л. Кастэнка). Чытаеш пераклады, і зусім не хочацца задумвацца пра іх якасць, думаеш пра змест і з нецярпеннем адкрываеш наступны, заключны раздзел — «Вяртанне на Млечны шлях». З чым вярнуўся паэт з вандроўкі

ў свет іншакраінных творцаў? Якую мудрасць спасціг? А вяртаецца ён у родную вёску, у родную хату і там у люстэрку з цяжкасцю пазнае «сябе самога», таго самага, каго так і не знайшоў у паэме «Цень». Так, гэта вяртанне да сябе, да свету паўсядзённых з'яў і пачуцяў, да свайго кахання, да людзей. А ў заключных вершах — зноў роздум пра Айчыну, трывога за яе лёс:

Што яшчэ будзе? Па волі чыёй?
Зноў замест сонца хмара ўзыходзіць.

І ўсё больш там трывожных думак пра лёс яе сыноў, пра родную мову, пра сябе на «млечным шляху» жыцця. У апошнім раздзеле нарастаюць мінорныя ноты, і міжволі заўважаеш, як перайначваецца скразны для зборніка вобраз шляху, па якім паэт выбіраўся ў свае рэальныя і намроеныя вандроўкі з «малінавым посахам» паэзіі, з жаданнем таго, «каб відушчай душа мая стала». Спачатку гэта вясёлы, даволі бесклапотны шлях, на якім заўважаюцца мілыя душы карціны, а дарожны пыл «то радасна ляцеў за далягляд, то да мяне зажураны вяртаўся». А ў апошніх вершах пыл нагадвае яму пра вечнае, прах былога, звязваецца з трывогамі і неспакоем душы ў наш складаны час. У вершы «Душа», задумаўшыся над лёсам расстралянага паэта, аўтар піша:

Узлятаў над Айчынаю пылу зажураны клін,
А душа заставалася ў вершах.

Дык ці не ў тым і сэнс блуканняў з малінавым посахам, перажываючы ўсё, што сустрэнецца на жыццёвым шляху, каб выказаць сваю душу ў вершах, каб перажытае, перадуманае і пераўвасобленае знайшло водгук у іншых душах?

Але ёсць яшчэ ў зборніку апошні верш, цудоўны па форме, напісаны шасцірадкоў'ямі са своеасаблівым паўторам сугуччаў, які ўзмацняе адчуванне трывогі, ён так і называецца «Пыл», і ў ім глыбокі падтэкст. Кожны чытач будзе асэнсоўваць яго па-свойму, але ў кожнага застанецца адчуванне таго, што яшчэ не ўсе шляхі пройдзены, што не ўсе думкі, якія хвалююць і не даюць спакою, можна лёгка супакоіць адным рашучым учынкам, а потым пакутаваць ад таго, што гэта было не самае лепшае выйсце.

«Малінавы посах» — трэці зборнік у творчай біяграфіі паэта, сведчанне пары сталасці і росту майстэрства. Лірыка Алеся Бадака пайшла ў шырокі свет, многія яго вершы сталі песнямі. Неяк нават па-асабліваму бачыцца і тое, што Алесь Бадак па сваім працоўным абавязку займаецца цяпер адкрыццём маладых талентаў, ацэнкай першых паэтычных спроб тых, хто толькі-толькі ўступае на «млечны шлях» творчасці. Для таго, каб займацца гэтай адказнай справай, мала мець добры мастацкі густ, чулае сэрца і спагадлівасць, трэба і ўласным прыкладам паказваць, да чаго ім, маладым паэтам, імкнуцца. «Малінавы посах» паслужыць у гэтым добрым апірышчам. А ўсе, хто будзе чытаць новы зборнік Алеся Бадака, знойдуць у ім нямала такога, што светла адгукнецца ў душы.





## *МЕТРЫКА**
### *літаратурная*

**130**
гадоў споўнілася б сёлета **КУХТУ** Марціну Міхайлавічу (1875—1942?), друкару, выдаўцу беларускамоўных кніг. Па вялікім рахунку даўгавечнасць яго імю даў геніяльны беларускі паэт Максім Багдановіч, які ўсяго толькі і зазначыў напрыканцы свайго кароткага фізічнага жыцця ў вядомым чатырохрадкоўі:

У краіне светлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

Аднак жа, паглядзеўшы з другога боку, калі б пан Кухта своечасова не выдаў Багдановічавага «Вянка», то ці займеў бы наш Максім такую бессмяротную славу нацыянальнага паэта?..

Шмат хто чые кніжкі выдаваў, а вось Марцін Кухта згаданым выданнем не толькі ўсклаў *«вянок на магілу С. А. Полуяна»*, але і ўпісаў (няхай і ускосна) сваё і аўтарава імя ў гістарычныя аналы роднай Айчыны. Лёс.

На жаль, больш шырокіх звестак пра жыццё М. Кухты мне знайсці не ўдалося. У тым ліку і дакладнай даты ягонай смерці. І гэта — таксама пэўны знак неўміручасці. Зрэшты, хіба недастаткова адной толькі гэтай, велічнай, кніжкі, каб лічыць яго чалавекам вартым нашай памяці? І — памяці нашых нашчадкаў?.. Пытанне рытарычнае.

**100**
гадоў таму нарадзіўся беларускі паэт **АНАНЬЕЎ** Паўлюк (1905—1932). Здавалася б, год смерці гаворыць сам за сябе... Аднак такое меркаванне аказалася больш чым памылковым. Насамрэч, занядужаўшы, паэт памёр на курорце ў Гаграх, дзе якраз і шукаў паратунку ад смерці. Пакінуў па сабе неадназначную лірычную спадчыну. Адзіная, справядліва раскрытыкаваная, вершаваная кніжка «Героіка дзён» пабачыла свет у 1932 годзе. У анталогіях беларускай паэзіі ні яго вершаў, ні ўпаміну пра яго я не знайшоў...

**100**
гадоў споўнілася б паэту **СЕЎРУКУ** Пётру Якаўлевічу (1905—1929). І гэтае імя ў анталогіях не згадваецца. Затое менавіта біяграфіяй П. Сеўрука канчаецца пяты том біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі». Вядома толькі, што жыў ён у Скідзелі, дзе арганізаваў публічную бібліятэку і быў старшынёй Акруговай управы Таварыства беларускай школы. Памёр,

---

* **МЕТРИКА,** ж. Парахільная запіс народжаных, жэняных і памершых; **мэтрыка**. (В. Ластоўскі. «Расійска-крыўскі (Беларускі) слоўнік», Коўна, 1924 г.)

як і Максім Багдановіч, якога ён, дарэчы, вельмі любіў, — ад сухотаў. Некалі, падчас перабудовы, пра яго хораша ўспомніў у друку Янка Брыль. Частка спадчыны друкавалася ў «ЛіМе» (1986). І сёння даволі актуальна гучаць гэтыя яго прызабытыя радкі:

Не хачу мецi я
Нi багацця, нi гучнае славы,
Нi магчымасцi правiць дзяржавай, —
А душу свабодную.

**60** гадоў прамінула з таго часу (1945), як пачаў выходзіць літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс **«НЁМАН»**.

Віншуем калегаў! І не выцячэ вада з Нёмана...

## Студзень

**1** — **95** з дня нараджэння **ГЕРЦОВІЧА** Якава Бенцыянавіча (1910—1976), беларускага крытыка, нарысіста і сатырыка. Пасля заканчэння Камуністычнага інстытута журналістыкі пачаў працоўную дзейнасць галоўным рэдактарам шклоўскай райгазеты. Пасля — у рэдакцыі рэспубліканскай газеты «Рабочий» (цяпер «Советская Белоруссия»). Як крытык Я. Герцовіч *«часта зыходзіў са спрошчаных вульгарызатарскіх схем, разглядаў мастацкі твор як ілюстрацыю да той ці іншай сацыяльнай праблемы»*.

**1** — **75** гадоў было б **ШЫРЫНУ** Лявону (Леаніду Іванавічу, 1930—1994), дзіцячаму пісьменніку, паэту і крытыку. Аўтар некалькіх зборнікаў вершаў для падлеткаў. Пісаў сцэнарыі для перадачы «Калыханка» Беларускага тэлебачання ў 1982—1985 гг.

**1** — **60** гадоў **ІПАТАВАЙ** Вользе Міхайлаўне, вядомаму паэту і празаіку. Нарадзілася ў гістарычным месцы Мір. Пасля смерці маці выхоўвалася ў дзіцячым доме. Скончыла філфак БДУ. Працавала ў кнігагандлі і на камсамольскай рабоце (інструктарам і загадчыкам сектара ў Гродзенскім гаркаме). Пасля — на абласной студыі тэлебачання. З 1970 года — у Мінску: «ЛіМ», «Чырвоная змена», Беларускае тэлебачанне, часопіс «Спадчына», тыднёвік «Культура», стыхійна-часовае старшынства ў СБП... Узнагароджана ордэнам Знак Пашаны і медалём Ф. Скарыны. Актыўна ўдзельнічае не толькі ў літаратурным, але і ў грамадска-палітычным жыцці краіны. Аўтар некалькіх вершаваных зборнікаў і многіх адметных кніг прозы. Апошнім часам удала і заўважна распрацоўвае нацыянальную гістарычную тэму. Нядаўна зноў звярнулася да вершаў. Скажам, свежая паэтычная публікацыя В. Іпатавай у «Дзеяслове» пачынаецца такой эпіграфічнай аўтарскай вынаскай:

...імкне Паэзія дарма
прыроду выказаць праз Слова...

Віншуем і, незважаючы на безапеляцыйнасць працытаванага, — жадаем юбіляру ўсё ж такі выказаць сваю прыроду.

**3**

— **100** гадоў споўнілася б паэту **ХАДЫКУ** Уладзіміру Марцінавічу (1905—1940); чытайце пра яго жыццё і творчасць артыкул Я. Гарадніцкага ў гэтым нумары «Полымя».

**7**

— **80** гадоў **КАРПЕЧАНКУ** Васілю Васільевічу (1925), беларускаму паэту. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Тройчы паранены. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Працаваў у рэдакцыях раённых газет і настаўнікам у школах. Выдаў некалькі зборнікаў вершаў, у тым ліку для дзяцей. Сябра СБП з 1990 г. Жадаем Васілю Васільевічу здароўя і творчага плёну!

**9**

— **90** гадоў было б **ЗУБУ** Валянціну Андрэевічу (1915—1980), беларускаму празаіку, драматургу і фельетаністу. Пачатак сталага жыцця будучага літаратара быў натуральна звязаны з хлебам надзённым. Ён скончыў тэхнікум харчовай прамысловасці і нават у лютых 30-х працаваў на хлебазаводзе ў Архангельску (1935—1936). Вярнуўся аднак. Перад вайной вучыўся на сцэнарным факультэце Усесаюзнага інстытута кінематаграфіі ў Маскве... Пасля вайны — на «Беларусьфільме» і — ажно трыццаць гадоў! — загадчыкам аддзела ў часопісе «Вожык». Толькі ў 1975-м, калі ў СССР *паціху* пачыналі спрабаваць *смяяцца ўсур'ёз,* Валянцін Андрэевіч выйшаў на пенсію... Шуткаваць на кухні было ўсё ж бяспечней.

Небесталанны літаратар шмат пісаў пра піянерскае жыццё, выкрываў носьбітаў чужой савецкаму грамадству маралі... Выдаў нямала кніжак. Пісаў дзіцячыя п'есы (да прыкладу, «Марат Казей»). Быў таксама аўтарам лібрэта аперэты «Тыдзень вечнага кахання» (музыка Ю. Семянякі).

**11**

— **75** гадоў **ПІНЧУКУ** Аркадзю Фёдаравічу (1930), празаіку, драматургу, журналісту. Нарадзіўся ў Рэчыцкім раёне. Бацька пісьменніка быў рэпрэсаваны і расстраляны ў 1937 годзе. Сам А. Пінчук скончыў ваеннае вучылішча ў Чарапаўцы і курсы палітасветы ў Львове. Пасля гэтага доўгі час працаваў у армейскіх газетах. Скончыў Літаратурны інстытут. Пісаў па-беларуску і па-руску. Выдаў некалькі кніг прозы, напісаў сцэнарыі фільмаў, у тым ліку мастацкага «Справа для сапраўдных мужчын», а таксама некалькі вядомых п'ес («Лейтэнанты», «Білет на лебядзінае возера», «Неба — зямля»). Жыве ў Санкт-Пецярбургу. Віншуем земляка!

**14**

— **85** гадоў **АЎРАМЧЫКУ** Міколу Якаўлевічу, беларускаму паэту, лаўрэату Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы, заслужанаму работніку культуры. Вучыўся ў Мінскім педінстытуце. Падчас вайны трапіў у палон. Працаваў у нямецкіх шахтах. Пасля вызвалення «папрасілі» ўдагонку папрацаваць яшчэ і на шахтах савецкіх (у Данбасе). Пасля філфака БДУ ажно 27 гадоў нязменна загадваў аддзелам паэзіі часопіса «Маладосць». Друкаваў іншых, друкаваўся і сам.

Мікола-праведнік Аўрамчык
Якіхсьці хлопцаў прывалок —
Яны яму не дом, а храмчык
За тыдзень склалі да аблок.
Будаўнікоў тых незнаёмых —
Без намагання і турбот —
Ён адкрываў пасля імёны
У «Маладосці» цэлы год.

Выдаў шмат кніжак. Аднак, як вы зразумелі з цытаты, найбольш вядомы і папулярны твор паэта пакуль так і не пазначаны яго сапраўдным прозвішчам, а ўсяго толькі псеўданімам — Францішак Вядзьмак-Лысагорскі. Хоць, па словах М. Аўрамчыка, сааўтар гэтага твора — Ніл Гілевіч — ужо паспеў адасобіцца ад таварыша па андэграўндным савецкім падрадзе... Зрэшты, хто мае бясспрэчнае права быць аднаасобным аўтарам «Сказа пра Лысую гару» (альбо не мае) — пакуль усё яшчэ справа не зусім праясненая...

А вось што можна сцвярджаць пэўна, дык гэта тое, што толькі пяць гадоў таму наноў сустрэўся Мікола Якаўлевіч са сваім першым юнацкім каханнем — і на гэты раз вырашыў з ім ужо не разлучацца (*гл. газ. «Звязда» ад 13.05.04 г.*)... З кім ні бывае. З паэтамі — тым болей. Таму — здароўя яму (і ёй) ды шчаслівага веку...

**16** — **100** гадоў споўнілася б **ПАЛЬЧЭЎСКАМУ** Алесю (Аляксандру Восіпавічу, 1905—1979), празаіку і драматургу (чытайце згадкі пра яго А. Мімрык у гэтым нумары нашага часопіса).

**20** — **50** гадоў **ЗЭКАВУ** Анатолю Мікалаевічу, паэту, парадысту, празаіку. Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Вожык». Вершы А. Зэкава чамусьці не фігуруюць у «Анталогіі беларускай паэзіі XX стагоддзя». Затое яны фігуруюць у гэтым нумары нашага часопіса.

Віншуем Анатоля Мікалаевіча з юбілеем!

**21** — **60** гадоў **СТАНКЕВІЧУ** Юры (Харытановічу Георгію Васільевічу), празаіку. Нарадзіўся ў Барысаве. Бацька рэпрэсаваны падчас сталінскіх чыстак. Далейшы яго лёс невядомы. Ю. Станкевіч скончыў журфак БДУ. Працаваў у рэдакцыях газет, а таксама ў часопісах «Маладосць» і «Крыніца». Выдаў чатыры кніжкі прозы («Луп», «Анёлы на бальшаку», «Сатырыкон»). А самая важкая і адметная з іх — «Любіць ноч — права пацукоў». Сёння Ю. Станкевіч — адзін з найбольш цікавых і папулярных літаратараў краіны. Перыядычныя спрэчкі вакол творчасці пісьменніка гавораць пра запатрабаванасць ягонага таленту. Будучая кніжка пісьменніка мае быць неспадзеўкай нават для яго даўніх прыхільнікаў. Ю. Станкевіч — адзін з тых, хто не дзяліў і не дзеліць і без таго не надта шырокае нацыянальнае літаратурнае поле. Часты аўтар нашага часопіса. Агулам — чалавек ён суровы і шчыры, але разам з тым адкрыты і сумленны... Пажадаем яму творчага натхнення, каб здолець задуманае. А дзеля гэтага — здароўя, вядома.

**22** — **115** гадоў было б **ПРОСТАМУ** Пётры (Бобічу Ільдэфонсы, 1890—1944), беларускаму пісьменніку. Вучыўся ў Папскім універсітэце ў Рыме. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю. Яго нашаніўскія творы — гэта своеасаблівыя лірычныя імрэсіі. Колькі добрых слоў пра літаратурныя публікацыі П.Простага выдрукавалі ў свой час М. Багдановіч і С. Палуян. Асаблівых звестак пра жыццё гэтага чалавека не захавалася, як не набыла розгаласу і невялікая літаратурная спадчына П.Простага. Аднак і яго нешматлікія словы сцісла і цэльна ляглі ў агульны падмурак беларушчыны.

**22** — **70** гадоў споўнілася б **РАКАВУ** Віктару Апанасавічу (1935—2000), беларускаму паэту. Доўгі час працаваў адказным сакратаром часопіса «По-

лымя». Гэты заўсёдна задумна-зануранны чалавек напісаў нямала добротных вершаў.

**25** — **145** гадоў споўнілася б **РОЎБУ** Напалеону Казіміравічу (1860—1928), польскі публіцыст, белетрыст, краязнаўца. Прысвячаў свае артыкулы Францішку Багушэвічу. І ўжо толькі з гэтай прычыны варты нашай удзячнасці і нацыянальнай памяці (бо *«nia umiorli»* ўсё ж)...

**26** — **105** гадоў было б **МОРКАЎКУ** Аркадзю Андрэевічу (1900—1957), беларускаму паэту. Скончыў энергетычны факультэт БПІ, працаваў галоўным інжынерам Палаты мер і вагі. Падчас рэпрэсій амаль не пісаў, што і ўратавала. Вайну перабыў у Мінску. Яго лірыку высока цанілі М. Гарэцкі і Янка Купала. Пры жыцці выйшаў адзіны зборнік паэзіі «Дым жыцця» (1928). У 1971 годзе пабачыла свет кніжка А. Моркаўкі «Вершы». Яго «постаць» была шырока пададзена ў часопісе «Крыніца» (№ 62, 2001). Як пісаў Р. Бярозкін: *«Самае лепшае сярод твораў Аркадзя Моркаўкі — яго інтэлектуальная лірыка, чамусьці не заўважаныя намі як след ягоныя вершы пра моц чалавечага розуму, які намерыўся авалодаць сляпым хаосам Сусвету. Па-мойму, гэта надзвычай добрыя вершы — яны прымушаюць успомніць вельмі дасканалыя ўзоры».*

Ну хоць бы вось гэтыя радкі:

Ці вершы складаю, ці поле ару,
Ці сею увесну пшаніцу —
Заўсёды краіна мая Беларусь
Ляжыць прада мной плашчаніцай.
.............................
Распнулі цябе на крыж, Беларусь,
Цвікамі скалечылі рукі...
Ці ж бачыш з крыжа на усходзе зару, —
Канец гэтай вечнае мукі?..

**Студзень** 1930-га стаў адлікам для сённяшняга **75**-гадовага юбілейнага выхаду ў свет штомесячнага грамадска-публіцыстычнага і літаратурна-мастацкага часопіса **«БЕЛАРУСЬ»**. Віншуем калегаў!

У **студзені** 1950-га было заснавана выдавецтва **«БЕЛАРУСЬ»**. Цяпер яму — **55** гадоў. Нашы віншаванні!

*Аўтар рубрыкі Леанід Галубовіч.*



**_Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца. У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню._**

***e-mail: minsk@lim.by***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220005, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў прозы, паэзіі, крытыкі і літаратуразнаўства, грамадскага жыцця і культуры — 284-80-12.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Сяргейчык*

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 29.11.05 г. Фармат 70х108 1/16. Папера газетная.
Друк афсетны. Друк. арк. 21,0. Ул.-выд. арк. 19,59. Тыраж 3189 экз. Зак. 3357.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.



Янка Купала і Кузьма Чорны
сярод удзельнікаў мітынгу прадстаўнікоў
беларускага народа. Казань. 1942 г.



Янка Купала на сустрэчы
з рабочымі ў Каломне. 22.10.1941 г.





Янка Купала. 1941 г.

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 00141

ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:

Уладзімір Гніламёдаў
УСХОД
Раман /заканчэнне/

Павел Вераб'ёў
Міхась Башлакоў
Юля Новік /«Палымянскі дэбют»/
Вершы

Раіса Баравікова
Апавяданні

Уладзімір Нікалаеўскі
СУЧАСНАЯ СІСТЭМА
САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЫ

Таіса Бондар
З «ДЗЁННІКАЎ»
/працяг/

ПОЛЫМЯ

ISSN 0130 — 8068